НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут гісторыі

# МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ

# MATERIALS ON THE ARCHAEOLOGY OF BELARUS

Зборнік навуковых артыкулаў
Заснаваны ў 1957 годзе

## Выпуск 26

## Вынікі даследаванняў першабытных і сярэдневяковых помнікаў на тэрыторыі Беларусі (да 120-годдзя з дня нараджэння А. М. Ляўданскага)

## The results of investigations of the prehistoric and medieval archaeological sites on the territory of Belarus (to the 120th anniversary of the birth of A. M. Liaudanski)

Мінск
«Беларуская навука»
2015

УДК 902/904«653»(476.1)

У чарговым выданні Інстытута гісторыі НАН Беларусі прадстаўлены навуковыя артыкулы, прысвечаныя даследаванню археалагічных старажытнасцей першабытнага часу і эпохі сярэдневякоўя Беларусі і сумежных краін, а таксама прымяненню розных метадаў даследавання археалагічных матэрыялаў і вынікам палявых прац 2012–2013 гг.

Зборнік навуковых артыкулаў разлічаны на археолагаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, музейных работнікаў, настаўнікаў і ўсіх тых, хто любіць старажытную гісторыю, цікавіцца матэрыяльнай і духоўнай культурай нашых далёкіх продкаў.



*Выданне падрыхтавана ў рамках выканання Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2011–2015 гады «Гісторыя, культура, грамадства, дзяржава» (навуковы кіраўнік – член-карэспандэнт, доктар гістарычных навук, прафесар А. А. Каваленя), падпраграмы № 1 «Гісторыя, духоўная і матэрыяльная культура беларускага народа» («Гісторыя і культура») (навуковыя кіраўнікі – член-карэспандэнт, доктар гістарычных навук, прафесар А. А. Каваленя; кандыдат гістарычных навук, дацэнт В. В. Даніловіч), задання 1.1.01 «Археалагічныя помнікі першабытнай і сярэднявечнай эпох на тэрыторыі Беларусі: этнагенез, дзяржаўнасць, матэрыяльная і духоўная культура» (навуковы кіраўнік – доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Ляўко).*

На вокладцы змешчана каменная булава бронзавага–жалезнага веку,
знойдзеная на тэрыторыі Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці

**ISBN 978-985-08-1828-7**

# ЗМЕСТ

## АРТЫКУЛЫ



## МАТЭРЫЯЛЫ

## ПАЛЯВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ 2012–2013 ГАДОЎ



## ПЕРСАНАЛІІ

# АРТЫКУЛЫ

*УДК 902/904(476)(092)Ляўдансці:930.1*

***В. У. Мядзведзева,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

## Гісторыя і гістарыяграфія навуковай дзейнасці А. М. Ляўданскага[1]

Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч – знакаміты беларускі археолаг, гісторык, арганізатар і стваральнік сучаснай навуковай беларускай археалогіі. Нарадзіўся 29.08(10.09).1893 г. у в. Юр'ева (Юрава) Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. У 1922 г. скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, а ў 1925 г. – славесна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Смаленскага універсітэта. У 1934 г. без абароны дысертацыі, па сукупнасці выдадзеных прац, атрымаў ступень кандыдата гістарычных навук.

З 1925 г. ён працаваў асістэнтам археалагічнага кабінета, а потым прыват-дацэнтам Смаленскага універсітэта і адначасова навуковым супрацоўнікам Смаленскага дзяржаўнага музея. У пачатку 1920-х гадоў А. М. Ляўданскі пачаў археалагічную дзейнасць: прымаў удзел у раскопках Гнёздава каля г. Смаленска пад кіраўніцтвам А. М. Клятновай. На працягу 1923–27-га гадоў ён самастойна вывучаў археалагічныя помнікі Смаленшчыны. У той час даследчык разам з В. Р. Тарасенкам, І. Х. Юшчанкам і іншымі навукоўцамі правёў значную работу па выяўленні і вывучэнні археалагічных помнікаў усіх эпох на тэрыторыі Смаленшчыны. Навукоўцам асабіста былі адкрыты Лестраўскае і Рачэўскае гарадзішчы на тэрыторыі г. Смаленска, таксама ён вывучаў Каўшараўскае гарадзішча, стаянкі каменнага веку каля вёсак Немыкары, Гамкова, Дзерабуж, Гнёздава і іншыя помнікі Смаленскай вобл. Матэрыялы з гэтых помнікаў пастаянна ўводзіліся ім у перыядычны друк у расійскіх, а затым і ў беларускіх навуковых выданнях: «Научные Известия Смоленского Государственного Университета», «Сообщения Государственной Академии истории материальной культуры», «Гістарычна-археолёгічны зборнік», «Працы сэкцыі археолёгіі» і інш. Спачатку гэта было накапленне і публікацыя новых даных, пазней – асэнсаванне, абагульненне і аналітычны аналіз напрацаваных матэрыялаў, пачынаючы з каменнага веку і заканчваючы сярэдневякоўем (мал. 1) [3, с. 242–243, 245; 60–65; 76; 80; 90–92; 95]. У выніку працяглай палявой працы даследчык склаў поўную археалагічную карту Смаленскай губерніі, у якую былі ўключаны сотні помнікаў ад эпохі неаліта да эпохі сярэдневякоўя, а матэрыялы да яе апублікаваў у зборніку «Труды Смоленских Государственных музеев» за 1924 г., а потым і асобнай кнігай «Материалы для археологической карты Смоленской губернии» (мал. 2) [55, 56].

Значны ўклад унёс А. М. Ляўданскі таксама ў вывучэнне сусветна вядомага Гнёздаўскага курганнага могільніка пад г. Смаленскам. Навуковец дакладна ўстанавіў колькасць курганных насыпаў у могільніку (3862) і адкрыў побач з ім адпаведнае могільніку па храналогіі і памерах селішча, жыхары якога, як ён устанавіў, былі пахаваны ў гэтых курганах [55, с. 15; 134, с. 139].

Працуючы ў г. Смаленску, А. М. Ляўданскі яшчэ з 1923 г. падтрымліваў цесную сувязь з Інстытутам беларускай культуры (Інбелкультам) у г. Мінску, а з 1925 г. з'яўляўся членам гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта. У першай палове 1920-х гадоў па плане гэтай цэнтральнай беларускай навуковай установы навуковец правёў археалагічныя абследаванні і раскопкі на тэрыторыях Барысаўскай акругі, у г. Заслаўе, каля г. Лагойск і на Магілёўшчыне. Вынікам даследаванняў з'явілася адкрыццё шматлікіх помнікаў эпох каменнага і жалезнага вякоў, а таксама першых на тэрыторыі Беларусі гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі. Вынікі гэтых прац былі апублікаваны ў навуковым зборніку Інбелкульта і выдадзены асобнымі брашурамі (мал. 3) [71–74, 77], а таксама падведзены на першым з'ездзе даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, які адбыўся ў г. Мінску ў 1926 г., дзе А. М. Ляўданскі выступіў з цэнтральным дакладам аб беларускіх гарадзішчах [75]. А. А. Спіцын, выступаючы ў дыскусіі, падкрэсліў вялікую працу, праведзеную даследчыкам і выказаў такую думку: «Знакомясь с разведками и исследованиями т. Лявданского в продолжение трех последних лет, убеждаемся в том, что т. Лявданского можно считать археологом первого разряда...» [3, с. 242–243].

У 1927 г. А. М. Ляўданскі пераехаў у г. Мінск і працаваў спачатку загадчыкам аддзела археалогіі Беларускага дзяржаўнага музея. У 1931–1937 гг. ён з'яўляўся супрацоўнікам Інстытута гісторыі

[1] Праца выканана ў рамках тэмы БРФФД «Біябібліяграфічны даведнік археолагаў Беларусі», дагавор № Г13-073 ад 16.04.2013 г., дзяржаўная рэгістрацыя № 20131914 ад 16.09.2013 г.


Прив.-доц. А. Н. ЛЯВДАНСКИЙ

НЕКОТОРЫЕ ДАННЫЕ
О КАМЕННОМ ВЕКЕ
И КУЛЬТУРЕ БРОНЗОВОЙ ЭПОХИ
В СМОЛЕНСКОЙ ГУБЕРНИИ.

(С XXII ТАБЛИЦАМИ)

Отдельный оттиск из Научных Известий Смоленского Гос. Университета.
ТОМ IV. ВЫПУСК 3.

СМОЛЕНСК.
1927 г.

Мал. 1


2005

А. Н. Лявданский

1973

Пр. 1937 г.

МАТЕРИАЛЫ
для археологической карты Смоленской губернии.

I. Городища, селища и курганы Гнездовского могильника и его района.
II. Городище на Лестровке, в Смоленске.
III. Круглые городища.
IV. Городище близ дер. Лахтесво.
V. Сосуд Фатьяновской культуры.
(С картой Гнездовского могильника и 6 таблицами).

Па сьпісу №

ИЗДАНИЕ
Смоленских государственных музеев и Губоно
1924 г.

Мал. 2

АН БССР: вучоным сакратаром, загадчыкам секцыі археалогіі і адначасова з 1934 г. – дацэнтам гістарычнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Гэты даследчык стаяў каля вытокаў беларускай археалагічнай навукі, з'яўляўся ініцыятарам і арганізатарам першых навуковых археалагічных экспедыцый па шырокім, планамерным і ўсебаковым вывучэнні тэрыторыі Беларусі. У сувязі з бурным развіццём археалагічных даследаванняў на тэрыторыі рэспублікі ўвосень 1927 г. Інбелкульт вылучыў у самастойную адзінку Археалагічную камісію, вучоным сакратаром якой стаў А. М. Ляўданскі, а членамі – К. М. Палікарповіч і С. А. Дубінскі [26, с. 6; 28, с. 9].

З прыходам А. М. Ляўданскага ў Інстытут гісторыі АН БССР археалагічная навука Беларусі ўпершыню была пастаўлена на навуковую аснову. За кароткі перыяд вучоны стварыў дзеяздольны творчы калектыў аднадумцаў – археолагаў-энтузіястаў (С. А. Дубінскі, А. Д. Каваленя, К. М. Палікарповіч, В. Р. Тарасенка, І. А. Сербаў, С. С. Шутаў, М. М. Улашчык і інш.), з якімі наладзіў поўнае сістэматычнае вывучэнне археалагічных помнікаў на тэрыторыі Беларусі. Акрамя таго, ён змог устанавіць цесныя сувязі з расійскімі навукоўцамі (Б. А. Рыбакоў, А. А. Спіцын, С. М. Замятнін, В. І. Громаў, Г. Ф. Мірчынк), якія вывучалі помнікі і матэрыялы розных эпох на тэрыторыі нашай рэспублікі [28, с. 11; 29, с. 21].

Галоўным навуковым накірункам даследчыка стала гісторыя развіцця насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, гісторыя старажытных плямён, якія яе насялялі. Як археолаг-навуковец А. М. Ляўданскі даследаваў помнікі розных эпох: каменнага і жалезнага вякоў, перыяду сярэдневякоўя. У 1928 г. Аляксандр Мікалаевіч прымаў удзел у раскопках Бердыжскай стаянкі эпохі палеаліту пад кіраўніцтвам К. М. Палікарповіча [114, с. 56–57]. Аднак прыярытэт аддаваў даследаванню помнікаў жалезнага веку і эпохі сярэдневякоўя. Даследчык зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку на тэрыторыях Беларусі і Смаленшчыны, вызначыў іх культурна-храналагічную прыналежнасць і арэалы распаўсюджання археалагічных культур, выявіў асноўныя рысы патрыярхальна-родавага ладу, матэрыяльнай культуры, гаспадаркі плямён, якія жылі на гэтых тэрыторыях у жалезным веку [23, с. 124; 24, с. 33; 132, с. 134–135]. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў шматлікіх публікацыях, у якіх разгледжаны разнастайныя археалагічныя помнікі і на аснове іх матэрыялаў – розныя бакі жыццядзейнасці тагачаснага насельніцтва: «Некоторые данные о городищах Смоленской губернии» (мал. 4); «Археологические памятники Смоленской губернии»; «Да гісторыі жалезнай прамысловасьці на Беларусі па даных археолёгіі», «Да гісторыі жалезнага промыслу на Палесьсі: Рудні і месцазнаходжаньні руды» (мал. 5) і інш. [60–62, 75, 99, 100, 102].



ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

А. Н. Ляўданскі

1. Раскопкі і археолёгічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце

2. Сьляды нэолітычнае стаянкі і пазьнейшых культур каля м. Новага Быхаву

МЕНСК – 1925

Мал. 3



А. Н. ЛЯВДАНСКИЙ

Некоторые данные о городищах Смоленской губернии

(С 17 таблицами и 60 рисунками в тексте)

Отдельный оттиск из Научных Известий Смоленского Государственного Университета. Том 3, часть 3. Смоленск, 1926 г.

Мал. 4

Усе археалагічныя помнікі эпохі жалеза на тэрыторыі Беларусі навуковец разглядаў з пункту гледжання стадыяльнага развіцця насельніцтва, якое пакінула гэтыя гарадзішчы. Першы на тэрыторыі рэспублікі ў 1931 г. ён пачаў вывучаць гарадзішчы са штрыхаванай керамікай у цэнтральнай Беларусі і з гладкасценнай керамікай (днепра-дзвінскай) – на поўначы, на поўдні – эпохі латэна (мілаградская і зарубінецкая культуры) [23, с. 124, 131]. Даследчык правільна вызначыў балцкую прыналежнасць першых дзвюх археалагічных культур, што і да цяперашняга часу знаходзіць пацверджанне ў археалогіі.

Значную ўвагу А. М. Ляўданскі надаваў таксама даследаванню помнікаў эпохі сярэдневякоўя. У 1920-я гады ён правёў археалагічныя раскопкі курганных могільнікаў IX–XIII стст. на тэрыторыях Мінскай, Полацкай, Аршанскай акруг: каля гарадоў Заслаўе, Барысаў, Полацк (Гаравыя, Рудня, Бельчыцы), Орша (Чаркасава) і інш. [24, с. 39; 135, с. 118–119]. Матэрыялы гэтых даследаванняў былі ўведзены ім у навуковы ўжытак у «Працах Археолёгічнай Камісіі», т. II («Археолёгічныя досьледы ў Аршанскай акрузе»; «Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе» і інш.) [85–88]. Да сярэдзіны 1930-х гадоў даследчык склаў падрабязную археалагічную карту Беларусі. Аднак яна не захавалася: была страчана ў гады вайны разам з іншымі архіўнымі дакументамі сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР.

З 1928 г. навуковец першым пачаў вывучэнне такіх складаных археалагічных помнікаў, як старажытныя гарады на тэрыторыі Беларусі: Полацк, Віцебск, Заслаўе, Барысаў, Орша [78; 85; 87–89; 134, с. 140–141; 135, с. 122, 125]. Аснову першага тома «Прац», які выйшаў у 1928 г., склаў аб'ёмны артыкул А. М. Ляўданскага аб раскопках у г. Заслаўе, які ў гэтым жа годзе перапрацаваны і дапоўнены новымі матэрыяламі быў выдадзены асобнай кнігай сумесна з З. І. Даўгялам «Заслаўе на Меншчыне (Археолёгічныя досьледы і гістарычны агляд)» (мал. 6) [78, 79]. Гэта было першаснае выданне матэрыялаў, увядзенне іх у навуковы ўжытак, аднак без асаблівых абагульненняў: падрабязнае апісанне курганоў, чарцяжы і малюнкі артэфактаў, раскладзеных па комплексах, і інш.

Даследчык прапанаваў першую і найбольш поўную гістарычную тапаграфію старажытнага г. Полацка, выказаў правільныя меркаванні аб дзядзінцы і рамесным пасадзе, прывёў невядомыя звесткі аб яго помніках архітэктуры – Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр [23, с. 143; 88, с. 161–170; 134, с. 140]. Дакладна вызначыў гістарычную тапаграфію г. Віцебска і першы выказаў думку аб тым, што гарадзішча старажытнага г. Віцебска ўзнікла не пазней IX ст. [87, с. 94; 134, с. 140].

Менавіта А. М. Ляўданскі першым пачаў займацца новай для таго часу галіной навукі – гісто-




Мал. 5




Мал. 6

рыяй археалогіі, перыядычна падводзячы вынікі археалагічных даследаванняў за пэўныя прамежкі часу ў вялікіх абагульняючых артыкулах: «Археологические исследования в БССР после Октябрьской Революции», «Археолёгічныя досьледы ў Смаленскай губэрні за 1918–1928 гг.», «Археолёгічныя досьледы 1926–1928 гг. у БССР і Смаленшчыне», «Археолёгічная праца ў БССР за 1930–1931 гг.» і інш. [66, 80, 84, 96–98, 101, 104].

Вялікую ўвагу А. М. Ляўданскі таксама надаваў развіццю краязнаўства ў Беларусі. Прымаў удзел у краязнаўчых канферэнцыях, публікаваў матэрыялы на краязнаўчыя і археалагічныя тэмы ў краязнаўчым выданні «Наш край»: пра сувязі краязнаўства і археалогіі, пра арганізацыю музеяў, аб археалагічных помніках Беларусі і інш. [81–83, 94]. Разам з М. Грынблатам у 1932 г. надрукаваў брашуру «Краязнаўчыя музэі і веснавая пасеўная кампанія» аб працы краязнаўчых музеяў пры правядзенні веснавой пасяўной кампаніі ў рэспубліцы. На аснове гэтай кнігі тады ж быў зроблены мікрафільм, які складаўся з 31 кадра і захоўваецца цяпер у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі [31, 32].

Вялікая заслуга Аляксандра Мікалаевіча таксама ў тым, што за кароткі час ён стварыў сваю школу – працаздольны творчы калектыў археолагаў, а таксама супрацоўнікаў музеяў і краязнаўцаў. Гэтая група даследчыкаў акрамя правядзення археалагічных раскопак змагла выпускаць такія спецыяльныя археалагічныя выданні, як «Працы». Іх выйшла тры тамы і яны шырока запатрабаваны навукоўцамі і ў наш час [38, 39, 116].

Відавочна, што навуковая дзейнасць А. М. Ляўданскага развівалася ў некалькіх накірунках. Ён быў навукоўцам, выкладчыкам і музейным супрацоўнікам і аддаваў працы шмат сіл і часу. Акрамя таго, ён з'яўляўся нястомным папулярызатарам гістарычнай і археалагічнай навукі, аб чым сведчаць яго шматлікія артыкулы, надрукаваныя на працягу 1920–30-х гадоў у розных смаленскіх і мінскіх газетах: «Рабочий путь», «Смоленская Новь», «Звязда», у якіх даследчык асвятляў самыя разнастайныя пытанні сваіх археалагічных даследаванняў [51–54, 57–59, 103].

У 1920-я гады археалагічныя доследы і музейная праца А. М. Ляўданскага таксама шырока асвятляліся іншымі карэспандэнтамі ў перыядычным друку ў самых розных беларускіх і расійскіх газетах і часопісах: «Савецкая Беларусь», «Звезда», «Полымя», «Рабочий путь», «Краеведение», «Известия ЦИК СССР и ВЦИК», «Вестник Знания», «Наука и Техника» і інш. [6–17, 19–22, 25, 27, 107, 111, 113, 119, 120, 122, 123, 126–131]. Усё гэта сведчыць аб вялікай цікавасці як да працы, так і да асобы Аляксандра Мікалаевіча, паказваючы яго выдатным навукоўцам таго часу.

У Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры захоўваліся справаздачы А. М. Ляў-

данскага за 1920-я гады аб праведзеных ім археалагічных раскопках [112, 117, 118].

Друкаваныя працы А. М. Ляўданскага настолькі былі запатрабаваныя навукоўцамі, што на іх у 1920-я гады расійскімі і замежнымі даследчыкамі былі апублікаваны рэцэнзіі (А. Спіцын, А. Штакельберг-Папова, А. Тальгрэн і інш.) [50, 121, 133, 136].

Трэба аднак адзначыць, што былі ў А. М. Ляўданскага дзве негатыўныя публікацыі, выдадзеныя ў 1930-я гады аб так званай нацдэмаўшчыне ў навуцы: адна з іх у сааўтарстве з Л. Бабровіч, І. Шпілеўскім, М. Грынблатам (мал. 7), а другая пасобная [18, 93]. Падрабязнаму разгляду апошняй прысвяціў адну са сваіх работ Л. В. Аляксееў, вось цытата з яе: «Для чего городилась эта безудержная «научная» ложь...?! Арестованный в 1937 г. А. Н. Лявданский навсегда унес в могилу эту черную тайну» [3, с. 247–248].

Паспяховая, плённая навуковая праца даследчыка была спынена, калі вучоны знаходзіўся ў росквіце творчых сіл і таленту. У маі 1937 г. ён быў арыштаваны па ілжывым даносе, а 27 жніўня гэтага ж года расстраляны ў г. Мінску разам з іншымі беларускімі археолагамі С. А. Дубінскім і А. Д. Каваленей. І толькі ў 1958 г. А. М. Ляўданскі быў поўнасцю рэабілітаваны як грамадзянін і як вучоны.


БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
ІНСТЫТУТ ФІЛЁЗОФІІ

Л. БАБРОВІЧ, Ів. ШПІЛЕЎСКІ, М. ГРЫНБЛЯТ, А. ЛЯЎДАНСКІ

„НАВУКА"
НА СЛУЖБЕ НАЦДЭМАЎСКАЙ КОНТРРЭВОЛЮЦЫІ

ЭТНОГРАФІЯ. МУЗЭЙНАЯ СПРАВА

ТОМ ПЕРШЫ. ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

МЕНСК—1931

Мал. 7

Навуковыя працы гэтага выдатнага навукоўца цяпер даступныя для ўсіх даследчыкаў. Попыт на іх не толькі не змяншаецца, але з кожным годам яны прыцягваюць да сябе ўсё больш ўвагі новых пакаленняў вучоных. Такая ж вялікая ўвага надаецца не толькі навуковым распрацоўкам, але і асобе даследчыка. Аб гэтым сведчаць шматлікія персаналіі ў самых розных савецкіх, беларускіх, расійскіх энцыклапедычных выданнях, даведніках і манаграфіях (Л. В. Аляксееў, В. С. Вяргей, Т. М. Каробушкіна і інш.) [4; 5; 26, с. 7–8; 28, с. 47–53; 29; 30; 33; 34; 36; 41; 44–49; 67–70; 105; 106]. Таксама шмат артыкулаў аб А. М. Ляўданскім і яго працах змешчана ў разнастайных зборніках, часопісах і газетах [1; 2; 35; 37; 40, с. 274–280; 42; 43; 108–110; 115; 124; 125; 132; 134; 135].

У А. М. Ляўданскага маецца звыш 50 публікацый у разнастайных беларускіх і расійскіх выданнях (у тым ліку шматлікія асобныя адбіткі вялікіх артыкулаў з розных выданняў, афармленыя ў выглядзе кніг і брашур). Яшчэ ў 1936 г. Аляксандр Мікалаевіч сумесна з К. М. Палікарповічам падрыхтаваў да друку рукапіс манаграфіі «Нарысы гісторыі дакласавага грамадства Беларусі», якая ў той час не была апублікавана, а потым наогул была назаўсёды страчана [104, с. 223].

Шматлікія навуковыя публікацыі А. М. Ляўданскага сведчаць аб выніках даследавання ім самых разнастайных помнікаў на тэрыторыях Расіі і Беларусі, а таксама вывучэння розных напрамкаў жыццядзейнасці старажытнага насельніцтва (напрыклад, металургіі жалеза). Усе яго працы склалі дастаткова вялікую крыніцазнаўчую базу для далейшых абагульняючых даследаванняў па старажытнай гісторыі як Беларусі, так і Расіі. На публікацыі гэтага знакамітага даследчыка абапіраюцца і спасылаюцца ў сваіх навуковых распрацоўках многія пакаленні беларускіх і расійскіх навукоўцаў.

**Літаратура**

1. Акуліч, С. Даследчык роднага краю / С. Акуліч // Звязда. – 1983. – 13 верас.

2. Акуліч, С. Даследчык роднага краю / С. Акуліч // Мінская праўда. – 1983. – 16 верас.

3. Алексеев, Л. В. Судьбы археологии и исторического краеведения Белоруссии и Смоленщины в 20–30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев // Советская археология. – 1990. – № 4. – С. 241–252.

4. Алексеев, Л. В. Археолог А. Н. Лявданский (1893–1937) / Л. В. Алексеев // Археология и краеведение Белаpуси XVI в. – 30-е годы XX в. / под ред. Б. А. Рыбакова. – Минск, 1996. – С. 178–182.

5. Аляксандр Мікалаевіч Ляўданскі // Белазаровіч, В. А. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі : дапаможнік / В. А. Белазаровіч ; пад агульн. рэд. І. П. Крэня, А. М. Нечухрына. – Гродна : ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. – С. 212.

6. Археолёгічная выстаўка ў Беларускім Дзяржаўным музэі // Звезда. – Менск, 1926. – № 268.

7. Археолёгічныя досьледы Барысаўскага павету // Савецкая Беларусь. – Менск, 1924. – № 14.

8. Археолёгічныя досьледы ў ваколіцах [Менску ў 1928 г.] // Зьвязда. – Менск, 1928. – № 146.

9. Археолёгічныя досьледы ў ваколіцах Менску // Савецкая Беларусь. – Менск, 1928. – № 147.

10. Археолёгічныя раскопкі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1923. – № 204.

11. Археолёгічныя раскопкі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1926. – № 151.

12. Археолёгічныя экспедыцыі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1929. – № 113.

13. Археологические раскопки // Звезда. – Минск, 1923. – № 209.

14. Археологические раскопки // Савецкая Беларусь. – Минск, 1923. – № 204.

15. Археологические раскопки в Белоруссии // Звезда. – Минск, 1927. – № 6.

16. Археологические раскопки в 1926 году в СССР // Краеведение. – Л., 1927. – № 2. – С. 223–225.

17. Архэалёгічныя раскопкі ў м-ку Заслаўі // Зьвязда. – Менск, 1928. – № 101.

18. Бабровіч, Л. «Навука» на службе нацдэмаўскай контрэволюцыі / Л. Бабровіч, І. Шпілеўскі, М. Грынблят, А. Ляўданскі // Этнографія. Музэйная справа / Беларус. Акад. навук, Ін-т філёзофіі. – Менск, 1931. – Т. I, ч. 3. – С. 151–240.

19. Барашка, Іл. Археолёгічныя досьледы Барысаўскага павету (Справаздача архэолёга Ляўданскага) / Іл. Барашка // Савецкая Беларусь. – Менск, 1924. – № 14.

20. Барашка, Іл. У Беларускім Дзяржаўным Музэі / Іл. Барашка // Савецкая Беларусь. – Менск, 1924. – № 32.

21. Б., Л. Археолёгічная выстаўка ў Беларускім Дзяржаўным музэі / Л. Б. // Савецкая Беларусь. – Менск, 1926. – № 265.

22. Белорусская старина // Изв. ЦИК СССР и ВЦИК. – М., 1928. – № 250.

23. Будько, В. Д. Археология Белоруссии за Советский период / В. Д. Будько, А. Г. Митрофанов // Советская археология. – М., 1967. – № 4. – С. 123–145.

24. Будько, В. Д. Археология / В. Д. Будько, А. Г. Митрофанов, Г. В. Штыхов // Достижения исторической науки в БССР за 50 лет. – Минск, 1970. – С. 26–43.

25. В Белгосмузее // Звезда. – Минск, 1926. – № 46.

26. Вергей, В. С. Первые шаги советской археологической науки в БССР / В. С. Вергей // Древности Белоруссии и Литвы : [сб. статей] / Ин-т истории АН БССР, Ин-т истории АН ЛитССР; науч. ред. Л. Д. Поболь, А. З. Таутавичюс. – Минск, 1982. – С. 4–10.

27. В Инбелкульте. Археологические экспедиции // Звезда. – Минск, 1926. – № 134.

28. Вяргей, В. С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР. 1919–1941 гг. / В. С. Вяргей / пад рэд. Я. Г. Шмідта. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – 144 с.

29. Вяргей, В. Археалогія Беларусі ў 1920–1930-я гады / В. Вяргей // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў : тэз. дакл. Міжн. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Беларус. асац. ахвяраў паліт. рэпрэсій. – Мінск, 1993. – С. 20–24.

30. Гавритухин, И. О. Лявданский (Ляўданскі) Александр Николаевич / И. О. Гавритухин // Большая Российская энциклопедия: в 30 т. / председ. науч.-ред. совета Ю. С. Осипов ; отв. ред. С. Л. Кравец. – М. : Большая Российская энциклопедия, 2011. – Т. 18 : Ломоносов-Манизер. – С. 279.

31. Грынблят, М. Краязнаўчыя музэі і веснавая пасеўная кампанія / М. Грынблят, А. Ляўданскі / Беларус. акад. навук, Масавы сэктар, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – 59 с.

32. Грынблят, М. Краязнаўчыя музэі і веснавая пасеўная кампанія / М. Грынблят, А. Ляўданскі / Беларус. акад. навук, Масавы сектар, Ін-т гісторыі. – Менск : [б. в.], 1932. – 1 мікрафільм (31 кадр).

33. Дубінскі, С. А. Бібліографія па археолёгіі Беларусі і сумежных краін / С. А. Дубінскі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі, Сэкцыя археолёгіі. – Менск, 1933. – 224 с.

34. Дубінскі, С. А. Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін (Спадчына археолага) / С. А. Дубінскі. – Беласток, 2010. – 339 с.

35. Дук, Д. У. А. М. Ляўданскі – пачынальнік полацкай археалогіі / Д. У. Дук // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку) : зб. навук. прац Рэсп. навук.-практ. семінара, Наваполацк, 20–21 ліст. 2008 г. – Наваполацк, 2009. – С. 3–5.

36. Егарэйчанка, А. А. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч / А. А. Егарэйчанка // Археалогія Беларусі : энцыклапедыя: у 2 т. / рэдкал. : Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2011. – Т. 2 : Л–Я. – С. 42.

37. Егорейченко, А. Железный век в исследованиях А. Н. Лявданского / А. Егорейченко // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў : тэз. дакл. Міжнар. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Беларус. асац. ахвяраў паліт. рэпрэсій. – Мінск, 1993. – С. 36–39.

38. Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Інстытут беларускае культуры. – Менск, 1928. – Т. I, кн. 5 : Працы кафедры археолёгіі. – 300 с.

39. Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларуская акадэмія навук. – Менск, 1930. – Т. II, кн. 11 : Працы археолёгічнай камісіі. – 536 с.

40. Ільюціk, А. У. Памяці рэпрэсаваных археолагаў / А. У. Ільюцік // ГАЗ / Ін-т гісторыі АН Беларусі ; уклад. М. І. Лашанкоў, А. А. Мяцельскі. – Мінск, 1994. – № 3. – С. 274–283.

41. Каробушкіна, Т. М. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч (1893–1942) / Т. М. Каробушкіна // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя : [у 12 т.] / рэдкал.: П. У. Броўка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1972. – Т. 6. – С. 484.

42. Каробушкіна, Т. М. Заснавальнік савецкай археалагічнай навукі ў Беларусі (да 90-годдзя з дня нараджэння А. М. Ляўданскага) / Т. М. Каробушкіна // Весці АН БССР, Сер. грамад. навук. – 1983. – № 6. – С. 104–106.

43. Каробушкіна, Т. М. Вучоны энцыклапедычнай эрудыцыі / Т. М. Каробушкіна // ПГКБ. – Мінск, 1984. – № 3. – С. 17–18.

44. Каробушкіна, Т. М. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч / Т. М. Каробушкіна // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мінск, 1986. – Т. 3. – С. 329.

45. Каробушкіна, Т. М. Радзіма Ляўданскага Аляксандра Мікалаевіча / Т. М. Каробушкіна // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць / рэдкал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1987. – Кн. 2. – С. 213–214.

46. Каробушкіна, Т. М. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч / Т. М. Каробушкіна // Археалогія і нумізматыка

Беларусі : энцыклапедыя / рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск, 1993. – С. 382.

47. Каробушкіна, Т. М. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч / Т. М. Каробушкіна // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1997. – Т. 4 : Кадэты–Ляшчэня. – С. 427.

48. Каробушкіна, Т. М. Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч / Т. М. Каробушкіна // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал. : Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск, 1999. – Т. 9 : Кулібін-Малаіта. – С. 433.

49. Коробушкина, Т. Н. Лявданский Александр Николаевич / Т. Н. Коробушкина // Республика Беларусь : энциклопедия : в 6 т. / редкол.: Г. П. Пашков [и др.]. – Минск : БелЭН, 2007. – Т. 4. – С. 597.

50. Л. И. Рецензия / Л. И. // Краеведение. – Л., 1926. – № 4. – С. 560.

51. Лявданский, А. Н. Археологические новости / А. Н. Лявданский, В. В. Дмитриев // Рабочий Путь. – Смоленск, 1923. – № 171.

52. Лявданский, А. Н. О «Раскопках в Гнездове» / А. Н. Лявданский // Смоленская Новь. – Смоленск, 1923. – № 3–4. – С. 60–61.

53. Лявданский, А. Н. К вопросу о составлении археологической карты Смоленской губернии / А. Н. Лявданский // Смоленская Новь. – Смоленск, 1923. – № 3–4. – С. 61–62.

54. Лявданский, А. Археологические исследования в Борисовском округе / А. Лявданский // Звезда. – Минск, 1924. – № 209.

55. Лявданский, А. Н. Материалы для археологической карты Смоленской губернии / А. Н. Лявданский // Труды Смоленских Государственных музеев. – Смоленск, 1924. – Вып. I. – С. 127–184, табл.

56. Лявданский, А. Н. Материалы для археологической карты Смоленской губернии / А. Н. Лявданский. – Смоленск : Изд. Смоленских гос. музеев и Губоно, 1924. – 60 с., карта, 6 табл. (Асобны адбітак.)

57. Лявданский, А. Н. Работы по археологии в Смоленской губ. / А. Н. Лявданский // Рабочий путь. – Смоленск, 1924. – № 3.

58. Лявданский, А. Н. Археологические раскопки в Смоленском уезде / А. Н. Лявданский // Рабочий Путь. – Смоленск, 1925. – № 201.

59. Лявданский, А. Н. Стоянка людей каменного века (Переснянская волость) / А. Н. Лявданский // Рабочий Путь. – Смоленск, 1925. – № 103.

60. Лявданский, А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии (с 12 таблицами и 60 рисунками в тексте) / А. Н. Лявданский // Научные Известия Смоленского Государственного Университета. – Смоленск, 1926. – Т. III, вып. 3 : Гуманитарные науки. – С. 175–296.

61. Лявданский, А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии / А. Н. Лявданский. – Смоленск : Издательство Смоленского государственного университета, 1926. – 122 с. (Асобны адбітак.)

62. Лявданский, А. Н. Археологические памятники Смоленской губернии / А. Н. Лявданский // Материалы к доистории Центрально-промышленной области. – М., 1927. – С. 35–38.

63. Лявданский, А. Н. Некоторые данные о каменном веке и культуре бронзовой эпохи в Смоленской губернии (с XXII таблицами) / А. Н. Лявданский // Научные Известия Смоленского Государственного Университета. – Смоленск, 1927. – Т. IV, вып. 3. – С. 219–259.

64. Лявданский, А. Н. Некоторые данные о каменном веке и культуре бронзовой эпохи в Смоленской губернии (с XXII таблицами) / А. Н. Лявданский. – Смоленск, 1927. – С. 219–259; XXII табл. (Асобны адбітак.)

65. Лявданский, А. Н. Городище, курганы и стоянки близ дер. Деребуж Рославльского уезда / А. Н. Лявданский // Труды секции археологии Российской ассоциации научно-исследовательских институтов общественных наук. – М., 1928. – Вып. IV. – С. 300–305.

66. Лявданский, А. Н. Археологические исследования в БССР после Октябрьской Революции / А. Н. Лявданский // Сообщения Государственной Академии истории материальной культуры / Ежемесячный журнал. – 1932. – № 7/8. – С. 54–61.

67. Лявданский Александр Николаевич // Советская историческая энциклопедия : [в 16 т.] / гл. ред. Е. М. Жуков. – М. : Советская Энциклопедия, 1965. – Т. 8. – С. 864.

68. Лявданский Александр Николаевич // Белорусская ССР : Краткая энциклопедия : в 5 т. / редкол.: И. П. Шамякин (гл. ред.) [и др.]. – Минск : Белорусская Советская Энциклопедия им. П. Бровки, 1982. – Т. 5 : Биографический справочник. – С. 387.

69. Лявданский Александр Николаевич // Возвращенные имена : Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / сост. и авт. предисл. Н. В. Токарев ; под ред. А. С. Махнача. – Минск : Навука і тэхніка, 1992. – С. 68–69.

70. Лявданский Александр Николаевич // Институт истории Национальной академии наук Беларуси в лицах (1929–2008 гг.) : биобиблиогр. справ. / Г. В. Корзенко [и др.]. – Минск, 2008. – С. 242.

71. Ляўданскі, А. Н. Раскопкі і археолёгічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце / А. Н. Ляўданскі // Навуковы зборнік Інстытуту Беларускае Культуры. – Менск, 1925. – С. 86–105.

72. Ляўданскі, А. Н. Раскопкі і археолёгічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце / А. Н. Ляўданскі / Ін-т беларус. культуры. – Менск : [б. в.], 1925. – 25 с. : 5 табл. (Асобны адбітак.)

73. Ляўданскі, А. Н. Сьляды нэолітычнае стаянкі і пазьнейшых культур каля м. Новага Быхаву / А. Н. Ляўданскі // Навуковы зборнік Інстытуту Беларускае Культуры. – Менск, 1925. – С. 106–122.

74. Ляўданскі, А. Н. Сьляды нэолітычнае стаянкі і пазьнейшых культур каля м. Новага Быхаву / А. Н. Ляўданскі // Навуковы зборнік Інстытуту Беларускае Культуры. – Менск, 1925. – С. 106–122. (Асобны адбітак.)

75. Ляўданскі, А. Беларускія гарадзішчы [даклад] / А. Ляўданскі // Працы Першага Зъезду дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі, Менск, 17–18 студз. 1926 г. / Ін-т Беларус. культуры, Гіст.-археол. камісія. – Менск, 1926. – С. 12–16.

76. Ляўданскі, А. Нэолітычныя стаянкі ў Смаленскай губэрні / А. Ляўданскі // Гістарычна-археолёгічны зборнік / Інстытут Беларускае Культуры, Соцыяльна-гістарычная Сэкцыя і Гістарычна-археолёгічная Камісія. – Менск, 1927. – № 1 (Даклады, рэфераты 1926–1927 году). – С. 175–192.

77. Ляўданскі, А. Н. 1. Раскопкі і археолёгічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце. 2. Сьляды нэолітычнае

стаянкі і пазьнейшых культур каля м. Новага Быхаву / А. Н. Ляўдансκі // Навуковы зборнік Інстытуту Беларускае Культуры. – Менск, 1927. – С. 86–109. (Асобны адбітак.)

78. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя раскопкі ў м. Заслаўі Менскай акругі / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. – Менск, 1928. – Т. I, кн. 5 : Працы Катэдры Археолёгіі / Ін-т беларус. культуры. – С. 1–92.

79. Ляўдансκі, А. Н. Заслаўе на Меншчыне (Археолёгічныя досьледы і гістарычны агляд) / А. Н. Ляўдансκі, З. І. Даўгяла. – Менск, 1928. – 121 с.

80. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў Смаленскай губэрні за 1918–1928 гг. / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. – Менск, 1928. – Т. I, кн. 5 : Працы Катэдры Археолёгіі / Ін-т беларус. культуры. – С. 285–290.

81. Ляўдансκі, А. Н. Краязнаўчыя арганізацыі і археолёгія / А. Н. Ляўдансκі // Наш край / Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі навук. – Менск, 1928. – № 12(39). – С. 56–61.

82. Ляўдансκі, А. Н. Вывучэньне археолёгічных помнікаў і ўкладаньне археолёгічнай карты раёну / А. Н. Ляўдансκі // Наш край : штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі навук : доклад на II Усебеларус. Краязнаўчай Конф., Менск, 7–12 студз. 1929 г. – Менск, 1929. – № 1(40). – С. 49–50.

83. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя помнікі Беларусі / А. Н. Ляўдансκі // Наш край : штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі навук. – Менск, 1929. – № 2(41). – С. 17–23.

84. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы 1926–1928 гг. у БССР і Смаленшчыне (з археолёгічнай картай, 134 малюнкамі і 36 табліцамі) / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Менск, 1930. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – С. 31–498. (Асобны адбітак.)

85. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў Аршанскай акрузе / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 31–45.

86. Ляўдансκі, А. Н. Курганны магільнік каля в. Чаркасова Аршанскае акругі / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930.– С. 57–70.

87. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў Віцебскай акрузе / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 93–104.

88. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 157–198.

89. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў Барысаве / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 253–261.

90. Ляўдансκі, А. Н. Археолёгічныя досьледы ў вадазборах р. р. Сажа, Дняпра, і Касплі ў Смаленскай губэрні / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 269–338.

91. Ляўдансκі, А. Н. Да пытаньня аб палеолітычнай стаянцы каля в. Гамкова, Смаленскай акругі / А. Н. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 495–498.

92. Ляўдансκі, А. Нэолітычная стаянка ў Гнёздаве пад Смаленскам / А. Ляўдансκі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Беларус. акад. навук. – Т. II, кн. 11 : Працы Археолёгічнай Камісіі. – Менск, 1930. – С. 518.

93. Ляўдансκі, А. Нацдэмы ў саюзе з рэлігіяй і царкоўнікамі супроць дыктатуры пролетарыяту / А. Ляўдансκі // Савецкая Краіна / Штомесячны орган Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Беларускай акадэміі навук. – 1931. – № 3(5). – С. 24–30.

94. Ляўдансκі, А. Організацыя музэяў на фабрычназаводзскіх прадпрыемствах / А. Ляўдансκі // Зборнік праграм і інструкцый па краязнаўству / Беларус. акад. навук, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. – Менск, 1932. – Вып. I. – С. 26–36.

95. Ляўдансκі, А. Археолёгічныя досьледы ў Смаленшчыне (Археолёгічныя досьледы С. М. Сакалоўскага ў былым Рослаўскім павеце. Дробныя весткі аб курганных знаходках і гарадзішчах был. Смаленскай губ.) / А. Ляўдансκі // Працы сэкцыі археолёгіі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – С. 5–68.

96. Ляўдансκі, А. Археолёгічныя досьледы ў БССР пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі / А. Ляўдансκі // Працы сэкцыі археолёгіі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – С. 215–218.

97. Ляўдансκі, А. Археолёгічная праца ў БССР за 1930–1931 гг. / А. Ляўдансκі // Працы сэкцыі археолёгіі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – С. 226.

98. Ляўдансκі, А. Кароткае паведамленьне аб досьледах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930–1931 гг. / А. Ляўдансκі // Працы сэкцыі археолёгіі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – С. 230–235.

99. Ляўдансκі, А. Розныя знахадкі / А. Ляўдансκі // Працы сэкцыі археолёгіі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – С. 244–246.

100. Ляўдансκі, А. Н. Да гісторыі жалезнай прамысловасьці на Беларусі па даных археолёгіі (папярэднія даныя) / А. Н. Ляўдансκі, К. М. Палікарповіч // Савецкая краіна / Штомесячны орган Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Беларускай акадэміі навук. – 1932. – № 5(19). – С. 55–84.

101. Ляўдансκі, А. Н. Папярэднія вынікі работы археолёгічнай брыгады Палескай экспэдыцыі / А. Н. Ляўдансκі // Савецкая краіна / Штомесячны орган Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі навук. – 1932. – № 9. – С. 81–88.

102. Ляўдансκі, А. Н. Да гісторыі жалезнага промыслу на Палесьсі : Рудні і месцазнаходжаньні руды / А. Н. Ляўдансκі / Працы Палескай экспэдыцыі / Беларус. акад. навук, Ін-т гісторыі імя М. Н. Пакроўскага, Сэкцыя археолёгіі / пад рэд. В. К. Шчарбакова. – Менск, 1933. – Вып. 2. – 40 с. : іл.

103. Ляўдансκі, А. Дзе знаходзіўся першапачаткова Мінск? / А. Ляўдансκі, А. Каваленя // Звязда. – 1936. – 27 мая.

104. Ляўдансκі, А. Н. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933–1934 гг. / А. Н. Ляўдансκі, К. М. Палікарповіч // Запіскі Беларускай акадэміі навук. – Менск, 1936. – Кн. 5. – С. 211–223.

105. Ляўдански Аляксандр Мікалаевіч // Беларуская ССР : Кароткая энцыклапедыя : у 5 т. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1981. – Т. 5 : Біяграфічны даведнік. – С. 382.

106. Ляўдански Аляксандр Мікалаевіч // Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991 : энцыклапедычны даведнік : у 3 т. – Т. 2 : Лавіцкі-Ятаўт. – Мінск : ATHENAEUM, 2004. – С. 49.

107. Магільнікі крывічоў // Савецкая Беларусь. – Менск, 1928. – № 226.

108. Мядзведзева, В. У. Гістарыяграфія развіцця беларускай археалагічнай навукі / В. У. Мядзведзева // Институт белорусской культуры и становление науки в Беларуси. К 90-летию создания Института белорусской культуры : материалы Междунар. науч. конф., Минск, 8–9 дек. 2011 г. / редкол.: А. А. Коваленя [и др.]. – Минск, 2012. – С. 586–593.

109. Мяцельскі, А. Яго імя – цэлая эпоха ў айчыннай археалогіі / А. Мяцельскі // Навіны Беларускай акадэміі навук. – Мінск, 1993. – 16 ліп.

110. Мяцельскі, А. Трагічны лёс беларускіх археолагаў – ахвяраў палітычных рэпрэсій і іх рэабілітацыя / А. Мяцельскі, Г. Штыхаў // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў : тэз. дакл. Міжнар. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Белар. асац. ахвяраў паліт. рэпрэсій. – Мінск, 1993. – С. 156.

111. Оль. Мертвые говорят (Из археологических раскопок в Заславле) // Звезда. – Минск, 1926. – № 152.

112. О раскопках А. Н. Лявданского в Смоленской губ. / Дело Государственной Академии Истории Материальной Культуры. – Л., 1926. – № 129.

113. Открытие древнейшего городища в Смоленске // Рабочий Путь. – Смоленск, 1925. – № 261.

114. Палікарповіч, К. М. Вынікі археалагічных даследаванняў на Беларусі пасля Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі / К. М. Палікарповіч // Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. Аддз. грам. навук, Сер. гіст. – Мінск, 1947. – Вып. 1. – С. 53–74.

115. Памяти Александра Николаевича Лявданского // Советская археология. – 1964. – № 1. – С. 120–125.

116. Працы сэкцыі археолёгіі / Беларуская акадэмія навук, Інстытут гісторыі. – Менск, 1932. – Т. III. – 546 с.

117. Раскопки А. Н. Лявданского / Дело Государственной Академии Истории Материальной Культуры. – Л., 1925. – № 115.

118. Раскопки А. Н. Лявданского в Смоленской губ. / Дело Государственной Академии Истории Материальной Культуры. – Л., 1927. – № 129.

119. Раскопки древнего славянского жилья // Вестник Знания. – Л., 1926. – № 3. – С. 220.

120. Раскопки Ковшаровского городища // Наука и Техника. – Л., 1925. – № 52.

121. Спицин, А. Рецензия / А. Спицин // Краеведение. – Л., 1926. – № 3. – С. 389.

122. Стоянка каменного века в Смоленском уезде // Наука и Техника. – Л., 1925. – № 50.

123. С. Я. Архэолёгічныя раскопкі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1926. – № 151.

124. Тарасенка В. Аляксандр Ляўдански / В. Тарасенка // Полымя. – 1966. – № 8. – С. 189–190.

125. Ткачоў, М. А. Археолаг / М. А. Ткачоў, А. Каралёў // Ленінскі заклік [Смалявіцкі р-н]. – 1980. – 19, 22, 24 студз.

126. У Беларускім Дзяржаўным Музэі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1924. – № 32.

127. У Беларускім Дзяржаўным Музэі // Савецкая Беларусь. – Менск, 1926. – № 44.

128. У. М. [Мікіцінскі]. Археолёгічныя досьледы на Случчыне / У. М. [Мікіцінскі] // Савецкая Беларусь. – Менск, 1929. – № 167.

129. Хроніка беларускае культуры // Полымя. – Менск, 1923. – № 5–6. – С. 166.

130. Хроніка беларускай навукі // Полымя. – Менск, 1928. – № 7. – С. 211–216.

131. Хроніка нашай навукі // Полымя. – Менск, 1928. – № 8. – С. 176–178.

132. Шадыра, В. Археалагічная дзейнасць А. Ляўданскага на поўначы Беларусі і сучасныя даследаванні / В. Шадыра // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў : тэз. дакл. Міжнар. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Белар. асац. ахвяраў паліт. рэпрэсій. – Мінск, 1993. – С. 134–136.

133. Штакельберг-Попова, А. Рецензия / А. Штакельберг-Попова // Краеведение. – Л., 1926. – № 4. – С. 561.

134. Штыхаў, Г. Школа А. Ляўданскага па вывучэнню сярэднявечных гарадоў / Г. Штыхаў // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў : тэз. дакл. Міжнар. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Белар. асац. ахвяраў паліт. рэпрэсій. – Мінск, 1993. – С. 139–141.

135. Штыхов, Г. В. Археология Полоцкой земли за 50 лет / Г. В. Штыхов // Древности Белоруссии: докл. к конф. по археологии Белоруссии (март 1969 г.) / под ред. В. Д. Будько, П. Ф. Лысенко, Л. Д. Поболя, М. М. Чернявского. – Минск, 1969. – С. 118–129.

136. A. M. T. (Tallgren) (Рэцэнзія) / A. M. T. (Tallgren) // Eurasia Septentrionalis Antiqua. – Helsinki, 1928. – Т. III. – S. 198–199.

**Резюме**

*О. В. Медведева*

**История и историография научной деятельности А. Н. Лявданского**

В полном объеме представлены история и историография научной деятельности одного из известных белорусских археологов первой половины XX в. А. Н. Лявданского, который стоял у истоков организации и создания современной научной археологии Беларуси, а также внес весомый вклад в развитие археологической науки на Смоленщине (Россия). Последовательно рассмотрена научная деятельность А. Н. Лявданского как археолога, музейного работника, педагога. Большое внимание уделено анализу публикаций ученого, представлены работы о нем, указаны персоналии А. Н. Лявданского в различных белорусских и российских изданиях.

**Summary**

*O. V. Medvedeva*

**History and historiography of scientific activity A. N. Lyavdansky**

The article presents the full history and historiography of the scientific activities of one of the famous Belarusian archeologists first half of the twentieth century A. N. Lyavdansky. He stood at the origins of the organization and the creation of modern scientific archeology Belarus. A. N. Lyavdansky also has contributed to the development of archeology in Smolensk (Russia). Consistently considered his scientific work as an archaeologist, museum worker, teacher. Much attention is paid to the analysis of publication activity of the scientist, as well as the works of him and his staff are in different belarusian and russian editions.

*Пастуніў 16.04.2014 г.*

*УДК 902/904:378.016(476–25)(092)*

***А. У. Зуева,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, кафедра археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін, старшы выкладчык, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь);*
***П. С. Курловіч-Бяляўская,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# А. М. Ляўданскі і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт

А. М. Ляўданскі (1893–1937) – вядомы беларускі археолаг, 120-годдзе нараджэння якога нядаўна ўшаноўвала айчынная навуковая супольнасць. Даследчык належаў да ліку заснавальнікаў беларускай археалагічнай школы, якая пачала зараджацца ў міжваенны перыяд і тады ж была вынішчана. У сувязі з гэтымі трагічнымі акалічнасцямі інфармацыя аб шматлікіх аспектах дзейнасці навукоўца дагэтуль застаецца фрагментарнай.

Адной з такіх малавядомых, але цікавых старонак біяграфіі археолага з'яўляецца яго праца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У хрэстаматыі па гісторыі БДУ апублікавана складзеная ў перыяд 1928–1929 гг. характарыстыка А. М. Ляўданскага як аднаго з выкладчыкаў гістарычнага факультэта [5, с. 295]. Сціслыя звесткі аб выкладчыцкай дзейнасці даследчыка прыведзены і ў энцыклапедычным артыкуле: «З 1931 г. – вучоны сакратар, загадчык сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР, дацэнт гістарычнага факультэта БДУ» [*Цыт па:* 4, с. 42].

Аднак гістарычны факультэт быў створаны толькі ў 1934 г. [5]. Ці выкладаў А. М. Ляўданскі менавіта на гэтым факультэце ўніверсітэта? Калі выкладаў, то ў які час? У чым заключалася яго дзейнасць? Адказы на гэтыя пытанні і прапануюцца ў дадзеным артыкуле.

**Крыніцы.** Праца А. М. Ляўданскага ў БДУ адлюстравана ў дакументах, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь: пратаколах пасяджэння Краязнаўчага таварыства БДУ за 1929 г., матэрыялах па асабістым складзе ўніверсітэта (спісах і характарыстках прафесарска-выкладчыцкага складу за розныя гады), вучэбных матэрыялах і экзаменацыйных ведамасцях гістарычнага факультэта БДУ за 1934–1937 гг., справаздачы аб дзейнасці ўніверсітэта за 1935–1936 гг. [6–17]. Сціслая інфармацыя прадстаўлена і ў апублікаваным у часопісе «Наш край» артыкуле аб краязнаўчай працы ўніверсітэцкага студэнцтва [2].

**Навукова-асветніцкая дзейнасць.** Першае задакументаванае выступленне А. М. Ляўданскага ў БДУ адбылося вясной 1928 г., калі Таварыства краязнаўства ўніверсітэта і Цэнтральнае бюро краязнаўства сумесна арганізавалі шасцітыднёвыя нядзельныя «курсы-студыю» па краязнаўству. У межах гэтых заняткаў, якія наведалі каля 300 слухачоў, А. М. Ляўданскі прачытаў лекцыю на тэму «Вывучэнне археалогіі краю» [2, с. 79–86].

У пачатку сакавіка 1929 г. на пашыраным пленуме Таварыства абмяркоўваўся план падрыхтоўкі васьмітыднёвых краязнаўчых курсаў, у правядзенні якіх павінны былі прымаць удзел супрацоўнікі як БДУ, так і Беларускай акадэміі навук. Прадугледжвалася, што лекцыю, прысвечаную вывучэнню археалогіі Беларусі, прачытае «навуковы спецыяліст па катэдры археолёгіі Б. А. Н. Ляўданскі М. А.» [*Цыт пав.:* 7, арк. 11].

Заняткі па краязнаўству праводзіліся на працягу ўсёй вясны 1929 г. [3, с. 73]. Засталося не высветленым, ці прымаў А. М. Ляўданскі ўдзел у іх арганізацыі. Аднак можна меркаваць, што менавіта у сувязі з рэалізацыяй адукацыйных праектаў 1928–1929 гг. і была напісана прыведзеная ніжэй характарыстыка, якая захоўваецца сярод універсітэцкіх матэрыялаў, падрыхтаваных у перыяд з 07.10.1928 г. па 09.11.1929 г.

> «Лявданский Александр Николаевич.
>
> По происхождению селянин, семья в колхозе. Окончил Московский археологический институт и Смоленский университет. Сочувствует КП(б)Б, в других партиях не состоял. Вполне советский работник. Научной деятельностью в области археологии занимается на протяжении 11 лет. Сейчас – доцент – старший научный сотрудник. Имеет н [научную] ступень кандидата. Видный археолог-исследователь. Своими работами известен в Союзе. Принимает активное участие в общественной жизни.
>
> Как преподаватель имеет свои недостатки. Построение лекции со стороны методической и внешней формы не всегда удовлетворяет студентов. Нужно еще много работать в области марксистской методологии».
>
> [*Цыт пав.:* 6, арк. 2, *рукапісны аўтограф; першая публікацыя*: 5, с. 295].

**Выкладчыцкая дзейнасць.** У 1934 г. распачаў сваю дзейнасць гістарычны факультэт БДУ. У вучэбны план першага курса была ўключана дысцыпліна «Гісторыя дакласавага грамадства», на вывучэнне якой адводзілася 40 гадзін [12, арк. 13]. Выкладанне гэтай дысцыпліны забяспечваў А. М. Ляўданскі, у 1934/35 навучальным годзе запрошаны на пасаду дацэнта кафедры агульнай гісторыі. Згодна з вучэбнай праграмай, распрацаванай даследчыкам,

на занятках разглядалася сем тэм: «Крыніцы для вывучэння дакласавага грамадства», «Перыядызацыя гісторыі дакласавага грамадства», «Стан вывучэння гісторыі дакласавага грамадства да Акцябрскай рэвалюцыі і пасля» «Праблемы паходжання чалавека», «Першабытнае стада», «Першабытная камуністычная арда», «Радавое грамадства» (гл. дадатак) [12, арк. 7–12]. Вясной 1935 г. дзве групы першакурснікаў здавалі А. М. Ляўданскаму іспыт. З 60 студэнтаў 55 чалавек (91 %) атрымалі адзнаку «вельмі добра» (тагачасны аналаг «выдатна») і 5 чалавек (9 %) – «добра» [13, арк. 15].

У 1935/36 навучальным годзе А. М. Ляўданскі стаў прафесарам кафедры агульнай гісторыі БДУ [8, арк. 7, 31; 9, арк. 2, 8, 26, 60]. Як і ў папярэднім годзе, навуковец выкладаў дысцыпліну «Гісторыя дакласавага грамадства», аднак студэнцкія веды ацэньваў ужо не так паблажліва. Паводле няпоўнай статыстыкі, складзенай па выніках сэсіі, толькі 8 з 42 студэнтаў (19 %) атрымалі ад яго адзнаку «выдатна» ці «в. добра» (гл. малюнак). Пераважная большасць першакурснікаў (31 чалавек, 74 %) атрымала адзнаку «добра», а 3 студэнты (7 %) – «паср.» («задавальняюча») [14, арк. 39–45]. Акрамя аўдыторных заняткаў, А. М. Ляўданскі праводзіў і прафарыентацыйную працу. Разам з іншымі прафесарамі ўніверсітэта ён выязджаў у «раёны» з мэтай «популяризации БГУ среди выпускников 10-леток, Рабфаков и техникумов» [*Цыт пав.:* 8, арк. 31]. Па стане на чэрвень 1936 г. яго выкладчыцкая нагрузка складала 50 гадзін [9, арк. 26].

У 1936/1937 навучальным годзе А. М. Ляўданскі працягваў працу на гістарычным факультэце БДУ. Яго прозвішча і пашпартныя даныя ўзгадваюцца ў афіцыйнай дакументацыі ўніверсітэта за 1937 г. [10, арк. 11]. У красавіку 1937 г. А. М. Ляўданскі прыняў іспыт па курсе «Гісторыя дакласавага грамадства». З 26 першакурснікаў 21 студэнт (81 %) атрымаў адзнаку «отлично», 5 студэнтаў (19 %) – «посредственно» [15, арк. 49].

Праз месяц, у маі 1937 г., А. М. Ляўданскі быў беспадстаўна арыштаваны, а 27 жніўня таго ж года расстраляны [1, с. 178, 196; 4].

**Замест заключэння.** У 1937/38 навучальным годзе курс, які вёў А. М. Ляўданскі, быў перададзены прафесару, загадчыку кафедры гісторыі сярэдніх вякоў М. М. Нікольскаму [11, арк. 1]. У 1938/39 навучальным годзе студэнты вывучалі толькі агульную дысцыпліну «Гісторыя дакласавага грамадства і Старажытнага Усходу» [16, арк. 26]. Тады ж адбыўся і першы выпуск гістарычнага факультэта БДУ. Пяцікурснікі атрымалі дыпломы і выпіскі з ведамасцей з пералікам здадзеных падчас навучання залікаў і іспытаў. Азнака па курсе «Гісторыя дакласавага грамадства», іспыт па якому яны здавалі ў 1934 г. А. М. Ляўданскаму [13, арк. 13–14], у гэтым спісе адсутнічала [17, арк. 87, 88].

**Дадатак**

Праграма курса «Гісторыя дакласавага грамадства», распрацаваная А. М. Ляўданскім у 1934 г. [12, арк. 7–12]. Машынапісны аўтограф. Арфаграфія і пунктуацыя арыгінала захаваны.

Экзаменацыйная ведамасць па курсе «Гісторыя дакласавага грамадства», падпісаная А. М. Ляўданскім [14, арк. 41]

А. Н. Ляўданскі.

## ГІСТОРЫЯ ДАКЛАСАВАГА ГРАМАДСТВА

### Уступ

Агульнае паняцце аб гісторыі. Гістарыя дакласавага грамадства, як першабытна-комуністычная (архаічная) фармацыя.

### Тэма 1-я. Крыніцы для вывучэння дакласавага грамадства.

Адкуль мы ведаем аб мінулым. Археалогія. Археалогічныя помнікі (у тым ліку і ў БССР): стаянкі, пяшчэры, селішчы, астаткі старажытных гарадоў і розных умацаванняў, гарадзішчы, розныя магілы (у тым ліку курганы) і інш.

Старажытныя пісьмена на камені, гліне і г. д.

Ахова археалагічных памятнікаў у СССР.

Мова, як крыніца для вывучэння гісторыі дакласавага грамадства. Фальклор, этнаграфія і інш.

Музеі і архівы.

Як вылічваецца час у гісторыі (абсалютная і адносная храналогія).

### Тэма 2-я. Перыядызацыя гісторыі дакласавага грамадства.

Перыядызацыя гісторыі дакласавага грамадства ў буржуазнай навуцы: схема Гелльвальда, Гуго Вінклера, Шмоллера, Бюхера, Зомбарта, Ліста, Морталье, Жак-дэ-Маргана, Гарадцова і інш.

Марксіцкая перыядызацыя гісторыі дакласавага грамадства: перыядызацыя Маркса-Энгельса, схемы Меншчанінава, Ефіменко і інш.

### Тэма 3-я. Стан вывучэння гісторыі дакласавага грамадства да Акцябрскай рэволюцыі і пасля.

Археалагічныя доследы да Окцябрскай рэволюцыі і ў Расіі (у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі) і іншых краінах. Археалагічныя доследы пасля Окцябрскай рэволюцыі ў СССР (у тым ліку і ў БССР) і капіталістычных краінах. Археалагічныя і інш. сумежныя гістарычныя дысцыпліны на службе ў імперыялізма і, між іншым, у германскага, польскага, фінляндскага, японскага і інш. Тэорыя так зв. міграцыі. Расавая тэорыя. Археалогія на службе ў беларускіх нацдэмаў.

### Тэма 4-я. Паходжанне чалавека і ўзнікненне грамадства.

Геалагічныя перыяды. Трэцічны і чацвярцічны перыяды. Ледавіковая эпоха. Паходжанне чалавека. Роднасць чалавека з жывёламі. Чым адрозніваецца чалавек ад жывёл. Пераходныя формы абез'яны да чалавека. Піцекантроп, сінатроп, гейдэбарскі чалавек. Роля працы ў працэсе развіцця ад абез'яны да чалавека (Энгельс). Біблейская легенда аб паходжанні чалавека і інш.

### Тэма 5-я. Першабытнае стада.

Прыродныя ўмовы. Першыя прылады працы: палка, дубіна, камень. Пытанне аб першых каменных прыладах і так зв. «эолітах». Залежнасць чалавека ад прыроды: Асноўныя заняткі людзей: збіранне і выкапванне гатовых прадуктаў прыроды і паляванне на дробных жывёл. Вандроўнае жыццё дробных груп людзей (стада). Адсутнасць падзела працы. Беспарадачныя палавыя адносіны. Адсутнасць членараздзельнай гукавой мовы (Энгельс). Кінетычная мова (Мар). Роль працы ў стварэнні мовы (Энгельс, Маркс). Адсутнасць рэлігіі.

### Тэма 6-я. Першабытная комуністычная арда.

Прыродныя ўмовы. Флора і фаўна. Так званыя шэльскія і ашэльскія стадыі. Каменныя прылады: ручны ударнік і інш. Збіральніцтва і развіццё паляўніцтва.

Мусц'ерская стадыя. Развіццё крамнёвых прылад. Узнікание касцяных прылад. Развіццё паляўніцтва на буйных жывёл. Азнаямленне чалавека з агнём і яго значэнне. Падзел працы паміж мужчынамі і жанчынамі. Пяшчэрныя і інш. стаянкі ў Заходняй Еўропе і СССР (Крым, Кубань, Дон). Узніжэнне пахаванняў. Фізічны тып чалавека (неандэрталец).

Прыродныя ўмовы ў канцы ледавіковай эпохі. Флора і фаўна.

Орыньяко-солютрэйская стадыя. Узнікненне новых крамневых і касцяных прылад працы. Тэхніка вырабу каменных і касцяных прылад. Засяленне пяшчэр. Асноўныя заняткі насельніцтва: арганізаванае паляўніцтва на буйных жывёл – насарога, маманта, каня і інш. Развіццё падзела працы паміж мужчынамі і жанчынамі, паміж старымі і маладымі. Мужчына – паляўнічы, жанчына – пераважна збіральніца яды. Выдзяленне арганізатараў.

Распаўсюджанне пасяленняў гэтай эпохі. Стаянкі на тэрыторыі СССР (у тым ліку і БССР). Рысункі і скульптура жывёл і людзей. Іх значэнне. Пахаванні. Фізічны тып людзей (краманьёнац). Грамадскія адносіны.

Мадлінская і азільская стадыі. Канец эпохі т. зв. палеоліту. Прылады вытворчасці. Развіццё і ўпадак касцяных прылад. Паляванне. Пасяленні. Развіццё і ўпадак пяшчэрнай жывапісі і яе значэнне. Грамадскія адносіны.

### Тэма 7-я. Радавое грамадства.

Прыродныя ўмовы. Флора і фаўна. Ранняя стадыя радавога грамадства. Пераход да шліфаваных, а пазней і прасвідраваных каменных прылад працы. Каменныя, касцяныя, рагавыя і інш. прылады працы і тэхніка іх апрацоўкі. Прыручэнне дзікіх жывёл (сабакі, аленя, авечкі, быка, свінні і інш.). Узнікненне матыжнага земляробства (у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі). Прылады земляробства: каменныя тапары, матыкі, сярпы і інш.). Першыя хлебныя расліны (проса, ячмень, пшаніца і інш.). Паляванне, рыбалоўства і іх прылады (сякеры, коп'і, стрэлы, гарпуны, кручкі, невады, чаўны і інш.). Пачатак вырабу глінянай пасуды. Узнікненне ткацтва. Спосабы здабывання агню і роля яго ў першабытнай тэхніцы, у земляробстве і інш. Прыгатаванне яды.

Стаянкі насельніцтва (у тым ліку і ў БССР). Жыллё, свайныя пабудовы, на азёрах і берагах рэк і марэй, землянкі, курані, шалашы і інш. Адзенне.

Радавая комуна і яе асноўныя рысы. Узмацненне падзелу працы паміж мужчынай і жанчынай. Развіццё абмену і шляхі зносін. Мацярынскі род.

Развіццё традыцый, звычаяў і правіл паводзін. Рост і значэнне кіраўнікоў. Магія. Развіццё анімізму, чараўніцтва, рэлігійныя забароны («табу»). Ушанаванне жывёл і раслін («тотэмізм»). Ушанаванне продкаў. Шаманы. Пахаванне. Мастацтва.

Пазнейшая стадыя радавога грамадства (прыблізна перыяд медзі-бронзы і эпохі ранняга жалеза). Пераход ад

камня да метала. Значэнне гэтага пераходу. Сляды гэтага пераходу на Беларусі. Спосабы і тэхніка апрацоўкі металаў (медзі, бронзы, а пазней і жалеза). Развіццё мэталёвых прылад вытворчасці (сякеры, матыкі, сярпы, коп'і, стрэлы, нажы і інш.). Развіццё падсечнага, а пазней і пахатнага земляробства. Прымяненне хатняй жывёлы ў земляробстве. Развіццё жывёлагадоўлі. Паляванне і рыбалоўства. Пчалярства. Развіццё ганчарства і інш. Жыллё: курані, зямлянкі, хаты. Развіццё ткацтва. Аддзенне. Аздобы.

Развіццё падзелу працы і рост прадукцыйнасці працы. Узнікненне дадатковага прадукту. Развіццё абмену і шляхі зносін. Развіццё супярэчнасцей і пачатак уласнасці на прыладу і жывёлу. Канцэнтрацыя сродкаў вытворчасці ў руках асобных членаў роду. Узнікненне ўмацаваных цэнтраў роду (гарадзішчы эпохі ранняга жалеза). Археалагічныя помнікі на Беларусі эпохі разлажэння роду. Узнікненне плямён (гарадзішчы, селішчы, курганы) і густата насельніцтва. Развіццё патрыярхату. Падзел унутры радавога грамадства і выдзяленне сям'і як вытворчай адзінкі. Пачатак распаду першабытнага комунізма. Пачатак класавай дыфарэнцыяцыі радавога грамадства. Развіццё ўласнасці.

Распад радавых адносін. Узнікненне плямён (славянскія і інш. плямёны на тэрыторыі Беларусі). Сялянская абшчына. Вялікая сям'я. Заняволенне жанчын у патрыярхальнай сям'і. Перажыткі патрыярхальна-радавых адносін у жыцці народаў СССР.

Развіццё рэлігіі. Багі прыроды. Выдзяленне жрацоў. Жрацы і іх сувязь з вярхушкай радавога грамадства. Пахаванне шляхам спалення трупаў. Пахаванні ў курганах. Рэлігія як сродак эксплуатацыі.

СПІС ЛІТАРАТУРЫ ДЛЯ КУРСА
ПА ГІСТОРЫІ ДАКЛАСАВАГА ГРАМАДСТВА:

1. Энгельс. Роль труда в процессе очеловечения обезьяны. Есть и под другим названием изд. 1923 г. «От обезьяны к человеку» в «Диалектика природы». Основное пособие.

2. Ф. Энгельс: Происхождение семьи, частной собственности и государства. Основное пособие.

3. К. Маркс и проблемы истории докапиталистических формаций. Сборник к пятидесятилетию со дня смерти Карла Маркса. Огиз, М.-Л. 1934 г.

Статьи: 1) Ефименко П. П. – Маркс и проблемы древнейшего периода первобытно-коммунистического общества; 2) Равдоникас В. И. – Маркс-Энгельс и основные проблемы доклассового общества.

Основное пособие.

4. Первобытное общество. Сборник статей. Всемирная история под редакцией М. М. Покровского, изд. 1932 г.

Основное пособие.

5. Ефименко, П. П. Дородовое общество. Огиз, М.-Л. 1934 г. Выписать можно из Гос. Академии истории материальной культуры, Ленинград, Мраморный дворец, отдел издательства.

Основное пособие.

6. В. К. Шчарбакоў. Нарысы гісторыі Беларусі, ч. 1, выд. Бел. Акадэміі навук, 1934 г. Раздзел 1 і 2. Основное пособие.

7. Пригожин, А. Г. Карл Маркс и проблемы социально-экономических формаций. Огиз – ГАИМК, 1933 г. Главы 2 и 3.

О проблемах доклассового общества.

См. рецензию на эту книгу в «Вестнике Коммунистической Академии», кн. 3, 1934 г.

8. В. Д. Преображенский. Краткий очерк экономики докапиталистических формаций. Огиз, М. 1933 г.

Раздел «Первобытно-коммунистическая формация», составленный В. К. Никольским.

См. рецензию на этот раздел в журнале «Советская Этнография». № 1–2, изд. Академии Наук СССР, 1934 г.

Есть: 9. Равдоникас. К вопросу о диалектике развития доклассового общества. Журнал «Проблемы истории докапиталистич. формаций», № 2, изд. Гос. Акад. Ист. Материальной культуры, 1934 г.

Есть. 10. Па Беларусі можна знаёміцца з матэрыяламі надрукаванымі ў «Працах» секцыі археалогіі і інш. Бел. АН, т. 1, 2 і 3.

**Літаратура**

1. Алексеев, Л. В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. – 30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев. – Минск : Беларуская навука, 1996. – 206 с.

2. Аніхоўскі, А. Праца Таварыства краязнаўства пры Бел. Дзярж. Універсітэце ў 1927–1928 гг. / А. Аніхоўскі, В. Невядомскі // Наш край. – 1928. – № 6–7 (33–34). – С. 79–86.

3. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт // Наш край. – 1929. – № 6–7 (45–46). – С. 73.

4. Егарэйчанка, А. А. Ляўданскі А. М. / А. А. Егарэйчанка // Археалогія Беларусі : энцыклапедыя : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2011. – Т. 2 : Л–Я. – С. 42.

5. Памяць і слава: Беларускі дзяржаўны універсітэт. 1921–1941 / склад.: С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. А. Яноўскі [аўтар уступ. арт.] ; рэдкал.: В. І. Стражаў (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БДУ, 2006. – 383 с.

6. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 257. Выписки из протоколов заседаний Правления университета и характеристики преподавателей исторического и физико-математического факультетов. – 23 с.

7. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 330. Протоколы заседаний Правления и Пленума краеведческого научно-исследовательского товарищества и производственно-экономической комиссии месткома университета – 19 с.

8. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 636. Отчет о работе Университета за 1935–36 уч. г. – 33 с.

9. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 674. Списки профессорско-преподавательского состава за 1936–37 гг. – 103 с.

10. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 696. Список профессорско-преподавательского и административно-технического состава за 1937 г. – 12 с.

11. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 698. Списки профессорско-преподавательского и учебно-вспомогательного состава за 1937–1939 уч. г. – 64 с.

12. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1316а. Учебный план факультета, планы работы аспирантов и тематика научно-исследовательских работ на 1934–1935 гг. – 27 с.

13. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1318. Экзаменационные ведомости студентов 1 курса за 1934–35 уч. годы. – 59 с.

14. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1322. Экзаменационные ведомости студентов 1–2 курсов за 1935–36 уч. годы. – 51 с.

15. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1324. Экзаменационные ведомости студентов за 1936–39 уч. годы. – 55 с.

16. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1327. Экзаменационные ведомости студентов 1 курса за 1938–39 уч. годы. – 32 с.

17. НАРБ. – Ф. 205. – В. 1. – Спр. 1329. Список и приложение к дипломам студентов, окончивших факультет в 1940 году. – 145 с.

**Резюме**

*А. В. Зуева, П. С. Курлович-Белявская*

**А. Н. Лявданский и Белорусский государственный университет**

Кратко описана преподавательская деятельность известного археолога А. Н. Лявданского в БГУ в 1928–1937 гг. В 1928–1929 гг. им были прочитаны научно-популярные лекции по археологии Беларуси. В 1934–1937 гг. ученый преподавал дисциплину «История доклассового общества», находясь на должности доцента, а с 1935/1936 г. – профессора кафедры всеобщей истории БГУ.

**Summary**

*A. V. Zuyeva, P. S. Kurlovich-Bialiauskaya*

**A. M. Liaudanski and the Belarusian State University**

The article is devoted to the teaching activity of famous archaeologist A. M. Liaudanski at the BSU during the 1928–1937. In 1928–1929 he provided popular lectures on the archaeology of Belarus. In 1934–1937 scientist read general course «The History of Before Class Society». He began his teaching activity as Associate Professor of the Department of General History. In 1935/1936 he was given the title of Professor.

*Паступіў 20.11.2014 г.*

*УДК [903.01+903.2–035.56](476)*

***А. С. Арабей,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Гістарыяграфія даследавання касцяной і рагавой індустрыі позняга бронзавага – ранняга жалезнага вякоў Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі

З ранняга каменнага веку да позняга сярэдневякоўя значную частку матэрыяльнай культуры насельніцтва тэрыторыі Беларусі разам з каменнымі (крамянёвымі), бронзавымі і жалезнымі вырабамі складалі прадметы з косці і рога. Помнікі з Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі не толькі не з’яўляюцца выключэннем, але і вылучаюцца сярод іншых колькасцю і разнастайнасцю выяўленых артэфактаў. Гэты факт робіць актуальным вывучэнне касцяной і рагавой індустрыі азначанага рэгіёна.

Трэба адзначыць, што касцяная і рагавая індустрыя Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі ўжо станавілася аб’ектам спецыяльнага даследавання беларускіх археолагаў. Так, вырабам з косці і рога, у тым ліку тэхналогіі іх майстравання, у перыяд неаліту–бронзавага веку на паселішчах Крывінскага тарфяніку прысвечана манаграфія М. М. Чарняўскага [1], касцярэзнай вытворчасці Полацкай зямлі IX–XIII стст. – манаграфія В. У. Мядзведзевай [2]. Разам з тым спецыялізаваныя працы па вывучэнні касцяной і рагавой індустрыі перыяду позняга бронзавага і ранняга жалезнага вякоў (канец II – I тысячагоддзе да н. э.), у беларускай гістарыяграфіі адсутнічаюць, што робіць патрэбным накіраванае яе даследаванне.

Для вызначэння асноўных накірункаў будучай работы перш за ўсё неабходна высветліць ступень вывучанасці праблемы ў працах беларускіх археолагаў.

З мэтай сістэматызацыі ўсяго масіву інфармацыі, публікацыі, у якіх утрымліваюцца звесткі пра касцяныя і рагавыя вырабы канца II – I тысячагоддзя да н. э. з помнікаў штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі, падзелены на тры ўмоўныя групы.

У *першую ўмоўную групу* можна аб’яднаць артыкулы, якія былі выдадзены па выніках палявых даследаванняў. Асноўнай мэтай такіх работ з’яўляецца ўвядзенне ў навуковы ўжытак пэўных матэрыялаў і інфармацыі, атрыманых падчас археалагічных разведак і раскопак.

Першыя работы, якія ўтрымліваюць звесткі аб касцяных і рагавых вырабах канца II – I тысячагоддзя да н. э. з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі ці днепра-дзвінскай культуры на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі, з’явіліся ў 1960-я гады.

У 1966 г. быў апублікаваны артыкул К. П. Шута «Памятники раннего железного века на севере Белоруссии» [3], у якім аўтар звярнуў увагу на наяўнасць шматлікіх знаходак з косці на помніках Падзвіння і зазначыў, што самая вялікая і разнастайная іх калекцыя паходзіць з гарадзішча Урагава (Верхнядзвінскі раён, Віцебская вобласць). К. П. Шут пералічыў класы касцяных знаходак з гэтага помніка (праколкі, шпількі, долаты, дзяржанні, свісткі, падвескі, нарыхтоўкі), прывёў малюнкі некаторых вырабаў і датаваў іх першай паловай I тысячагоддзя да н. э. [3, с. 171, 181, рис. 8].

У 1967 г. быў выдадзены артыкул К. П. Шута, прысвечаны вынікам археалагічных даследаванняў групы гарадзішчаў у мікрарэгіёне возера Асвея [4]. Археолаг вылучыў групу ранніх гарадзішчаў (Урагава, Асвея і Дубровы), для якой характэрна наяўнасць вялікай колькасці знаходак костак жывёл і вырабаў з іх [4, с. 408]. Большую частку артыкула даследчык прысвяціў вынікам раскопак гарадзішча Урагава, якія праводзілі ў 1965–1966 гг. Разглядаючы стратыграфію помніка, К. П. Шут звярнуў асаблівую ўвагу на ніжні гарызонт, які быў аддзелены ад верхняга вугальна-попельнай праслойкай і ўтрымліваў шмат касцяных і рагавых вырабаў. Аўтар пералічыў некаторыя з класаў гэтай катэгорыі знаходак (шылы, іголкі, падвескі, свісткі, гузікі, дзяржанні, долаты і інш.), зазначыў, што невялікія па памерах долаты з’яўляюцца найбольш шматлікім класам, змясціў малюнкі некаторых вырабаў і прывёў аналогіі з гарадзішчаў Латвіі. Абапіраючыся на знаходкі з косці і рога, К. П. Шут аднёс пачатак існавання гарадзішча да VI ст. да н. э. [4, с. 410–416, рис. 6].

На раннюю групу днепра-дзвінскіх помнікаў (гарадзішча Паддубнікі, ніжнія слаі гарадзішчаў Урагава і Загорцы, інш.), культурны слой якіх характэрызуецца наяўнасцю вялікай колькасці касцяных вырабаў, таксама звяртаў увагу А. Р. Мітрафанаў у сумесным з У. Д. Будзько абагульняючым артыкуле [5, с. 137]. На жаль, апісанне матэрыялаў і малюнкі аўтарамі не прыведзены.

Звесткі аб знаходках касцяных вырабаў утрымліваюцца ў артыкуле К. П. Шута, які прысвечаны разгляду матэрыялаў з гарадзішча каля в. Кублічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці [6]. Выходзячы з таго, што на помніку было выяўлена ўсяго дзевяць артэфактаў з косці (два фрагменты пра-

колак, пяць вастрый, адно дзяржанне нажа і адзін ікол мядзведзя), даследчык зрабіў выснову аб нязначнай ролі гэтай катэгорыі вырабаў на гарадзішчы [6, с. 283, рис. 11].

У 1980 г. з'явіўся артыкул В. І. Шадыры, прысвечаны даследаванням гарадзішча каля в. Замошша Полацкага раёна Віцебскай вобласці [7]. У ім змешчана інфармацыя пра выяўленыя на помніку вырабы з косці і рога. В. І. Шадыра вылучыў катэгорыі (прылады працы, зброя, упрыгажэнні, знаходкі невядомага прызначэння) і класы (долаты, праселка, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл, дзяржанне кінжала, шпількі, падвескі), прывёў абагульненае апісанне знаходак. Даследчык адзначыў той факт, што з «укараненнем у вытворчасць жалеза колькасць прадметаў з косці рэзка зніжаецца, а некаторыя формы знікаюць наогул». Увесь комплекс вырабаў з гарадзішча Замошша В. І. Шадыра датаваў другой паловай І тысячагоддзя да н. э. – першымі стагоддзямі н. э. [7, с. 28–29].

У 1992 г. у Літве быў надрукаваны грунтоўны артыкул Я. Г. Звяругі, у якім былі падведзены вынікі раскопак 1978–1981 гг. гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в. Гарані Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці [8]. Я. Г. Звяруга акцэнтаваў увагу на тым, што прадметы з косці і рога складаюць найбольш шматлікую групу знаходак і паходзяць пераважна з ніжніх пластоў помніка. Даследчык падзяліў касцяныя і рагавыя вырабы на класы (муфты-насадкі, наканечнікі стрэл, наканечнікі коп'яў, праколкі, шылы, качадыкі, долаты, скрабкі, вастрыі, іголкі, шпількі, падвескі, дудачкі, разнастайныя прылады для лоўлі рыбы), падаў іх абагульненыя апісанні і малюнкі найбольш прадстаўнічых экзэмпляраў. Зыходзячы з марфалогіі вырабаў у класе наканечнікаў стрэл Я. Г. Звяруга вылучыў групы, тыпы і варыянты, а ў класе шпілек – групы. Для кожнай катэгорыі вырабаў археолаг прывёў аналогіі з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі і Літвы [8, с. 95–98, рис. 2–4]. Даследчык аднес час узнікнення помніка да VI–V стст. да н. э. [8, с. 103].

У 1994 г. пабачыў свет сумесны артыкул Л. В. Дучыц і А. Р. Мітрафанава, у якім падведзены вынікі археалагічных даследаванняў гарадзішча каля в. Рацюнкі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці (раскопкі 1978, 1979, 1981 г.) [9]. Даследчыкі адзначылі істотную ролю косці як сыравіны для вырабу прылад працы, зброі, прадметаў убору, упрыгажэнняў. Касцяныя і рагавыя вырабы разглядаюцца па наступных класах: шылы, праколкі, качадыкі, кінжал, нажы, тупікі, долаты, стамескі, дзяржанні, муфта, наканечнікі коп'яў, стрэл і дроцікаў, шпількі, падвескі, нарыхтоўкі. Аўтарамі пададзены абагульненыя апісанні і памеры вырабаў кожнага з класаў, ілюстрацыі найбольш прадстаўнічых экзэмпляраў, а таксама прыведзены аналогіі з гарадзішчаў на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Расіі [9, с. 173–177, рис. 3]. Л. В. Дучыц і А. Р. Мітрафанаў прыйшлі да высновы, што перыяд «касцяной індустрыі» на гарадзішчы працягваўся ад часу ўзнікнення помніка (VII/VI стст. да н. э.) да II ст. да н. э. [9, с. 180].

У 1990-я і на пачатку 2000-х гадоў А. А. Егарэйчанка быў выдадзены шэраг артыкулаў, у якіх адлюстраваны вынікі археалагічнага вывучэння гарадзішчаў каля вёсак Тарылава, Зазоны, Рацюнкі, Нурвяны Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці [10–16]. У гэтых работах змешчаны звесткі аб знаходках з косці і рога, сабраных на гэтых помніках: прыведзены абагульненыя апісанні класаў вырабаў і ілюстрацыі найбольш адметных экзэмпляраў. Таксама аўтарам прапанаваны варыянты іх датавання і аналогій з помнікаў на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Расіі.

У 2002 г. у Польшчы быў апублікаваны артыкул А. М. Мядзведзева, прысвечаны вынікам раскопак 2000 г. гарадзішча каля в. Рацюнкі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці [17]. Аўтар падзяліў касцяныя і рагавыя вырабы па класах (долаты, праколкі, шпількі, падвескі, амулеты, гузікі, наканечнікі стрэл і коп'яў), адзначыў колькасць вырабаў у кожным класе, прывёў іх абагульненае апісанне з адсылкамі да ілюстрацый. Абапіраючыся на аналогіі з помнікаў днепра-дзвінскай культуры і культуры штрыхаванай керамікі А. М. Мядзведзеў датаваў касцяныя і рагавыя вырабы ў межах І тысячагоддзя да н. э. [17, с. 156, рис. 2–4].

У 2004 г. з'явіўся артыкул А. М. Мядзведзева «Да пытання аб паўднёвай мяжы днепра-дзвінскай культуры (па выніках даследавання апошніх гадоў)», у якім грунтоўна прадстаўлены матэрыялы з раскопак 1998 г. гарадзішча каля в. Запруддзе Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці [18]. Артэфакты з косці і рога складаюць найбольшую групу знаходак на гарадзішчы (усяго 47 адз.). Прадстаўлены наступныя класы вырабаў: наканечнікі стрэл (вылучаны тры тыпы, унутры тыпаў – варыянты), наканечнікі коп'яў, амулеты, шпількі, праколкі, долаты, дзяржанні, нарыхтоўкі, фрагменты костак са слядамі апрацоўкі. А. М. Мядзведзеў падаў падрабязнае апісанне кожнага класа знаходак, колькасць вырабаў і іх памеры, малюнкі найбольш прадстаўнічых экзэмпляраў. Даследчык датаваў гарадзішча ў межах канца І тысячагоддзя да н. э. – III–IV стст. н. э. [18, с. 78–79; 82, рис. 7–11]. У якасці дадатка да артыкула прыкладзены калекцыйны вопіс індывідуальных знаходак, які ўтрымлівае інфармацыю аб размяшчэнні касцяных вырабаў у культурным слоі ў межах раскопу [18, с. 85].

У 2007 г. быў надрукаваны артыкул З. А. Харытановіч, прысвечаны характарыстыцы матэрыялаў, якія былі выяўлены А. Р. Міграфанавым падчас раскопак гарадзішча каля в. Паддубнікі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці ў 1949, 1956 і 1962 г. [19]. У рабоце падрабязна разгледжаны выяўленыя на помніку вырабы з косці і рога (усяго 101 адз.). Зыходзячы з функцыянальнага прызначэння знаходак З. А. Харытановіч вылучыла наступныя катэгорыі: прылады працы; зброю; дэталі вопраткі і ўпрыгажэнні. Да прылад працы ёй былі аднесены долаты, праколкі (вастрыі), муфта для долата, праселка і прылада для загладжвання паверхні вырабу з гліны. Зброя прадстаўлена наканечнікамі стрэл, коп'яў і дроцікаў. Да дэталяў вопраткі і ўпрыгажэнняў належаць шпількі і пранізкі. З. А. Харытановіч падрабязна апісала кожную знаходку з указаннем яе памераў і адсылкамі да ілюстрацый, вызначыла функцыянальнае прызначэнне вырабаў, прывяла ім аналогіі з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і дзякоўскай культур [19, с. 57–63, рис. 6–14]. Гарадзішча датавана перыядам ад мяжы II і I тысячагоддзяў да н. э. да мяжы н. э. [19, с. 66].

Да *другой умоўнай групы* можна аднесці артыкулы, у якіх мэтанакіравана разглядаюцца пэўныя катэгорыі і класы касцяных і рагавых вырабаў канца II – I тысячагоддзя да н. э. штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур. Такія артыкулы ў беларускай гістарыяграфіі пачалі з'яўляцца толькі на пачатку XXI ст.

Так, у 2001 г. быў апублікаваны сумесны артыкул А. А. Егарэйчанкі і В. М. Сідаровіч, прысвечаны касцяным тупым утулкавым наканечнікам стрэл з раскопак 1999 г. гарадзішча каля в. Рацюнкі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці [20]. У артыкуле аўтары падрабязна апісалі кожную знаходку гэтага класа вырабаў (усяго 3 экз.), падалі іх метрычныя характарыстыкі і ілюстрацыі, вызначылі іх прызначэнне, прывялі аналогіі з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і дзякоўскай культур.

У 2002 г. быў апублікаваны артыкул В. М. Сідаровіч, прысвечаны знаходкам рагавых грузікаў дзякоўскага тыпу з гарадзішчаў каля вёсак Кастрыца Лепельскага раёна Віцебскай вобласці і Клішына Крупскага раёна Мінскай вобласці [21]. Археолаг змясціла грунтоўнае апісанне абодвух экзэмпляраў з указаннем іх метрычных характарыстык і адсылкамі да ілюстрацый, прапанавала варыянты датавання і функцыянальнага прызначэння, прывяла ім аналогіі з гарадзішчаў дзякоўскай культуры.

У 2003 г. з'явіўся сумесны артыкул А. Егарэйчанкі і С. Шаволіна, у якім разгледжаны двушыпныя (10 экз.) і аднашыпныя (6 экз.) касцяныя наканечнікі стрэл, якія былі выяўлены падчас раскопак на гарадзішчах Рацюнкі і Зазоны Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці [22]. Абапіраючыся на асаблівасці марфалогіі вырабаў даследчыкі вылучылі тры падтыпы двушыпных і тры падтыпы аднашыпных наканечнікаў стрэл. У межах кожнага з падтыпаў яны змясцілі падрабязнае апісанне кожнага экзэмпляра з указаннем памераў, прывялі аналогіі з гарадзішчаў штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і дзякоўскай культур, прапанавалі варыянты іх датавання.

У 2005 г. пабачыў свет сумесны артыкул В. Шадыры і С. Шаволіна «Тыпалогія касцяных наканечнікаў стрэл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння», прысвечаны знаходкам з гарадзішчаў Рацюнкі і Зазоны (Браслаўскі раён Віцебскай вобласці), Паддубнікі (Міёрскі раён Віцебскай вобласці), Буракова (Гарадоцкі раён Віцебскай вобласці), Замошша (Полацкі раён Віцебскай вобласці) [23]. Зыходзячы з формы насадкі даследчыкі падзялілі ўсе наканечнікі стрэл на два аддзелы: чаранковыя і ўтулкавыя. Першы аддзел распадаецца на тры тыпы: аднашыпныя, двушыпныя і вербалістыя наканечнікі стрэл. У сваю чаргу, у межах кожнага тыпу, на падставе асаблівасцей формы і сячэння пяра ці чаранка, вылучаны асобныя варыянты. Другі аддзел прадстаўлены аднатыпнымі наканечнікамі стрэл і на тыпы і варыянты не распадаецца. У межах кожнага з варыянтаў змешчана грунтоўнае апісанне кожнага экзэмпляра з указаннем іх памераў і адсылкамі да ілюстрацый, прапанавана магчымае датаванне, прыведзены аналогіі з гарадзішчаў дзякоўскай культуры і з помнікаў з тэрыторыі Прыбалтыкі.

У 2005 г. таксама быў надрукаваны артыкул Я. Г. Звяругі, прысвечаны разгляду рыбалоўных прылад, у тым ліку касцяных, з гарадзішча Гарані [24]. У межах гэтай катэгорыі аўтар вылучыў наступныя групы: «кручныя» (кручковыя) снасці, прылады для вырабу і аснасткі сетак, колючыя прылады. Да першай групы аднесена касцяная жарліца, да другой – касцяныя качадыкі і іголкі, да трэцяй – завостраныя з аднаго канца касцяныя стрыжні, наканечнікі коп'яў, зробленыя з коса зрэзаных трубчастых костак, касцяныя наканечнікі стрэл. Акрамя гэтага, да катэгорыі рыбалоўных прылад Я. Г. Звяруга аднес фрагменты апрацаваных рагоў, якія, на яго думку, з'яўляюцца пешнямі для здабывання рыбы з-пад лёду. У артыкуле прыведзены апісанні касцяных рыбалоўных прылад, указаны іх памеры, змешчаны малюнкі найбольш прадстаўнічых экзэмпляраў, прапанаваны варыянты іх выкарыстання.

У 2006 г. быў надрукаваны артыкул А. А. Егарэйчанкі, у якім разгледжана касцяная баявая і паляўнічая зброя культуры ранняй штрыхаванай

керамікі [25]. Даследчык падрабязна апісаў наканечнікі коп'яў і дроцікаў, кінжалы ці баявыя нажы, а таксама наканечнікі стрэл, падаў іх метрычныя характарыстыкі і ілюстрацыі, прывёў аналогіі з гарадзішчаў днепра-дзвінскай і дзякоўскай культур і прапанаваў варыянты іх датавання. Абапіраючыся на асаблівасці марфалогіі вырабаў, унутры кожнага класа археолаг вылучыў варыянты ці тыпы. А. А. Егарэйчанка прыйшоў да высновы, што прадметы ўзбраення насельніцтва ранняга этапа культуры штрыхаванай керамікі падобныя да зброі іншых культур лясной паласы Ўсходняй Еўропы. Гэта, на яго думку, было абумоўлена блізкім сацыяльна-эканамічным развіццём насельніцтва гэтых тэрыторый [25, с. 52].

У 2007 г. выйшаў артыкул А. А. Егарэйчанкі «Костяные булавки с гвоздевидным навершием в лесной полосе Восточной Европы» [26]. Абапіраючыся на асаблівасці канструктыўных элементаў даследчык вылучыў шэсць варыянтаў шпілек з цвікападобным навершам, акрэсліў тэрыторыю распаўсюджання кожнага варыянта, разгледзеў пытанні іх паходжання і храналогіі.

*Трэцюю ўмоўную групу* публікацый складаюць главы абагульняючых манаграфій і раздзелы ў энцыклапедыях, у якіх інфармацыя аб артэфактах з косці і рога згрупіравана па катэгорыях і класах, якія разглядаюцца ў комплексе з іншымі катэгорыямі вырабаў у межах адной з археалагічных культур.

Упершыню інфармацыя аб усіх катэгорыях касцяных і рагавых вырабаў штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур была сцісла пададзена А. Р. Мітрафанавым у выданні «Очерки по археологии Белоруссии» [27, с. 204–205, 222, рис. 76].

У 1978 г. А. Р. Мітрафанавым была выдадзена манаграфія «Железный век средней Белоруссии (VII–VI вв. до н. э. – VIII в. н. э.)», у якой быў абагулены назапашаны напрацягу дваццаці гадоў археалагічных даследаванняў гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі касцяны і рагавы матэрыял [28, с. 51–52]. У асобным параграфе А. Р. Мітрафанаў пералічыў асноўныя класы вырабаў з косці (шпількі, праколкі, дзяржанні, сякера, грэбень), прывёў іх апісанне з адсылкамі да ілюстрацый. Даследчык звярнуў увагу на тое, што вырабы з косці сустракаюцца ў асноўным у ранніх слаях гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі, у той час як у позніх слаях яны амаль адсутнічаюць.

У 1985 г. В. І. Шадырам была выдадзена манаграфія, прысвечаная старажытнасцям днепра-дзвінскай культуры [29]. У ёй касцяныя і рагавыя вырабы разглядаюцца ў асобным раздзеле па наступных катэгорыях: прылады працы; элементы адзення і ўпрыгажэнні; паляўнічыя прылады; наканечнікі коп'яў. Да першай катэгорыі даследчык аднес шылы, праколкі, качадыкі, вастрыі, долаты, іголкі, тупікі, праселкі. В. І. Шадыра даў абагульненую характарыстыку кожнага класа вырабаў, паспрабаваў вызначыць матэрыял і асноўныя тэхналагічныя прыёмы іх вырабу. Да другой катэгорыі належаць шпількі. Абапіраючыся на класіфікацыю, якая была распрацавана Я. Я. Граудонісам, В. І. Шадыра вылучыў два тыпы шпілек: з натуральным і апрацаваным навершам. У кожным тыпе даследчык вылучыў дзве групы: са скразной адтулінай на навершы і без адтуліны. Даследчык акрэсліў арэал распаўсюджання шпілек і прапанаваў іх датаванне. Да трэцяй катэгорыі В. І. Шадыра аднёс наканечнікі стрэл і дзяржанні кінжалаў. Касцяныя наканечнікі стрэл па спосабе мацавання да дрэўка падзелены ім на ўтулкавыя і чаранковыя, якія, у сваю чаргу, падзяляюцца на тыпы па форме і сячэнні пяра. Чацвёртая катэгорыя – наканечнікі коп'яў – прадстаўлены чатырма экзэмплярамі з гарадзішча Замошша. В. І. Шадыра падаў іх апісанне, прывёў ім аналогіі з тэрыторыі Літвы. У заключэнні на падставе аналізу ўсіх катэгорый вырабаў В. І. Шадыра разгледзеў асноўныя прыёмы апрацоўкі нарыхтовак з косці і рога (тэрамаапрацоўку, расшчапленне, рэзанне, скабленне, шліфаванне, свідраванне і паліроўку). Даследчык вылучыў два варыянты вытворчасці касцяных і рагавых вырабаў насельніцтвам днепра-дзвінскай культуры: шляхам дапрацоўкі натуральнай формы косці; шляхам поўнай змены натуральнай формы косці. Археолаг зрабіў выснову аб тым, што вырабы з косці шырока выкарыстоўвалі на днепра-дзвінскіх помніках напрацягу I тысячагоддзя да н. э. Іх паступовае знікненне В. І. Шадыра звязаў са з'яўленнем і распаўсюджваннем вырабаў з жалеза [29, с. 37–51, 99–100].

Да разгляду вырабаў з косці і рога днепрадзвінскай культуры В. І. Шадыра паўторна звярнуўся ў другім томе выдання «Археалогія Беларусі» [30, с. 186–188]. Ён прывёў абагульненае апісанне такіх катэгорый вырабаў, як прылады працы (долаты, іглы, тупікі, праколкі, вастрыі), зброя (наканечнікі коп'яў і стрэл, рукаяці кінжалаў), дэталі адзення і ўпрыгажэнні (шпількі). У заключэнні В. І. Шадыра адзначыў істотна важную ролю вырабаў з косці на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры да з'яўлення жалеза.

Да разгляду касцяных і рагавых вырабаў культуры штрыхаванай керамікі, якія былі выяўлены на гарадзішчах каля в. Гарані Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці, Кашчэлічы Валожынскага раёна Мінскай вобласці, Гарадзішча Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, двойчы звяртаўся А. М. Мядзведзеў [31, 32]. Даследчык разгледзеў прадметы ўзбраення (наканечнікі стрэл і коп'яў), дэталі адзення (шпількі, катушкападобнае наверша для

шпількі), амулеты з зубоў і костак жывёл, музычныя інструменты (дудачкі), прылады працы (муфты, вастрыі, долаты, праколкі, качадыкі, іголкі, сякеры), падаў апісанне найбольш прадстаўнічых знаходак, прывёў аналогіі з гарадзішчаў Літвы, прапанаваў датаванне некаторых вырабаў. Даследчык зрабіў выснову, што касцяныя і рагавыя прылады шырока выкарыстоўвалі на Панямонні толькі на працягу I тысячагоддзя да н. э. Пасля распаўсюджання жалезных вырабаў іх колькасць стала значна меншай [31, с. 25–26; 32, с. 34–59].

Асартымент касцяных і рагавых вырабаў з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі ахарактэрызаваў А. А. Егарэйчанка ў другім томе выдання «Археалогія Беларусі» [33, с. 130–133]. Археолаг звярнуў увагу на тое, што прадметы з косці і рога адносяцца да ранняга комплексу вырабаў і пададзены на помніках паўночна-заходняй часткі арэала культуры штрыхаванай керамікі. Даследчык разгледзеў вастрыі (праколкі, шылы, качадыкі), нажы, прылады для апрацоўкі скуры (тупікі) і дрэва (долаты, стамескі), ручкі, прадметы ўзбраення (наканечнікі коп’яў, наканечнікі стрэл, кінжалы), звязаныя з рыбацтвам прадметы (гарпуны, кручкі), дэталі адзення (шпількі), упрыгажэнні (падвеска, амулеты). Ён не толькі прывёў апісанне касцяных і рагавых вырабаў, але і ў межах некаторых класаў (наканечнікі стрэл, наканечнікі коп’яў, шпількі) вылучыў групы і тыпы, прывёў аналогіі з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі з тэрыторыі Літвы і Латвіі, а таксама з гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры.

Пазней комплексная характарыстыка ўсіх вядомых катэгорый касцянога і рагавога інвентару з помнікаў культур штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі была пададзена А. А. Егарэйчанкам ў грунтоўнай манаграфіі «Культуры штрихованной керамики» [34, с. 30–40, 75, 85, 89, 91, 118–119]. У заключэнні А. А. Егарэйчанка падкрэслівае, што шырокае распаўсюджанне касцяных і рагавых прылад было характэрнай рысай менавіта культуры ранняй штрыхаванай керамікі. У канцы I тысячагоддзя да н. э. адбыўся пераход да выкарыстання металічных (жалезных) вырабаў.

Такім чынам, на працягу шматгадовага археалагічнага вывучэння гарадзішчаў штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі была назапашана прадстаўнічая калекцыя касцяных і рагавых вырабаў канца II – I тысячагоддзя да н. э. Гэтыя матэрыялы былі часткова ўведзены даследчыкамі ў навуковы ўжытак шляхам публікацый артыкулаў, асобных глаў манаграфій і раздзелаў энцыклапедый (усяго налічана 32 адз.). У публікацыях касцяныя і рагавыя артэфакты разглядаюцца па катэгорыях і класах згодна з іх функцыянальным прызначэннем, прыводзіцца апісанне вырабаў, якое грунтуецца на іх візуальным даследаванні, падаюцца метрычныя характарыстыкі і ілюстрацыі найбольш прадстаўнічых экзэмпляраў, прапаноўваюцца варыянты датавання і аналогіі. Для некаторых класаў вырабаў (наканечнікі стрэл, шпількі з цвікападобным навершам і інш.) распрацаваны варыянты тыпалогій.

Тым не менш застаецца яшчэ кола пытанняў, якія патрабуюць вырашэння. Па-першае, вывучэнне касцяных і рагавых вырабаў канца II – I тысячагоддзя да н. э. праводзілася даследчыкамі толькі ў кантэксце помніка, групы помнікаў з пэўнай тэрыторыі ці шырэй – у межах культуры штрыхаванай керамікі ці днепра-дзвінскай культуры. Такія даследаванні разглядаемай групы артэфактаў, якія б дазволілі параўнаць касцяныя і рагавыя комплексы дзвюх культур і выявіць іх падабенства і адрозненні, сёння адсутнічаюць. Па-другое, даследаванне рагавой і касцяной індустрыі грунтавалася перш за ўсё на візуальным вывучэнні артэфактаў і іх марфалагічных характарыстык, што не пазбаўляе атрыманыя вынікі суб’ектыўнасці. Выкарыстанне новых больш дакладных методык (напрыклад, трасалагічнага аналізу) дазволіць удакладніць як вызначэнні асобных вырабаў, так і ўжо распрацаваныя тыпалогіі.

Улічваючы вышэйпералічанае, а таксама факт існавання адносна невялікай колькасці разрозненых публікацый пры наяўнасці значнай калекцыі артэфактаў з косці і рога, бачыцца неабходнасць грунтоўнага і сістэмнага вывучэння менавіта ўсяго комплексу вырабаў з косці і рога з помнікаў днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, распрацоўкі агульнай класіфікацыі, высвятлення асаблівасцей тэхналогіі вытворчасці і выкарыстання пэўных класаў касцяных і рагавых вырабаў, вызначэння іх храналогіі.

**Літаратура**

1. Чарняўскі, М. М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку (неаліт–бронзавы век) / М. М. Чарняўскі. – Мінск : Беларуская навука, 2007. – 77 с.

2. Мядзведзева, В. У. Касцярэзная вытворчасць Полацкай зямлі IX–XIII стст. / В. У. Мядзведзева. – Мінск : Беларуская навука, 2013. – 236 с.

3. Шут, К. П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии / К. П. Шут // Древности Белоруссии : материалы конф. по археологии Белоруссии и смежных территорий / под ред. В. Ф. Исаенко [и др.]. – Минск, 1966. – С. 166–182.

4. Шут, К. П. Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии / К. П. Шут // Доклады к XI конф.

молодых ученых Белорусской ССР, ноябрь 1967 г. – Минск, 1967. – С. 406–424.

5. Будько, В. Д. Археология Белоруссии за Советский период / В. Д. Будько, А. Г. Митрофанов // Советская археология / АН СССР ; редкол.: А. В. Арциховский (гл. ред.) [и др.]. – М. : Наука, 1967. – № 4. – С. 123–145.

6. Шут, К. П. Городище Кубличи Ушачского района / К. П. Шут // Древности Белоруссии. – Минск, 1969. – С. 262–289.

7. Шадыра, В. І. Гарадзішча Замошша / В. І. Шадыра // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – Мінск : Полымя, 1980. – № 2. – С. 27–29.

8. Зверуго, Я. Г. Исследования Гораньского городища / Я. Г. Зверуго // Lietuvos archeologija : P. Tarasenkos 100-osimos gimimo metinems paminet / Lietuvos MA Lietuvos istorijos inst; ats. red. R. Volkaite-Kulikauskene. – V. : Academia, 1992. – K. 9 – P. 92–103.

9. Дучиц, Л. В. Городище Ратюнки / Л. В. Дучиц, А. Г. Митрофанов // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 1994. – № 5. – С. 163–182.

10. Егорейченко, А. А. Железный век Браславского Поозерья / А. А. Егорейченко // Браслаўскія чытанні / рэдкал.: К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 1994. – С. 20–22.

11. Егорейченко, А. А. Этнокультурная ситуация в Белорусском Подвинье в железном веке / А. А. Егорейченко // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 1996. – Вып. 10. – С. 8–11.

12. Егорейченко, А. А. Городище и селище Зазоны / А. А. Егорейченко // Браслаўскія чытанні / рэд. рада : К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 1997. – С. 22–26.

13. Егорейченко, А. А. Хронология ранних городищ Браславщины / А. А. Егорейченко // Браслаўскія чытанні / рэд. рада: К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2001. – С. 38–39.

14. Егорейченко, А. Нурвяны – уничтоженное городище / А. Егорейченко // Браслаўскія чытанні / рэд. рада : К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2003. – С. 32.

15. Егорейченко, А. А. Городище Ратюнки (по материалам исследований экспедиции Белгосуниверситета) / А. А. Егорейченко // Браслаўскія чытанні / рэд. рада : К. Шыдлоўскі [і інш.].– Браслаў, 2003. – С. 33–35.

16. Егорейченко, А. А. Исследования в Ратюнках / А. А. Егорейченко // Археологические открытия 2003 года. – М., 2004. – С. 530–532.

17. Медведев, А. М. Раскопки на городище Ратюнки в 2000 г. / А. М. Медведев // Badania archeologiczne w Polsce Północno-Wschodniej i na zachodniej Białorusi w latach 2000–2001 / Uniwersytet w Białymstoku, Instytut historii. – Białystok, 2002. – С. 155–164.

18. Мядзведзеў, А. Да пытання аб паўднёвай мяжы днепра-двінскай культуры (па выніках даследавання апошніх гадоў) / А. Мядзведзеў // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2004. – № 19. – С. 70–85.

19. Харитонович, З. А. Городище Поддубники / З. А. Харитонович // Матэрыялы па археалогіі Беларусі / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі ; рэдкал.: П. Ф. Лысенка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2007. – № 14. – С. 54–85.

20. Егорейченко, А. Втульчатые костяные наконечники стрел из раскопок городища Ратюнки / А. Егорейченко, О. Сидорович // Браслаўскія чытанні / рэд. рада : К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2001. – С. 39–41.

21. Сидорович, О. М. Роговые грузики дьяковского типа на памятниках железного века Беларуси / О. М. Сидорович // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2002. – Вып. 17. – С. 42–43.

22. Егорейченко, А. Двушипные и одношипные костяные наконечники стрел (по материалам изучения ранних городищ Браславщины) / А. Егорейченко, О. Шаволин // Браслаўскія чытанні / рэд. рада : К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2003. – С. 35–37.

23. Шадыра, В. Тыпалогія касцяных наканечнікаў стрэл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння / В. Шадыра, С. Шаволін // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі ; рэдкал.: А. Калечыц (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2005. – Вып. 20. – С. 62–64.

24. Звяруга, Я. Рыбалоўныя прылады з гарадзішча Гарані / Я. Звяруга // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі ; рэдкал : А. Калечыц (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2005. – Вып. 20. – С. 65–68.

25. Егорейченко, А. А. Боевое и охотничье оружие племен культуры ранней штрихованной керамики / А. А. Егорейченко // Гістарычна-археалагічны зборнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі ; рэдкал.: А. Калечыц (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2006. – Вып. 21. – С. 48–53.

26. Егорейченко, А. А. Костяные булавки с гвоздевидным навершием в лесной полосе Восточной Европы / А. А. Егорейченко // Археология и история Пскова и Псковской земли. Семинар им. академика В. В. Седова : материалы LII заседания, посвященного памяти проф. А. Р. Артемьева, Псков, апрель 2006 г. / Ин-т археологии АН СССР, Псковский гос. историко-архитектурный и художественный музей-заповедник, Псковская археологическая экспедиция ; редкол.: В. А. Аракчеев [и др.]. – Псков, 2007. – С. 281–288.

27. Очерки по археологии Белоруссии / АН БССР ; под ред. В. Ф. Исаенко [и др.]. – Минск : Наука и техника, 1970. – Ч. I. – 272 с.

28. Митрофанов, А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII–VI вв. до н. э. – VIII в. н. э.) / А. Г. Митрофанов. – Минск : Наука и техника, 1978. – 160 с.

29. Шадыро, В. И. Ранний железный век Северной Белоруссии / В. И. Шадыро. – Минск : Наука и техника, 1985. – 126 с.

30. Шадыра, В. І. Днепра-дзвінская культура / В. І. Шадыра // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал.: В. І. Шадыра (навук. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1997–2001. – Т. 2 : Жалезны век і ранняе сярэднявечча / А. А. Егарэйчанка [і інш.]. – 1999. – С. 174–231.

31. Медведев, А. М. Беларуское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н. э. – 5 в. н. э.) / А. М. Медведев. – Мінск, 1996. – 200 с.

32. Медведев, А. М. Верхнее Понеманье в железном веке и раннем средневековье / А. М. Медведев. – Мінск : Беларуская навука, 2011. – 352 с.

33. Егарэйчанка, А. А. Культура штрыхаванай керамікі / А. А. Егарэйчанка // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал.: В. І. Шадыра (навук. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1997–2001. – Т. 2 : Жалезны век і ранняе сярэднявечча / А. А. Егарэйчанка [і інш.]. – 1999. – С. 113–173.

34. Егорейченко, А. А. Культуры штрихованной керамики / А. А. Егорейченко. – Минск : БГУ, 2006. – 207 с.

**Резюме**

*А. С. Арабей*

**Историография исследования костяной и роговой индустрии позднего бронзового – раннего железного веков Северной и Центральной Беларуси**

Осуществлен обзор основных работ белорусских археологов, в которых рассмотрены материалы из кости и рога конца II – I тысячелетия до н. э. с памятников штрихованной керамики и днепро-двинской культур на территории Северной и Центральной Беларуси. Дана оценка степени изученности костяной и роговой индустрии в белорусской историографии, намечены перспективные направления в исследовании данной проблематики.

**Summary**

*A. S. Arabei*

**The historiography of bone and horn industry research of the late bronze – early iron ages of Northern and Central Belarus**

The purpose of this article is the review of the main works of Belarusian archeologists, in which bone and horn materials of the end of the II – I millenium B. C. from the monuments of the Hatched Ceramics and the Dnieper-Dzwina cultures on the territory of Northern and Central Belarus are studied. The evaluation of the degree of bone and horn industry study in the Belarusian historiography is given, the perspective directions in the research of this problem are traced.

*Пастуніў 26.09.2014 г.*

*УДК 902/904*

***Д. А. Белабровік,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел першабытнага грамадства, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Да пытанняў гісторыі вывучэння і гістарыяграфіі свідэрскай культуры на тэрыторыі Беларускага Падняпроўя

Гісторыя вывучэння і гістарыяграфія свідэрскай культуры на тэрыторыі Беларускага Падняпроўя – надзвычай актуальная тэма для вывучэння мінуўшчыны ў святле найноўшых даследаванняў фінальнага палеаліту. Помнікі каменнага веку на акрэсленай тэрыторыі вучоныя пачалі выяўляць яшчэ ў XIX ст. Інтэрпрэтацыя крамянёвага інвентару неаднаразова змянялася. Помнікі, на якіх быў вылучаны свідэрскі тэхнакомплекс, звычайна змяшчаюць змешаныя матэрыялы, што доўгі час перашкаджала вылучыць свідэр у акрэсленым рэгіёне. Пасля публікацый у 1936 г. прац польскіх даследчыкаў Г. Кларка і Л. Казлоўскага ў навуцы канчаткова быў замацаваны тэрмін «свідэрская культура» [1, с. 35].

Сёння з улікам назапашаных матэрыялаў культурна-храналагічнае вызначэнне помнікаў фінальнага палеаліту і мезаліту на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя ўяўляецца больш менш зразумелым [19, с. 182–221]. Мэта працы – прасачыць эвалюцыю поглядаў даследчыкаў, як айчынных (якія працавалі ў акрэсленым рэгіёне), так і замежных (якія выкарыстоўвалі атрыманыя на тэрыторыі Падняпроўя матэрыялы з мэтай іх параўнання са сваімі калекцыямі).

Гісторыя вывучэння помнікаў свідэрскай культуры ахоплівае перыяд, які доўжыцца ўжо больш за стагоддзе. Першапачаткова гэта былі работы, якія праводзілі энтузіясты, аматары старажытнасцей і калекцыянеры. Яны яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. выявілі на поўдні Польшчы прылады свідэрскай культуры [31, с. 133], што было адлюстравана ў друку ў канцы XIX – пачатку XX ст. [12, с. 50].

На тэрыторыі Беларусі свідэрскія помнікі найбольш шматлікія сярод усіх фінальнапалеалітычных старажытнасцей. Э. Глогер і Ю. Ядкоўскі на Панямонні, Е. Р. Раманаў на Палессі яшчэ ў канцы XIX – пачатку XX ст. абследавалі стаянкі, якія зараз адносяцца да свідэрскіх [12, с. 51].

Пачаткам вывучэння свідэрскай культуры на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя можна лічыць мяжу XIX/XX стст. Менавіта ў той час былі выяўлены першыя стаянкі, на якіх потым быў вылучаны свідэрскі тэхнакомплекс: Каромка (В. Е. Данілевіч, 1893) і Новы Быхаў (Е. Р. Раманаў, 1903). Так, В. Е. Данілевіч пісаў, што ім разам з настаўнікам сувалкаўскай жаночай гімназіі П. М. Цытовічам было абследавана ўрочышча Залаззе, дзе акрамя керамікі і кухонных рэшткаў былі выяўлены і крамянёвыя прылады працы. Адзначана знаходка дваццаці артэфактаў [7, с. 12–13]. Е. Р. Раманаў таксама паведамляў, што ім на стаянцы каля Новага Быхава была сабрана значная колькасць крамянёвых нажоў, піл і стрэл без слядоў шліфоўкі. Даследчык пісаў аб наяўнасці двух майстэрняў, дзе выраблялі гэтыя прылады працы. Усяго ім было знойдзена больш за сто адзінак артэфактаў [28, с. 126].

Трэба адзначыць, што мэтанакіраваных даследаванняў да пачатку Першай сусветнай вайны амаль не праводзілася. Вывучэнне помнікаў каменнага веку абмяжоўвалася паверхневымі зборамі. Таксама рысай гэтага перыяду з'яўляецца адсутнасць кваліфікаваных археолагаў; усе працы па зборы і назапашванні матэрыялаў праводзілі аматары, энтузіясты, этнографы.

Пасля ваенных і рэвалюцыйных падзей склаліся спрыяльныя ўмовы для далейшага развіцця навукі, якія звязаны са стварэннем Інстытута беларускай культуры ў 1922 г., які ў 1929 г. быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук [2, с. 384–384]. У 1920-я – пачатку 1930-х гадоў на акрэсленай тэрыторыі быў адкрыты шэраг помнікаў, на якіх зараз вылучаны свідэрскі тэхнакомплекс. Сярод іх мы можам назваць наступныя стаянкі: Рудня Споніцкая (Латкі) (А. Н. Крапоткін, 1923–1925), Ворнаўка (Грэнск), Касцюкоўка (Узлужжа), Папараткі (К. М. Палікарповіч, 1927), Аляксандраўка-2 (Талкачоўка), Горкі (К. М. Палікарповіч, 1928), Первакрычаўскі-3 (К. М. Палікарповіч, 1931). У выніку гэтага К. М. Палікарповіч адзначыў, што аналагаў на ўсходзе гэтым стаянкам няма, а на захадзе яны блізкія да свідэрскай ці хвалібогавіцкай індустрыі [26, с. 83–84]. Асаблівасцю перыяду з'яўляецца і той факт, што стаянкі не вывучаліся, а даследчыкі абмяжоўваліся паверхневымі зборамі.

Атрыманыя матэрыялы з адзначаных стаянак інтэрпрэтаваліся ў рамках пануючай на той момант канцэпцыі стадыяльнага развіцця. К. М. Палікарповіч сцвярджаў, што ніякіх міграцый не існавала, а мясцовае насельніцтва праходзіла ў сваім развіцці пэўныя стадыі [26, с. 85–86]. Навуковец лічыў, што ў Беларусі тардэнуазская стадыя прыйшла на змену свідэрскай, а тардэнуаз, у сваю чаргу, змяніўся стадыей кампіны [25, с. 220–221]. Мяжа праводзілася па лініі Бранск-Чэрыкаў-Нова-Быхаў – р. Друць – паўднёвая для кампіны і, суадносна, паўночная для тардэнуаза [12, с. 50].

Прытрымліваўся стадыяльнай канцэпцыі і М. В. Ваяводскі. Ён характарызаваў азільска-свідэрскую стадыю наяўнасцю наканечнікаў стрэл

і пласцін у інвентары стаянак. Па меркаванні навукоўца свідэр – гэта ранняя стадыя эпіпалеаліту [4, с. 232]. Таксама даследчык звярнуў увагу на тапаграфічныя асаблівасці размяшчэння помнікаў, якія знаходзіліся на адкрытых абшарах пясчаных выдзьмаў; адзначыў слабую насычанасць культурнага пласта, невялікія памеры нуклеусаў у параўнанні з папярэдняй, мадленскай, эпохай. На тэрыторыі тагачаснага СССР свідэрскай стадыі адпавядала стаянка Смячка [4, с. 233] і шэраг помнікаў на Пасожжы [4, с. 236]. Сам М. В. Ваяводскі не працаваў на Падняпроўі і абапіраўся на матэрыялы, якія былі апублікаваны К. М. Палікарповічам.

Новы этап даследаванняў пачаўся пасля Другой сусветнай вайны. Яго пачатак быў адзначаны адыходам ад стадыяльнай канцэпцыі. М. В. Ваяводскі ў артыкуле «Мезолитические культуры Восточной Европы» (1950) прыйшоў да высновы, што стадыяльны падыход больш не працуе на тэрыторыі Усходняй Еўропы і матэрыялы асобных помнікаў трэба разглядаць ў межах свідэрскай не стадыі развіцця, а культурнай вобласці, у якой М. В. Ваяводскі вылучыў дзве групы – заходнюю і ўсходнюю. Да апошняй былі аднесены вядомыя на той момант стаянкі Верхняга Падняпроўя і Волга-Окскага міжрэчча [5, с. 97–110].

Таксама ў 1950-я гады з’явіліся звесткі аб новых помніках, на якіх далей будзе вылучаны свідэрскі тэхнакомплекс. Гэтыя стаянкі і тыя, што былі вылучаны раней, не абышлі ўвагай даследчыкаў, якія працавалі на іншых тэрыторыях і параўноўвалі свае матэрылялы з тымі, што былі выяўлены на Падняпроўі.

Адным з першых паспрабаваў зрабіць сістэматызацыю помнікаў, якія адносіліся да мезаліту, для днепра-данецкага рэгіёна У. П. Левянок. У артыкуле «Мезолит среднерусского днепровско-донского междуречья и его роль в сложении местной неолитической культуры» [24, с. 88–98] ён падзяліў мезалітычныя помнікі гэтай тэрыторыі на дзве вялікія групы. Да першай групы ім былі аднесены помнікі з агульнай прыкметай макралітоіднасці крамянёвага інвентару, у якой вылучаюцца тры храналагічныя этапы: пераход ад позняга палеаліту да ранняга мезаліту; развіты мезаліт; позні мезаліт. Да другой – групы помнікаў на выдзьмах з мікралітычным крамянёвым інвентаром [24, с. 88]. Стаянкі на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя У. П. Левянок аднёс да першай групы, але да розных этапаў [24, с. 88]. Так, да першага храналагічнага этапу ім былі аднесены Каромка і Падлужжа-3. У. П. Левянок адзначаў слабую сувязь насельніцтва Днепра-Донскага міжрэчча са свідэрскай культурай і звяртаў ўвагу, што гэтыя помнікі трэба адносіць да «грэнска-сожскай культуры» замест прапанаванай У. Д. Будзько «свідэрска-грэнскай» [24, с. 89, 92]. На думку навукоўца, стаянкі Рудня Споніцкая, Грэнск, Печанеж, а на тэрыторыі Украіны Смячка-14 належалі да другога этапу. Пры правядзенні паралелей з басейнам Дона адзначалася адсутнасць там помнікаў, аналагічных стаянкам Падняпроўя [24, с. 92].

Літоўская даследчыца Р. К. Рыманцене адзначала, што тэрыторыя Заходняй Беларусі ўваходзіць у ядро, дзе сфарміравалася свідэрская культура, таму і помнікі былі аднесены ёй да ранняй групы. Дэманстраваўся ўплыў ранняй свідэрскай культуры на мясцовыя помнікі Усходняй Беларусі. Шлях пранікнення свідэрскага насельніцтва на Пасожжа Р. К. Рыманцене вызначыла праз Палессе [27, с. 70]. Стаянкі, якія былі вылучаны К. М. Палікарповічам на Пасожжы, даследчыца звязвала з другой (позняй) групай. Адзначалася іх падабенства са свідэрскімі стаянкамі Паўночнай Украіны (стаянкі тыпу Смячка-14) [27, с. 71].

Характарызуя мезаліт лясной і лесастэпавай зон Усходняй Еўропы, Н. М. Гурына адзначыла падабенства помнікаў Літвы, Беларусі і Паўночнай Украіны. На створанай ёй карце тэрыторыя Верхняга Падняпроўя была ўключана ў зону распаўсюджвання наканечнікаў стрэл (чаранковых і вербалістых) на пласцінах [6, с. 25].

Разглядаў праблемы вывучэння свідэрскай культуры і Л. У. Кальцоў. У манаграфіі «Финальный палеолит и мезолит Южной и Восточной Прибалтики» (1977) ён падаў апісанне шэрагу свідэрскіх стаянак і вылучыў дванаццаць асноўных тыпаў наканечнікаў стрэл. Асобна Л. У. Кальцоў разгледзеў матэрыялы са стаянак Пасожжа. Ён аднёс іх да помнікаў мезаліту свідэрскай традыцыі. Было выказана меркаванне, што насельніцтва гэтых стаянак прыйшло з Панямоння ў барэальны час [17, с. 119].

У манаграфіі «Мезолітичні пам’ятки України» (1982) Д. Я. Цялегін звяртаў ўвагу на Верхняе Падняпроўе. Па меркаванні даследчыка, мезалітычныя помнікі на тэрыторыі Гомельскага Падняпроўя і сярэдняй плыні Дзясны ствараюць своеасаблівую вобласць [30, с. 138]. Вучоны лічыў, што хваля свідэрскіх перасяленцаў, якая рушыла на ўсход па даліне Прыпяці, напластавалася на мясцовую культурную аснову. У выніку скláліся свідэрска-грэнскія помнікі на Сажы і помнікі тыпу Смячка на Дзясне [30, с. 143].

Неаднаразова падымаў пытанні, звязаныя са свідэрам, украінскі даследчык Л. Л. Залізняк. У манаграфіі «Охотники на северного оленя» (1989) ён адзначыў прысутнасць свідэрскага насельніцтва на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя (у прыватнасці назваў стаянкі Янава, Горкі, Грэнск) [8, с. 78]. Але стаянкі Каромка і Бароўка былі аднесены ім да мезалітычнай постарэнсбургскай групы помнікаў, на якую паўплывала свідэрская культура [8, с. 79, 83].

Пазней даследчык пераглядзеў свае погляды і прыйшоў да высновы, што такія стаянкі, як Янава на Дняпры і Смячка-14 на Украіне ўзніклі ў выніку ўплыву насельніцтва краснасельскай культуры на свідэрцаў, а помнікі Грэнск, Хвойна, Бароўка былі пакінуты краснасельскім насельніцтвам, якое свідэрцы выціснулі на паўночны ўсход [9, с. 53, 55].

Свідэрскай культуры прысвечаны раздзел у манаграфіі расійскіх навукоўцаў А. М. Сарокіна, С. В. Ашыбкінай, А. В. Трусава «На рубеже эпох» (2009), дзе сціпла пададзена гісторыя вывучэння свідэра, асаблівасці апрацоўкі крэменю і разгледжаны пытанні паходжання і постсвідэрскіх культур [29, с. 156]. Неабходна адзначыць, што да ліку эталонных помнікаў свідэрскай культуры была аднесена і стаянка Горкі. Пасожскі рэгіён у манаграфіі ўключаны ў асноўны арэал свідэрскай культуры з захаваннем мясцовых асаблівасцей, якія звязаны з выкарыстаннем свідэрскім насельніцтам мясцовай сыравіны [29, с. 154].

Як бачым, даследчыкі, якія працавалі па-за межамі Беларусі, выкарыстоўвалі даныя, якія былі ўведзены ў навуковы ўжытак, і часцей за ўсё апісвалі асобныя помнікі. Суцэльнае абагульненне матэрыялаў па свідэру было зроблена беларускімі археолагамі.

З мэтай вызначэння адноснай старажытнасці свідэрскіх помнікаў на тэрыторыі Беларусі ў 1959–1961 гг. У. Д. Будзько распачаў даследаванні некаторых стаянак, якія размешчаны ў Верхнім Падняпроўі. Па выніках працы ён вылучыў тры хinduалагічныя групы помнікаў свідэрска-грэнскай культуры (назва была прапанавана з улікам атрыманых матэрыялаў на стаянке Грэнск) [3, с. 35–46]. Да першай групы былі аднесены стаянкі Каромка і Падлужжа-ІІІ. Так, інвентар стаянкі Падлужжа-ІІІ змяшчаў шэсць вербалістых наканечнікаў стрэл, якія па меркаванні У. Д. Будзько, былі блізкія да наканечнікаў свідэрскага тыпу, але з мясцовымі асаблівасцямі (падпраўку з брушка ажыцяўлялі адным шырокім сколам) [3, с. 35–46]. Другая група помнікаў прадстаўлена ніжнімі гарызонтамі стаянак Грэнск і Латкі. Да позняй групы У. Д. Будзько адносіў верхнія гарызонты стаянак Грэнск і Латкі [3, с. 35–46]. У апісанні інвентару Грэнскай стаянкі адзначана наяўнасць вербалістых і чаранковых наканечнікаў стрэл. Чаранковыя наканечнікі маюць даўжыню 3–6 см. Адзначана іх падабенства са стаянкай Свідры-Вельке-І. Вербалістыя наканечнікі, як лічыў У. Д. Будзько, не саступаюць па якасці лепшым наканечнікам са стаянкі Свідры-Вельке-І. Яны падпраўлены з брушка і маюць рэтуш на праксімальным канцы. Гэтыя наканечнікі параўноўваюць з раннесвідэрскімі комплексамі Польшчы і Беларусі. Такім чынам, У. Д. Будзько адзначаў блізасць свідэрска-грэнскай культуры са свідэрскімі комплексамі Польшчы пры іх пэўнай лакальнасці [3, с. 35–46].

З 1970-х гадоў на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя працаваў В. Ф. Капыцін, які адзначаў факт прысутнасці свідэрскага насельніцтва на правабярэжжы Дняпра і падмацоўваў сваё меркаванне матэрыяламі стаянак Янава-1, -2 і Баркалабава [18, с. 27–31]. Даследчык адносіў іх да рознаачасовых паселішчаў з улікам выяўленых наканечнікаў стрэл на гэтых стаянках [18, с. 31]. Трэба адзначыць, што стаянка Янава з'яўляецца адным з нямногіх свідэрскіх помнікаў, якія былі даследаваны шляхам раскопак [11, с. 39; 18, с. 29].

Генетычны лёс свідэрцаў навуковец звязваў з вылучанай ім сожскай культурай, якая, на яго думку, склалася ў дадзеным рэгіёне 8–7 тысяч гадоў таму назад. Па меркаванні В. Ф. Капыціна, у сожскай культуры спалучалася грэнская тэхніка расшчаплення крэменю, асобныя тыпы сякучых прылад працы: скрабкоў, разцоў, вастрый, свідэрскіх наканечнікаў стрэл. Адзначана вялікая колькасць нарыхтовак і прылад, якія змяшчалі крэйдавую корку [19, с. 48]. Да сожскай культуры даследчык аднёс наступныя помнікі: Гарадок, Міхайлавічы, Васілевічы-ІІ на Бярэзіне, Глыбаўку, Стаўбун на Бесядзі, Няраж на Рздіцы, Новы Быхаў-ІІ, Берагавую Слабаду на Дняпры, Горкі, Журавель, Прысну на Сажы [19, с. 48]. Шмат увагі В. Ф. Капыцін надаваў стаянцы Горкі Чэрыкаўскага раёна, якую ён стацыянарна вывучаў на працягу шэрагу гадоў (з 1974 па 1989 г.). Гэты помнік спачатку быў аднесены да познамезалітычнай групы [18, с. 61], а потым яго пачалі разглядаць як эталонны помнік сожскай культуры [19, с. 92].

Трэба адзначыць, што ў сваіх справаздачах В. Ф. Капыцін называў форму наканечнікаў стрэл са стаянак Горкі, Новы Быхаў-ІІ як «эпісвідэрскую», а гэтыя наканечнікі – «свідэроіднымі». У манаграфіі «Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья» адзначана, што наканечнікі стрэл, якія былі атрыманы на стаянке Горкі, аналагічныя тым, што былі выяўлены на стаянке Баркалабава [19, с. 53]. Пры характарыстыцы інвентару Баркалабаўскай стаянкі адзначаны невялікія памеры, наяўнасць двухпляцовачных і аднапляцовачных нуклеусаў, наяўнасць крэйдавай коркі на нарыхтоўках і прыладах працы [19, с. 30–31]. У параўнанні з інвентаром стаянкі Горкі розніца паміж гэтымі помнікамі складаецца толькі ў адсоткавых суадносінах тых ці іншых прылад. Напрыклад, на Баркалабаўскай стаянке была заўважана невялікая перавага двухпляцовачных нуклеўсаў, а на стаянке Горкі – аднапляцовачных [19, с. 30, 52]. Але гэта не перашкодзіла навукоўцу аднесці гэтыя помнікі да розных культур.

Па меркаванні У. П. Ксянзова, падчас прасоўвання свідэрскага насельніцтва Палесся на тэры-

торыю Верхняга Падняпроўя на творчасць і умельства людзей паўплывалі носьбіты культуры Лінгбі, у выніку чаго з'явіліся помнікі, інвентар якіх змяшчае свідэрскія і позналінгбійскія рысы [22, с. 15]. Гэтыя помнікі даследчык аднёс да постсвідэрскай мезалітычнай культуры і прапанаваў назву «верхнедняпроўская» [20, с. 19], а пазней «днепра-дзяснінская» культура [21, с. 48]. Да яе ён адносіў наступныя помнікі: Янава, Дальняе Ляда, Лудчыцы, Laткі, Каралёва Слабада, Шыхаў і інш. Сярод бліжэйшых аналогій былі названы свідэрскія помнікі, размешчаныя на тэрыторыі паўночна-усходняй Украіны: Смячка-14, Бор, Балка-1, Залессе-4, Раска, Корост. Тым не менш адзначана прысутнасць у крамянёвым інвентары днепра-дзяснінскай культуры шэрагу ўласцівасцей, якія характэрны для свідэрскіх помнікаў, размешчаных у басейне Прыпяці і Віслы [21, с. 44–46].

Першапачаткова, днепра-дзяснінская культура, па меркаванні У. П. Ксяндзова, прайшла ў сваім развіцці тры храналагічныя этапы. Да найбольш старажытнага этапу (які вызначаўся прэбарэалам) ён аднёс шэраг стаянак, у тым ліку Латкі і Янава. Гэты этап характарызаваўся наяўнасцю свідэрскіх і постсвідэрскіх наканечнікаў стрэл, прызматычных нуклеўсаў са скошанымі і гарызантальнымі пляцоўкамі, канцавых, бакавых скрабкоў, вуглавых разцоў, праколак, выраблены на пласцінах. Да другога этапу (барэал) адносіліся стаянкі Дальняе Ляда, Бор, Раска і інш. [21, с. 48]. Да гэтага ж этапу была аднесена і стаянка Смячка-14. На гэтым этапе адзначана з'яўленне асіметрычных наканечнікаў стрэл, якія па форме былі набліжаны да арэнсбургскіх. Трэці этап (позні мезаліт – атлантык) быў прадстаўлены стаянкамі Горкі, Узлужжа, Берагавая Слабада. Адзначаецца, што на ўсіх трох этапах пераважалі пласціны ў якасці нарыхтовак [21, с. 48].

Яшчэ ў адной манаграфіі У. П. Ксяндзоў ужо вызначыў толькі два храналагічныя этапы [23, с. 54]. Да першага ён аднёс такія стаянкі, як Баркалабава, Шыхаў, Раска, Смячка-14А і іншыя, а да другога – Няраж, Горкі, Новы Быхаў, Тайманава, Берагавая Слабада [23, с. 54–55].

У. П. Ксяндзоў бачыў вытокі вылучанай ім днепрадзяснінскай культуры ва ўзаемадзеянні лінгбійскай і свідэрскай культур [23, с. 53]. Уплыў свідэра праяўляўся ў формах наканечнікаў – чаранковых і вербалістых. Наяўнасць у інвентары помнікаў сіметрычных і асіметрычных чаранковых наканечнікаў стрэл, пірамідальных і падканічных нуклеусаў тлумачылася ўплывам культуры Лінгбі [23, с. 56].

Тым не менш У. П. Ксяндзоў дапушчаў думку аб тым, што помнікі могуць змяшчаць рознačасовыя і рознакультурныя артэфакты. Так, ён пісаў пра некаторыя помнікі днепра-дзяснінскай культуры, якія знаходзяцца па-за межамі Беларусі, наступнае: «шэраг стаянак (Студенок, Папова Возера) уяўляюць класічны прыклад зліцця насельніцтва двух розных культур у адзіную групу» і адразу агаворваў: «толькі калі гэтыя матэрыялы не змешаны механічна» [21, с. 104].

Працавала на Беларускам Падняпроўі і А. Г. Калечыц. На Гомельскам Пасожжы яна абследавала шэраг помнікаў, якія змяшчаюць свідэрскі тэхнакомплекс, а ў 2001–2005 гг. даследчыцай была выканана планавая тэма, прысвечаная свідэру на Беларусі, але пакуль што гэта праца застаецца не апублікаванай [12, с. 52]. А. Г. Калечыц доўгі час трымалася поглядаў В. Ф. Капыціна аб тым, што на Верхняе Падняпроўе пранiклі толькі адзінкавыя группы свідэрскіх паляўнічых [10, с. 52–53] і аб лёсе свідэрскай культуры на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя [10, с. 57].

Трэба адзначыць, што А. Г. Калечыц у манаграфіі «Палеалітычныя помнікі Беларусі: (культурна-храналагічная ідэнтыфікацыя крыніц)» (2010) належыць параграф, які прысвечаны свідэру. У ім сціпла пададзена асноўная характарыстыка культуры, яе спецыфіка і генезіс, пералічаны і нанесены на карту вядомыя на момант выдання манаграфіі помнікі свідэрскай культуры [12, с. 48–54]. Акрамя гэтага, можна вылучыць асобны артыкул «Свідэрская культура на тэрыторыі Беларусі (гістарыяграфічны агляд)», дзе разгледжана гістарыяграфія культуры, але даследчыцай асноўны націск зроблены на агульную гістарыяграфію свідэра; узгадана гісторыя вывучэння свідэрскай культуры на Беларусі, у тым ліку і на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя [11, с. 38–39].

На мяжы XX/XXI ст. быў азначаны новы падыход да вылучэння культурных з'яў на тэрыторыі Пасожжа. У выніку аналізу шэрагу калекцый А. У. Коласаў даказаў, што сожская і днепра-дзяснінская культуры не з'яўляюцца самастойнымі культурнымі з'явамі, а эталонныя іх стаянкі ўтрымліваюць змешаныя матэрыялы розных культур ад фінальнага палеаліту да бронзавага веку [13, с. 40; 14, с. 11–17]. Даследчык адзначыў факт механічнага змешвання матэрыялаў на шэрагу стаянак Верхняга Падняпроўя. Напрыклад, у калекцыі стаянкі Горкі ім былі вылучаны матэрыялы свідэрскай і грэнскай культур фінальнага палеаліту, бутаўскай эпохі мезаліту і сярэднеднепроўскай культуры бронзавага веку. Адзначаны і іншыя помнікі са змешанымі калекцыямі – Берагавая Слабада, Аўрамаў Бугор, Бабулін Бугор, Грэнская, Тайманава, Первакрычаўскі-3 і інш. [15, с. 65]. У выніку доказу факта змешанасці матэрыялаў і вылучэння свідэрскіх тэхнакомплексаў на пасожскіх стаянках А. У. Коласаў пашырыў усходнюю мяжу арэала свідэрскай культуры на Пасожскі рэгіён [13, с. 41; 16, с. 181].

## Вывады

Можна вылучыць наступныя асноўныя этапы у гісторыі вывучэння і гістарыяграфіі свідэрскай культуры на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя.

1. XIX – пачатак XX стст. На гэтым этапе былі выяўлены першыя стаянкі, якія змяшчалі свідэрскі тэхнакомплекс. Даследаванні, якія праводзілі аматары і краязнаўцы, былі абмежаваны зборамі пад'ёмнага матэрыялу (В. Е. Данілевіч, Е. Р. Раманаў).

2. 1920-я – пачатак 1930-х гадоў даследчыкі значна павялічылі колькасць адкрытых стаянак. З'явіліся першыя інтэрпрэтацыі матэрыялаў ў рамках пануючай у той час канцэпцыі стадыяльнага развіцця (К. М. Палікарповіч вылучыў свідэрскую стадыю).

3. 1950–70-я гады. Пачатак дадзенага этапа быў адзначаны адыходам ад стадыяльнай канцэпцыі (М. В. Ваяводскі); матэрыялы, атрыманыя на разгледжанай тэрыторыі, былі параўнаны з выяўленымі ў суседніх рэгіёнах і разглядаліся перш за ўсё ў постсвідэрскім кантэксце (У. П. Левянок, Р. К. Рыманцене, Н. М. Гурына, Л. У. Кальцоў).

4. 1970–90-я гады. Быў пацверджаны факт прысутнасці адзінкавых груп свідэрцаў на матэрыялах стаянак Янава-1, -2 і Баркалабава (В. Ф. Капыцін, А. Г. Калечыц), але шэраг іншых стаянак быў аднесены да постсвідэрскіх. Капыцін вылучыў сожскую постсвідэрскую мезалітычную культуру, а У. П. Ксяндзоў, выкарыстоўваючы тыя ж самыя матэрыялы, – днепра-дзяснінскую.

5. Пачатак XXI ст. Пасля грунтоўнага аналізу матэрыялаў, якія былі атрыманы ў разгледжаным рэгіёне, А. У. Коласавым быў даказаны факт механічнага змешвання і наяўнасць свідэрскага тэхнакомплексу. Матэрыялы помнікаў Горкі, Первакрычаўскі-III, Барысавічы-III, Папараткі і іншыя пашырылі арэал свідэрскай культуры на ўсход.

## Літаратура


1. Археалогія Беларусі : у 4-х т. / пад рэд. М. В. Біча [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1997. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі / Э. М. Зайкоўскі [і інш.]. – 424 с.

2. Археалогія Беларусі: энцыклапедыя : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2009–2011. – Т. 2 : Л–Я. – 2011. – 464 с.

3. Будько, В. Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии / В. Д. Будько // У истоков древних культур : эпоха мезолита. МИА. – М. ; Л., 1966. – № 126. – С. 35–46.

4. Воеводский, М. В. К вопросу о ранней (свидерской) стадии эпипалеолита на территории Восточной Европы / М. В. Воеводский // Труды II АИЧПЕ. – М. ; Л., 1934. – Вып. 5. – С. 230–245.

5. Воеводский, М. В. Мезолитические культуры Восточной Европы / М. В. Воеводский // КСИИМК. – 1950. – № 31. – С. 96–119.

6. Гурина, Н. Н. К вопросу о некоторых общих и особенных чертах мезолита лесной и лесостепной зон европейской части СССР / Н. Н. Гурина // КСИА. – 1977. – № 149. – С. 20–30.

7. Данилевич, В. Е. Стоянка и мастерская каменнаго вѣка въ Могилёвской губерніи, изслѣдованная летомъ 1893 года // Киевская старина. – Киев : Типография Г. Т. Корчак-Новицкого, 1895. – Т. 49, отдел 2. – С. 12–19.

8. Зализняк, Л. Л. Охотники на северного оленя Украинского Полесья эпохи финального палеолита / Л. Л. Зализняк. – Киев : Наукова думка, 1989. – 176 с.

9. Залізняк, Л. Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України / Л. Л. Залізняк // Кам'яна доба України. – Київ : Шлях, 2005. – Вип.8. – 184 с.

10. Калечиц, Е. Г. Человек и среда обитания. Восточная Беларусь / Е. Г. Калечиц. – Минск : Экоперспектива, 2003. – 223 с.

11. Калечыц, А. Г. Свідэрская культура на тэрыторыі Беларусі (гістарыяграфічны агляд) / А. Г. Калечыц // Романовские чтения-5. – Могилёв : МГУ им. А. А. Кулешова, 2009. – С. 38–39.

12. Калечыц, А. Г. Палеалітычныя помнікі Беларусі : (культурна-храналагічная ідэнтыфікацыя крыніц) / А. Г. Калечыц, А. У. Коласаў, В. С. Абухоўскі. – Мінск : Беларуская навука, 2010. – 323 с.

13. Колосов, А. В. Финальный палеолит Посожья : новые данные – новые вопросы / А. В. Колосов // Романовские чтения-5. – Могилев : МГУ им. А. А. Кулешова, 2009. – С. 39–41.

14. Колосов, А. В. К вопросу о локальных культурах «Свидерских традиций» в мезолите Восточной Беларуси / А. В. Колосов // Вестник Полоцкого государственного университета. – Новополоцк : Полоцкий государственный университет, 2012. – Серия А, Гуманитарные науки. – № 1. – С. 11–17.

15. Колосов, А. В. Свидерская культура и «культуры свидерских традиций» в финальном палеолите – мезолит Верхнего Поднепровья (к постановке проблемы) / А. В. Колосов // Десниинские древности VI. – Брянск : группа компаний «Десяточка», 2012. – С. 51–68.

16. Колосов, А. В. О заселении бассейна р. Сож в позднеледниковое время // Проблемы заселения северо-запада Восточной-Европы в верхнем и финальном палеолите (культурно-исторические процессы). – СПб. : Элек-Сис, 2013. – С. 181–221.

17. Кольцов, Л. В. Финальный палеолит и мезолит Южной и Восточной Прибалтики / Л. В. Кольцов. – М. : Наука, 1977. – 216 с.

18. Копытин, В. Ф. Мезолит юго-восточной Белоруссии / В. Ф. Копытин // КСИА. – 1977. – № 149. – С. 60–66.

19. Копытин, В. Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья / В. Ф. Копытин. – Могилев : Изд-во МГУ им. А. А. Кулешова, 1991. – 88 с.

20. Ксензов, В. П. Поздний мезолит Белорусского Правобережья Днепра / В. П. Ксензов // Советская археология. – 1986. – № 1. – С. 11–28.

21. Ксензов, В. П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья / В. П. Ксензов. – Минск : Наука и техника, 1988. – 131 с.

22. Ксензов, В. П. Финальный палеолит и мезолит Поднепровья Беларуси / В. П. Ксензов // Российская археология. – 1997. – № 1. – С. 5–20.

23. Ксензов, В. П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск : ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі», 2006. – Вып. 13. – 170 с.

24. Левенок, В. П. Мезолит среднерусского днепровско-донского междуречья и его роль в сложении местной неолитической культуры / В. П. Левенок // Материалы и исследования по археологии. – М. ; Л., 1966. – № 126. – С. 88–98.

25. Палікарповіч, К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа / К. М. Палікарповіч // Працы секцыі археолёгіі. – Мінск, 1930. – Т. 2. – С. 383–478.

26. Поликарпович, К. М. Палеолит и мезолит БССР и некоторых соседних территорий Верхнего Поднепровья / К. М. Поликарпович // Труды II АИЧПЕ. – М. ; Л., 1934. – Вып. 5. – С. 75–87.

27. Римантене, Р. К. Палеолит и мезолит Литвы / Р. К. Римантене. – Вильнюс : Минтис, 1971. – 204 с.

28. Романов, Е. Р. Двѣ археологическія развѣдки // Могилевская старина. – Могилев, 1903. – Вып 3. – С. 126.

29. Сорокин, А. Н. На переломе эпох / А. Н. Сорокин, С. В. Ошибкина, А. В. Трусов. – М. : Гриф и К, 2009. – 388 с.

30. Телегін, Д. Я. Мезолітичні пам’яткі України / Д. Я. Телегин. – Київ : Наукова думка, 1982. – 256 с.

31. Šatawičus, E. Swidrų kultūra Lietuvoje / E. Šatawičus // Lietuvos archeologija. – Vilnius, 2005. – T. 29. – P. 133–170.

**Резюме**

*Д. О. Белобровик*

**К вопросам истории изучения и историографии свидерской культуры на территории Белорусского Поднепровья**

Приведена история изучения и историографии свидерской культуры на Верхнем Поднепровье. Выделено пять основных этапов в истории изучения памятников на указанной территории. Рассмотрены мнения различных ученых об особенностях стоянок, где был обнаружен свидерский технокомплекс, а также эволюция взглядов исследователей в соответствии с действующими концепциями.

**Summary**

*D. A. Belabrovik*

**The issues of history and historiography of the study Swiderian culture in Belarusian Dnieper**

This article is dedicated the aspects of history and historiography Swiderian culture in the Upper Dnieper. The author distinguishes five main stages in the history of the study of the monuments in the said territory. Are considered the positions of various researchers to camp with inventory of Swiderian culture and the evolution of their views within the boundaries of existing concepts.

*Паступіў 20.11.2014 г.*

*УДК 94(474.51)+904:72«14/17»*

***А. Н. Бондарь,** Институт истории, этнологии и правоведения имени А. М. Лазаревского Черниговского национального педагогического университета имени Т. Г. Шевченко, старший научный сотрудник (г. Чернигов, Украина)*

# Актуальные вопросы и перспективы археологического изучения позднесредневекового Чернигова (XIV–XVII вв.)

Археологические и архитектурные памятники Чернигова уже более двухсот лет привлекают внимание исследователей. За это время были детально изучены топография города, курганные некрополи, архитектурные комплексы и городские кладбища X–XIII вв. К сожалению, эпоха, которая следовала за монгольским погромом города в 1239 г., исследована историками и археологами в меньшей степени, чем древнерусский Чернигов. Однако в последние десятилетия наметились позитивные тенденции в вопросе изучения именно позднесредневековых древностей.

Как отмечает Е. Е. Черненко, упадок Чернигова происходил постепенно, на протяжении всей второй половины XIII в., хотя погром 1239 г., без сомнения, имел место и был катализатором этих процессов [14, с. 19–20]. Уже во второй половине XIV в. Чернигов вошел в состав Великого Княжества Литовского. Однако точная дата этого события остается неизвестной. По мнению Е. В. Русиной, оно произошло приблизительно в 1362 г. [12, с. 57].

Из письменных источников известно, что в 1380 г. Витовт «*начал созидати грады многи, зарубил Киев и Чернигов*» [12, с. 269]. Вероятно, активное фортификационное строительство было связано с антиордынской деятельностью Витовта. Среди этих крепостей Чернигову отводилось особое место, поскольку он, вероятно, вследствие исторической традиции и географического положения оставался доминантой левобережной Украины.

В начале XV в. Чернигов стал резиденцией мятежного князя Свидригайло, а уже с середины столетия город и замок были отданы князьям Можайским. В 1500 г. именно И. Можайский перешел на сторону Московского княжества вместе со своим доменом с центром в Чернигове. С этого времени Чернигов более чем на столетие стал приграничной крепостью, которая должна была защищать юго-западные рубежи Московского государства. Чернигов и его укрепления в XVI в. должны были выполнять сразу две задачи: оборонительную и наступательную.

В XVI в. граница между Великим Княжеством Литовским и Московским государством проходила у самого Чернигова по линии сел Мнев–Пакуль–Плехов–Хмельница, а с северо-запада от Чернигова находился хорошо укрепленный, с постоянным военным гарнизоном Любеч, который принадлежал Великому Княжеству Литовскому [8, с. 18–19]. Это обусловило то, что обороноспособности уделялось значительное внимание, поскольку литовские войска могли форсированным маршем менее чем за световой день добраться до Черниговской крепости и взять ее в осаду или неожиданно захватить штурмом. Как отмечает И. В. Кондратьев, на литовско-московском пограничье Московским государством была организована пограничная сторожевая служба – система «застав» и «станиц», где несли стражу путивльские казаки [8, с. 20]. Что касается наступательной функции, то не следует забывать: весь XVI в. московские князья мечтали о включении Киева в состав Московии [12, с. 154–156]. Чернигов был самой близкой к Киеву московской крепостью, своего рода плацдармом для захвата Киева. Поэтому на него в случае необходимости могли возлагаться функции временного лагеря для сбора войск для наступления. Все эти факторы привели к тому, что почти весь XVI в. Чернигов выдерживал нападения и осады литовских и польских войск (1506(7), 1515, 1535, 1562, 1563, 1564, 1579 г.), главные из которых произошли во времена Стародубской и Ливонской войн [1, с. 31].

В 1531 г. в Чернигове была сооружена новая крепость: «Того ж лета повелением великого государя Василия Ивановича, Божею милостию государя самодержца всея Русии, срублен бысть град Чернигов древян» [11, с. 27–32].

В начале XVII в. Чернигов представлял собой весьма сильную крепость с деревянными башнями и стенами на валах, вооруженными артиллерией. В описании 1604 г. сказано, что город был сильный, «*благодаря валам, рвами, палисадам, дубовым стенам, внутри насыпанным землей и снабженными всевозможными Московскими укреплениями этого рода*». Далее указывается, что в Черниговской крепости в это время было: «*армат больших двадцать семь поставленных на башнях и на стене так, что бы можно было со всех сторон поражать и оттеснять неприятеля, было еще много меньших армат*» [4, с. 33]. Ранней весной 1610 г. город благодаря военной хитрости был дотла сожжен киевским подкоморием С. Горностаем.

Как видно из вышеперечисленного, Чернигов конца XIV – начала XVII в. продолжал функционировать. К сожалению, это практически не отразилось в материалах археологических исследований,

что объясняется целым рядом факторов. Во-первых, советские исследователи концентрировали свое внимание на изучении древнерусских городских слоев. В археологических отчетах по результатам исследований Чернигова 1940–80-х годов присутствуют только краткие упоминания о послемонгольских слоях и объектах, как правило связанных с повреждениями древнерусского культурного слоя. Во-вторых, археологические объекты второй половины XIV – начала XVII в. не очень многочисленны по сравнению с предыдущим периодом и зачастую просто уничтожены более поздней застройкой второй половины XVII – XVIII в. Только начиная с 1990-х годов, подобные объекты стали фиксировать археологи и появились первые публикации по археологическим объектам XIV–XVII вв. Таким образом, опираясь на уже известные комплексы конца XIV – начала XVII в. и письменные источники, можно выделить наиболее перспективные места локализации слоев и объектов позднего средневековья в Чернигове.

***Детинец*** Чернигова являлся ядром древнерусского города и занимал площадь около 16 га. Как показали многолетние археологические исследования, его застройка первой половины XIII в. погибла в пожаре. Однако на нем были зафиксированы и объекты, которые интерпретированы авторами раскопок как послемонгольские [14, с. 20]. Наиболее перспективной для исследований частью Детинца является Верхний замок. Он располагался в юго-восточной части площадки и представлял собой отрезаное от основных укреплений фортификационное сооружение в виде небольшого городища овальной формы площадью до 0,5 га. Вероятно, именно здесь находились укрепления времен Великого Княжества Литовского и Московского государства. Как показали разрезы его оборонительных сооружений, первые фортификационные сооружения возникли здесь еще в XI в. и многократно реконструировались на протяжении XV–XVIII вв. [6, с. 38–41]. В позднесредневековый период Верхний замок играл роль цитадели города, являясь его самой укрепленной частью. Перспективными, возможно, могут быть работы на площадке замка, поскольку именно здесь была выявлена наибольшая концентрация объектов XV – начала XVII в. [5, с. 5, 15–16, 19, 23].

Территория самого Детинца неоднократно подвергалась перестройкам во второй половине XVII – XVIII в. Это обусловило уничтожение более ранних слоев. Картографические материалы по топографии Чернигова XVIII в. указывают на места наиболее плотной застройки этого времени, следовательно, более ранние слои должны встречаться там, где застройка XVIII в. была минимальной. Это в первую очередь юго-восточная часть Детинца, расположенная вдоль Замковой улицы. Также наибольшая концентрация материалов позднего средневековья, вероятно, находится возле Спасского и Борисоглебского соборов и несохранившихся Благовещенской и Воскресенской церквей. Однако здесь слои довольно сильно повреждены более поздними погребениями.

***Окольний град*** древнерусского Чернигова располагался в северном направлении, за напольным рвом Детинца. В древнерусское время его площадь составляла 30 га. Тут также встречаются материалы эпохи Великого Княжества Литовского и Московского государства. Однако их концентрация значительно меньше, чем на Детинце. Наиболее перспективной для изучения частью Окольного града является его западная часть. Именно здесь Т. Г. Новик исследовала сгоревшую постройку второй половины XVI в. [10, с. 76–79]. Вероятно, она погибла в одном из пожаров во время осад Чернигова в 1562, 1563, 1564 или 1579 г. Однако и древнерусский слой, и слой эпохи позднего средневековья в этой части города также довольно сильно поврежден застройкой XVIII – начала XX в. Также следует обратить внимание на восточную часть Окольного города, лежащую на берегу р. Стрижень. Проживание в этом районе обеспечивало жителям бесперебойный доступ к водным ресурсам. Можно предположить, что жители Чернигова XV–XVI вв. селились ближе к основным улицам – Любецкой и Гончьей, – учитывая незначительное население города этого периода.

***Подол*** является еще одним малоисследованным районом Чернигова для изучения древностей позднесредневековой эпохи. Из документов начала XVII в. известен такой район города, как «Пидзамчя». Вероятно, он был расположен под террасой, над которой возвышался Верхний замок [9, с. 125]. Позднее на этом месте находилась «Солдатская слобода». В 1984 г. у подножья Верхнего замка была заложена траншея, в которой помимо древнерусских материалов и материалов XVII–XVIII вв. также встречались и керамические формы, вероятно, относящиеся к периоду XV–XVI вв. [2, с. 55–60].

Сегодня ученые склоняются к мнению о том, что ***Елецкий монастырь,*** как и весь Чернигов, был разрушен или сильно пострадал в результате погрома 1239 г. Благодаря письменным источникам, известно, что возрождение монастыря началось в 1445 г., во время правления в Чернигове князя И. Можайского. В это время был отремонтирован Успенский собор после длительного запустения [3, с. 184]. К сожалению, не известно ни размеров обители XV–XVI вв., ни принципов ее застройки. Некоторые ученые считают, что в XVI в. построены северные келии, однако данное предположение требует дополнительных исследований [7, с. 41]. В результате взятия С. Горностаем Чернигова в начале весны 1610 г., был сожжен не только сам город, но

и Елецкий монастырь. Через несколько лет Успенский собор частично рухнул: *«Тогда верхи мурованные над хором и по бокам упали, на остаток й великий верх мурованный в засклепиню ся проламал и упал, й учинил грамот великий, котрий по всім Чернігові люди чули»* [3, с. 184]. Также по данным И. Галятовского известно, что в начале XVI в. монастырь был огражден деревянной стеной, подобной городской. Вероятно, эта стена проходила там, где позже была построена каменная. Можно предположить, что наиболее сохранившиеся слои эпохи позднего средневековья будут находиться возле Успенского собора, поскольку именно вокруг него должна была концентрироваться вся жизнедеятельность обители (см. рисунок).

Помимо этого, на территории города также встречаются материалы послемонгольской эпохи в тех местах, куда не доходили городские границы XV–XVI вв. Так, одна постройка конца XIV – XVI в. была исследована во время археологических раскопок на територии ур. Яловщина, на берегу р. Стрижень [13, с. 143–145], в северо-восточной части Чернигова. Вероятно, такие поселения составляли в эпоху позднего средневековья отдельно стоящие слободы пригородной округи Чернигова, оказавшиеся сейчас в пределах современной черты города.

Таким образом, археологическое изучение древностей Чернигова эпохи позднего средневековья до сих пор находится лишь в начальном состоянии. Те данные, которыми располагают ученые, поверхностно освещают сложную городскую пространственно-топографическую структуру Чернигова второй половины XV – начала XVII в. Перед исследователями сейчас стоит вопрос о выделении комплексов этого периода по имеющимся отчетам ранее проведенных работ. Одним из перспективных направлений должна быть разработка хронологии керамического материала и других находок, создание стратиграфических и хронологических таблиц на основе результатов изучения наименее поврежденных слоев Чернигова, а главное – выделение таких объктов и комплексов во время как спасательных, охранных, так и научных раскопок.




Чернигов во второй половине XVI в. (реконструкция автора): *I* – линия укреплений Верхнего замка в XVI в.; *II* – линия укреплений древнерусского детинца X–XIII вв.; *III* – каменные храмы XI–XIII вв., которые существовали в XVI в.; *IV* – территория, которая находилась под застройкой в XVI в.; *V* – территория, которая, вероятно, находилась под застройкой в XVI в.; *VI* – дороги и улицы; *VII* – линия укрепелений древнерусского Окольного города XI–XIII вв.; *А* – Верхний замок; *Б* – Детинец; *В* – Окольный город; *Г* – «Пидзамчя» (?); *1* – Спасский собор, XI в.; *2* – Борисоглебский собор, XII в.; *3* – Благовещенский собор, XII в.; *4* – Успенский собор на территории Елецкого монастыря, XII в.; *5* – Пятницкая церковь, XIII в.; *6* – Киевские (Любецкие) ворота; *7* – Погорелые (Лоевские) ворота; *8* – Водяные ворота; *9* – Воскресенская церковь, XVII в.

**Литература**

1. Бондар, О. М. Чернігівська фортеця в московсько-польських війнах у другій половині XVI – на початку XVII ст. / О. М. Бондар // Україна та Польща крізь призму століть: матеріали Міжнар. наук.-практ. конф. «Поляки на Чернігово-Сіверщині – свої/чужі», приуроченої до 350-ї річниці східного походу Яна II Казимира. – Ніжин, 2014. – С. 27–32.

2. Веремейчик, Е. М. К вопросу о Черниговском остроге / Е. М. Веремейчик, А. В. Шекун // Стародавній Іскоростень та слов'янські гради : зб. наук. праць. – Коростень, 2008. – Т. 1. – С. 55–64.

3. Вечерський, В. В. Українські монастирі / В. В. Вечерський. – К., 2008. – 400 с.

4. Из донесения католического священника, участника похода Лжедмитрия I, своему духовному начальнику о захвате Черниговской крепости войсками Самозванца // Чернигову 1300 лет : сб. документов и материалов. – К., 1990.

5. Ігнатенко, І. М. Звіт про охоронні археологічні роботи в 1990–1991 рр. на дитинці міста Чернігова (Цитадель) / І. М. Ігнатенко, В. П. Коваленко // Науковий архів Інституту археології НАН України, фонд експедиції, № 1991/227. – Чернігів, 1991. – Т. 2. – 23 с.

6. Ігнатенко, І. М. Верхній замок у Чернігові / І. М. Ігнатенко // Сіверщина в історії України. – К. ; Глухів, 2012. – Вип. 5. – С. 38–41.

7. Карнабіда, А. А. Чернігів: архітектурно-історичний нарис / А. А. Карнабіда. – 2-е вид. – К., 1980. – 128 с.

8. Кондратьєв, І. В. Під Литвою, Москвою та Польщею / І. В. Кондратьєв. – Чернігів, 2005. – 152 с.

9. Кулаковський, П. Чернігово-Сіверщина у складі Речі Посполитої (1618–1648) / П. Кулаковський. – К., 2006. – 496 с.

10. Новик, Т. Г. Археологічні дослідження пізньосередньовічної споруди в Чернігові / Т. Г. Новик // Нові дослідження пам’яток козацької доби в Україні. – К., 2001. – Вип. 10. – С. 76–79.

11. О строительстве деревянной крепости в Чернигове // Чернигову 1300 лет : сб. документов и материалов. – К., 1990. – С. 31.

12. Русина, О. В. Україна під татарами і Литвою / О. В. Русина. – К., 1998. – 320 с.

13. Сохацкий, В. В. Жилище послемонгольского времени с поселения в урочище «Яловщина» близ Чернигова / В. В. Сохацкий // Археологічні дослідження в Україні в 1994–1996 роках. – К., 2000. – С. 143–145.

14. Черненко, О. Є. Чернігів у XIII–XIV ст. у світлі нових археологічних досліджень / О. Є. Черненко // Сумська старовина. – 2008. – Вип. 25. – С. 18–25.

**Рэзюмэ**

*А. М. Бондар*

**Актуальныя пытанні і перспектывы археалагічнага вывучэння познясярэдневяковага Чарнігава (XIV–XVII вв.)**

Разгледжаны актуальныя пытанні і перспектывы вывучэння археалагічных старажытнасцей Чарнігава ў эпоху позняга сярэдневякоўя, бо да нядаўняга часу гэтая тэматыка амаль не ўзнімалася ў працах навукоўцаў. На падставе ўжо вядомых археалагічных даных і пісьмовых крыніц зроблена спроба вылучыць такія найбольш перспектыўныя месцы, дзе могуць быць знойдзены слаі і аб’екты другой паловы XIV – пачатку XVII ст., як Дзядзінец, Навакольны горад, Падол і тэрыторыя Елецкага манастыра.

**Summary**

*A. N. Bondar*

**Topical questions and prospects of the archaeological study of Late Medieval Chernihiv (14$^{th}$–17$^{th}$ centuries)**

The article discusses topical questions and prospects of the studying archaeological antiquities Chernigov in the Late Middle Ages, because until recently, this subject hardly rose in the works of scientists. On the basis of the known archaeological data and written sources, attempt to identify the most promising places where they can be identified the layers and the objects of the second half of the 14$^{th}$ – early 17$^{th}$ centuries. These primarily include Detinets, Okolnyi Grad, Podol and monastery of the Elitsa.

*Поступила 03.06.2014 г.*

*УДК 572.71(476)(091)+903/904(476)«18»*

***Т. Л. Гурбо,*** *Институт истории НАН Беларуси, отдел антропологии и экологии, научный сотрудник, кандидат биологических наук (г. Минск, Беларусь)*

# История накопления краниологических материалов из археологических раскопок второй половины XIX в. на территории Беларуси

Особой ценностью для антропологов являются коллекции краниологических и остеологических материалов, исследование которых позволяет всесторонне изучить особенности физического типа населения, проживавшего на этих землях в прошлом. Например, коллекция Музея антропологии им. Д. Н. Анучина МГУ включает почти 90 000 предметов (черепа и кости посткраниального скелета), в Национальном музее естественной истории (Париж) хранится более 30 000 черепов, собрание только палеопатологической антропологической коллекции Д. Г. Рохлина (г. Санкт-Петербург, Россия) составляет около 900 экспонатов и т. д.

В Республике Беларусь наиболее крупные палеоантропологические коллекции сосредоточены в Институте истории НАН Беларуси и в Полоцком государственном университете. Первая коллекция начала формироваться в конце 1960-х годов благодаря раскопкам И. И. Саливон белорусских сельских кладбищ XVIII–XIX вв. и включает на данный момент более 500 единиц хранения; сбор второй коллекции начат в 2000-е годы О. А. Емельянчик. Последняя коллекция содержит останки скелетов людей различной степени сохранности с территории Полоцка и Полоцкой земли из погребений, датированных XII–XVII вв. Численность коллекции – около 200 ед. (индивидов). Значит, в Беларуси есть некоторый недостаток данных краниологии и остеологии для исследований, хотя собирание палеоантропологических материалов было начато со второй половины XIX в. (с 1860-х годов).

Предметом данного анализа стала судьба этого «потерянного» палеоантропологического наследия, добытого на территории Беларуси на протяжении 100-летнего периода (с 1860-х до 1960-х годов). В частности, цель данного исследования – сделать предварительное заключение о поступлении краниологических материалов из археологических раскопок второй половины XIX в. на территории Беларуси и уточнить их дальнейшую судьбу.

С середины XIX в. в рамках нормальной анатомии человека ученые стали обобщать знания о его морфологической изменчивости в зависимости от расовой принадлежности и климата, а также активно создавать антропологические общества. В Российской империи, составной частью которой были и белорусские земли, развитие антропологии как науки связано с деятельностью «Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, состоящего при Московском университете». Общество было создано в 1863 г., а в 1864 г. при нем был образован Антропологический отдел, занимавшийся коллекционированием и описанием черепов и скелетов, изучением современного населения российских губерний, ведением раскопок похоронных курганов и др.

Первое поступление в Императорское общество черепов и частей скелета человека с территории Минской губернии зафиксировано уже в 1866 г. и связано с именем графа Константина Пиевича Тышкевича. В 1867 г. в Москве была организована Этнографическая выставка, на которой было представлено антропологическое отделение. Именно к этой выставке графом Тышкевичем были посланы краниологические материалы (девять черепов и шесть хорошо сохранившихся скелетов), добытые им при раскопках курганов в Игуменском, Минском и Борисовском уездах Минской губернии [1, с. 31]. К доставленным материалам было приложено донесение о раскопках с описанием исследованных курганов, находок в них и некоторыми рассуждениями автора. На Антропологической выставке 1879 г. в Москве отдельные черепа и скелеты из собрания К. П. Тышкевича являлись важной частью экспозиции с территорий белорусских земель.

Сотрудники Антропологического отдела предпринимали постоянные усилия по пополнению белорусской краниологической коллекции. Известный российский антрополог А. П. Богданов, отчитываясь о своей командировке, отмечает: «По дороге в Витебск мы встретили М. Ф. Кусцинского, обладателя весьма богатого собрания местных каменных орудий и исследователя древностей края. М. Ф. Кусцинский был на этнографической выставке, знаком с деятельностью нашего общества и охотно принял приглашение помогать нам при устройстве антропологической выставки...». Комитет (по устройству Антропологической выставки 1879 г. – *Т. Г.*), выслушав отчет, постановил: «1) Просить Михаила Францевича Кусцинского в Витебске принять на себя труд раскопок курганов, собирание каменных орудий и фотографий местного населения, для чего передать в распоряжение в текущем году сто рублей. 2) Избрать М. Ф. Кусцинского в звание члена Комитета. 3) Просить доставить отчет о трудах по возможности к 1 октябрю сего года для присоединения к годичному отчету» [2, с. 212–213]. Помимо материалов графа Тышкевича на Антропологической

29. Штыхов, Г. В. Лукомль. Археологический комплекс железного века и Средневековья / Г. В. Штыхов. – Минск : Белорусская наука, 2014. – 167 с.

30. Ager, B. A preliminary note on the artefacts from the Vale of York Viking Hoard / B. Ager // Studies in Early Medieval Coinage 2. New Perspectives. – 2011. – P. 141–155.

31. Dalton, O. M. Catalogue of the finger rings early christian, byzantine, teutonic, mediaeval and later bequeathed by Sir Augustus Wollaston Franks, k. c. b. / O. M. Dalton ; Oxford, Horace Hart, printer to the university. – London, 1912.

32. Ciglis, J. Ludzas Odukalna Kapulauka catalogs. Latvijas vēstures muzejs. / J. Ciglis, A. Radiņš. – Rīga, 2002. – 251 c.

33. Graham-Campbell, J. Viking Artefacts. A Select Catalogue / J. Graham-Cambell. – London, 1980.

34. Hardh, B. Silver in the Viking Age. A Regional-Economic Study / B. Hardh // Acta Archaelogica. – 1996.

35. Stenberger, M. Die Schatzfunde Gotlands der Wikingerzeit / M. Stenberger. – Stockholm, 1947.

36. Stenberger, M. Die Shatzfunde Gotlands der Wikingerzeit / M. Stenberger. – Stockholm, 1947. – 2. Fundbeschreibung und Tafeln. Lund.

37. The Hoen Hoard. A Viking Gold Treasure of the Ninth Century. Acta ad archaeologiam et atrium historiam pertinentia. – Roma, 2006. – Vol. XIV.

38. Viking Antiquities, Viking Antiquities in Great Britain and Ireland. – Oslo. 1940. – Part VI.

39. Willemsen, A. Vikings! Raids in the Rhine / A. Willemsen // Meuse region 800–1000. – Utrecht, 2004.

40. Mode of access : http:// www. metmuseum. org/collection/the-collection-online/search/464535. – Date of access : 15.11.2014.

41. Mode of access : http:// www. metmuseum. org/toah/works-of-art/1998.542. – Date of access : 15.11.2014.

42. Mode of access : http:// pemptousia. com/2014/07/the-apostle-paul-incorporeal-even-though-he-had-a-body-2. – Date of access : 15.11.2014.

**Рэзюмэ**

*А. У. Касцюкевіч*

**Залатыя вырабы з тэрыторыі Полацкай зямлі**

На тэрыторыі Полацкай зямлі вядома 18 вырабаў з золата, выяўленых у сямі пунктах. Гэта скроневыя кольцы, прывеска да дыядэмы, бранзалеты, пярсцёнкі і абразок з эмаллю.

Большасць гэтых прадметаў была знойдзена падчас археалагічных раскопак у княжацкіх цэнтрах Полацкай зямлі – Полацку, Віцебску, Друцку, Мінску, Стара-Барысаве Дадзены факт сведчыць аб даволі развітой інфраструктуры гэтых гарадоў у перыяд сярэдневякоўя.

Залатыя вырабы з тэрыторыі Полацкай зямлі, якія датаваны IX–XI ст. (Полацкі скарб, пярсцёнак з раскопак Сафійскага сабору) маюць паўночнае паходжанне, што пацвярджае зносіны Полацкай зямлі са Скандынаўскім рэгіёнам. Залатыя вырабы, знойдзенныя ў слоі XII–XIII ст., магчыма, належаць да Паўднева-рускіх (скроневыя кольцы, пацеркі, прывеска да дыядэмы) і візантыйскіх (абразок з эмаллю) майстэрняў.

Усе гэтыя вырабы былі створаны ў замежных краінах, але, будучы ўнікальнымі, яны не могуць быць разгледжаны, як прадметы тавараабмену. Хутчэй за ўсе, яны трапілі на тэрыторыю Полацкай зямлі як асобныя рэчы, падарункі або трафеі.

**Summary**

*A. V. Kostsiukevich*

**The gold objects from the territory of the Polotsk Land**

On the territory of the Polotsk Land were found 18 gold objects. Those are temple rings, a pendant for a diadem, bracelets, finger-rings and a small enameled icon.

Most of those objects were found during archeological excavations at big centers of the Polotsk Land – Polotsk, Vitebsk, Druck, Minsk, Staro-Borisov. This fact is the evidence of quite developed infrastructure of those towns during medieval period.

The gold objects from the territory of the Polotsk Land dated to $9^{th}$–$11^{th}$ centuries (the Polotsk hoard, the finger ring from the excavation of the Polotsk Cathedral) have, perhaps, North European origin, that testify of contacts of the Polotsk and Scandinavian region. The gold objects that were found in cultural layers dated to end $11^{th}$ – beginning $12^{th}$–$13^{th}$ centuries are possibly production of South Russian (the temple rings, the finger-ring the pendant for the diadem, the beads) and Byzantine (small enameled icon) workshops.

All above mentioned objects are foreign, but through their uniqueness cannot be considered as goods. Most probably they had been carried to the territory of the Polotsk land as belongings, gifts of trophies.

*Поступила 20.11.2014 г.*

*УДК [903.4+904:623.1](476–25)*

***В. І. Кошман****, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, загадчык аддзелам археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;*
***М. А. Плавінскі****, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, загадчык кафедрай турызму і гасціннасці, кандыдат гістарычных навук, дацэнт*

# Да пытання аб абарончых збудаваннях Мінскага замчышча

**Гістарычныя звесткі аб Мінскім замчышчы.** Летапісныя згадкі аб Менску 1067 г. «*...меняне затворишася в граде*», 1085 г. «*...изъехахом городъ*», 1104 г., 1116 г. 1116 г. «*...поиде къ Меньску..., ...и затворися Глебъ въ граде*», «*...Глебъ же вышедъ из города съ детми ис дружиною*», 1151 г., 1159 г. «*...поиде... к Меньску и много зла створи волости*», «*...и стоя оу Меньска 10 днии...*», 1160 г. «*...стоя около города 6 недель*» з'яўляюцца прамым сведчаннем існавання ў гэтым старажытнарускім горадзе магутных фартыфікацыйных збудаванняў. На жаль, да нашага часу валы, равы і нават асноўныя тапаграфічныя дамінанты старажытнага дзядзінца Менска не захаваліся. Лічыцца, што пасля атрымання горадам магдэбургскага права, збудавання ратушы і шэрагу пажараў, калі выпальвалася Замчышча і частка гарадскіх пасадаў, цэнтр гарадскога жыцця паступова перайшоў на Верхні горад (у перыяд з 1499 г. па XVI ст.). У сваю чаргу, войны сярэдзіны XVII ст. прадэманстравалі закінутасць сістэмы ўмацаванняў Замчышча, а таксама няздольнасць супрацьстаяць новаму ўзбраенню і прыёмам вядзення вайны. На гэты час прыпадае паступовае запусценне гэтай найстаражытнейшай часткі горада ў якасці фартыфікацыйнага аб'екта і паступовае ўключэнне ў сістэму гарадской забудовы. Адно з першых апісанняў умацаванняў Замчышча належыць да 1654 г. З яго вынікае, што вал дасягаў 430 сажняў па перыметры і 10–14 сажняў у вышыню (1 сажань – 1,9482 м). Адзначаецца, што да гэтага часу навальныя канструкцыі адсутнічалі, і маскоўскія войскі былі вымушаны збудаваць вежу і туры, а таксама падсыпаць валы [4, с. 77].

Пазней тэрыторыя Замчышча была забудавана драўлянымі і каменнымі будынкамі (мал. 1, 2), а лагчына, якая аддзяляла яго ад суседняга ўзвышша, імкліва запаўнялася культурным слоем, у тым ліку і скінутым з іншых, больш узвышаных участкаў. Часткова засыпаюцца равы, робяцца праезды ў валах, што адлюстроўваецца на планах горада 1773, 1793, 1797 г., фармуецца новая сетка вуліц. У выніку гэтых пераўтварэнняў, большая частка візуальных прыкмет старажытнага гарадзішча знікла, а сведчанні яго наяўнасці захаваліся толькі ў тапаніміцы вуліц (Замкавая, Падзамкавая, Завальная (мал. 3)). Назва «Замчышча» замацавалася толькі за невялікай узвышанай часткай, якая дамыкала да р. Свіслач (мал. 4–7). Між тым ваенныя аэрафотаздымкі 1940-х гадоў выдатна дэманструюць контуры Мінскага замчышча, якія добра фіксуюцца як па вулічнай сетцы гэтай старажытнай часткі горада, так і па рэштках забудовы.

У 1950–60-я гады гэтае ўзвышша і пераважная частка Замчышча былі прыгаворваны да знішчэння новай дарожнай сеткай, манументальным савецкім будаўніцтвам і нівеліровачнымі працамі, якія непазнавальна змянілі рэльеф мясцовасці (мал. 8, 9). Сёння даць пэўнае ўяўленне аб першапачатковай тэрыторыі Замчышча, яго абрысах і, у пэўнай ступені, тапаграфіі могуць толькі даныя археалогіі, картаграфіі і фотафіксацыі канца XIX – сярэдзіны XX ст.

**Гісторыя археалагічных даследаванняў Мінскага замчышча.** Археалагічныя даследаванні Мінскага замчышча – дзядзінца летапіснага Менска, былі распачаты В. Р. Тарасенкам у 1945 г. і вяліся ім да 1951 г. З гэтага года раскопкі на Замчышчы з рознай інтэнсіўнасцю вяліся да 1991 г. (Э. М. Загарульскі (1957–1961 гг.), Г. В. Штыхаў, В. Е. Собаль, П. А. Русаў (1974, 1976–1977, 1981–1988, 1991)). Падчас гэтых даследаванняў неаднаразова ўскрываліся розныя ўчасткі гарадскіх фартыфікацыйных збудаванняў (мал. 10), былі вывучаны тапаграфія і планіроўка ўсходняй часткі Замчышча, выяўлены фундаменты каменнай царквы.

Асноўныя высновы даследчыкаў Мінскага замчышча зводзяцца да наступнага:

1) ва ўсіх месцах раскопак і земляных работ, дзе быў зафіксаваны вал, ён супаў з валам, адлюстраваным на гістарычных планах горада XVIII–XIX стст., з чаго была зроблена выснова аб тым, што гістарычныя апісанні рэштак абарончых збудаванняў, таксама, як і планы, фіксуюць вал летапіснага Менска;

2) была вызначана тэрыторыя ўмацаванай часткі Менска. Гарадскі дзядзінец займаў усю тэрыторыю, якая на гістарычных планах горада была заключана ў вал. Яна была вядома пад назвай «Стары замак», «Стары горад», альбо проста «Замак». Ён пачынаўся ад р. Свіслач і цягнуўся на паўночны захад на 250–300 м да вуліц Падзамкавай і Завальнай, якія сталі існаваць тут пазней. Шырыня дзядзінца

складала 100–150 м. Плошча ўмацаванай часткі старажытнага Менска была вызначана ў межах 3 га. Цэнтральная частка дзядзінца зараз перакрыта трасай праспекта Пераможцаў. Пагорак, які называўся «Замчышчам», складае ўсяго 1/11 частку тэрыторыі дзядзінца старажытнага Менска [4, с. 80];

3) падчас раскопак 1980-х гадоў былі канкрэтызаваны ці падкарэкціраваны некаторыя высновы папярэдніх даследчыкаў Мінскага замчышча. Так, было адзначана, што старажытныя фартыфікатары не былі вольныя ў выбары формы ўмацаванняў і, у пэўнай ступені, падладжваліся пад рэльеф мясцовасці. Дзядзінец Менска быў заснаваны на невялікім узвышшы, якое сфарміравалася на стадыі дэградацыі дняпроўскага ледавіка. Пяскі, якія яго ўтвараюць, заглееныя і маюць дыяганальную слаістасць, вызначаную дзейнасцю руславых плыняў. На даследаваным у 1984–1985 гг. участку пад двухметровай пясчана-гравійнай тоўшчай узвышша быў прасочаны галечна-валунны гарызонт, наяўнасць якога, відаць, садзейнічала ўстойлівасці верхніх адкладаў. Найбольш прыпаднятая паўночна-ўсходняя частка гэтага ўзвышша дамыкала да берага Свіслачы і мела ў плане абрысы, блізкія да чатырохвугольніка. З поўначы магчымасці фартыфікатараў абмяжоўвала рэчышча Нямігі, а з поўдня – лагчына, якая злучалася з рэчышчам Свіслачы. З гэтай прычыны абарончая лінія дзядзінца адпавядала натуральнаму рэльефу. Невялікія памеры ўзвышша, з аднаго боку, і імкненне будаўнікоў зрабіць дзядзінец максімальна вялікіх памераў, з іншага боку, абумовілі праходжанне трасы вала каля самага краю ўзвышша. Абарончыя ўласцівасці штучных умацаванняў дапаўнялі натуральныя перашкоды – рэкі Свіслач і Няміга з яе нізінным левым берагам (нават у XIX ст. вуліца, якая праходзіла тут, называлася Падзамкавай на Балоце) і ўжо згаданая лагчына. Не выключана, што раней рэчышча Нямігі ля дзядзінца падвойвалася; паўднёвы яго рукаў мог быць штучнага паходжання. У гэтым выпадку дзядзінец быў з усіх бакоў абкружаны вадой. Даследаванне ўчастка, прылеглага да дзядзінца з поўдня (1986–1987 гг.), выявіла адсутнасць тут рова. Яго з поспехам замяняла штучная лагчына [5, с. 8].

**Абарончыя збудаванні Мінскага замчышча ў святле матэрыялаў раскопак 2009 г.** Раскопкі Мінскага замчышча ўзнавіліся ў 2009 г. (мал. 11, 12). Асноўнай мэтай работ сталі збор і падрыхтоўка даных для стварэння архітэктурнага гісторыка-археалагічнага музея на яго тэрыторыі. Для даследаванняў былі абраны два ўчасткі (участак 1 у паўночна-ўсходняй частцы, плошчай 544 м$^2$; участак 2 у паўднёвай частцы, плошчай 378 м$^2$ (у далейшым паменшаны)). На абодвух участках былі атрыманы новыя вынікі, якія дапаўняюць і карэктуюць высновы папярэдніх даследчыкаў абарончых умацаванняў Менска.



Мал. 1. Мінскае замчышча. План горада 1773 года (фрагмент). Са збору Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь

Бо́льшая частка участка 1 (раскоп 1) прыпала на рэшткі абарончых збудаванняў – вал старажытнарускага часу (мал. 13). Рэшткі вала пачалі фіксавацца адразу пасля слою будаўнічага смецця (0,9–1,2 м), які ўтварыўся ў выніку прац канца 1950-х гадоў па ўзвядзенні Дома фізкультурніка і значнай нівеліроўкі тэрыторыі Замчышча. Згодна з наяўнай інфармацыяй, на тэрыторыі Замчышча былі зняты культурныя напластаванні на глыбіню да 3,0–3,5 м (гл. мал. 8) [16, с. 74; 4, с. 83, 86, 154, рис. 29]). У выніку даследаванняў 2009 г. быў атрыманы поўны разрэз вала па лініі поўдзень–поўнач, прасочана ўнутраная структура насыпу вала, а таксама этапнасць яго ўзвядзення. Вал добра фіксаваўся ў заходнім і ўсходнім профілях раскопу, аднак яго поўны разрэз маецца толькі ў заходнім профілі.

У структуры насыпу было выяўлена два этапы яго ўзвядзення ў старажытнарускі час (як мінімум да сярэдзіны XIII ст. (гл. мал. 13)). На жаль, сучасны стан рэшткаў вала дазваляе толькі гіпатэтычна меркаваць аб яго вышыні, бо, у выніку розначасовых земляных і будаўнічых прац, цалкам страчана інфармацыя аб структуры і канструктыўных асаблівасцях сярэдняй і верхняй частак унутрывальных канструкцый і абарончых збудаванняў на валу.

Першапачатковы вал складаўся з жоўта-шэрага пяску з глеістымі карычнева-шэрымі праслойкамі




*а* *б*

Мал 2. Мінскае замчышча. План горада Мінска: *а* – 1790 г.; *б* – 1793 г.




Мал. 3. Сумяшчэнне контураў Мінскага замка з планам 1950-х гадоў: *I* – участкі даследаванняў; *II* – месцы выхадаў старажытнага вала. Паводле Э. М. Загарульскага



Мал. 4. Від на Мінскае замчышча з поўначы (з правага боку р. Свіслач). Злева відаць забудову Траецкага прадмесця, справа – схіл Замкавай гары, на дальнім плане – мост праз р. Свіслач. Канец XIX ст.



Мал. 5. Від на Мінскае замчышча з левага берага р. Свіслач. Відаць забудову Замкавай гары, замкавы роў і месца ўпадзення адгалінавання р. Няміга. 1903 г.



Мал. 6. Від з моста на Замкавую гару. Відаць забудову Замчышча і Татарскіх гародаў. 1920 г. Малюнак Я. Н. Драздовіча



Мал. 7. Від на Мінскае замчышча з усходу. 1949 г. Раскопкі В. Р. Тарасенкі



Мал. 8. Знішчэнне Мінскага замчышча цяжкай тэхнікай – распрацоўка катлавана для будаўніцтва Дома фізкультурніка. 17 сакавіка 1956 года



Мал. 9. Від на Мінскае замчышча з поўдня пасля пракладкі трасы Паркавай магістралі – праспекта Машэрава (зараз – праспект Пераможцаў)




Мал. 10. Мінскае замчышча і вывучаныя раскопы 1945–1991 гг. (№ 1–7, 9, 11, 15–18, 20) на яго пляцоўцы




Мал. 11. Сітуацыйная схема размяшчэння участкаў 1 і 2 на генеральным будаўнічым плане горада. 2009 г.

(рэшткі драўляных унутрывальных канструкцый). Шырыня першапачатковага вала дасягала 11 м (мал. 13, гл. мал. 19). Вал насыпаны на пахаванай глебе (слой (стэрыльнага ?) цёмна-шэрага супеску магутнасцю 0,2–0,4 м). Падчас даследаванняў 2009 г. у дадзенай пахаванай глебе якія-небудзь артэфакты ці канструкцыі не былі зафіксаваны. Але падчас раскопак 1984–1985 гг. у насыпе найстаражытнейшага вала таксама не было знойдзена ніякіх рэчаў, на падставе якіх можна правесці датаванне (мал. 14). Пасля расчысткі драўлянай субструкцыі яна была прарэзана скразной траншэяй да мацерыку, а пасля і да ўзроўню галечна-валуннага слою. На ўзроўні чацвёртага накату субструкцыі знойдзены невялікі фрагмент венца кругавога гаршка з характэрным карнізікападобным патаўшчэннем. Такія гаршкі датаваны X–XI вв. [5, с. 15]. Другой знаходкай, якая была выяўлена ў тонкай праслойцы пяску ў пахаванай глебе і побач з тарцом ніжняга бервяна аднаго з накатаў першапачатковага вала, з'яўляецца пакрытае цыркульным арнаментам касцяное праселка [16, с. 232–240, рис. 6: *7*].

Непасрэдна над слоем пахаванай глебы па ўсёй шырыні першапачаткова вала ў 2009 г. зафіксавана праслойка з жоўта-шэрага пяску са значнымі ўключэннямі карычнева-шэрага глею магутнасцю 0,20–0,45 м (месцамі жоўта-шэры пясок цалкам замяшчаўся глеістай праслойкай). Над гэтай праслойкай фіксаваўся слой жоўта-шэрага пяску са шматлікімі гарызантальнымі глеістымі праслойкамі магутнасцю 0,95–1,20 м. Месцамі ў глеістых праслойках фіксавалася моцна спарахнелае і спрэсаванае дрэва, што дазваляе ідэнтыфікаваць дадзеныя праслойкі як рэшткі гарызантальна ўкладзеных бярвён і атаясаміць іх з драўлянымі ўнутрывальнымі канструкцыямі. Іх дрэнная захаванасць не дазваляе з поўнай упэўненасцю вызначыць сістэму размяшчэння бярвён і колькасць накатаў. Ад бярвён захаваўся ў асноўным тлен, і казаць аб іх рэальных памерах цяжка. Прамеры засведчылі даўжыню бярвён ад 1,0 да 2,2 м і шырыню (дыяметр) да 0,2 м. Тым не менш выяўленая карціна дазваляе меркаваць, што ўнутрывальная канструкцыя складалася з накатаў бярвён, папераменна ўкладзеных як уздоўж, так і ўпоперак трасы вала. Аналагічная канструкцыя ўжо фіксавалася падчас даследаванняў 1984–1985 гг. у паўднёва-ўсходняй частцы дзядзінца [5, с. 10, рис. 3–4, 7, 20], дзе ў раскопах першапачатковы вал захаваўся на вышыню да 2,4 м і была зафіксавана драўляная субструкцыя з дзевяці накатаў сасновых бярвён і прадольныя лагі, перасыпаныя пяском і суглінкам (гл. мал. 14 [17, с. 232]). Дадзеная ўнутрывальная канструкцыя была зроблена наступным чынам: уздоўж трасы вала былі ўкладзены ў сем шэрагаў доўгія бярвёны, якія служылі лагамі для папярочнага накату. Паверх бярвён накату




Мал. 12. Сетка квадратаў. Раскоп 1, участак 1

зноў укладалі лагі, а пасля – чарговы накат. Пасля ўкладкі кожнага накату канструкцыю засыпалі пяском, аб чым сведчыла тое, што некаторыя лагі аддзяляліся ад бярвён ніжэйшага накату двух-, трохсантыметровым слоем пяску. Бярвёны ўкладалі вольна, але некаторыя лагі і бярвёны накатаў замацоўвалі калкамі.

Даследчыкі адзначаюць, што падобныя ўнутрывальныя драўляныя канструкцыі былі знойдзены падчас даследаванняў Верхняга замку ў Віцебску [8, с. 57–58], у паўднёвай частцы Наўгародскага дзядзінца (раскопкі М. Х. Аляшкоўскага 1956–1957 гг. і А. М. Кірпічнікава 1979 г.), і што такі прыём ўмацавання вала вядомы на тэрыторыі Польшчы.




Мал. 13. Заходні профіль раскопу 1. Мінскае замчышча. 2009 г. Малюнак М. А. Плавінскага

На Мінскім замчышчы для лагаў выкарыстоўвалі бярвёны дыяметрам 0,16–0,28 м. Часам у якасці лагі выкарыстоўвалі два пакладзеных побач бервяна. Накаты ўкладалі з бярвён дыяметрам 0,12–0,22 м і даўжынёй ад 1,8 да 7,5 м. Некаторыя бярвёны лагаў і накатаў ачышчалі ад кары. У накатах бярвёны, як правіла, укладалі камлёвай часткай да схілу вала. Адлегласць паміж бярвёнамі накату вагалася ад 14 да 25 см, а ў асобных выпадках яна дасягала 30–40 см. Часам прастору паміж імі запаўнялі кароткімі (1,3–2,8 м) абрэзкамі бярвён дыяметрам ад 12 да 30 см. Іх размяшчалі паміж лагамі альбо накладвалі канцом на адну з ім лагу. Відавочна, што верхнія накаты былі знішчаны ў выніку будаўнічай дзейнасці на пляцоўцы дзядзінца, а падчас даследаванняў 1984–1985 гг. было зафіксавана дзевяць накатаў на вышыню да 2,4 м і субструкцыя вала прасочана на вышыню гэткую ж вышыню (гл. мал. 14, *б*).

Даследчыкі прадпрымалі спробы падлічыць, якую колькасць лесу неабходна было нарыхтаваць для стварэння падобнай субструкцыі [2, с. 105–106]. Пры плошчы дзядзінца ў 3 га даўжыня вала складала каля 900 м. Для стварэння субструкцыі з накатаў бярвён, без сценаў і вежаў, неабходна было выкарыстаць не менш за 40 000 ствалоў. Маштабы земляных і будаўнічых прац уражваюць: неабходна была праца лесарубаў на працягу некалькіх гадоў, дастаўка зрубленых ствалоў, збудаванне субструкцыі, падвозка і насыпка грунту і г. д. Падобныя маштабныя і фактычна аднаактавыя працы наўпрост сведчаць аб магутнасці і рэсурсах полацкай княжацкай улады ў справе прыцягнення будаўнікоў крэпасці.

У 2009 г. са знешняга і ўнутранага бакоў першапачатковага вала добра прасочвалася насычаная цёмна-шэрая гумусаваная праслойка са шматлікімі глеістымі ўключэннямі, якія месцамі пераходзілі ў спрэсаваную і спарахнелую драўніну. Дадзеная праслойка можа быць інтэрпрэтавана як рэшткі абкладкі першапачатковага насыпу вала з дзірвану. Верагодна, падобнага роду абкладка з дзірвану была выяўлена ў выніку даследаванняў унутранага слою рова Старакіеўскай гары ў 2007–2011 гг. [9, с. 319].

Размяшчэнне глеістых уключэнняў унутры дадзеных цёмна-шэрых гумусаваных праслоек са знешняга і ўнутранага бакоў вала дэманструе працэс натуральнага апаўзання насыпу вала ў выніку яго стромкасці, якая можа быць прыблізна вызначана ў 75–80º з унутранага і знешняга бакоў. Гэта можа быць патлумачана тым, што даследаваннямі 2009 г. была адкрыта толькі ніжняя частка вала (яго «аснаванне») на вышыню да 1,30 м, ад якой, уласна, і пачыналася яго паслядоўная падсыпка. Астатняя частка вала была знішчана ў працэсе земляных прац 1950-х гадоў. На наш погляд, менавіта гэтым



*а*



*б*

Мал. 14. Унутрывальныя канструкцыі першапачатковага вала (*а, б*). Раскоп 1984–1985 гг.



*а*




*б*

Мал. 15. Насычаная цёмна-шэрая гумусаваная праслойка са шматлікімі глеістымі ўключэннямі: *а* – абкладка знешняга схілу першапачатковага насыпу вала і яма № 2т у кв. 3т; *б* – абкладка ўнутранага схілу першапачатковага насыпу вала

можна патлумачыць той факт, што Э. М. Загарульскі і Ю. А. Заяц крыху інакш вызначалі стромкасць вала. Пры гэтым яны справядліва адзначалі, што ў валоў, абкладзеных шчыльнымі пародамі дрэва, схіл мае найбольшую стромкасць у ніжняй частцы, каля падэшвы. Так, Э. М. Загарульскі фіксаваў вугал нахілу знешняга схілу вала ў 50–52° [4, с. 158], у раскопе 1984–1985 гг. фрагмент абкладкі знешняга схілу вала меў стромкасць у 44–46°, а стромкасць унутранага схілу (зафіксаваная паводле абкладкі) роўная 55–62° [5, с. 14]. Ю. А. Заяц лічыў, што ў прынцыпе вугал нахілу першапачатковага вала з боку поля на даследаваным у 1984–1985 гг. участку ў сярэднім не перавышаў 35–40°. Не выключана, што для павелічэння вышыні і стромкасці гэтага абарончага збудавання было праведзена эскарпаванне схілу ўзвышша паміж падэшвай вала і дном лагчыны.

Асаблівую цікавасць для разумення канструктыўных асаблівасцей першапачатковага вала і магчымасці яго датавання прадстаўляе мацерыковая яма № 2т, выяўленая ў заходнім профілі раскопу 1 у кв. 3т (мал. 15, *а*). Стратыграфічна дадзены аб'ект пераразае слой пахаванай глебы і ўпушчаны ў мацярык на 0,40 м. Шырыня ямы складае 0,18–0,20 м. Мяркуючы па ўсім, дадзеная яма фіксуе знаходжанне вертыкальнага слупа перад першапачатковым валам. Гэты аб'ект размешчаны непасрэдна перад знешняй гумусаванай праслойкай (дзірванам ?) першапачатковага вала і знаходзіцца *in situ*. Запаўненне ямы – жоўта-шэры буйназярністы пясок. Адзіным артэфактам у дадзенай яме было венца кругавога гаршка, якое датавана канцом XI – пачаткам XII ст.

Непасрэдна над ямай № 2т у кв. 3т, 2т фіксуецца слой жоўта-шэрага пяску з глеістымі праслойкамі, аналагічны насыпу першапачатковага вала. Слой захаваўся на ўсю вышыню выяўленага вала і на дадзеным участку яго магутнасць складае да 0,95 м пры шырыні слою, прылеглым да знешняга боку першапачатковага вала 2,30 м (уверсе) да 0,70 м (унізе – над ямай № 2т і пахаванай глебай). Ад насыпу першапачатковага вала дадзены слой адрозніваецца глеістымі праслойкамі меншай насычанасці. Разам з тым са знешняга боку прасочаны звісаючыя, амаль вертыкальныя праслойкі моцна спарахнелага дрэва. Некаторыя з іх даходзяць да мацерыковай ямы № 2т. Узнікненне дадзенага слою, на наш погляд, можа мець некалькі тлумачэнняў.

1. У гэтым выпадку мы маем месца з нязначнай падсыпкай знешняга схілу, якая была ўмацавана са знешняга боку нейкай драўлянай (каркаснай ?, плятнёвай ?) падсыпкай. Дадзеная канструкцыя, верагодна, была ўмацавана вертыкальна ўкапанымі ў мацярык слупамі. Следам ад такога слупа і з'яўляецца мацерыковая яма № 2т. Характэрна тое, што з унутранага боку падобнай падсыпкі няма.

2. Выяўлены слой жоўта-шэрага пяску з глеістымі праслойкамі з'яўляецца наступствам спаўзання вяршыні першапачатковага вала, якое адбылося ў выніку нейкіх катастрафічных падзей (напрыклад, разбурэння навальных канструкцый і верхняй частцы вала). Пры такой інтэрпрэтацыі мацерыковую яму № 2т можна разглядаць як элемент фартыфікацыйных збудаванняў, размешчаных перад знешнім схілам вала. Акрамя таго, не выключана, што выяўленыя падчас зачысткі мацерыку ў кв. 3т і 4т мацерыковыя заглыбленні таксама з'яўляюцца рэшткамі перадвальных канструкцый, характар якіх застаецца канчаткова невысветленным.

Пры абодвух прапанаваных варыянтах інтэрпрэтацыі з'яўлення дадзенай падсыпкі, яма № 2т (каля заходняга профілю) з'яўляецца закрытым комплексам, сінхронным па часе ўзвядзенню першапачатковага вала.

Пасля ўзвядзення першапачатковага вала ў жыхароў гарадзішча адразу ўзнікла неабходнасць ўзмацніць абарончыя збудаванні. Адпаведна стратыграфічным назіранням 2009 г., прамежак часу паміж этапам 1 (насыпка першапачатковага вала) і этапам 2 (падсыпка) быў нязначны, бо на старажытнай дзённай паверхні (пахаванай глебе пад другой падсыпкай) не паспеў прайсці працэс адкладання культурнага слою. У той жа час у раскопе 1976 г., які прыпадаў на вал з буйназярністага мацерыковага пяску, Г. В. Штыхаў зафіксаваў, што ў ніжнім гарызонце пяску над мацерыком прасочваецца шэрая праслойка магутнасцю 0,2 м. Яна вызначаецца знаходкамі фрагментаў гаршкоў XII ст. і чырвонагліняных амфар. Гэткія ж матэрыялы былі выяўлены і ў ніжняй частцы мяркуемага насыпу вала. Усяго было знойдзена 68 фрагментаў амфар, у тым ліку іх ручкі, шыфернае праселка, шкляная бочкападобная пацерка, кавалак бурштыну, жалезны серп, косткі каня, быка, авечкі. У 1977 г. у сувязі з пашырэннем рэчышча Свіслачы і добраўпарадкавання набярэжнай была даследавана ніжняя частка вала каля паўднёва-ўсходняга яго павароту. Пад валам на плошчы 24 $м^2$ залягаў культурны слой ад 0,1 да 0,3 м і развал печкі з камянёў. Знойдзена кераміка канца XI ст., аналагічная больш позняму варыянту такога посуду з ніжняга слою гарадзішча на Менцы [16, с. 75–76]. Падчас раскопак 1984–1985 гг. пад насыпам, які належыць да другога этапу збудавання вала, паміж гакавымі канструкцыямі і першапачатковым валам выяўлены і даследаваны культурны слой магутнасцю 0,12 м. Гэты слой быў перакрыты тонкай праслойкай трэсак, што ўтварылася падчас падрыхтоўкі бярвён для гакавай сістэмы мацавання сцяны. У ім былі знойдзеныя фрагменты керамічнага посуду, якія датаваны XI ст., другой паловай XI – пачаткам XII ст. і канцом XI – сярэдзінай XII ст., а таксама дзве

пацеркі – сердалікавая біпірамідальная (XI–XII стст.) і срэбрашкляная (канец X – пачатак XII ст.), шыферныя праселкі, скураная падэшва бота, абломак ляза сякеры, шлакі ад вытворчасці металу і невялікае ўтулкавае цясла XII ст. Улічваючы невялікую магутнасць культурнага слою, ён быў датаваны па часе сумеснага ўжытку ўсіх знойдзеных у ім прадметаў апошнімі дзесяцігоддзямі XI – пачаткам XII ст. [5, с. 24–25, рис. 9].

Падчас прац 2009 г. на ўчастку 1 (раскоп 1), на пахаванай глебе, з боку пляцоўкі гарадзішча месцамі была прасочана вугальная праслойка магутнасцю 2,0–4,0 см. Дадзеная праслойка можа з'яўляцца сведчаннем пажару на пляцоўцы гарадзішча (прынамсі, у яе паўночна-ўсходняй частцы) на раннім этапе яго існавання пасля ўзвядзення першапачатковага вала.

Уласна сама другая падсыпка вала складаецца з буйназярністага жоўта-шэрага пяску са шматлікімі ўключэннямі дробных камянёў (гравію). Шырыня дадзенай падсыпкі з боку пляцоўкі дасягае 11 м пры максімальна захаванай вышыні 1,5 м (мал. 16, гл. мал. 13).

Збудаванне дадзенай часткі вала было звязана з велізарнымі маштабамі земляных прац і, па ўсёй верагоднасці, здзяйснялася ў некалькі этапаў. Варта адзначыць тое, што грунт (гравій) для дадзенай падсыпкі бралі з аднаго месца (кар'ера) і, у адрозненне ад першапачатковага вала, у дадзенай падсыпцы не былі прасочаны глеістыя праслойкі (драўляныя канструкцыі). Калі шырыня першапачатковай падсыпкі вала з унутранага боку дасягала 8,0–8,2 м, верагодна, была збудавана нейкая вертыкальная драўляная канструкцыя, якая ўтрымлівала новы насып вала. Яе рэшткі былі выяўлены ў паўднёвай частцы кв. 64 у выглядзе праслойкі (якая звісае) спарахнелай драўніны таўшчынёй 2–4 см і вышынёй 0,60 м. Характар дадзенай праслойкі (наяўнасць «адгалінаванняў») дазваляе казаць аб яе часовым характары. Мы лічым, што гэта магла быць нейкая плятнёвая канструкцыя, узведзеная з мэтай часовага прадухілення абсыпання вала (гл. мал. 16), ухіл якой у паўднёвым накірунку (у бок пляцоўкі) сведчыць аб яе няздольнасці ўтрымаць велізарную масу рыхлага гравію. Нам бачыцца, што былі ажыццёўлены перыядычныя падсыпкі вала з унутранага боку пляцоўкі, што фіксуецца ў выглядзе дугападобнай праслойкі цёмна-шэрай зямлі магутнасцю 5,0–8,0 см. Гэта праслойка з'яўляецца працягам насычанага, моцна гумусаванага слою




Мал. 16. Другая падсыпка вала з унутранага боку вала Мінскага замчышча са слядамі этапнасці збудавання і гакавай канструкцыі

спарахнелай драўніны, і яе ўтварэнне ў насыпе вала можа быць звязана з механічным наносам (нагамі) культурнага слою з будаўнічым смеццем (у тым ліку трэсак) з пляцоўкі гарадзішча. Паверх дадзенай праслойкі быў размешчаны слой гравію магутнасцю да 0,8 м, які не ўтрымліваў якіх-небудзь уключэнняў і не адрозніваўся па сваёй структуры ад усёй другой падсыпкі вала з боку пляцоўкі.

У ніжняй частцы насыпу вала ў кв. 82, перакрытай разгледжанай гумусаванай праслойкай, выяўленыя рэшткі драўлянай канструкцыі ў выглядзе трох паралельных валу бярвён дыяметрам каля 0,20 м. Бярвёны былі ўкладзены на гарызантальную палю, якая ляжала перпендыкулярна трасе вала і ад якой захавалася праслойка спарахнелага дрэва магутнасцю 2,0–5,0 см. Дадзеная праслойка спарахнелага дрэва плаўна пераходзіла ў глеістую праслойку ўнутры насыпу вала. Агульная даўжыня дадзеных праслоек складала каля 2,5 м. На наш погляд, дадзеныя праслойкі, безумоўна, з'яўляюцца рэшткамі бярвён, якія ў розных глебавых умовах (гумусіраваны вільготны грунт і гравій) захаваліся па-рознаму. З паўднёвага боку дадзеная канструкцыя была абмежавана вертыкальна размешчанай праслойкай спарахнелага дрэва магутнасцю 4,0–5,0 см і вышынёй да 0,3 м, якая засталася ад нейкай вертыкальнай палі ці калка. Відавочна, што гарызантальная і вертыкальная палі канструктыўна звязаны паміж сабой і маюць сляды прасядання пад цяжарам укладзеных на гарызантальную палю шэрагаў бярвён. Непасрэдна пад той часткай драўлянай канструкцыі, дзе меліся бярвёны, зафіксавана слупавая яма дыяметрам 0,25 м, якая пераразае пахаваную глебу і паглыбляецца ў мацярык на 0,20 м. Яна запоўнена гумусіраваным пяском шэрага колеру і забутавана дробнымі камянямі.

На наш погляд, апісаныя рэшткі канструкцыі блізкія да так званай гакавай канструкцыі, якая ўжо фіксавалася падчас даследаванняў вала. На карысць дадзенага меркавання сведчыць фактычнае супадзенне часткі заходняга профілю раскопу 1 у паўночна-ўсходняй частцы Мінскага замчышча (2009 г.) і часткі ўсходняга профілю раскопу «Няміга», дзе зафіксавана гакавая канструкцыя ў другой падсыпцы вала [17, рис. 2].

Сутнасць гакавай канструкцыі заключаецца ў наступным – уздоўж мяжы вала перпендыкулярна яго восі на адлегласці ад 1,6 да 2,3 м адно ад аднаго ўкладалі бярвёны даўжынёй 2,0–3,2 м (мал. 17). Кожнае з іх на канцы, звернутым да горада, мела тоўсты сук, апрацаваны ў выглядзе крука (мал. 18). Пры ўкладцы бярвён крук скіроўвалі дагары. Астатнюю частку бервяна (шырынёй 16–20 см і таўшчынёй 12–18 см) абцёсвалі на чатыры грані. У далейшым ад крука на канцы бервяна прабівалі ад аднаго да двух скразных адтулін, у якія забівалі калкі для мацавання. Апошнія заглыблялі ў грунт на 60 см і болей. Паверх гэтых бярвён ушчыльную для крука паралельна трасе вала ўкладалі тоўстае дубовае бервяно (дыяметрам 40 см). Прастору паміж ім і ўнутраным схілам першапачатковага вала запаўнялі пяском. Затым паверх прадольнага бервяна ўкладвалі і замацоўвалі новы ярус бярвён з крукападобнымі канцамі, а на іх клалі новае прадольнае бервяно і г. д. Часам даўжыня крука для мацавання дазваляла яму ўтрымліваць два бервяна. Пад цяжарам прадольных дубовых бярвён ніжнія папярочныя бярвёны для мацавання, укладзеныя на тонкі культурны слой, абсядалі так, што некаторыя з іх часткова заглыбіліся ў мацярык [5, с. 17–20, рис. 5–8].

Даследчыкі адзначаюць, што падобны кшталт мацавання схілу вала вядомы на тэрыторыі Вялікапольшчы; на славянскіх гарадзішчах у раёне Берліна, якія належаць да часу раней за X ст.; ва Усходняй Еўропе гакавая альбо крукавая канструкцыя мацавання была выяўлена падчас раскопак Наўгародскага дзядзінца і Маскоўскага крамля [12; 14, с. 106; 15, с. 110, 112, рис. 87] (гл. мал. 18). А. В. Куза адзначаў, што фартыфікацыйная тэхніка, заснаваная на сумесным ужытку кратавай і гакавай канструкцый, з'яўляецца надзвычай рэдкай [10, с. 169]. У некалькі відазмененым выглядзе гакавая канструкцыя была выкарыстана ў XV–XVI стст. падчас умацавання Уладзімірскай вежы Наўгародскага дзядзінца (раскопкі М. Х. Аляшкоўскага 1957, 1959 і 1960 г.), дзе гародні вонкавага боку былі ўмацаваны забітымі ў зямлю каламі, а знешнія сценкі зрубаў складалі з незвычайна тоўстых бярвён дыяметрам 60–80 см, якія былі добра абчэсаны на 16–18 граняў і ўмацаваны з дапамогай такіх жа абчэсаных крукоў «курыц» (апрацаваных у выглядзе крука камлёў з часткай кораня). Пры такой схеме злучэння «курыц» кожная ніжэйшая адначасова трымала тую, што ляжала вышэй, і ўрубленае бервяно.

Згодна з данымі Ю. А. Заяца, на ўчастку раскопу 1984–1985 гг. ад гакавай канструкцыі захаваліся толькі два ярусы (гл. мал. 17). Вышэй былі прасочаны палосы спарахнелага дрэва яшчэ ад аднаго–двух прадольных бярвён. Але, мяркуючы па канфігурацыі пясчанага насыпу, які належыць да другога этапу будаўніцтва вала, драўляная агароджа з гакавымі мацаваннямі падымалася вертыкальна толькі на вышыню да 2 м, а затым ішла ў накірунку першапачатковага вала пад вуглом у 40–50° да гарызонту, што фіксавалася ў профілі раскопу.

Са знешняга боку вала другая падсыпка была зроблена з гравію, які па сваёй кансістэнцыі не мае прынцыповых адрозненняў ад аналагічнай падсыпкі з боку пляцоўкі гарадзішча. Дадзеная падсыпка перакрывае стэрыльную (?) пахаваную глебу (магутнасцю 0,05–0,14 см). У гэтай гравійнай падсып-




Мал. 17. Гакавая канструкцыя з унутранага боку вала Мінскага замчышча. Раскоп 1984–1985 гг. Паводле Ю. А. Заяца [5, рис. 6]

цы маюцца глеістыя праслойкі (спарахнелае дрэва) і асобныя праслойкі спарахнелага дрэва, што ў некаторай ступені адрознівае ўнутраную і знешнюю падсыпкі і дазваляе меркаваць аб наяўнасці драўляных канструкцый у падсыпцы з напольнага боку. Шырыня захаванай часткі знешняй падсыпкі ў заходнім профілі раскопу 2009 г. дасягае каля 5,0 м, а вышыня – да 1,3 м.

У 2009 г. у другой падсыпцы не былі выяўлены археалагічныя артэфакты, якія маглі б праліць святло на яго датаванне. Паводле меркавання Г. В. Штыхава, другая падсыпка вала ў Менску была праведзена не пазней за першую чвэрць XII ст. і, прымаючы пад увагу асобныя знаходкі керамікі XII ст. пад другой падсыпкай вала, ён лічыць, што перабудова вала была праведзена на мяжы XI/XII стст. ці, магчыма, у канцы XI ст. [17, с. 236, рис. 2].

Участак 2 раскопу 2009 г. распрацоўвалі з мэтай паўторнага раскрыцця і вывучэння стану элементаў абарончых збудаванняў Мінскага замчышча. Частка гэтых элементаў умацаванняў (кратавая субструкцыя вала з бярвён, ніжнія вянцы брамы і падпорная сценка гакавай канструкцыі для ўнутранага схілу «дабудаванай» часткі вала) былі раскрыты і вывучаны падчас прац, якія папярэднічалі будаўніцтву станцыі метро «Няміга» ў 1984 г.

Адведзены для раскопак участак на ўзроўні сучаснай дзённай паверхні меў памеры 21 × 18 м, але ў працэсе прац яго межы былі значна зменшаны. У раскопе магутнасць захаваных культурных напластаванняў перавышала 4,4 м, якія ўтрымлівалі рэшткі зрубных пабудоў, вулічных маставых і дваравых насцілаў з дошак. Было высветлена, што на дадзеным участку ўнутраны схіл вала, утвораны пасля павелічэння яго на этапе 2, мацаваўся не толькі драўлянай сценкай гакавай канструкцыі, але таксама і абкладкай схілу вала шчыльным грунтам уперамешку з дзірванам. У аснаванні гэтай «абкладкі» выяўлена «кратавая» драўляная канструкцыя, аналагічная паводле свайго ўладкавання першапачатковаму валу дзядзінца. Ю. А. Заяц адзначаў, што на Мінскім замчышчы падобны элемент вала для этапу 2 выяўлены ўпершыню (гл. мал. 18). Былі таксама прасочаны выбрукоўкі, якія таксама маглі ўваходзіць у сістэму ўмацаванняў і садзейнічаць «надзейнаму» перамяшчэнню дружыннікаў уздоўж вала.



Мал. 18. Гакавая сістэма мацавання падножжа вала старажытнай Масквы (рэканструкцыя). Паводле Т. Д. Пановай

**Абарончыя збудаванні Мінскага замчышча і мінская брама.** Аналіз матэрыялаў раскопак 1984–1985 гг. дазволіў Ю. А. Заяцу прапанаваць сваё бачанне драўлянай абарончай сцяны і выгляду мінскай брамы. Так, паводле меркавання даследчыка, пасля ажыццяўлення этапу 2 падсыпкі вала, яго вышыня склала каля 8 м пры шырыні аснавання 25–26 м, што дазволіла ўсталяваць на грэбені гарызантальныя пляцоўкі шырынёй да 4 м, на якіх маглі ўсталёўваць драўляныя зрубавыя сцены, якія завяршаліся крытымі баявымі пляцоўкамі – забароламі [5, с. 32–56; 7, с. 200–230]. У паўднёвым ўездзе ў Мінскае замчышча былі выяўлены рэшткі трох брам (умацаванняў брамы), якія паслядоўна змянялі адна другую. Ніжняя (першая) брама, якая была, відавочна, збудавана адначасова з валам, не даследавалася.

Узвядзенне брамы 2 супала з часам этапу 2 павелічэння вала (пачатак ці 20–30-я гады XII ст., паводле Ю. А. Заяца). Дадзеная брама праіснавала да канца XII – пачатку XIII ст. Брама абапіралася на два паралельныя шэрагі дубовых зрубаў-клецяў, якія былі размешчаны па абодвух баках праезду. Гэтыя клеці служылі апорай для верхніх паверхаў брамы, дзе апрача баявых насцілаў, якія злучаліся з забароламі, размешчаных на грэбені вала абарончых сцен, меліся два памяшканні – пакой для гарадской варты і надваротная царква, ці бажніца. Брама складалася з двух аб'ёмаў, якія адрозніваліся па вышыні (6 і 12 м адпаведна (мал. 20)). Нягледзячы на значную вышыню, брама ў плане мела дастаткова кампактныя памеры 17,9 × 7,7–8,1 м. Таксама як і яе папярэдніца, гэтая брама па даўжыні цалкам размяшчалася ў разрэзе першапачатковага вала. Для прадухілення асыпання пяску з новага ўчастку ў праём праезду ззаду брамы прастору паміж брамай і апорнай сценкай новага знешняга вала закрывалі сценкай з гарызантальных бярвён, умацаваных пазней вертыкальнымі слупамі. Шырыня насцілу маставой праезду складала 3,4 м, але адзін з насцілаў меў шырыню ўсяго 2,6–2,7 м.

Брама 3 захавалася толькі фрагментарна ў выглядзе клецяў левага шэрагу. Канструкцыя была змешчана адносна брамы 2 у бок р. Свіслач на 1,3 м па краі прадольных і на 0,8 м па рэшткам папярочных сцен. Шырыня насцілу маставой праезду складала 3,9–4,0 м. Выяўлены матэрыял дазваляе датаваць браму 3 другой паловай XIII – XIV ст.

Ю. А. Заяц прапанаваў свае варыянты рэканструкцыі брамы 2 (мал. 21), якія адрозніваюцца ад распрацоўкі Ю. І. Драгуна і Э. М. Загарульскага, што была зроблена па выніках прац 1960 г. (мал. 22). Памылковая інтэрпрэтацыя меркаваных рэшткаў умацаванняў брамы ў глыбіні праезду скрозь вал прывяла даследчыкаў да думкі, што вал у раёне праезду загінаўся ўнутр горада [4, с. 165, рис. 75, 86, 90], а магутнае вежападобнае ўмацаванне праезду ў дзядзінец у пачатку XII ст. было заменена простай слупавай канструкцыяй. Рэканструкцыя Ю. І. Драгуна і Э. М. Загарульскага праезду ў дзядзінец і брамы другой паловы XI ст. уяўляла з сябе дзве злучаныя драўляныя вежы з праездам. Не выключана, што да дадзенай рэканструкцыі даследчыкаў падштурхнула знаёмства аднаго з аўтараў з малюнкам Язэпа Драздовіча пад назвай «Гарадзец» (1920 г. (мал. 23 [11; 13, с. 8])). Разбурэнне дадзенай брамы Э. М. Загарульскі аднёс да канца XI – пачатку XII ст.

Ю. А. Заяц больш крытычна прааналізаваў рэшткі драўляных канструкцый брам і насцілаў-маставых, іх стратыграфічную і планіграфічную прывязку да культурнага слою і артэфактаў. Чатыры варыянты аўтарскіх рэканструкцый дазваляюць больш дакладна ўявіць магчымы выгляд брамы. Варта адзначыць, што сам аўтар схіляўся да варыянтаў 3 і 4 [5, с. 50–56, рис. 23, 24]. Паводле яго меркавання, брама складалася з двух аб'ёмаў –




Мал. 19. Унутрывальная канструкцыя першапачатковага вала. Участак 2. Мінскае замчышча. 2009 г.



Мал. 20. Гарадская брама. Мінскае замчышча. Раскопкі 1984–1985 гг.



*а*



*б*

Мал. 21. Брама 2: *а* – варыянт III; *б* – варыянт IV. Мінскае замчышча. Рэканструкцыя Ю. А. Заяца

вялікага (галоўнага) і малога. Вышыня асновы (апорнай часткі) малога аб'ёму была каля 6 м (гл. мал. 21). Гэта дазваляла наладзіць паверх яе насціл з бруствeрам не толькі з бакоў, але і з фасада. Верхні край бруствера ўзвышаўся над схілам вала як мінімум на 3,0–3,5 м.

Аснову галоўнага аб'ёму складалі тры пары клецяў. Хаця першая да полю клець правага шэрагу захавалася не цалкам, размяшчэнне апорных слупоў сведчыць, што страчаная яе папярочная сцяна знаходзілася на адной лініі са сцяной адпаведнай клеці левага шэрагу. Гэта азначае, што, нягледзячы на розніцу памераў асобных клецяў, агульная даўжыня кожнага іх шэрагу была аднолькавай ужо ў межах галоўнага аб'ёму брамы. Знешнія баявыя насцілы з бруствeрамі верхняга яруса галоўнага аб'ёму стыкаваліся з забароламі размешчаных на валу сцен. Унутраныя баявыя насцілы меліся толькі ў галоўным аб'ёме. Памяшканні верхняга яруса галоўнага аб'ёму, падзеленыя скразным праходам, мелі знешнія памеры 5,2 × 4,7 м, унутраныя памеры – 4,8 × 4,3 м. Абодва памяшканні і праход паміж імі былі перакрыты агульным дахам. Дадзены варыянт рэканструкцыі меў мноства пераваг – ад бóльшай устойлівасці пярэдняй пары клецяў да росту шчыльнасці франтальных абстрэлаў подступаў да брамы. Прататып для менскай брамы Ю. А. Заяц бачыў у Залатой браме «горада Яраслава» ў Кіеве.

## Высновы

Археалагічныя даследаванні дзядзінца Менска сведчаць, што ў канцы XI – пачатку XII ст. адбыліся маштабныя будаўнічыя і земляныя работы, звязаныя з узвядзеннем магутных абарончых збудаванняў, была зроблена спроба будаўніцтва каменнай царквы, ішло фарміраванне драўлянай забудовы горада, вулічнай сеткі. На суседнім узвышшы (сучасны раён плошчы Свабоды з вуліцамі Кірыла і Мяфодзія, Герцэна, завулкам Музычным) пачалі фарміравацца гарадскія пасады. Падчас раскопак апошніх гадоў атрыманы багатыя матэрыялы, якія сведчаць аб развітой матэрыяльнай і духоўнай культуры Менска. Узнікла натуральнае пытанне верыфікацыі даных археалогіі і гісторыі. Але, ці маецца гістарычная персона, з якой і магчыма звязаць імклівае афармленне Менска ў гэты час? На нашу думку, у гэтым выпадку існуюць пераканаўчыя доказы для атаясамлівання гэтых работ з дзейнасцю першага мінскага князя – Глеба Усяслававіча († 1119 г.). Найбольш яскравымі тут з'яўляюцца абарончыя збудаванні і фундаменты храма. Праблему іх датавання даследчыкі неаднаразова абмяркоўвалі [1, с. 203–207; 3, с. 118–121; 4, с. 151–167, 189–202; 5; 6, с. 26– 31; 16, с. 72–81 і інш.] і прапаноўвалі дастаткова абгрунтаваныя аўтарскія канцэпцыі як аб часе ўзвядзення ўмацаванняў, так і аб працах па будаўніцтве храма. Аналіз наяўных археалагічных матэрыялаў і аўтарскіх канцэпцый, схіляе нас да высновы аб бóльшай перспектыўнасці канцэпцыі Ю. А. Заяца, які адмаўляе атаясамліванне падзей сакавіка 1067 г. з Менскам на р. Свіслач (Нямізе), якое здзейснілася толькі пасля 1084/85 г. [6, с. 29–30]. На нашу думку, гэта дата і з'яўляецца тым храналагічным рэперам, ад якога магчыма адлічваць існаванне ўдзела Глеба Усяслававіча. На карысць даты 1084/85 г. сведчаць і звесткі аб жаніцьбе Глеба Усяслававіча на дачцэ ўладзіміра-валынскага князя Яраполка Ізяслававіча Анастасіі Яраполкаўне (каля 1074 г. – 8 студзеня 1159 г.). Шлюб мог адбыцца да 1086 г., таму што



Мал. 22. Гарадская брама (макет). Мінскае замчышча. Рэканструкцыя Ю. І. Драгуна і Э. М. Загарульскага




Мал. 23. «Гарадзец». 1920 г. Малюнак Я. Н. Драздовіча

22 лістапада 1086 г. Яраполк быў здрадніцкі забіты [4, с. 16]. Старажытнарускія летапісы сведчаць, што князі маглі надзяляць сыноў удзеламі (землямі) яшчэ пры сваім жыцці, звычайна пасля шлюбу сына альбо пасля дасягнення ім пэўнага ўзросту. На падставе гэтай даты, можна лічыць, што прыкладна ад 1085–1086 гг. мог існаваць выдзелены Глебу Менскі ўдзел, актыўная экспасіяніcцкая дзейнасць якога яскрава прасочваецца пасля смерці яго бацькі Усяслава Брачыслававіча «Чарадзея».

Паход 1084/85 г. і жаніцьба Глеба (да 1086 г.) таксама могуць з’яўляцца «часткамі аднаго ланцуга», бо паход Уладзіміра Манамаха 1084–1085 г. першапачаткова быў накіраваны супраць Яраполка Ізяслававіча (цесця Глеба), які збег у Польшчу, і толькі потым супраць Менска [4, с. 18]. Гэтыя падзеі ў хуткім часе і абумовілі «перанос» Менска з р. Менка на берагі р. Свіслач і Няміга, а таксама фарміраванне новага цэнтра воласці (княства Глеба). Атрымацца гэта магло толькі дзякуючы велізарным людскім і грашовым намаганням Усяслава і Глеба, якія імкнуліся ўзвесці на паўднёвых межах сваёй зямлі магутную крэпасць, якая магла бы супрацьстаяць кіеўскай пагрозе. Не выключана, што менавіта гэтыя фартыфікацыйныя работы адыгралі вызначальную ролю ў абароне Менска ў 1104, 1116 і 1119 г. Каму, як не Усяславу і Глебу, было патрэбна, каб ў горада існавала такая моцная фартыфікацыя, прычым узведзеная ў дастаткова кароткі тэрмін? Да таго ж час будаўніцтва брамы 2 суадносіцца з перыядам княжання Глеба Усяславіча, які неаднаразова бываў у Кіеве і фінансаваў будаўніцтва трапезнай Пячэрскага манастыра. Капіраванне асноўных архітэктурных прыёмаў магло адбыцца і ў 1120–30-я гады, калі Менск часова знаходзіўся пад уладай Кіева, а горадам кіравалі прадстаўнікі кіеўскага княжацкага дому. Чацвёрты варыянт рэканструкцыі брамы прадугледжвае наяўнасць на верхнім ярусе галоўнага аб’ёму надбрамнай царквы. Магчымасць дадзенай рэканструкцыі базіруецца на размяшчэнні на галоўным аб’ёме царквы кіеўскай Залатой брамы. Надбрамны храм надаваў праезду і гораду боскую абарону. Варта адзначыць тое, што геаграфічнае размяшчэнне брамы Мінскага замчышча забяспечвала амаль кананічную арыентацыю такога храма.

Цікавасць выклікае каменны фундамент храма памерамі 16 × 12 м, які выяўлены ў паўночнаўсходняй частцы дзядзінца яшчэ В. Р. Тарасенкам у 1949 г. і які ў далейшым неаднаразова вывучаўся Э. М. Загарульскім, Л. В. Аляксеевым, Г. В. Штыхавым (мал. 24). Адзінае, у чым згодныя навукоўцы, гэта тое, што па сваіх будаўніча-тэхнічных асаблівасцях выяўлены храм не мае дакладных аналогій сярод адначасовых культавых манументальных збудаванняў Старажытнай Русі. Парушэнне методыкі раскопак падобных помнікаў прывяло да таго, што даследчыкі па-рознаму вызначаюць час яго ўзвядзення. Аўтары артыкула лічаць, што заказчыкам храма мог быць Глеб Усяслававіч і толькі яго паланенне і змена палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў княстве не дазволіла завяршыць будаўніцтва. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што менавіта калі Менск належыў Глебу, адзінаму з шасці сыноў Усяслава Брачыслававіча, у гэтым горадзе распачалося каменнае будаўніцтва храма. Глеб Усяслававіч, як і яго знакаміты бацька, які па прыкладу з Канстанцінопаля, Кіева і Ноўгарада



*а*




*б*

Мал. 24. Фундамент царквы: *а* – фота; *б* – план. Мінскае замчышча. Паводле В. Р. Тарасенкі

адбудаваў у Полацку Сафійскі сабор, таксама імкнуўся ўзвесці ў сталіцы свайго княства каменны храм. Да таго ж летапіс адназначна сведчыць аб прыхільнасці Глеба Усяслававіча да дзейнасці царквы. Велізарныя грашовыя ахвяраванні Кіева-Пячорскаму манастыру з боку Глеба і Анастасіі ўражваюць сваімі памерамі. Нават мяркуючы па гэтым факце, няўжо ў Глеба Усяслававіча не хапіла б грашовых рэсурсаў да ўзвядзення ў Менску каменнай царквы? Відавочна, што тут умяшаліся фактары яго палону і хуткай смерці.

Такім чынам, можна казаць аб тым, што фартыфікацыйныя збудаванні Мінскага замчышча, прынамсі ў яго паўночна-заходняй частцы, вывучаны дастаткова поўна ў выніку даследаванняў канца 1950-х, сярэдзіны 1980-х гадоў і прац 2009 г. Падчас усіх пералічаных раскопак атрыманы падобныя археалагічныя сведчанні ўзвядзення і перабудовы абарончых збудаванняў, а таксама аб канструктыўных асаблівасцях структуры вала і ўнутрывальных збудаванняў.

У той жа час трэба адзначыць, што на дадзены момант фактычна адсутнічае інфармацыя аб характары і асаблівасцях абарончых збудаванняў (вала, унутрывальных канструкцый, рова) на астатніх участках фартыфікацыйнай лініі старажытнага Менску. Акрамя таго, не зразумелымі прадстаўляюцца тэндэнцыі, асаблівасці і развіццё абарончых збудаванняў Мінскага замчышча і вакольнага горада ў больш позні час – XIV–XVII стст.

**Літаратура**

1. Алексеев, Л. В. Полоцкая земля. Очерк истории Северной Белоруссии в IX–XIII вв. / Л. В. Алексеев. – М. : Наука, 1966. – 296 с. : ил.

2. Алексеев, Л. В. «Менские дреговичи» и полоцкие князья / Л. В. Алексеев // Российская археология. – 1998. – № 2. – С. 100–112.

3. Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры / Л. В. Алексеев. – М., 2006. – Кн. 1. – 289 с.

4. Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Мінск : Издательство БГУ, 1982. – 358 с. : ил.

5. Заяц, Ю. А. Оборонительные сооружения Менска XI–XIII вв. / Ю. А. Заяц. – Мінск : Издатель В. Н. Милютин, 1996. – 80 с. : ил.

6. Заяц, Ю. А. К проблеме первоначального Менска (сравнительная хронология поселения на реках Немига и Мена) / Ю. А. Заяц // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск, 2005. – № 9. – С. 26–31.

7. Заяц, Ю. А. Отчет об археологических исследованиях участка-2 на территории Замчища летом 2009 г. / Ю. А. Заяц // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск, 2012. – Вып. 24. – С. 200–230.

8. Калядзінскі, Л. У. Пра абарончы вал дзядзінца летапіснага Віцебска / Л. У. Калядзінскі // Заслаўскія чытанні. – Заслаўе, 1997. – С. 57–60.

9. Комар, А. В. Киев и Правобережное Поднепровье / А. В. Комар // Русь в IX–X веках : археологическая панорама. – М. ; Вологда : Древности Севера, 2012. – С. 300–333.

10. Куза, А. В. Фортификация / А. В. Куза // Древняя Русь. Город, замок, село / Археология СССР. – М. : Наука, 1985. – С. 167–172.

11. Ліс, А. Вечны вандроўнік : Нарыс пра мастака Язэпа Дзраздовіча / А. Ліс. – Мінск : Юнацтва, 1984. – 253 с. : іл.

12. Панова, Т. Д. Раскопки 1959–1960 гг. в Московском Кремле. Открытия, сделанные спустя полвека / Т. Д. Панова // Древности Пскова. Археология. История. Архитектура. – Псков, 2011. – Вып. 2. – С. 219–244.

13. Плавінскі, М. А. Язэп Драздовіч і мінская брама / М. А. Плавінскі // Літаратура і мастацтва. – 2013. – 8 чэрв. – С. 8.

14. Рабинович, М. Из жизни древней Москвы / М. Рабинович, Г. Латышева. – М. : Московский рабочий, 1961. – 197 с. : ил.

15. Раппопорт, П. А. Военное зодчество западнорусских земель X–XIV вв. / П. А. Раппопорт / Материалы и исследования по археологии СССР. – М., 1967. – № 140. – 242 с. : іл.

16. Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск : Наука и техника, 1978. – 160 с. : ил.

17. Штыхов, Г. В. Археологические раскопки в Минске в 80-е годы XX века / Г. В. Штыхов // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2004. – Вып. 19. – С. 232–240.

**Резюме**

*В. И. Кошман, Н. А. Плавинский*

**К вопросу об оборонительных сооружениях Минского замчища**

Проведен анализ существующих данных о фортификационных сооружениях Минского замчища. Можно считать, что фортификация Минского замчища, по крайней мере в его северо-восточной части, изучена достаточно полно в результате исследований конца 1950-х годов, середины 1980-х годов и работ 2009 г. В ходе всех перечисленных раскопок получены сходные археологические свидетельства о возведении и перестройке оборонительных сооружений, а также о конструктивных особенностях структуры вала и внутривальных сооружений. В то же время информация об особенностях оборонительных сооружений (вала, внутривальных конструкций, рва) на остальных участках фортификационной линии древнего Менска сегодня фактически отсутствует. Кроме того, непонятными представляются тенденции, особенности и развитие оборонительных сооружений Минского замчища и окольного города в более позднее время (XIV–XVII вв.).

**Summary**

*V. I. Koshman, M. A. Plavinski*

**On the Defensive Constructions of Minsk Zamchyshcha**

This article analyzes the existing data on the fortifications of the Minsk hillfort. We can assume that the Minsk hillfort fortification, at least in the north-eastern part, studied adequately as a result of research in the late 1950s, mid-1980s and of excavations of 2009. All these excavations produced similar archaeological evidence of construction and reconstruction of fortifications, as well as of constructive peculiarities of shaft and the inside shaft tubular structures. At the same time, at the moment we almost have no information about the characteristics of defensive structures (shaft, inside shaft structures, ditch) of other parts of the ancient fortification line of Mensk. In addition, no clear trends are presented, the features and the development of defensive structures Zamchyshcha roundabout and the city at a later time ($14^{th}$–$17^{th}$ centuries).

*Паступіў 22.09.2014 г.*

УДК 904:666.17(476)

***П. С. Курловіч-Бяляўская,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Тэхналогія вытворчасці шкляных сасудаў XVI–XIX стст. з тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі

На працягу XVI–XIX стст. шкляныя вырабы займаюць усё больш трывалае месца ў матэрыяльнай культуры насельніцтва Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі. Аб гэтым сведчыць павелічэннне іх канцэнтрацыі ў культурным слоі, пашырэнне асартыменту вырабаў, іх значная функцыянальная і дэкаратыўная разнастайнасць. Такое развіццё вырабаў са шкла стала мажлівым, дзякуючы станаўленню і імклівай эвалюцыі новай гутнай тэхналогіі шкларобства, што прывяло ў канчатковым выніку да татальнага пераходу ў канцы XIX ст. на прамысловую арганізацыю шкляной вытворчасці.

Асобным аспектам праблемы тэхналогіі вытворчасці шкляных вырабаў новага часу прысвечаны адпаведныя раздзелы шэрагу айчынных публікацый. У свой час да гэтага пытання звярталіся М. Ф. Жаўрыд [4], М. М. Яніцкая [14, 16], В. Е. Собаль (сумесна з М. М. Яніцкай) [8], А. А. Салаўёў [9] і інш. Даследаванне пытанняў тэхналогіі шкла мусіць быць заснавана на падставе захаваўшыхся да нашых дзён дакументаў у спалучэнні з іканаграфічнымі крыніцамі. Гэтыя звесткі павінны адаптавацца да наяўнага археалагічнага матэрыялу. Для гэтага ў асобных артэфактах павінны быць вылучаны наступныя тэхналагічныя прыкметы, якія сведчаць аб спосабе іх вытворчасці: марфалогія вырабу, склад сыравіны і аздабленне. Папоўніць дакументальную і рэчазнаўчую інфармацыю могуць даныя археалагічных раскопак шкларобчых майстэрань – гут, а таксама рэтраспекцыя на позняе сярэдневякоўе–Новы час пэўных сучасных тэхналогій.

Шкляныя вырабы XVI–XIX стст. прадстаўлены пяццю катэгорыямі, такімі, як: сасуды, інтэр’ернае шкло, упрыгажэнні і дэталі вопраткі, аптэчнае шкло, іншыя вырабы. Катэгорыя сасудаў з’яўляецца найбольш шматлікай і характарызуецца значнай тэхналагічнай разнастайнасцю. Да яе належаць сталовыя (тарныя сасуды і сасуды для піцця), тэхнічныя (аптэкарскія і лабараторныя сасудзікі рознага кшталту, парфумерныя флаконы, чарнільніцы, лампадкі) і дэкаратыўныя начынні. Найбольш шматлікія і разнастайныя сталовыя сасуды. Да іх ліку адносяцца тарныя сталовыя начынні для доўгачасовага – з трывала мацуючымся коркам (бутэлькі розных відаў, бутлі, біклагі) – і кароткачасовага (збаны, графіны розных відаў, цукарніцы, сальніцы) захавання, як правіла, напояў; а таксама сасуды для піцця і спажывання прадуктаў харчавання (розных відаў келіхі, кілішкі, чаркі, шклянкі, куфлі, міскі і талеркі). Менавіта начынні былі галоўнай прадукцыяй майстроў-шкларобаў, а іх вывучэнне дазваляе прасачыць усе асаблівасці развіцця тэхналогіі шкларобства на працягу Новага часу.

Марфалогія і аздабленне з’яўляюцца найбольш інфармацыйнымі тэхналагічнымі прыкметамі шкляных сасудаў. Іх візуальны аналіз дазваляе з пэўнай доляй верагоднасці вызначыць спосаб і час вытворчасці, а таксама рэгіён, з якога паходзяць вырабы, што вывучаюцца. Склад сыравіны ўплываў на колер шкламасы. Вызначыць дакладную хімічную формулу шыхты дазваляе спектральны аналіз, які двойчы праводзіўся для шкла Новага часу на тэрыторыі Беларусі [17, с. 83; 10, с. 68]. Аднак адсутнасць баз даных крыніц сыравіны не дазваляе атрымаць на яго падставе значныя вынікі. Таму больш увагі трэба надаваць вызначэнню каляровай гамы вырабу. Лагічна, што адрозненні ў колеры маглі мець месца ў прадукцыі розных майстэрань.

Па паходжанні шкляныя сасуды XVI–XIX стст. падзелены на дзве групы. Да першай належыць шкло, выяўленае пераважна падчас даследаванняў археалагічных помнікаў. Яно, як правіла, было разлічана на масавае карыстанне, мела дастаткова грубы выгляд, простыя формы, неахайную апрацоўку пасля выраблення. Іншая група шкляных сасудаў звычайна трапляла ў склад музейных калекцый ад калекцыянераў і належыць да твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Толькі адзінкавыя артэфакты гэтага кшталту маюць археалагічнае паходжанне (напрыклад, [10]). З’яўленне прамысловай вытворчасці шкляных вырабаў у канцы XIX ст., калі былі вынайдзены новыя тэхналогіі, дазволіла паставіць на паток якасную па-мастацку афармленую прадукцыю з невялікімі на гэта выдаткамі. У гэты час павялічыўся якасны ўзровень шкла як археалагічнага, так і калекцыйнага паходжання.

Арганізацыя вытворчасці масавых шкляных вырабаў на тэрыторыі Беларусі слаба асветлена ў гістарычных крыніцах. У гэты ж час захаваліся пісьмовыя звесткі аб тэхналагічных асаблівасцях і арганізацыі вытворчага працэсу на беларускіх шкларобчых мануфактурах, дзе выраблялі па-мастацку афармленыя сасуды, разлічаныя на заможных спажыўцоў [4, с. 34–39; 14, с. 39–46, 54]. Характарыстыка вытворчасці танных масавых шкляных начынняў магчыма на падставе пераносу на яе

агульных тэхналагічных схем, якія выкарыстоўвалі для элітарных вырабаў. Такі падыход дае станоўчы вынік, улічваючы, што візуальны аналіз шкляных артэфактаў дазваляе прасачыць спосабы і асаблівасці іх фармоўкі на падставе тэхналагічных прыкмет.

**Зараджэнне і станаўленне гутнай вытворчасці шкляных вырабаў (тэхналогія выдзімання).** Гутная вытворчасць шкляных вырабаў ажыццяўлялася ў шкларобчых майстэрнях. Яна была заснавана на тэхналогіі выдзімання, калі асноўныя аперацыі па фармоўцы патрабавалі выкарыстання выдзімальнай трубкі і понціі (жалезнага прута, на якім утрымліваўся выраб пасля выдзімання, калі неабходна аформіць яго верхнюю частку ці нанесці дэкор [8, с. 91]). След ад понціі на донцы артэфакта (мал. 1) – галоўнае сведчанне яго фармоўкі выдзіманнем, паколькі іншым спосабам дааформіць начынне не было мажлівасці. І ў сучасным шкларобстве гутным спосабам вырабляюць асобныя мастацкія шкляныя вырабы.



Мал. 1. Донца бутэлькі са следам ад понціі [2, б/н]. Копысь. Раскопкі Э. М. Загарульскага

На тэрыторыі Багеміі і Польшчы гуты вядомы з XIV ст. [19, с. 37; 21, с. 45], на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага – з XVI ст. [4, с. 32]. Як правіла, яны ўяўлялі з сябе адносна невялікія майстэрні, якія складаліся з адной ці дзвюх печаў. У гутах былі арганізаваны зоны для варкі шкла, фармоўкі з яго вырабаў, паступовага астывання прадукцыі і наступнага яе аздаблення. У якасці сыравіны звычайна выкарыстоўвалі мясцовыя пясок і шчолак (паташ – выпаленую драўніну). Каб мець добры доступ да крыніц сыравіны, а таксама ў сувязі з высокай пажаранебяспечнасцю вытворчасці шкларобчыя майстэрні будавалі, як правіла, не ў гарадах, а пры магнацкіх маёнтках у сельскай мясцовасці. Гэтым тлумачыцца і слабая даследаванасць гут беларускімі археолагамі, якія ў асноўным вывучалі гарадскія помнікі Новага часу.

Сёння на тэрыторыі Беларусі вядомы тры месцазнаходжанні шкляных артэфактаў, якія можна інтэрпрэтаваць як гуты (без уліку звестак аб мясцовай вытворчасці шкла ў пісьмовых крыніцах). Высновы аб існаванні мсціслаўскай шкларобчай майстэрні зроблены на падставе выяўлення падчас археалагічных раскопак у 1983 г. шкляных шлакаў, бракаваных форм, асобных канструкцыйных элементаў вырабаў, хімічнага аналізу шкла і аднолькавасці формаў шклянога і керамічнага посуду [17, с. 92]. Аб гуце ў в. Ілля Вілейскага раёна напісаў у падручніку «Уводзіны ў археалогію» Л. У. Калядзінскі [5, с. 31]. Трэцяя гута была размешчана на тэрыторыі Езуіцкага калегіума ў Полацку, аб чым, паводле даследчыка, сведчыць наяўнасць тут рэшткаў шкламасы, «баначак», нарыхтовак і абрэзкаў ад выдзіманых вырабаў, шклянога браку [9, с. 90]. Але нягледзячы на тое, што шкларобчыя майстэрні вядомы на тэрыторыі Беларусі, яны іх не даследавалі на вялікай плошчы. На жаль, так і не былі выяўлены рэшткі печаў, акрэслены зоны арганізацыі рабочай прасторы, вывучаны інструменты шкларобаў і г. д.

Тэхналогія выдзімання, якую выкарыстоўвалі падчас гутнай вытворчасці начынняў са шкла, прадугледжвала тыповы набор аперацый па фармоўцы, характэрны для сусветнага гутнага шкларобства сярэдневякоўя–Новага часу. Рэканструяваць яго дазваляюць асобныя іканаграфічныя крыніцы [15, с. 10; 20, с. 102]. Атрыманню гатовага вырабу папярэднічалі некалькі этапаў працы, пачынаючы з нарыхтоўкі шыхты (галоўным чынам здабывання пяску і выпальвання паташу) і заканчваючы аздабленнем сасуда. Каб забяспечваць адначасовае выкананне ўсіх этапаў вытворчасці, на гуце павінны былі працаваць каля 10 чалавек, кожны з якіх адказваў за сваю частку працы. Па матэрыялах пісьмовых крыніц вядомы прафесійны склад гут другой паловы XIX – пачатку XX ст. На чале майстэрні стаяў гутны майстар. Акрамя яго тут працавалі выдзімальшчык, падавальшчык (баначнік), аздобнік, аддзельшчык, апальшчык, сталяр, каваль [16, с. 10].

Перад фармоўкай начыння неабходна было падрыхтаваць шкламасу. Яе варылі ў спецыяльнай печы ў трывалых вогнетрывалых гаршках. Для атрымання добраваранага шкла неабходна была высокая раўнамерная тэмпература, падтрымліваць




Мал. 2. Ніжняя частка штофа з бурбалкамі паветра ў шкламасе [1, КП 19319/18]. Віцебск. Раскопкі В. М. Ляўко

якую тагачасным шкларобам было вельмі складана. Аб недастатковай ступені праваранасці шкла сведчаць бурбалкі паветра, якія звычайна ў вялікай колькасці ўтрымліваюцца ў гутных вырабах (мал. 2). Адрозненні хімічнага складу шыхты ўплывалі на разнастайнасць каляровай гамы гатовых начынняў.

Асноўны асартымент гутных шкляных сасудаў быў выкананы з празрыстага зялёнага, зялёна-жоўтага, зеленавата-сіневатага ці карычневага шкла розных адценняў. Такі колер вырабам надавалі дамешкі, якія ўваходзілі ў склад шыхты. Пазбаўленне ад іх дазваляла атрымаць бясколернае празрыстае шкло. Спажыўцы высока цанілі ачышчаныя ад дамешкаў начынні, бо яны нагадвалі вырабы з прыроднага хрусталю. Такое шкло ў Еўропе набыло вялікую папулярнасць у XVI–XVII стст. Пры гэтым паралельна выкарыстоўвалі дзве тэхналогіі ачысткі. Венецыянскія (першапраходцы ў галіне вынаходніцтва хрусталёвага шкла) і багемскія майстры выраблялі яго, дадаючы ў склад шыхты крэйду. Англійскія майстры дадавалі ў склад шкламасы злучэнні на падставе свінцу [18, с. 204]. На тэрыторыі Беларусі хрустальнае шкло выраблялі ў XVIII ст., верагодна, таксама з дадаваннем крэйды [4, с. 35]. Нягледзячы на тое, што ачышчанае шкло было бясколерным, прадукцыя кожнага з вытворцаў мела сваё адценне. Так, урэцкія хрустальныя вырабы былі ружова-фіялетавыя [11, с. 43], прадукцыя венецыянскіх майстроў магла мець блакітнаватае адценне [10, с. 138]. Аднак большасць начынняў для масавага карыстання, сфармаваных па тэхналогіі выдзімання, працягвалі вырабляць з неасветленага шкла.

Сярод выдзіманых начынняў, выяўленых на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі, сустракаюцца таксама вырабы з каляровага шкла. Так, напрыклад, падчас археалагічных раскопак у Мінску былі выяўлены сасуды для піцця з жоўтага і бірузовага шкла [8, с. 85]. Выкарыстанне ў XVIII ст. фарбавальнікаў (цэрыя, салетры, вокісу антымонію, віннакаменнай кіслаты, аршэніку, двухвокісу марганцу, лазуры і серы) дазваляла вырабляць начынні жоўтага, сінега, фіялетавага, чырвонага і зялёнага колераў [14, с. 47]. Але яны, як правіла, былі разлічаны на заможных спажыўцоў. Акрамя таго, вядомы асобныя вырабы з непразрыстага глухога шкла розных колераў. Для вытворчасці малочнага шкла («колеру фаянсавага») у склад шыхты дадавалі касцяную муку [14, с. 75]. Так, падчас археалагічных даследаванняў 2013 г. у Оршы была выяўлена ніжняя частка выдзіманай блакітнай непразрыстай шклянкі [7, с. 103, фото 53: *1*]. Найбольш дарагія вырабы фармавалі з «рубінавага» (фарбаванага калоідным золатам) шкла. Гэтую тэхналогію вынайшаў Ян Кункель у канцы XVII ст. На тэрыторыі Беларусі яго выраблялі на Налібоцкай гуце ў XVIII ст. [14, с. 39].

Пасля таго, як шкламаса была выварана, майстар мог распачынаць выдзіманне сасудаў. Гэты працэс ажыццяўлялі пры дапамозе металічнай выдзімальнай трубкі. Яе даўжыня павінна была быць такой, каб шклароб мог у адзін канец удуваць паветра, трымаючы будучы выраб на другім канцы на ўзроўні падлогі. Фармоўку ажыццяўлялі на адмысловай рабочай паверхні, зробленай, верагодна, з металу ці каменю. Каб падтрымліваць неабходную для вытворчасці тэмпературу, канец выдзімальнай трубкі з вырабам, які падвяргалі фармаванню, маглі падаграваць у печы.

Гутную вытворчасць шкляных начынняў ажыццяўлялі двума спосабамі: адвольным выдзіманнем і выдзіманнем з выкарыстаннем формы. Адвольнае выдзіманне з'яўляецца храналагічна найбольш ранняй тэхналогіяй. Выраблены такім спосабам сасуды сустракаюцца на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі з другой паловы XVI ст. Прыблізна з сярэдзіны XVII ст. тут з'явіліся начынні, сфармаваныя з выкарыстаннем формы. Аб тым, якую тэхналогію выдзімання выкарыстоўвалі, сведчыць знешні выгляд гатовых сасудаў.

У выніку адвольнага выдзімання атрымліваліся часам крыху асіметрычныя танкасценныя начынні з тонкімі вогнутымі донцамі (мал. 3: *3, 5–7, 9, 10*). Іх адразу пасля фармоўкі бралі на понцію для афармлення верхняй часткі і нанясення разнастайных ляпных элементаў. Найбольш распаўсюджаным відам начынняў, што выраблялі адвольным выдзіманнем, былі танкасценныя шклянкі – шкляніцы (мал. 3: *10*), якія ў значнай колькасці сустракаюцца ў культурным слоі помнікаў Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі. З археалагічных раскопак Копысі пад кіраўніцтвам Э. М. Загарульскага ў 1972 г. паходзіць выкананы па гэтай тэхналогіі куфаль (мал. 3: *6*). Адвольным выдзіманнем фармавалі і іншыя шкля-




Мал. 3. Шкляныя начынні, сфармаваныя спосабам выдзімання: *1, 4, 7, 8* – [13], Віцебск, раскопкі В. М. Ляўко; *2, 3, 6, 9, 10* – [2, № 19, 4, 100, 50, 2 адпаведна], Копысь, раскопкі Э. М. Загарульскага, 1972 г.; *5* – [13], Орша, раскопкі В. М. Ляўко. Рэканструкцыя П. С. Курловіч-Бяляўскай

ныя начынні: кілішкі (мал. 3: *3*), біклагі (мал. 3: *5*), бутэлькі з шарападобным тулавам (мал. 3: *7*), чаркі (мал. 3: *9*) і інш. Высокі адсотак вырабленых па гэтай тэхналогіі сасудаў – адметнасць тэрыторыі Беларусі ў параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы.

Іншы, менш пашыраны, спосаб прадугледжваў выкарыстанне формы, у якую залівалі расплаўленае шкло для фармавання донца начыння, а затым адтуль выдзімалі «баначку» (паўторна набраную кроплю шкламасы). Потым выраб бралі на понцію, выдзімальную трубку адбівалі, і можна было пераходзіць да далейшага афармлення сасуда [8, с. 85, 87]. Такім чынам выраблялі начынні для піцця (мал. 3: *4, 8*), а таксама сасуды для захавання вадкасцей (мал. 3: *1*). Падобным чынам, з выкарыстаннем «баначкі», фармавалі і аптэчныя флаконы розных памераў і форм, якія, адпаведна са стратыграфіяй гістарычнага цэнтра Мінска, датаваны XVII–XVIII стст. Іх донцы спачатку выдзімалі ў форму, якая ў цэнтры мела круглы высокі выступ. Астатнюю частку сасуда выраблялі метадам набірання «баначкі». Пасля гэтага флакон бралі на понцію з мэтай афармлення яго высокай і вузкай гарлавіны [8, с. 89]. Падобныя вырабы вядомы і па матэрыялах іншых помнікаў Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі, напрыклад у Копысі (мал. 3: *2*).

Пры вытворчасці канкрэтных відаў вырабаў выкарыстоўвалі адпаведныя адметнасці ў тэхналогіі. Так, прамакутныя бутэлькі – кварты і штофы – выраблялі ў некалькі прыёмаў. Іх плечыкі маглі фармаваць разам з рыльцам, асобна ад рыльца і тулава кварты, радзей – разам з тулавам і інш. Калі начынне выраблялі шляхам адвольнага выдзімання, тады чатырохбаковую форму ўтваралі ў выніку прышлёпвання шкла лапатачкай. Кароткую шыйку вылеплівалі шчыпцамі з асобнага кавалка шкла




Мал. 4. Плечыка кварты са следам ад прымацаванай шыйкі [2, б/н]. Копысь. Раскопкі Э. М. Загарульскага

і ў гарачым стане прыляплялі да тулава [14, с. 23] (мал. 4). У тым выпадку, калі майстра выкарыстоўваў форму, былі неабходны 2–3 наборы шкла «на баначку» [17, с. 84]. Сляды ад такіх дабораў шкламасы добра бачны на гатовых вырабах (мал. 3: *1*). Асобныя сасуды маглі вырабляць з паўфабрыкатаў. Напрыклад, частку званападобных кубкаў без паддонаў можа разглядаць як нарыхтоўку для вытворчасці келіхаў [17, с. 89].

У адпаведнасці са сваёй марфалогіяй шкляныя начынні складаліся з асноўных і дадатковых элементаў. Да ліку першых належаць структурныя часткі любога сасуда (венца, шыйка, плечыка, тулава і донца). Дадатковыя элементы забяспечвалі своеасаблівасць канкрэтных відаў вырабаў і маглі выконваць як функцыянальную, так і эстэтычную функцыю (але часцей абедзве). Ножкі келіхаў і кілішкаў (мал. 3: *3*) маглі выдзімаць разам з тулавам ці вырабляць асобна і прымацоўваць у гарачым стане. Форму ім надавалі пры дапамозе адмысловых шчыпцоў. У выніку атрымліваліся структурныя элементы ножкі – балясіны, дыскі і яблыкі ў розных спалучэннях [8, с. 86]. Рыльцы сасудаў для доўгачасовага захавання вадкасцей афармлялі двума спосабамі: налепам 1–2 круглых жгутоў ці сплошчаных стужак (мал. 3: *1, 7*), а таксама шляхам гладкай заробкі (мал. 1: 5), калі вусце рабілі крыху пашыраным [8, с. 87]. Падчас фармоўкі збаноў і куфляў да пачатку астывання сасуда збоку да яго прымацоўвалі выробленую асобна ручку. Гэтыя элементы, як правіла, выраблялі ці з шырокай трохчастковай стужкі (мал. 3: *6*), якая складалася са змацаваных разам жгутоў, ці з гладкага шырокага шклянога жгута [17, с. 84; 6, с. 77]. Для трываласці шэрагу выдзіманых шкляных начынняў XVI–XIX стст. асобна фармавалі наляпны паддон. У літаратуры іх падзяляюць на кальцавыя (валікападобныя, рабрыстыя), петлепадобныя, хвалістаўкладзеныя і цыліндрычныя [17, с. 88]. Вядомы шклянкі (шкляніцы), збаны, куфлі і біклагі на паддонах (мал. 3: *5, 6, 10*).

Аздабленне шкляных вырабаў, сфармаваных адпаведна з тэхналогіяй адвольнага выдзімання, залежала ад фінансавых магчымасцей і густаў спажыўца. Адным з найбольш простых і ў той жа час вельмі пашыраным быў пластычны дэкор, які прадугледжваў нанясенне на яшчэ не састылы выраб шкляных стужак, жгутоў, ніцей і інш. [8, с. 91]. Усе «ляпныя пячаткі» на «квартах» (верагодна, маюцца на ўвазе штофы), якія В. Е. Собаль і М. М. Яніцкая [8, с. 87] разглядалі як спосаб пластычнага аздаблення, хутчэй за ўсё, з’яўляліся клеймамі і іх выкарыстоўвалі для пазначэння месца вытворчасці ці прыналежнасці дадзеных сасудаў. Часцей за ўсё клеймы змяшчалі на плечыках прамакутных бутэлек – штофаў. Пластычны дэкор выконваў эстэтычную і адначасова ўтылітарную функцыю. З-за гэтага часам дастаткова складана вызначыць мяжу паміж элементамі пластычнага дэкору і дадатковымі марфалагічнымі элементамі сасудаў. Паддоны ў выглядзе хвалістых жгутоў вакол донца (мал. 3: *6, 10*) павялічвалі ўстойлівасць начыння, простыя ці рыфлёныя налепы на тулаве (мал. 3: *5, 6, 10*) – яго трываласць. Фігурныя ручкі і жгуты на горлышках вырабаў выкарыстоўвалі для трымання сасудаў і іх замацавання коркам адпаведна.

Больш дарагія вырабы распісвалі золатам і эмалямі [8, с. 87; 10, с. 139]. Эмалі маглі быць чырвонага, белага, жоўтага, блакітнага, чорнага і зялёнага колераў. Арнаментальныя матывы былі прадстаўлены раслінным, геаметрычным і арабескавым сюжэтамі [17, с. 90]. З археалагічных раскопак Оршы пад кіраўніцтвам В. М. Ляўко ў 1988 г. паходзяць тры фрагменты шкла з роспісам (мал. 5). На жаль, сюжэтна ідэнтыфікаваць выяву не мажліва з-за малых памераў фрагментаў. Аднак можна вызначыць, што на адным з іх выяўлена чалавечая фігура ў строі белага, жоўтага і барвовага колераў.

Граненне і гравіроўка з’явіліся ў еўрапейскім шкларобстве ў XVII ст., аднак на тэрыторыі Беларусі ў гэты час іх не выкарыстоўвалі з-за складанасці гэтых тэхнік. Для іх патрабаваліся адмысловыя станкі, прыстасаванні, прылады, а таксама будаўніцтва млыноў для прывядзення ўсёй




Мал. 5. Шкляныя вырабы з размаляваным дэкорам (*1–3*; фрагменты) [12, КП 1552]. Орша. Раскопкі В. М. Ляўко

гэтай сістэмы ў рух [14, с. 17]. Таму на беларускія землі граненне і гравіроўка былі прынесены толькі ў XVIII ст. саксонскімі і багемскімі майстрамі [11, с. 43]. Менавіта ў гэты час тут з'явіліся і першыя шкляныя мануфактуры Радзівілаў і Тызенгаўза. Да 1750–60-х гадоў яны дзейнічалі ў рэчышчы правінцыйнага нямецкага шкларобства. Адрозненні паміж імпартнымі і мясцовымі вырабамі даследчыкі вылучаюць на падставе стылістычных асаблівасцей у аздабленні, а таксама незашліфаванага следа ад понціі [10, с. 68]. Часам граненне і гравіроўку маглі спалучаць ў аздабленні аднаго вырабу. Сюжэтна гравіроўка, як правіла, была прадстаўлена раслінным арнаментам. Аднак для выбараў таго часу былі таксама характэрны і іншыя матывы.

Існавалі такія спосабы аздаблення мастацкіх вырабаў са шкла, як вельмі складаная тэхніка – філігрань. Яна прадугледжвала ўвядзенне ў склад празрыстай шкламасы тонкіх ніцей з каляровага (белага, чырвонага і сіняга) шкла [14, с. 71]. Таксама майстры маглі выкарыстоўваць рэльефную разьбу, манціраванныя ў сценкі вырабу рэльефныя медальёны [14, с. 40]. У XVII ст. і асабліва ў XVIII ст. былі надзвычай папулярны надпісы на шкляных сасудах рознага кшталту [14, с. 55].

**Пераход да прамысловай вытворчасці шкляных вырабаў (тэхналогія штампоўкі).** Аднымі з найбольш істотных і ў той жа момант складаных пытанняў у гісторыі шкларобства з'яўляюцца пераход да тэхналогіі штампоўкі шкляных вырабаў, яго час і маштабы. Ён, верагодна, стаў магчымым у выніку развіцця выкарыстання формаў падчас вытворчасці вырабаў шляхам выдзімання, з выкарыстаннем тэхнікі «на баначку». Галоўнае візуальнае сведчанне выкарыстання метада штампоўкі – наяўнасць швоў ад двух- ці шматчастковай формы, у якую залівалі шкламасу (мал. 6), а таксама адсутнасць следу ад понціі. Аднак існуюць і прамежкавыя варыянты, калі не толькі след ад понціі на донцы вырабу адсутнічае, але і швы ад выкарастання формы не прасочваюцца. У той жа час па ўсёй паверхні сасуда змешчаны ледзь заўважныя канцэнтрычныя колы (мал. 7). У гэтым выпадку адбывалася выдзіманне вырабу ў форме, у якую залівалі расплаўленую шкламасу. Затым «на баначку» выдзімалі сценкі і фармавалі вусце без выкарыстання понціі. Такі спосаб вытворчасці быў характэрны для звонападобных начынняў [17, с. 89], асобных тыпаў бутэлек з цыліндрычным тулавам і г. д.

Вызначыць дакладную дату пераходу ад выдзімання да штампоўкі не ўяўляецца магчымым, бо гэты працэс ажыццяўляўся ў залежнасці ад канкрэтнага майстра ці прадпрыемства. Абедзве тэхналогіі маглі доўгі час выкарыстоўваць паралельна. З XIX ст. шкло выраблялі на «заводах», у мануфактурных гутах, дробных «лясных» гутах. Існаваў таксама гутны промысел [16, с. 9]. Аднак менавіта з'яўленне буйных прадпрыемстваў, на якіх выраблялі штампаванае шкло, і пастаўкі яго на шырокі рынак, можна лічыць мяжой паміж гутным і прамысловым шкларобствам. Дробная вытворчасць з выкарыстаннем выдзімання ўжо не мела з гэтага часу дамінуючага становішча ў агульнай карціне шкляной вытворчасці. На тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі штампаваныя начынні сканцэнтраваны ў культурным слоі, пачынаючы прыблізна з другой паловы XIX ст. Аднак паходзяць яны з верхніх, як правіла, пашкоджаных перакопамі пластоў, таму іх датаванне ў адпаведнасці са стратыграфіяй вельмі ўскладнена.




Мал. 6. Аптэкарская бутэлечка са следам ад прэсавання ў форме [13]. Орша. Назіранні В. М. Ляўко




Мал. 7. Донца бутлі з канцэнтрычнымі коламі і без следу ад понціі [1, Н/В 9781/3]. Віцебск. Раскопкі В. М. Ляўко

Найбольш пашыраным у Новы час спосабам вытворчасці шкляных начынняў па тэхналогіі штампоўкі стала прэсаванне ручным прэсам [4, с. 65]. Першыя звесткі аб яго выкарыстанні датаваны 1764 г., калі пры дапамозе прэсавання выраблялі начынне з каляровага шкла ў Паўночнай Амерыцы [16, с. 18]. Адпаведна з ім ў металічную (як правіла, двухчастковую) форму залівалі нарыхтаваную шкламасу, затым пры дапамозе ручнога рычага штэмпель знізу і зверху размяркоўваў яе па абрысах будучага сасуда. Наступнымі этапамі былі апрацоўка паверхні вырабу, яго загартоўка і аздабленне. Працэс апрацоўкі паверхні маглі звадзіць як да прыбірання тэхналагічных хібаў (няроўнасцей, моцна выпіраючых швоў і інш.), так і да выкарыстання складаных метадаў (шліфоўкі, цэментацыі і да т. п.), якія надавалі начынню мастацкія ўласцівасці.

Спосабам штампоўкі выраблялі ўвесь асартымент шкляных сасудаў XIX (ці, хутчэй, другой паловы XIX) – пачатку XX ст. Аднак найбольш пашыранымі ў культурным слоі з'яўляюцца бутэлькі розных відаў (з цыліндрычным (мал. 8: *5, 9, 10*) і прамакутным (познія штофы) тулавам), а таксама тэхнічныя начынні (аптэкарскія і лабараторныя бутэлечкі (мал. 8: *2, 7*), слоічкі (мал. 8: *1*), парфумерныя флаконы (мал. 8: *8*) і інш.). Таксама дастаткова пашыранымі былі сасуды для піцця розных відаў (мал. 8: *3, 4, 6*). Як правіла, штампаваныя начынні мелі дастаткова тоўстыя сценкі (0,3–1,2 см) і крыху вогнутае донца (у сярэднім 0,3–0,5 см). Аднак, калі ўтылітарнае выкарыстанне прадугледжвала неабходнасць наяўнасці іншых параметраў, то іх стваралі. Так, для асядання асадку [3, с. 183] выкарыстоўвалі бутэлькі з моцна вогнутым донцам (мал. 8: *9, 10*). Для іх вытворчасці ўжывалі ніжні прэс з выступам, які меў завяршэнне рознай формы: акруглае, вогнутае, сплошчанае і сплошчанае з увагнутасцямі.

Сасуды, выробленыя спосабам прэсавання, у адпаведнасці з каляровай гамай, падзяляюць на начынне з хрусталёвага (добра ачышчанага празрыстага шкла), напаўачышчанага (з лёгкім сіневатазеленаватым ці сіневатым адценнем), бутэлечнага (неачышчанага насычанага зялёнага і карычневага колеру) і каляровага шкла. Для вытворчасці нізкаякасных начынняў выкарыстоўвалі мясцовыя пяскі з высокім утрыманнем жалеза. Каб атрымаць празрыстыя дарагія вырабы, трэба было завозіць адмысловы пясок, прамываць яго і пракальваць [4, с. 59]. З'яўленне шклаварных печаў, а таксама змяненне хімічнага складу з мэтай павелічэння вязкасці [16, с. 74] дазволіла майстрам вырабляць лепш праваранную шкламасу. Аб гэтым сведчыць змяншэнне колькасці бурбалак у гатовых вырабах.

Аздабленне вырабаў, сфармаваных адпаведна з тэхналогіяй штампоўкі, было падобным да дэкору выдзіманых сасудаў. Гэтае падабенства было абумоўлена ўласцівасцямі шкла як матэрыялу. Аднак




Мал. 8. Шкляныя начынні, сфармаваныя спосабам прэсавання [13]: *1, 3, 4, 8–10* – Віцебск; *2, 5–7* – Орша. Раскопкі В. М. Ляўко. Рэканструкцыя П. С. Курловіч-Бяляўскай

існуюць і адрозненні. Так, для штампаваных вырабаў амаль не характэрны пластычны дэкор. Пры дапамозе налепаў аформлены практычна амаль толькі рыльцы разнастайных бутэлек і бутэлечак (мал. 8: *2, 5, 7, 8*). У гэты ж час больш пашыранымі становяцца сасуды для піцця, аздобленыя гравіраваным і шліфаваным дэкорам (мал. 8: *3, 6*) [8, с. 90]. Распаўсюджанай была гравіроўка матавых ліній на празрыстым шкле пры дапамозе меднага калёсіка [16, с. 24]. З'яўляюцца таксама вырабы, прэсаваныя ў арнаментаваных ці фігурных формах (мал. 8: *8*). Да іх ліку належаць, як правіла, разнастайныя парфумерныя флакончыкі, часам бутэлькі і дэкаратыўныя начынні – вазы.

Пашырэнне механізацыі шкларобства і канчатковае ператварэнне яго ў галіну прамысловасці адбылося ў канцы XIX – пачатку XX ст. У гэты час на тэрыторыі Беларусі ўсталёўвалі паравыя рухавікі, механізаваныя драбілкі, шаравыя млыны, газавыя генератары [16, с. 74]. Для нарыхтоўкі шкламасы пачалі выкарыстоўваць атрыманыя прамысловым спосабам шчолакі, якія завозілі ў тым ліку з тэрыторыі Амерыкі і Аўстраліі [16, с. 78]. Падчас аздаблення вырабаў выкарыстоўвалі пантографы і гільяшырныя станкі [16, с. 76]. Усё гэта зрабіла шкляную прадукцыю сапраўды масавай, што канчаткова выціснула ў галіне шкларобства гутны спосаб вытворчасці.

## Высновы

На працягу XVI–XIX стст. шкляныя сасуды трывала замацаваліся ў матэрыяльнай культуры насельніцтва Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі. Тэхналагічна яны прайшлі шлях ад станаўлення і развіцця рамеснай гутнай вытворчасці (пры дапамозе адвольнага выдзімання, а затым выдзімання з выкарыстаннем формаў) да яе паступовага замяшчэння прамысловым метадам штампоўкі. За гэты час быў сфармаваны тыповы асартымент начынняў (сталовыя, тэхнічныя і дэкаратыўныя), якія выкарыстоўваюць і сёння. Асаблівасці вытворчасці канкрэтных відаў начынняў і асобных іх элементаў залежалі ад ускладзеных на ніх функцыянальных і эстэтычных патрабаванняў, а таксама ад тэхналагічных магчымасцей іх вытворцаў.

## Літаратура

1. Віцебскі абласны краязнаўчы музей. Калекцыя «Археалогія».

2. Вучэбная лабараторыя музейнай справы БДУ. Калекцыйны вопіс № 3 : г. Копысь Аршанскага раёна Віцебскай вобласці, гарадзішча. Э. М. Загарульскі. 1972.

3. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў : нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2007. – 266 с.

4. Жаврид, М. Ф. Белорусское стекло / М. Ф. Жаврид. – Минск : Наука и техника, 1969. – 192 с.

5. Калядзінскі, Л. У. Уводзіны ў археалогію / Л. У. Калядзінскі. – Гродна : ТАА «ЮрСаПрынт», 2012. – 240 с.

6. Курловіч-Бяляўская, П. С. Шкляны выраб з Копысі (вопыт рэканструкцыі і інтэрпрэтацыі) / П. С. Курловіч-Бяляўская // Середньовічні старожитності Центрально-Східної Європи : матеріали XIII Міжнар. студент. наук. археолог. конф., Чернігів, 11–13 квіт. 2014 р. – Чернігів, 2014. – С. 76–77.

7. Левко, О. Н. Отчет по археологическому наблюдению на объекте «Строительство многоквартирного жилого дома по ул. Островского, 11 в г. Орша с размещением на первом и втором этажах предприятий торговли и офисов» в 2013 г. / О. Н. Левко[1].

8. Собаль, В. Е. Шкляны посуд Мінска XII–XIX стст. / В. Е. Собаль, М. М. Яніцкая // Помнікі старажытнабеларускай культуры : новыя адкрыцці. – Мінск : Навука і тэхніка, 1984. – С. 83–91.

9. Соловьев, А. А. Стекло и гута Полоцкого иезуитского коллегиума конца XVI – начала XIX в. // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў (да 20-годдзя археалагічных і этнаграфічных экспедыцый ПДУ) : зб. навук. арт. II Міжнар. навук. канф., Полацк, 17–18 крас. 2014 г. : у 2 ч. – Наваполацк, 2014. – Ч. 1. – С. 89–102.

10. Сташкевіч, А. Госця або пані? Па слядах адной знаходкі / А. Сташкевіч, А. Дзярновіч // Мастацтва Беларусі. – 1991. – № 12. – С. 67–69.

11. Трусаў, А. Шкло Мірскага замка / А. Трусаў, А. Ляшкевіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – Мінск, 1984. – № 3. – С. 42–43.

12. УК «Музейны комплекс «Гісторыя і культура Аршаншчыны». Калекцыя «Археалогія».

13. Фонды Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

14. Яніцкая, М. М. Беларускае мастацкае шкло (XVI–XVIII стст.) / М. М. Яніцкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1977. – 87 с.

15. Яніцкая, М. М. Вытокі шкларобства Беларусі / М. М. Яніцкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1980. – 158 с.

16. Яніцкая, М. М. Беларускае мастацкае шкло : XIX – пачатак XX ст. / М. М. Яніцкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1984. – 143 с.

17. Яніцкая, М. М. Мсціслаўскае шкло XVI – XIX стст. / М. М. Яніцкая, А. Б. Сташкевіч // Помнікі культуры. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – С. 83–93.

18. Havel, R. Bohemian Crystal and Lead Crystal / R. Havel // Czechoslovak Glass Review. – 1963. – Vol. 18, № 7. – P. 204 – 207.

19. Liberec glassexport's new residence // Czechoslovak glass review. – 1960. – Vol. 15. – № 11/12. – P. 37–40.

20. Rynes, V. Masterpieces of Czech Glass-Makers and Glass Painters / V. Rynes // Czechoslovak Glass Review. – 1963. – Vol. 18, № 4. – P. 102–107.

21. Wyrobisz, A. Szkło w Polsce od XIV do XVII wieku / A. Wyrobisz. – Wrocław ; Warszawa ; Kraków : Wydawnictwo Polskiej Akademii nauk, 1968. – 223 s.

[1] Справаздача знаходзіцца ў стане перадачы ў ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі».

## Резюме

*П. С. Курлович-Белявская*

**Технология производства стеклянных сосудов XVI–XIX вв. с территории Северной и Центральной Беларуси**

Статья посвящена развитию технологии производства стеклянных сосудов на протяжении позднего средневековья – Нового времени на примере материалов Северной и Центральной Беларуси. Способ производства конкретного изделия определяется совокупностью его технологических признаков: морфологии, состава шихты и декора. За изучаемый период стеклоделие прошло путь от становления ремесленных стекольных мастерских («гут») до появления промышленного производства на стеклозаводах.

## Summary

*P. S. Kurlovich-Bialiauskaya*

**Production technology of glass vessels from the territory of Northern and Central Belarus in 16th–19th centuries**

The paper is devoted to development of glass vessels' production technology during the Late Middle Ages – the New Times illustrated by materials of the North and Central Belarus. The mode of production of the concrete article is determined by the complex of its technological features: morphology, the composition of glass and decoration. During the research period glassmaking had gone all the way since the making of handicraft glass workshops («huty») for appearance of glass industry at glass factories.

*Пастyпіў 20.11.2014 г.*

*УДК 902/904(476.4)*

***О. Н. Левко,*** *Институт истории НАН Беларуси, заведующая Центром истории доиндустриального общества, доктор исторических наук, профессор (г. Минск, Беларусь)*

# Древнерусские центры княжеств XII в.: Минск, Друцк, Витебск (по письменным и археологическим данным)

В белорусской историографии до настоящего времени неоднозначно оцениваются центры удельных княжеств Полоцкой земли: Минск, Друцк, Витебск, а по ряду вопросов высказываются противоречивые суждения. Например, пока не существует единой точки зрения исследователей на время выделения этих объектов в качестве центров княжеств, историческую топографию укрепленной части поселений, ее поселенческую структуру и площадь. Не выяснен до конца и ряд частностей, касающихся храмового строительства в этих центрах, их оборонительных сооружений и др.

**Время основания и местоположение центров княжеств.** К самым ранним из уделов-княжеств Полоцкой земли, по мнению исследователей, относится Минский удел. Он был основан по инициативе Всеслава полоцкого в связи с женитьбой около 1085 г. его сына Глеба на Анастасии – дочери владимиро-волынского князя Ярополка Изяславича [12, с. 8–15]. Ввиду крайней скудости письменных известий, касающихся древнейшей истории Минска, долгое время остро дискуссионной являлась проблема соотношения поселения на р. Менка и Минска на р. Свислочь, расположенного на расстоянии 16,7 км от него. Впервые вопрос о возможности преемственности между поселением на р. Менка (Строчицкое городище) и Минском на р. Свислочь был поднят историком А. Н. Ясинским [32, т. 1, с. 188–189]. В целях решения проблемы были проведены масштабные археологические работы на обоих поселениях. Исходя из анализа совокупности материалов археологических раскопок на поселении у р. Менка и на минском замчище [36, с. 63–72; 9], в настоящее время появились основания полагать, что после 1085 г. центр Менской волости был перемещен на р. Свислочь. Новый город Менск воплотил в себе функции центра княжества, которым правил сын полоцкого князя Всеслава Глеб [14, вып. 9, с. 30; 20, с. 41–47].

Причины переноса центра Менской волости, территориально сложившейся в племенную пору на северной периферии дреговичских владений, имеют политико-стратегический и экономический характер. Новый центр соотносился с формирующейся удельной территориально-политической структурой в рамках государственного образования Полоцкая земля. Кроме того, его географическое положение было более выгодным с точки зрения различных связей с внутренними и внешними территориями. И то, и другое являлось существенным для дальнейшего успешного политического, экономического и культурного развития Минского княжества [21, вып. 24, с. 103–112].

После смерти Всеслава Брячиславича процесс феодализации общества в Полоцкой земле приобрел ускорение. В первой половине XII в. наряду с основанным на родовом праве Менским уделом начали создаваться уделы на феодальном праве. Этому содействовали развитие вотчинного землевладения, а также политический раскол в среде потомков Всеслава, формирование отдельных ветвей княжеской семьи – наследников вотчин. Инициатива в их создании принадлежит тем полоцким князьям, которые занимали престол в стольном городе.

Друцкая волость до 1116 г. находилась под рукой Глеба менского, расширившего границы своих владений на востоке до р. Днепр, на правом берегу которой была построена крепость Орша, противостоящая крепости Копысь, принадлежащей Смоленскому княжеству, на левом берегу реки. В южном направлении Глеб менский с целью захвата совершал набеги на Дреговичскую волость, принадлежавшую мономаховичам [22, с. 328–335]. В результате своей активизации по расширению территории Менского удела он был пленен южнорусскими князьями и умер в киевской тюрьме в 1119 г. Менское княжество в своих первоначальных границах Менской волости отошло до 1146 г. к Киеву.

Борис Всеславич, после отца занимавший полоцкий престол, в 1102 г. создал свою волость-вотчину с центром в Борисове. При повторном вокняжении в Полоцке в 1127 г. перед ним открылась возможность еще больше расширить и укрепить свои личные владения. Поскольку летописи связывают наследников Бориса Всеславича с Друцком и его волостью, то представляется очевидным, что Друцкая волость была присоединена к Борисовской и они вместе составили удел князя Бориса Всеславича. Расцвет Друцка как центра удельного княжества приходится на время управления уделом сына Бориса – Рогволода (Василия), вернувшегося в 1140 г. из византийской ссылки, куда он был отправлен в 1129 г. вместе с другими полоцкими князьями киевским князем Мстиславом. Территория Друцкого княжества, состоявшего из двух волостей – Друцкой и Борисовской – в 1151–1158 гг. стала предметом конфликта между менскими Глебовичами, чей клан в это время главенствовал в Полоцкой земле и пытал-

ся вновь расширить границы Менского княжества, и друцкими Борисовичами. В результате соглашения между ними правобережная часть Борисовской волости отошла к Минскому уделу, а левобережная осталась в составе Друцкого княжества [29, с. 27].

Исследовавший в 1957–1962 гг. и 1967 г. территорию укрепленной части Друцка Л. В. Алексеев отмечает, что до 30-х годов XII в. жизнь в Друцке протекала не интенсивно, о чем свидетельствует слабая мощность нижнего культурного слоя и малое количество находок. С военными событиями 1116 г. исследователь связывает мощное пожарище, которое перекрывало небольшое количество хаотично поставленных построек на детинце древнего Друцка. После пожара, по наблюдению Л. В. Алексеева, застройка детинца была подчинена направлению вала и ее возобновили одновременно в разных местах [1, с. 152]. Целенаправленность обновления застройки укрепленной части Друцка с 1130-х годов, на наш взгляд, указывает на то, что он становится более значимым центром прилегающей к нему территории, чем когда был пограничной крепостью-градом с волостью.

После непродолжительного правления в Полоцкой земле киевских наместников (с 1129 по 1132 г.) на полоцком престоле снова появился представитель местной династии Рогволодовичей. Это был Василько Святославович, сын также высланного в Византию Святослава Всеславича. По подсчетам Л. В. Алексеева, он правил Полоцкой землей до 1146 г. [1, с. 267]. Именно Васильковичи представляют витебскую ветвь полоцких князей, известных по источникам XII в. Поэтому вполне вероятно, что с Василько Святославовича начинается существование удела с центром в Витебске. Данный удел территориально, видимо, включал Витебскую и Усвятскую волости, отошедшие от киевских владений к Полоцкой земле в 1021 г., а также погосты, которые размещались на территории современного Городокского района [23, с. 67]. Л. В. Колединский, опираясь на версию о разделе Полоцкой земли на уделы между всеми сыновьями Всеслава после его смерти в 1101 г. полагает, что витебский удел был основан еще Святославом Всеславичем. Подтверждение своим предположениям он видит в генеалогических изысканиях Э. М. Загорульского [10, с. 6, 11, 15–17]. Однако эта версия, как показал анализ всего комплекса археологических и письменных источников по выделению уделов в Полоцкой земле, не имеет под собой оснований [28, вып. 15, с. 116–122]. Напротив, создание Витебского удела Василько Святославичем находит подтверждение в археологических материалах. Приведенные Л. В. Колединским дендрохронологические даты деревянных внутривальных конструкций (1136–1140 гг.) [18, с. 57–60] относятся к мощным деревоземляным оборонительным сооружениям, которые начинались у древнего городища (Замковая гора) и продолжались в западном направлении вдоль р. Витьба до ее впадения в р. Западная Двина. Затем вал поворачивал в южном направлении вдоль р. Западная Двина и снова к городищу на восток. Расширение укрепленной части городской территории от древнего городища до р. Западная Двина и усиление ее обороноспособности свидетельствует о том, что именно в 40-е годы XII в. Витебск стал удельным центром на северо-восточных рубежах Полоцкой земли.

**Площадь, поселенческая структура, оборонительные укрепления.** Укрепленные части центров уделов, образовавшихся в конце XI в. (Минск) и на протяжении 30-х (Друцк) – 40-х (Витебск) годов XII в. имеют как общие черты, так и различия.

Площадь укрепленной части Минска на р. Свислочь (Минское замчище) составила около 3 га, площадь укрепленных частей двух других удельных центров (Друцка и Витебска) – 2,3 и около 4,0 га соответственно. Размер данных площадей был установлен благодаря наличию остатков валов оборонительных сооружений (Друцк), либо совмещению планов Минска и Витебска конца XVIII в., на которых они зафиксированы, с современными топографическими планами этих городов.

***Минское замчище***, а именно под таким названием с XIX в. известна древняя укрепленная часть города, как отмечали исследователи, имело возвышенный северо-восточный участок и более пониженный юго-западный участок. В валах на плане г. Минска 1793 г. зафиксировано несколько разрывов – вероятных въездов в укрепленную часть города (рис. 1, *а*). Два из них (с севера и юга) как бы отделяют возвышенный участок замчища от остальной территории, третий въезд также расположен с северной стороны, но уже выводит прямо на пониженный юго-западный участок, таким образом замыкая на себе его планировку. Особенности рельефа и конфигурации Минского замчища дали основание В. Р. Тарасенко, начавшему изучение его северо-восточной части в 1945 г., предположить, что детинец в устье р. Немига, впадающей в р. Свислочь развился из небольшого, протяженностью в 36–45 м укрепленного княжеского или боярского двора-усадьбы [32, т. 1, с. 195, 246, 251]. Как правильно заметил Ю. А. Заяц, это предположение позволяет рассматривать Минское замчище в качестве двухчленного объекта, состоявшего из детинца (северо-восточный участок) и окольного города (юго-западный участок). Однако, опираясь на наличие хронологически идентичных напластований с однотипным характером застройки, выявленных в северо-восточной и центральной частях замчища (рис. 2, *а*), он согласился с мнением Э. А. Загорульского о единовременном возведении укрепленного




*а*




*б*

Рис. 1. Местоположение детинца и окольного города Минска на р. Свислочь. Реконструкция: *а* – О. Н. Левко; *б* – Л. В. Алексеева




*а*




*б*




*в*

Рис. 2. Археологические исследования минского замчища с 1945 г. по 1990-е годы: *а* – обозначение мест раскопок и наблюдений (*I* – участки исследований; *II* – места выходов древнего вала); *б, в* – планы-реконструкции по Э. М. Загорульскому застройки северо-восточной части замчища в конце XI в. (*б*) и в XII–XIII вв. (*в*)

изводства этого периода. Отметим значительную коллекцию индивидуальных находок: монеты XVII–XVIII вв. и предметы быта.

Особо следует сказать о геральдических изразцах, которые дают возможность идентифицировать владельцев усадьбы. В результате проведенной камеральной обработки материала были реконструированы два герба: личный герб представителя рода Достоевских (Петра Достоевского) и герб «Правдиц», вероятно, представителей рода Бреских.

**Выводы**

1. Установлено месторасположение шляхетской усадьбы XVI–XIX вв. на левом берегу р. Струга между деревнями Достоево и Вулька-Достоевская.

2. Выявлены и исследованы конструкции основных зданий усадьбы (господского дома и кухни).

3. Установлены размеры и конструктивные особенности планировки этих зданий, а также определены примерные границы усадьбы (около 1 га).

4. На основе нумизматического материала определены хронологические границы исследуемых объектов. Вероятнее всего, строения были возведены в конце XVI в. и их активно эксплуатировали до второй половины XVIII в. Анализ сохранившихся конструкций господского дома указывает на то, что он частично горел и, наверняка, несколько раз был изменен его внутренний интерьер.

5. Сделана попытка реконструкции внутренней планировки и внешнего вида господского дома на основании результатов археологических и архивных изысканий.

6. На основе археологических (изразцы), геральдических (гербы), генеалогических (родословные) и исторических (архивные документы) материалов сделана попытка идентификации владельцев усадьбы в конце XVI – XVII в.

7. Доказано, что исследуемая нами усадьба в конце XVI – XVII в. принадлежала роду Достоевских и находилась, также во временном владении родов Ельских и Бреских.

8. Археологических доказательств активной хозяйственной деятельности в XIX в. на месте проведения раскопок зафиксировано не много. Вероятнее всего, в это время фольварк сохранял лишь хозяйственную функцию, а господский дом был перенесен представителями рода Ордов непосредственно в село Достоево.

Вместе с тем следует отметить необходимость продолжения исследований на территории усадьбы Достоевских, поскольку исследована лишь небольшая часть застройки усадьбы. Дальнейшие широкомасштабные раскопки позволят более детально исследовать обнаруженные здания (в том числе объект 2 – кухня), а также проследить этапы их перестроек и изменения конструктивных особенностей. Кроме того, это даст возможность обнаружить новые археологические объекты, более детально изучить культурные напластования и материальную культуру данного периода. Возможно, будут открыты новые факты родовой принадлежности данной усадьбы и перехода ее к другим владельцам, что позволит более объективно воссоздать историю усадьбы Достоевских в Ивановском районе Брестской области.

**Литература**

1. Башков, А. А. Отчет об археологических исследованиях на объекте «Восстановление бывшей усадьбы рода Достоевских в д. Достоево Ивановского р-на» в 2012 г. / А. А. Башков // ААНД, Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. – Минск, 2013. – Д. № 2971.

2. Волгин, И. Л. Хроники рода Достоевских / И. Л. Волгин // Родные и близкие : историко-биографические очерки. – М. : Фонд Достоевского, 2012 – 1232 с. : ил.

3. Волоцкой, М. В. Хроника рода Достоевского (1506–1933) / М. В. Волоцкой ; под ред. М. Цявловского ; предисл. П. М. Зиновьева. – М. : «Север», 1933 г. – 443 с. : ил.

4. Голубович, А. Дворянский род Достоевских и имение Достоево (по документам НИАБ) / А. Голубович // Архивы и делопроизводство. – 2012. – № 2. – С. 105–110.

5. Горбачевский, Н. Словарь древняго актоваго языка Северо-Западного края и Царства Польского / Н. Горбачевский. – Вильно : Типография А. Н. Зака, 1874 г. – 399 с.

6. Несцярчук, Л. М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X–XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы) / Л. М. Несцярчук. – Мінск : БЕЛТА, 2002. – 336 с. : іл.

7. Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі : у 2 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. Імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; склад.: І. У. Будзько [і інш.] ; падрэд. А. М. Булыкі. – Мінск : Беларуская навука, 2013. – Т. 1 : А–О. – 531 с.

8. Писцовая книга Пинскаго и Клецкаго княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552–1555 г. г. – Вильно : Типография А. Г. Сыркина, 1884. – 714 с.

9. Федорук, А. Т. Старинные усадьбы Берестейщины / А. Т. Федорук ; ред. Т. Г. Мартыненко. – 2-е изд. – Минск : БелЭн. – 2006. – 576 с. : ил.

10. Якимович, Ю. Усадьба в Достоево // Ю. Якимович. – Нёман. – 1981. – № 12. – С. 186–189.

11. Aftanazy, R. Dziejerezy dencjina dawnych kresach Rzeczy pospolitej. Wojewodztwa brzesko-litewskie, nowogrodzkie / R. Aftanazy. – Wroclaw ; Warszawa ; Krakow, 1992. – Т. 2. – S. 473.

12. Herbarz Polski Kaspara Niesieckiego. S. J. – Lipsk, 1839. – Т. 3.

13. Metryka Litewska. Rejestry podymnego WKL : wojewodztwo breskie-litewskie 1667–1690 / Oprocowal A. Rachuba. – Warszawa, 2000. – 227 s.

14. Литовский государственный исторический архив (ЛГИА). – Ф. 1280. – Оп. 1. – Д. 1441.

15. Центральный государственный исторический архив Украины (ЦГИАУ). – Ф. 201.– Оп. 4. – Д. 801.

**Рэзюмэ**

*А. А. Башкоў, В. Ю. Піліповіч, І. М. Мароз*

**Радавы маёнтак Дастаеўскіх у святле археалагічных даследаванняў**

Прадстаўлены вынікі археалагічных даследаванняў 2012–2013 гг. на тэрыторыі радавога маёнтка Дастаеўскіх у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Прыведзены матэрыял дае магчымасць усталяваць граніцы маёнтка, рэканструяваць аблічча гасподскага дома, даць характарыстыку маёнткавай матэрыяльнай культуры і даказаць прыналежнасць дадзенага археалагічна-архітэктурнага помніка першым прадстаўнікам роду Дастаеўскіх.

**Summary**

*A. A. Bashkow, V. Yu. Pilipovich, I. M. Maroz*

**Family estate of Dostoevsky in the light of archaeological research**

The article presents the results of archaeological investigations 2012–2013, on the territory of the Dostoevsky family estate in the Ivanovo region, Brest region. The material presented here makes it possible to establish the boundaries of the estate, to reconstruct the shape of the manor house, to characterize the material culture of the estate and to prove that this archaeological and architectural monument was owned by the first members of the genus Dostoevsky.

*Поступила 19.06.2014 г.*

*УДК 902/904(476.1)«2012»*

***В. Г. Белявец,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь);*
***А. Ф. Касюк,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу, навуковы супрацоўнік (г. Мінск, Беларусь);*
***М. М. Крывальцэвіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь);*
***В. Л. Лакіза,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Мінск, Беларусь);*
***З. А. Харытановіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, навуковы супрацоўнік (г. Мінск, Беларусь)*

# Вынікі археалагічных даследаванняў 2012 года ў зоне будаўніцтва Нежынскага горнаўзбагачальнага комплексу і аб’ектаў яго інфраструктуры (Любанскі раён Мінскай вобласці)

**Уводзіны.** Адным з найбольш маштабных палявых археалагічных работ Інстытута гісторыі НАН Беларусі ў 2012 г. сталі выратавальныя (ахоўныя) даследаванні ў зоне будаўніцтва Нежынскага горнаўзбагачальнага комплексу (ГУК) і аб’ектаў яго інфраструктуры на тэрыторыі Любанскага раёна Мінскай вобласці.

У адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь у вобласці аховы гісторыка-культурнай спадчыны паміж адкрытым акцыянерным таварыствам «Белгорхімпрам» (які прадстаўляў інтарэсы замежнага таварыства з абмежаванай адказнасцю «Славкалій») і дзяржаўнай навуковай установай «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» на працягу 2012 г. былі заключаны пяць дагавораў на правядзенне[1] папярэдніх археалагічных даследаванняў на аб’екце «Будаўніцтва горнаўзбагачальнага комплексу на сыравіннай базе Нежынскага (усходняя частка) участка Старобінскага радовішча каліных соляў», у тым ліку абследаванняў і шурфоўкі гарадзішча Обчын, пляцоўкі камбіната, пад’язной дарогі, лініі электраперадач (ЛЭП), чыгункі і газаправода да Нежынскага ГУК.

Палявыя археалагічныя даследаванні былі праведзены на працягу чэрвеня–снежня 2012 г.: на гарадзішчы Обчын-2 (Дазвол па форме № 4 на імя З. А. Харытановіч) [11], пляцоўцы камбіната (Дазвол па форме № 4 на імя А. Ф. Касюк), пад’язной аўтамабільнай дарозе, чыгунцы і ЛЭПе (Дазвол па форме № 4 на імя кандыдата гістарычных навук М. М. Крывальцэвіча), газаправодзе (Дазвол па форме № 4 на імя кандыдата гістарычных навук В. Г. Беляўца). Агульнае кіраўніцтва ўсім комплексам навукова-даследчых работ ажыццяўляў кандыдат гістарычных навук В. Л. Лакіза. На розных этапах у палявых абследаваннях зон новабудоўляў таксама прымалі ўдзел супрацоўнікі інстытута А. М. Вашанаў, С. Б. Лiневіч, А. Ю. Ткачоў, Макс. М. Чарняўскі.

У адпаведнасці з каляндарнымі планамі дагавораў ажыццяўлялі папярэднія работы, суцэльнае абследаванне, разведкі і шурфоўку ў зоне будучага будаўніцтва, падрыхтоўку кароткіх даведак заказчыку (з рэкамендацыямі аб ахове археалагічнай спадчыны). Археалагічныя даследаванні складаліся з візуальнага агляду ўсіх участкаў запланавага будаўніцтва і прылеглых тэрыторый (разведка), паверхневых збораў, шурфоўкі найбольш перспектыўных участкаў для выяўлення яшчэ не ўлічаных помнікаў археалогіі, шурфоўкі і картаграфавання выяўленых аб’ектаў археалогіі, графічнай і фотафіксацыі, збораў вуснай інфармацыі пра археалагічныя помнікі і выпадковыя знаходкі (адзначым, што

[1] Выказваем удзячнасць кіраўніцтву і супрацоўнікам ЗТАА «Славкалій» і ААТ «Белгорхімпрам» за супрацоўніцтва ў справе аховы археалагічнай спадчыны краіны, а таксама ўсім, хто меў дачыненне да дадзеных археалагічных абследаванняў і навуковай пошукавай працы.

[2] Пасля летніх папярэдніх работ на гарадзішчы Обчын восенню 2012 г. і ў 2013 г. былі праведзены маштабныя раскопкі, інфармацыя аб якіх будзе прадстаўлена ў асобным артыкуле ў дадзеным зборніку.

ў перыяд правядзення разведак будаўніцтва яшчэ не пачалося). Пасля камеральнай апрацоўкі выяўленых матэрыялаў былі падрыхтаваны абагульняючыя справаздачы па выніках абследаваняў усіх згаданых аб'ектаў [1, 5–7, 11].

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва камбіната Нежынскага ГУК.** Будаўніцтва Нежынскага ГУК будзе праводзіцца на зямельным участку плошчай звыш 200 га (мал. 1). Паўночную частку гэтай тэрыторыі займаюць сельскагаспадарчыя палі (сенажаці і пашы). У цэнтральнай, найбольш нізкай частцы знаходзяцца пусткі (часам разворваюцца ці раней былі ўключаны ў сельскагаспадарчы абарот). Паўднёва-заходняя і ўсходняя часткі занятыя лесам (у асноўным расце граб, ёэсць дуб і бяроза). На заходняй ускраіне будучага Нежынскага ГУК знаходзіцца гарадзішча ранняга жалезнага веку (тапаграфічна прывязана да в. Обчын, уключана ў «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь») [4, 8, 10, 11]. У ланшафтных адносінах паўночная частка найбольш высокая, тэрыторыя будаўніцтва пад'язной дарогі (паводле першапачатковага праекта) абмежавана з поўначы прытокам р. Арэса (рэчышча спрамлена падчас меліярацыі). Таксама даволі высокія ўчасткі (5–8 м над узроўнем навакольнай мясцовасці) знаходзяцца пад лесам (ур. Пячоры/Пещеры – рус.). Яны дамінуюць над нізкай, раней забалочанай цэнтральнай часткай (не выключана, што ў старажытнасці тут знаходзіўся вадаём). Нізкі ўчастак асушаны шляхам адводу вады меліярацыйнымі канавамі. Па ўзаранай паверхні бачна, што тут знаходзяцца значныя адкладанні торфу.

Падчас правядзення абследавання будучай пляцоўкі камбіната найбольшую ўвагу звярталі на ўчасткі будаўніцтва, якія праходзілі праз даліны рэчак, каля балоцістых паніжэнняў, тарфянікаў, таму што менавіта такія ўчасткі найбольш перспектыўныя для выяўлення старажытных паселішчаў ці іншых помнікаў археалогіі. Участкі будучага будаўніцтва абследавалі вельмі ўважліва, аднак з-за моцнай задзірванеласці і залесенасці тэрыторыі ніякіх сведчанняў старажытных паселішчаў падчас візуальнага агляду не было заўважана. Таму па ўсёй тэрыторыі праводзілі зачысткі існуючых агаленняў, траншэй меліярацыйных канаваў, а таксама былі закладзены 30 шурфоў. Для зручнасці фіксацыі вынікаў палявых даследаванняў уся тэрыторыя будаўніцтва была падзелена на некалькі ўмоўных ўчасткаў, якія будуць выкарыстоўвацца пры апісанні праведзеных археалагічных даследаванняў [5].

*Паўночны ўчастак* будаўніцтва камбіната размешчаны на пашы на поўдзень ад в. Белы Слуп, на поўнач ад гарадзішча Обчын паміж дзвюма канавамі (паўночная частка тэрыторыі ГУК і чыгуначнай станцыі да яго). На гэтай тэрыторыі размешчана некалькі невялікіх узвышшаў, вакол якіх знаходзіцца тарфянік. На кожным з іх былі закладзены чатыры шурфы для высвятлення наяўнасці культурнага пласта. Археалагічных аб'ектаў і матэрыялаў у шурфах выяўлена не было.

*Цэнтральны і паўднёвы ўчасткі* будаўніцтва, якія прымыкаюць да гарадзішча Обчын, таксама складаюцца з некалькіх невялікіх узвышэнняў (сухія месцы), якія акаляюцца тарфянікам (глыбіня торфу даходзіць да 2 м), разрэзаным некалькімі меліярацыйнымі каналамі. Тэрыторыя вакол гарадзішча найбольш інтэнсіўна даследавалася 9 шурфамі і зачысткамі, у тым ліку з мэтай пошукаў тарфянікавых паселішчаў [5]. На гэтым участку выяўлены новы археалагічны аб'ект – *Обчын-4*. У шурфе, які быў закладзены на ўзвышэнні, за 160 м на поўдзень ад меліярацыйнай канавы, за 81 м на ўсход ад заходняга краю ўзвышэння, былі знойдзены два дробныя фрагменты ляпной керамікі жалезнага веку (мал. 2).

*Залесеныя тэрыторыі ў паўднёва-ўсходняй частцы* будаўніцтва камбіната таксама даследаваліся шурфамі (закладваліся на прымыкаючых да тарфяніка ўзвышэннях). Тут у двух шурфах былі выяўлены крамянёвыя артэфакты, у тым ліку фрагмент крамянёвага скрабка на адшчэпе з дугападобнай працоўнай часткай, што стала падставай да лакалізацыі новага археалагічнага аб'екта – *Обчын-1-лес*.

Даследаваліся шурфамі і *паўднёва-заходнія ўскраіны лесу і ўр. Пячоры.* Адзначым, што на дадзеным участку (паўднёвая частка тэрыторыі будаўніцтва камбіната) паміж двума ляснымі масівамі знаходзіцца самае высокае ўзвышэнне, якое дамінуе над навакольнай мясцовасцю (6–8 м). Нягледзячы на тое, што археалагічных матэрыялаў на паверхні ўзвышэння і ў шурфах знойдзена не было, трэба разглядаць яго як перспектыўнае месца для далейшага пошуку артэфактаў і помнікаў археалогіі, тым больш што на ўскраіне лесу на поўнач ад апісанага ўзвышэння пры шурфоўцы былі знойдзены тры фрагменты ляпной керамікі жалезнага веку і абломак косткі (гл. мал. 2), што стала падставай да лакалізацыі новага археалагічнага аб'екта *Обчын-1А*.

У заходняй частцы ляснога масіву, непадалёку ад месца будаўніцтва будучай чыгуначнай станцыі, з дапамогай жыхароў в. Обчын быў лакалізаваны цікавы *помнік прамысловасці канца XIX – пачатку XX ст. – рэшткі печаў па выпальванню драўнянага вугалю.* З мэтай яго вывучэння на паверхні ўнутранай часткі адной з печаў быў закладзены шурф. Магутнасць вугальнага пласта ў шурфе складала 0,5 м [5].

Мал. 1. План зоны будаўніцтва Нежынскага ГУК з пазначэннем месцазнаходжанняў археалагічных матэрыялаў:
*1* – Обчын-1А; *2* – Обчын-1-лес; *3* – Гарадзішча Обчын; *4* – Обчын-4; *5* – Белы Слуп-1

У большасці выпадкаў вытворчасць вугалю наладжавалі ў месцах, набліжаных да запасаў сыравіны, часцей за ўсё непасрэдна сярод лесу. Спачатку нарыхтоўвалі драўніну – звычайна перавагу аддавалі цвёрдым пародам дрэва (дубу, грабу, ясеню). Для аптымізацыі працэсу вытворчасці дрэва неабходна было калоць на кавалкі пэўнага памеру: да 20 см у дыяметры і каля 60–80 см даўжынёй. Нарыхтоўку сыравіны ажыццяўлялі ў канцы восені – зімой. Сам працэс выворчасці пачыналі з расчысткі месца ад смецця і дзярновага пласта. Пасля гэтага ў цэнтры будучай «печы» ўсталёўвалі драўляную жэрдзіну, альбо слуп, вышыня якога павінна была адпавядаць вышыні «печы». Вакол слупа, па колу, прымацоўвалі тонкае жэрдзе альбо галлё. У выніку пасярод гэтай канструкцыі павінна была захавацца вольная прастора, якую запаўнялі дробнымі смалістымі трэскамі, ці дробна насечаным галлём. Далей вакол цэнтральнай канструкцыі ў тры ярусы накладвалі дрэва. Пасля ўсё гэта перыкрывалі некалькімі пластамі ізаляцыі: пакрывалі пластом лісця альбо папаратніка таўшчынёй да 25–30 см і накрывалі пластом зямлі, альбо дзёрну таўшчынёй да 20–30 см. Пласты саломы і лісця аблівалі вадой. Незакрытай пакідалі верх канструкцыі. У выніку атрымлівалі «капец» каля 2,5 м у дыяметры і 1,5–2,0 м вышынёй. Памеры такога «капца» вагаліся ў залежнасці ад аб'ёмаў закладзенай у яго сыравіны. Наступным крокам была растопка «печы». Для гэтага ў яе цэнтр праз верх засыпалі распаленае вуголле, пасля чаго верхнюю адтуліну закрывалі дзёрнам. Для вытворчасці адной партыі вугалю патрабавалася каля 20 дзён. Пасля таго як печ затухала, ёй давалі некалькі дзён астыць, а пасля здымалі верхні слой зямлі і даставалі вугаль [14].

Участак лесу, дзе былі выяўлены печы, не ўваходзіць у зону будаўніцтва будучага ГУК (у адпаведнасці з праектам), тым не менш гэтыя помнікі прамысловасці маюць навуковае значэнне і патрабуюць далейшых даследаванняў (і аховы).

***Абследаванне тэрыторыі будаўніцтва будучай аўтамабільнай пад'язной дарогі*** ажыццяўлялася спачатку паводле першапачатковага праекта, а затым – у адпаведнасці з унесенымі ў яго зменамі [5, 11].

На мысападобным выступе правабярэжнай тэрасы прытоку (цяпер Шыпілавіцкая канава) р. Арэса быў выяўлены новы археалагічны аб'ект – *Белы Слуп-1*. У яго заходняй частцы на палявой дарозе былі знойдзены крамянёвыя артэфакты, сярод якіх моцна спрацаваны нуклеус двухпляцовачны ад адшчэпаў з сустрэчным сколваннем з поўным афармленнем бакоў і контрфронта (пляцоўкі аформлены адным сколам, працоўны кут набліжаецца да 60º) (каменны–бронзавы вякі). Паводле новага праекту аб'ект не трапляе ў зону будаўніцтва аўтадарогі.




Мал. 2. Артэфакты з археалагічных аб'ектаў Обчын-1А (*1, 2*), Обчын-4 (*3, 4*), Обчын-1-лес (*5*): *1–4* –ляпная кераміка ранняга жалезнага веку (фрагменты); *5* – крамянёвы скрабок на адшчэпе

Археалагічныя разведкі паводле зменанага праекта будаўніцтва дарогі таксама прынеслі вынікі [6]. У заходнім і паўночна-заходнім накірунках ад в. Шыпілавічы былі выяўлены новыя месцазнаходжанні археалагічных матэрыялаў (на захад ад в. Шыпілавічы, уздоўж узвышанай левай тэрасы каналізаванага правага прытока р. Арэса) (мал. 3).

*Шыпілавічы-3А* (гл. мал. 3: *5*). За 250–300 м на захад ад паўднёва-заходняй ускраіны вёскі, на месцы пабуранага кар'ерамі мысападобнага выступу левай тэрасы Шыпілавіцкай канавы, на працягу каля 30–40 м сустракаліся паасобныя знаходкі крамянёвых вырабаў каменнага веку. Сярод знаходак былі адзначаны: крамянёвыя адшчэпы (4 адз.) (мал. 4: *8*); крамянёвы абпалены адшчэп; абломак абпаленага крэменю; крамянёвы рабрысты скол (мал. 4: *7*); фрагмент шыйкі белаглінянага ганчарнага гаршка.

*Шыпілавічы-6* (гл. мал. 3: *6*). Даследаваўся высокі (вышыня да 5–6 м), таксама пабураны кар'ерамі, мысападобны выступ левай тэрасы Шыпілавіцкай канавы, які знаходзіцца праз 600–700 м на захад ад паўднёва-заходняй ускраіны вёскі, за 300 м на захад ад пункта Шыпілавічы-3А. На пабуранай паверхні быў знойдзены аднапляцовачны нуклеус невялікіх памераў (мал. 4: *1*) і фрагмент крамянёвага абпаленага адшчэпа (мал. 4: *2*). Праводзілі шурфоўку, рабілі зачыстку сценкі кар'ера па краі тэрасы. У профілі назіраўся непарушаны шэры супясчаны пласт таўшчынёй да 30 см, пад якім пачынаўся мацерыковы пясок. Не выключана, што ў выяўленым шэрым пласце, параўноўваючы з некаторымі іншымі суседнімі помнікамі, маглі змяшчацца артэфакты каменнага і бронзавага вякоў.

Падчас разведак праводзілі паверхневыя зборы на раней вядомым месцазнаходжанні *Шыпілавічы-3* [2, с. 13]. Пункт адзначаўся за паўднёвай ваколіцай вёскі, уздоўж саснова лесу, побач з вясковымі




Мал. 3. Карта абследаваных помнікаў і месцазнаходжанняў у зоне будаўніцтва лініі электраперадач і аўтадарогі: *1* – Зара; *2* – Засмужжа-1; *3* – Засмужжа-2; *4* – Атраднае; *5* – Шыпілавічы-3А; *6* – Шыпілавічы-6; *7* – Шыпілавічы-3




Мал. 4. Крамянёвыя вырабы з месцазнаходжанняў: *1–3* – Шыпілавічы-6; *4–6* – Шыпілавічы-3; *7, 8* – Шыпілавічы-3А

магілкамі, на пабураным ямамі схіле высокай левай тэрасы Шыпілавіцкай канавы (мал. 3: *7*). На працягу каля 100 м былі знойдзены наступныя крамянёвыя артэфакты: адшчэпы (3 адз.); абпалены адшчэп; нуклеус; пласцінка абпаленая (мал. 4: *5*); скол (мал. 4: *6*); скрабок на адшчэпе (мал. 4: *4*); абломак крэменю.

На іншых участках запланаванага будаўніцтва аўтадарогі, а менавіта, на паўночны ўсход і захад ад месцазнаходжання Шыпілавічы-6 – у накірунку да шашы Любань–Жыткавічы і да будаўнічай пляцоўкі горнаўзбагачальнага комплексу, археалагічныя помнікі не выяўлены.

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва лініі электраперадач (ЛЭП).** Запраектаваная ЛЭП даўжынёй больш за 21 км будзе пабудавана на тэрыторыі ад камбіната Нежынскага ГУК (паміж вёскамі Шыпілавічы і Обчын Любанскага раёна Мінскай вобласці) да тэрыторыі паміж вёскамі Бярозаўка і Саковічы Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Зона будаўніцтва размешчана ў міжрэччы р. Случ і Арэса. Большая частка лініі трапляе ў межы басейнаў меліяраваных і каналізаваных правых прытокаў р. Арэса [6].

Новыя месцазнаходжанні археалагічных матэрыялаў былі адзначаны каля в. Зара і Засмужжа (Рачэньскі с/с, Любанскі раён). Праз 200 м на захад ад паўднёвай ускраіны *в. Зара* (гл. мал. 3: *1*), на ўзараным ўзвышшы быў знойдзены крамянёвы адшчэп. На паверхні зрэдку сустракаўся неапрацаваны крэмень. Месцазнаходжанне *Засмужжа-1* выяўлена прыблізна за 800 м на паўднёвы ўсход ад паўднёвай ускраіны в. Засмужжа, праз 400 м на ўсход ад жывёлагадоўчых ферм, на высокім пагорку, на якім захаваліся рэшткі пабудаваных адстойнікаў (гл. мал. 3: *2*). Тут, на паўночным схіле ўзвышша, у накірунку да канавы, знойдзена некалькіх фрагментаў ганчарнай керамікі. Другое месцазнаходжанне ганчарнай керамікі (*Засмужжа-2)* было адзначана за 600–700 м на паўднёвы ўсход–усход ад паўднёвай ускраіны в. Засмужжа, праз 250 м на паўночны ўсход ад ферм, за канавай, на полі, пад існуючай лініяй электраперадач (гл. мал. 3: *3*). Кераміку збіралі на плошчы памерамі каля 200 × 400 м.

Новы курганны могільнік быў адкрыты каля *в. Атраднае* ў Любанскім раёне. Могільнік знаходзіцца адразу за паўночнай ускраінай вёскі, у лесе, паабапал шашы з Любані на Старобін (гл. мал. 3: *4*). У групе налічваюцца 23 ацалелыя і пашкоджаныя насыпы. Курганы размешчаны прыблізна праз 200 м на поўдзень ад участка будаўніцтва ЛЭП.

На іншых участках трасы будучай ЛЭП, а менавіта на поўдзень ад Обчына, Рачэні, Крукава, паміж вёскамі Атраднае і Закальное, у паўднёвым накірунку ад Дунцаў, Бярозаўкі, археалагічныя помнікі не былі адзначаны.

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва чыгункі.** Будучая чыгунка даўжынёй каля 32 км павінна быць пракладзена ад чыгуначнай станцыі г. п. Урэчча да камбіната Нежынскага ГУК. Тэрыторыя будаўніцтва прыпадае на перадпалескія раўнінныя тэрыторыі ў басейне верхняга цячэння р. Арэса з яе правымі прытокамі [7] (мал. 5).

Адзін з раёнаў разведак – паўночна-заходнія ўскраіны г. п. Урэчча ўздоўж каналізаванай р. Бярозаўка – правага прытока р. Таліца, якая ўпадае ў р. Арэса. Колішняе мястэчка Урэчча застаецца археалагічна недаследаваным аб’ектам. Вядома, што мястэчка сфарміравалася на р. Бярозаўка і ўпершыню згадвалася ў пісьмовых дакументах у 1635 г. Урэчча набыло шырокую вядомасць пасля адкрыцця Ганнай Кацярынай Радзівіл у 1734 г. Урэцкай шкляной мануфактуры. Вотчынная мануфактура ва Урэччы займалася выпускам шкляного посуду, люстэркаў, люстраў [12, с. 5–6; 13]. З археалагічнай літаратуры вядома, што побач з Урэччам, каля паштовага тракту з Бабруйска ў Слуцк, знаходзілася курганная група, у якой налічвалася 108 курганоў [9].

Падчас абследавання зоны новабудоўлі ўдалося знайсці некалькі новых пунктаў з археалагічнымі матэрыяламі (гл. мал. 5).

*Урэчча-1.* Адразу за паўночна-заходняй ускраінай Урэчча, у паўночна-заходнім накірунку ад школы, на поўнач ад завулка Школьны і чыгункі, каля 300 м на паўночны ўсход ад жывёлагадоўчых ферм, уздоўж правай тэрасы р. Бярозаўка, праз некалькі дзесяткаў метраў вышэй чыгуначнага моста, на ўзаранай паверхні поля, на працягу каля 150 м зрэдку адзначаліся вырабы з крэменю, фрагменты ляпной (?) і ганчарнай керамікі. Месцазнаходжанне даследавалася паверхневымі зборамі. У склад сабранай калекцыі ўвайшлі: крамянёвыя вырабы каменнага веку (аднапляцовачны нуклеус, абпалены пласціністы скол, тры адшчэпы); фрагмент ляпной (?) керамікі з дамешкамі жарствы; фрагменты белаглінянага ганчарнага посуду.

*Урэчча-2*. У паўночна-заходнім накірунку ад школы па завулку Школьны, на агародах, прыблізна за 100 м на захад ад чыгуначнага моста праз р. Бярозаўка, побач з чугункай і на поўдзень ад яе, на ўчастку правабярэжнай тэрасы р. Бярозаўка знойдзены сляды селішча жалезнага веку і больш позніх перыядаў (гл. мал. 5: *2*). Археалагічныя матэрыялы адзначаліся на плошчы каля 30 × 20 м. Сабрана 20 фрагментаў ляпной керамікі жалезнага веку (мал. 6: *1–4*). Кераміка грубаляпная, з дамешкамі жарствы. На некаторых фрагментах жарства выступае на паверхню. Акрамя гладкасценнай зрэдку сустракаліся абломкі керамікі са штрыхамі. Адзін з фрагментаў вылучаўся інтэнсіўна заштрыхаванай знешняй і ўнутранай паверхнямі (гл. мал. 6: *1*). Знойдзена




Мал. 5. Карта помнікаў і месцазнаходжанняў у зоне будаўніцтва чыгункі: *1* – Урэчча-1; *2* – Урэчча-2; *3* – Крупенікі-1; *4* – Чапаева, курганны могільнік; *5* – Чапаева, селішча; *6* – Любань-6; *7* – Любань-6А; *8* – Любань-7; *9* – Любань-8




Мал. 6. Ляпная кераміка жалезнага веку (*1–4*) і венца сярэдневяковага ганчарнага гаршка (*5*) з селішча Урэчча-2; чорнаглянцаваная пасудзіна жалезнага веку (*6*) (фрагмент) з месцазнаходжання Крупейнікі-1; крамянёвыя вырабы з месцазнаходжання Любань-6 (*7–10*)

таксама венца ганчарнай пасудзіны (мал. 6: *5*), фрагмент ганчарнага белаглінянага і рэшткі паліванага посуду. У межах выяўленага селішча, бліжэй да чыгункі, на паўночна-заходняй ускраіне агарода закладзены шурф памерамі 2 × 1 м. У профілях прасочваўся ворыўны глебавы пласт таўшчынёй да 30 см. Ніжэй ён падсцілаўся дробназярністым пяском жоўтага колеру. У ворыўным пласце былі знойдзены: невялікі фрагмент сценкі гладкасценнай пасудзіны жалезнага веку з дамешкамі дробнай і сярэдніх памераў жарствы, крамянёвы адшчэп.

*Крупенікі-1* знаходзіцца за 1,3 км на поўдзень–паўднёвы захад ад в. Крупенікі, на левай тэрасе р. Нежароўка, на паўночны захад ад моста праз раку і шашы з Урэчча ў Дарасіно (гл. мал. 5: *3*). Вышыня тэрасы – каля 2 м. Сярод знаходак трэба адзначыць два дробныя фрагменты гладкасценнай ляпной керамікі жалезнага веку з дамешкамі жарствы сярэдніх памераў і фрагмент прафіляванай чорнай глянцаванай пасудзіны эпохі жалеза (мал. 6: *6*).

*Чапаева*. Абследаваліся правы і левы бераг р. Нежароўка ў ваколіцах в. Чапаева (ранейшая назва Княжая Магіла). У 1929 г. паміж в. Княжая Магіла і Нежароўскімі хутарамі экспедыцыя пад кіраўніцтвам А. М. Ляўданскага (пры ўдзеле С. А. Дубінскага, Я. Р. Калодкіна, М. Н. Канвісарава,

А. Я. Рынейскага) правяла раскопкі 15 курганоў з дрыгавіцкімі пахаваннямі X–XII стст. [3, с. 510–511; 9, с. 205]. Не выключана, што курганы былі ўзведзены на месцы больш ранніх селішчаў. Зрэшты, пра прысутнасць ранняга матэрыялу сярод знаходак з Нежароўскіх курганоў пісаў у свой час Л. Д. Побаль, які вылучыў у калекцыях з раскопак А. М. Ляўданскага ляпную кераміку другой паловы I тысячагоддзя н. э. [10, с. 365]. Найбольш верагодна, згаданая курганная група была размешчана ў правабярэжжы р. Нежароўка і цяпер ужо не існуе. Жыхарка в. Чапаева Святлана Іванаўна Сікорская (1951 года нараджэння) паведаміла, што курганы, у тым ліку вялікі курганны насып «Княжая Магіла», паводле аповедаў яе маці і іншых старых жыхароў вёскі, у свой час знаходзіліся прыблізна за 250 м на поўнач ад паўночнай ваколіцы вёскі і былі знішчаны падчас правядзення меліярацыі. На месцы, якое яна паказала, цяпер прасціраецца роўнае поле, абапал якога цягнуцца меліярацыйныя канавы.

Побач з в. Чапаева быў агледжаны курганны могільнік, які знаходзіцца за лесам на полі, у левабярэжжы р. Нежароўка, праз 1,7 км на поўнач ад вёскі, уздоўж дарогі з Чапаева ва Урэчча (гл. мал. 5: *4*). Паводле паведамлення Л. У. Дучыц, якая абследавала могільнік у 1979 г., у трох групах было каля 50 насыпаў. Цяпер колькасць насыпаў істотна зменшылася. У кожнай з трох груп налічваецца толькі па 3–7 насыпаў. Частку курганоў, на якіх не раслі дрэвы, відаць, разбурылі ворывам.

Падчас разведак каля в. Чапаева, на левым беразе р. Нежароўка, было адкрыта селішча з вялікай колькасцю археалагічных матэрыялаў сярэдневяковага перыяду, знаходкамі жалезнага веку і адзінкавымі артэфактамі эпохі бронзы. Селішча знаходзіцца за 0,7 км на поўнач ад вёскі, уздоўж левабярэжнай тэрасы р. Нежароўка (гл. мал. 5: *5*). Знаходкі лакалізаваліся на плошчы каля 400 × 200 м. Не выключана, што селішча цягнулася далей у паўночназаходні бок уздоўж тэрасы, за дарогу. Селішча даследавалася паверхневымі зборамі. У сабранай на месцы селішча калекцыі налічваецца 249 адзінак. Пераважаюць фрагменты ганчарнай керамікі: венцы (27 адз.), шыйкі (12 адз.), донныя і прыдонныя часткі (14 адз.), сценкі (159 адз.) (мал. 7; 8: *1–3*). Кераміка аздоблена гарызантальнымі, хвалістымі пракрэсленымі лініямі, кароткімі рыскамі, адступаючымі наколамі. Лініі часта праводзілі грабенчатым прыстасаваннем. Кераміка датавана ў межах ад другой паловы X да пачатку XII ст. Найбольш выразна ў комплексе прадстаўлена кераміка XI ст. Не выключана, што некалькі абломкаў керамікі адносяцца да XVI–XVII ст.[3] У калекцыі прысутнічае 18 фрагментаў (венца, прыдонная частка, сценкі) ляпной керамікі жалезнага веку (мал. 8: *4, 5*). Посуд гладкасценны, толькі на некаторых фрагментах можна ўбачыць сляды штрыхоўкі. У гліне прысутнічае рознаязрністая жарства. Адзін фрагмент – рэшткі шыйкі гаршка тшцінецкага культурнага кола (бронзавы век) з гарызантальнымі радамі ружанцовых адбіткаў (мал. 8: *6*). Паверхня пасудзіны гладкая. Таўшчыня сценкі – каля 1,1 см. У якасці адтлушчальніка выкарыстоўвалі жарству дробных і сярэдніх памераў. Налічваецца восем крамянёвых вырабаў з сыравіны шэрага колеру. Пераважаюць моцна пашкоджаныя крамянёвыя абломкі (4 адз.). Сярод іншых знаходак з крэменю былі знойдзены: адшчэп, фрагменты дзвюх зламаных пласцін (мал. 8: *8*), пашкоджаны па краях выраб з участкам рэтушы (мал. 8: *7*).

На паўднёвы захад ад г. Любань была абследавана пагоркавая тэрыторыя, у паніжэннях якой прасціраліся тарфянікі, цягнуліся меліярацыйныя канавы. Адна з іх – каналізаванае русла колішняй р. Калодна – правага прытока р. Арэса. На ўзвышшах уздоўж р. Калодна (цяпер – Каладнянская канава) знойдзены чатыры новыя месцазнаходжанні з матэрыяламі розных эпох (Любань-6, -6А, -7, -8) (гл. мал. 5: *6–9*).

*Любань-6*. У паўднёва-заходнім накірунку ад г. Любань, прыблізна праз 1,5 км ад гарадскіх адстойнікаў, на пагоркавым участку правабярэжнай тэрасы Каладнянскага канала, за 500 м на поўдзень ад яго былі сабраны матэрыялы каменнага веку і фрагмент керамікі эпохі жалеза (гл. мал. 5: *6*). Знаходкі сустракаліся на паўночным краі ўзвышша на працягу каля 250 м. Вышыня тэрасы ў гэтым месцы дасягае 6–7 м над тарфянікам. Знойдзены наступныя артэфакты: крамянёвыя адшчэпы (8 адз.); масіўны краявы скол з участкам рэтушы (мал. 6: *7*), пласцiністы скол з рэтушшу па краях (мал. 6: *9*), фрагменты нуклеусаў (3 адз.) (мал. 6: *8*), крамянёвая абпаленая пласціна, абломкі крэменю і крамянёвая галька (6 адз.), фрагмент ляпной керамікі жалезнага веку.

Па схіле пагорка, бліжэй да ўскраіны тэрасы, на раллі быў закладзены шурф памерамі 2 × 1 м. У профілях прасочваўся ворыўны глебавы пласт таўшчынёй да 30 см. Ніжэй ён падсцілаўся дробназярністым пяском жоўтага колеру. У ворыўным пласце была знойдзена крамянёвая пласціна (мал. 6: *10*). Ніжэй узаранай глебы ў пяску ўдалося знайсці фрагмент абпаленай шырокай крамянёвай пласціны і крамянёвы адшчэп. Матэрыялы шурфа сведчаць аб прысутнасці на ўскраіне тэрасы слядоў помніка каменнага веку.

*Любань-6А*. Прыблізна праз 100 м ва ўсходнім накірунку ад пункта Любань-6, таксама на высокай ускраіне тэрасы (гл. мал. 5: *7*) быў знойдзены крамянёвы рабрысты скол.

[3] Выказваем удзячнасць А. В. Іову і М. В. Клімаву за кансультацыі па храналагічнай ідэнтыфікацыі сярэдневяковай керамікі.

*Любань-7.* Яшчэ адно новае месцазнаходжанне зафіксавана на супрацьлеглай левай тэрасе Каладнянскай канавы (гл. мал. 5: *8*). Яно знойдзена за 1,2 км на захад ад гарадскіх адстойнікаў, на мысападобным участку рачной тэрасы вышынёй каля 5 м над поймай. Уздоўж паўднёва-усходняй ускраіны тэрасы, на працягу амаль 100 м зрэдку сустракаліся асобныя артэфакты: крамянёвыя пласціны (2 адз.) (мал. 9: *2, 4*), крамянёвы адшчэп, фрагменты сценак шэраглінянай ганчарнай керамікі (5 адз.) (мал. 9: *3*), фрагмент венца ганчарнага гаршка X ст. (мал. 9: *1*).

Па краі тэрасы быў закладзены шурф памерамі 2 × 1 м. У профілях прасочваўся ворыўны глебавы пласт таўшчынёй каля 25 см. У глебе быў знойдзены фрагмент сценкі ляпнога гаршка (жалезнага веку), сем фрагментаў ганчарнага посуду. На чатырох абломках прасочваўся лінейны арнамент. Ніжэй ворыва былі адзначаны сляды аб'екта, заглыбленага ў мацерыковы дробназярністы пясок (глыбіня – да 80 см). У шэра-бялёсым запаўненні ямы зрэдку сустракаліся асобныя дробныя вугольчыкі, быў знойдзены дробны фрагмент кальцыніраванай косткі. Функцыянальнае прызначэнне аб'екта ўстанавіць не ўдалося.

*Любань-8.* У паўднёва-заходнім накірунку ад Любані, прыблізна за 0,8–1,2 км на паўднёвы захад ад гарадскіх адстойнікаў, па краі высокай тэрасы Каладнянскага канала было адкрыта новае месцазнаходжанне матэрыялаў каменнага веку і сярэдневяковага перыяду (гл. мал. 5: *9*). Вышыня тэрасы дасягае 5,5–6,0 м. Знаходкі прасочваліся на працягу амаль 600 м. Назіраліся дзве канцэнтрацыі знаходак: паўночная і паўднёвая. Паўночная зона помніка працягам каля 300 м была размешчана насупраць ляска, які расце ў нізіне і па схілу ўзвышша. Паўднёвая зона цягнулася далей па краі ўзвышша да невялікага ляска каля шашы з Любані ў Обчын. На ворыве знойдзены наступныя крамянёвыя артэфакты: разцы на пласціне (2 адз.) (мал. 9: *7, 8*), краявыя сколы (2 адз.) (мал. 8: *9*), пласціны і іх фрагменты (4 адз.) (мал. 9: *5, 6, 12*), абломкі крэменю (5 адз.), аднапляцовачныя нуклеусы (2 адз.) (мал. 9: *10, 11*), крамянёвы выраб з рэтушаванымі выемкамі, скрабок на масіўным адшчэпе, адшчэп з участкам рэтушы, скрабок на рабрыстым сколе, адшчэпы, пласціністы скол, абпаленыя адшчэпы (3 адз.). Сярод іншых знаходак выяўлены фрагменты каменнага вырабу, ганчарнага белаглінянага посуду, у тым ліку з палівай (13 адз.), медная манета – солід («барацінка») 1666 г. Рэчы Паспалітай з выявай «Пагоні» на рэверсе.

Таксама была абследавана тэрыторыя на захад ад гарадзішча (месца будучага будаўніцтва чыгуначнай станцыі), дзе былі закладзены два шурфы. Археалагічных знаходак выяўлена не было [5].




Мал. 7. Ганчарная кераміка. Другая палова X – XI ст. Селішча каля в. Чапаева




Мал. 8. Фрагменты арнаментаваных сценак (*1, 2*) і доннай часткі (*3*) ганчарнага посуду, венца (*4*) і доннай часткі (*5*) керамікі жалезнага веку, арнаментаванага гаршка тшцінецкага культурнага кола эпохі бронзы (*6*) і крамянёвыя вырабы (*7, 8*). Селішча каля в. Чапаева




Мал. 9. Ганчарная кераміка і крамянёвыя вырабы з месцазнаходжання Любань-7 (*1–4*), крамянёвыя вырабы з месцазнаходжання Любань-8 (*5–12*)

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва газаправода [1].** Траса будучага газаправода даўжынёй каля 48 км праходзіць паміж в. Обчын і Дубеі па двух раёнах Мінскай вобласці – Любанскім і Салігорскім (мал. 10). У фізіка-геаграфічным сэнсе мікрарэгіён месціцца на паўночных ускрайках Прыпяцкага Палесся, паміж верхніх участкаў двух буйных левых прытокаў р. Прыпяць – р. Арэса на ўсходзе і р. Случ на захадзе. Большая частка трасы газаправода прыпадае на раўнінны забалочаны ландшафт з перавагай дзярнова-балотных і тарфяна-балотных глеб. Па лініі захад–усход тут цягнецца разлеглая забалочаная нізіна з заліўнымі лугамі, якая ўтварае вадазбор р. Арэса і Случ. З паўночнага захаду і поўдня яна прымыкае да адносна высокіх (да 5–6 м над узроўнем вады) марэнных узвышшаў. Па плыні р. Случ, у раёне в. Лістападовічы і г. п Старобін і далей на паўночны захад, рэльеф паступова пераходзіць ва ўзвышаны, з перавагай пясчаных глебаў, – паўднёвыя ўскрайкі Сярэднебеларускага ўзвышша.

У пераважнай большасці ў зоне новабудоўлі газаправода археалагічных аб’ектаў выяўлена не было. Толькі падчас абследавання тэрыторыі паміж в. Зара і Засмужжа (у дадзеным месцы будаўніцтва ЛЭП і газаправода размешчаны побач) былі лакалізаваны некалькі новых пунктаў з археалагічнымі матэрыяламі (гл. мал. 10).

*Месцазнаходжанне Зара-1* (гл. мал. 10: *9*) размешчана па паўднёвым краі адносна высокага, да 4–5 м над узроўнем нізіны, марэннага ўзвышша. На яго паўднёва-заходнім схіле на разаранай паверхні знойдзены крамянёвы адшчэп і фрагмент сценкі ганчарнай пасудзіны. Месца выяўлення матэрыялаў знаходзіцца каля 300 м на поўнач ад трасы пракладкі газаправода.

*Месцазнаходжанне Засмужжа-1* (гл. мал. 10: *8*) выяўлена непасрэдна па трасе пракладкі газаправода, каля 650–700 м на паўднёвы захад ад в. Зара і каля 550 м на паўднёвы ўсход ад в. Засмужжа. Размешчана на невялікім мысападобным выступе марэннага ўзвышша, якое з поўдня, усходу і захаду




Умоўныя адзнакі: а б в г

Мал. 10. Карта помнікаў і месцазнаходжанняў у зоне будаўніцтва газаправода: *а* – траса газаправода; *б* – зоны каля трасы, абследаваныя дадаткова; *в* – гарадзішча; *г* – курганная група; *1* – гарадзішча Обчын; *2* – гарадзішча Засмужжа; *3* – курганны могільнік Рачэнь; *4* – стаянка эпохі неаліту–бронзы, месцазнаходжанне матэрыялаў жалезнага веку і курганны могільнік каля в. Мецявічы; *5* – стаянка Юсцікава Гара; *6* – стаянка Старобін-1; *7–9* – месцазнаходжанні Засмужжа-1–3; *10* – курганны могільнік Атраднае

акаляецца нізінай. Пад ім з поўдня праходзіць канава. Сабрана звыш 20 абломкаў познаганчарнага посуду, большасць з якіх – фрагменты чорназадымленага, паліванага глінянага посуду Новага і Навейшага часу. Невялікую групу, 4–5 фрагментаў, складалі абломкі гаршкоў, якія па асаблівасцях ганчарнай масы і прафіліроўкі шыек могуць быць датаваны больш раннім часам – у межах XIV–XVII стст. Гэты посуд зроблены на хуткім ганчарным коле, у цесце прасочваюцца дамешкі буйназярністага пяску і, магчыма, шамоту. Абпал месцамі няроўны, колер вагаецца ад цёмна-карычневага да цёмна-шэрага.

На момант агляду плошча помніка была разараная цяжкой тэхнікай. Выразна прасочваўся мацерыковы грунт – жалезісты суглінак. Культурны пласт утвораны моцна гумусіраваным пяском бураватага колеру з торфавымі ўключэннямі. Яго таўшчыня не перавышае 25–30 см.

*Месцазнаходжанне Засмужжа-2* (гл. мал. 10: *9*) было выяўлена на супрацьлеглым баку ручаіны, каля 800 м на поўдзень–паўднёвы захад ад вёскі, на невялікім, да 300 м у даўжыню, узвышшы авальнай формы, вышынёй да 5 м над узроўнем нізіны. Месца выяўлення матэрыялаў знаходзіцца на адлегласці каля 250 м на поўдзень ад трасы пракладкі газаправода. На разаранай паверхні сабрана каля 20 абломкаў познаганчарнага посуду. З выяўленых фрагментаў тры былі пакрыты палівай жоўтага і карычняватага колеру. Рэшта паходзіць ад посуду, зробленага на хуткім ганчарным коле, у цесце прасочваюцца дамешкі буйназярністага пяску. Прафіліроўка фрагментаў шыек і асаблівасці ганчарнай масы дазваляюць аднесці найбольш раннія з выяўленых тут фрагментаў посуду да XVII–XIX стст.

Таксама быў абследаваны курганны могільнік каля в. Рачэнь, які размешчаны ва ўр. Шведскія магілы на паўночна-ўсходніх ускрайках вёскі (гл. мал. 10: *3*). Помнік выяўлены Л. У. Дучыц у 1987 г., раскопкі не праводзіліся. З канца XIX ст. яго плошчу выкарыстоўваюць пад вясковыя могілкі. На момант правядзення агляду на могільніку налічвалася каля 20 курганных насыпаў паўсферычнай формы, вышынёй да 1–2 м і дыяметрам 6–7 м. Абсалютная большасць курганоў пашкоджана сучаснымі магіламі. Ахоўная шыльда ўстаноўлена. Датаванне помніка вызначана ў межах IX–XII стст. Курганы належаць да старажытнаславянскага племяннога аб'яднання дрыгавічоў.

Абследаваўся і згаданы вышэй (зона будаўніцтва ЛЭП) курганны могільнік Атраднае (гл. мал. 10: *10*), які невядомы па літаратурных крыніцах. Помнік знаходзіцца ў сасновым лесе на паўночна-заходняй ускраіне вёскі, паабапал асфальтаванай шашы Любань–Старобін. Могільнік выцягнуты па лініі паўночны захад–паўднёвы ўсход. На момант адкрыцця налічваў 23 курганы: 6–7 насыпаў знаходзяцца на паўночным баку шашы, рэшта – на поўдзень ад яе. Даўжыня могільніка складае 70–80 м, шырыня – каля 50 м. У 1980-я гады ў заходняй частцы ён быў моцна пашкоджаны пясчаным кар'ерам, а ў паўночнай – у выніку пракладкі дарогі. Курганы размешчаны шчыльна, часам непасрэдна прымыкаюць адзін да аднаго. Насыпы маюць паўсферычную форму, каля большасці з іх прасочваюцца кальцавыя раўкі. Дыяметр у аснаванні вагаецца ад 6–7 да 12–13 м, вышыня – ад 0,7 да 1,8–2,0 м. Шэраг курганоў пашкоджаны ў выніку земляных прац. На вяршынях некаторых назіраюцца ўкопы – верагодна, скарбашукальніцкія ямы.

**Заключэнне.** Такім чынам, у выніку праведзеных археалагічных выратавальных (ахоўных) даследаванняў у зоне будаўніцтва Нежынскага ГУК і аб'ектаў яго інфрастуктуры на тэрыторыі Любанскага раёна Мінскай вобласці былі выяўлены:

– чатыры новыя месцазнаходжанні з матэрыяламі каменнага, жалезнага вякоў *Обчын-1-лес, Обчын-1А, Обчын-4, Белы Слуп-1* на тэрыторыі будаўніцтва непасрэдна пляцоўкі камбіната;

– тры месцазнаходжанні розначасовых археалагічных артэфактаў *Шыпілавічы-3, -3А, -6* на тэрыторыі будаўніцтва пад'язной аўтамабільнай дарогі;

– восем месцазнаходжанняў з матэрыяламі каменнага, бронзавага, жалезнага вякоў, сярэдневяковай эпохі і больш позніх перыядаў *Урэчча-1, -2, Крупенікі-1, Чапаева, Любань-6, -6А, -7, -8* на тэрыторыі будаўніцтва чыгункі;

– тры месцазнаходжанні з матэрыяламі каменнага веку, позняга сярэдневякоўя і Новага часу *Зара-1, Засмужжа-1, -2* на тэрыторыі будаўніцтва ЛЭП і газаправода.

Курганныя могільнікі каля в. Рачэнь і Атраднае таксама былі абследаваны. Па выніках праведзеных абследаванняў зон новабудоўляў былі падрыхтаваны рэкамендацыі аб ахове (у тым ліку далейшым вывучэнні) археалагічнай спадчыны.

## Літаратура і крыніцы

1. Белявец, В. Г. Справаздача аб правядзенні 1-га этапу археалагічных даследаванняў (папярэдніх прац) у зоне будаўніцтва газаправоду да горнаўзбагачальнага комплексу на сыравіннай базе Нежынскага ўчастка (усходняя частка) Старобінскага радовішча калійных солей у Любанскім раёне Мінскай вобласці // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2012.

2. Вергей, В. С. Отчет о полевых исследованиях Центральнополесского отряда в бассейнах рек Оресса, Уборть и Горинь в 1990 г. / В. С. Вяргей, Н. Н. Криваль-

цевич, В. Е. Кудряшов // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Арх. № 1227а, 1227б.

3. Дубінскі, С. А. Досьледы культур жалезнага пэрыяду на БССР у 1929 г. / С. А. Дубінскі // Запіскі аддзела гуманітарных навук. – Менск, 1930. – Кн. 2 : Працы археолёгічнай камісіі. – С. 510–511.

4. Збор помнікаў гісторыі і культуры Мінскай вобласці. – Мінск, 1987. – С. 277.

5. Касюк, А. Ф. Справаздача аб выкананні археалагічных даследаванняў (папярэдніх работ) у 2012 годзе на аб'екце «Строительство горно-обогатительного комплекса на сырьевой базе Нежинского (восточная часть) участка Старобинского месторождения калийных солей» в Любанском районе Минской области // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Арх. № 3014. – Минск, 2012.

6. Крывальцэвіч, М. М. Справаздача № 1 аб правядзенні 1-га этапу археалагічных даследаванняў (папярэдніх прац) у зоне будаўніцтва ліній электраперадач і аўтамабільных дарог да горнаўзбагачальнага комплексу на сыравіннай базе Нежынскага ўчастка (усходняя частка) Старобінскага радовішча калійных солей у Любанскім раёне Мінскай вобласці // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Арх. № 2946. – Мінск, 2012.

7. Крывальцэвіч, М. М. Справаздача № 1 аб правядзенні 1-га этапу археалагічных даследаванняў (папярэдніх прац) у зоне будаўніцтва чыгункі да горнаўзбагачальнага комплексу на сыравіннай базе Нежынскага (усходняя частка) участка Старобінскага радовішча калійных солей у Любанскім раёне Мінскай вобласці // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Арх. № 2947. – Мінск, 2012.

8. Лошенков, М. И. Городища милоградской культуры на территории Беларуси / М. И. Лошенков. – Минск : МФЦП, 2011. – 408 с.

9. Лысенко, П. Ф. Дреговичи / Лысенко П. Ф. – Минск : Навука і тэхніка, 1991. – 244 с.

10. Поболь, Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1983. – 456 с.

11. Харытановіч, З. А. Справаздача аб выкананні археалагічных даследаванняў на гісторыка-культурнай каштоўнасці гарадзішчы Обчын у зоне будаўніцтва аб'екта «Строительство горно-обогатительного комплекса на сырьевой базе Нежинского (восточная часть) участка Старобинского месторождения калийных солей» у Любанскім раёне Мінскай вобласці ў 2012 годзе // ААНД Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Арх. № 3004. – Мінск, 2013.

12. Яніцкая, М. М. Беларускае мастацкае шкло: XIX – пачатак XX ст. / М. М. Яніцкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1984. – 143 с.

13. Kamenska, Z. Manufaktura szklana w Urzeczu (1737–1846) / Z. Kamenska. – Warszawa, 1964.

14. Kelley, D. W. Charcoal and Charcoal Princes Risborough, Shire Publications, 1986. Charcoal burning [Electronic resource]. – Mode of access : http:// www. geoarch. co. uk/ – Date of access : 27.09.2012.

**Резюме**

*В. Г. Белявец, Е. Ф. Касюк, Н. Н. Кривальцевич, В. Л. Лакиза, З. А. Харитонович*

**Итоги археологических исследований 2012 года в зоне строительства Нежинского горно-обогатительного комплекса и объектов его инфраструктуры (Любанский район Минской области)**

Введены в научный оборот результаты одних из наиболее масштабных полевых археологических работ Института истории НАН Беларуси в 2012 г. – спасательные (охранные) исследования в зоне строительства Нежинского горнообогатительного комплекса и объектов его инфраструктуры на территории Любанского района Минской области.

Выявлены четыре новых археологических объекта каменного и железного веков Обчин-1-лес, Обчин-1А, Обчин-4, Белый Слуп-1 на территории строительства площадки горнообогатительного комбината; три местонахождения разновременных археологических артефактов Шипиловичи-3, -3А, -6 на территории строительства подъездной автомобильной дороги; восемь местонахождений с материалами каменного, бронзового, железного веков, средневековой эпохи и более поздних периодов Уречье-1, -2, Крупеники-1, Чапаево, Любань-6, -6А, -7, -8 на территории строительства железной дороги; три местонахождения с материалами каменного века, позднего средневековья и Нового времени Заря-1, Засмужье-1, -2 на территории строительства линии электропередач и газопровода. Обследовались также курганные могильники около д. Речень и Отрадное.

По результатам проведенных обследований зон новостроек подготовлены рекомендации об охране (в том числе дальнейшем изучении) известных и выявленных археологических объектов.

**Summary**

*V. G. Beljavec, A. F. Kasjuk, M. M. Kryvaltsevich, V. L. Lakiza, Z. A. Kharytanovich*

**Results of the archaeological research in 2012 in the building areas of Nezhyn mining-and-processing complex and installations of the infrastructure (Luban district of Minsk region)**

The article introduces into scientific circulation results one of the most significant archaeological field work of the Institute of History of NAS of Belarus of the rescue (protected) research in 2012 in the building zone of Nezhyn mining-and-processing complex and installations of the infrastructure in Luban district of Minsk region.

Four new archaeological sites of the Stone Age and Iron Age Obchyn-1-forest, Obchyn-1A, Obchyn-4, Bely Slup-1 were uncovered on the territory of the mining-and-processing integrated works building area as results of research. Three sites Shypilavichy-3, -3A, -6 with nonsimultaneous archaeological finds were discovered on the territory of the access road building area. Eight sites Urechcha-1, -2, Krupeniki-1, Chapaeva, Luban-6, -6A, -7, -8 with archaeological finds of the Stone, Bronze, Iron Ages, Middle Age and more late periods were uncovered on the territory of the railway building area. Three sites Zara-1, Zasmuzhzha-1, -2 with finds of the Stone, Late Middle, Early Modern Ages were discovered on the territory of the electric power and gas pipe lines building area. Barrows near Rachen and Atradnae were investigated too.

Recommendations on the protection (including further investigation) of the previously known and new archaeological sites were prepared by the results of the archaeological research in the building zones.

*Пастуniў 27.11.2014 г.*

*УДК 903/904«638/653»(476.7)*

***А. М. Бяліцкая,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, навуковы супрацоўнік (г. Мінск, Беларусь);*
***В. С. Вяргей,** кандыдат гістарычных навук, (г. Мінск, Беларусь)*

# Матэрыялы жалезнага веку і ранняга сярэдневякоўя з паселішча Камень-6

Археалагічны помнік Камень-6 адкрыў ў 1967 г. У. Ф. Ісаенка. Археолаг даследаваў яго ў 1981–1983 і 1986–1987 гг. [22; 23; 24, с. 357–358; 25–27; 28, с. 302–304]. Паселішча размешчана на вышыні 2,5–4,0 м над ўзроўнем ракі, на пясчаным мысе першай надпоплаўнай тэрасы р. Бобрык, левага прытока р. Прыпяць, ва ўрочышчы Беляне, у 1 км на паўднёвы-ўсход ад вёскі Камень Пінскага раёна, Брэсцкай вобласці (мал. 1). Даследчык адзначыў, што асноўная маса знаходак, выяўленых на помніку, звязаная з яго функцыянаваннем у эпохі неаліта і бронзы і прадстаўлена вырабамі з крэменю, косці і керамікі, характэрнымі для насельніцва нёманскай і шнуравой керамікі культур, а ў раннім сярэдневякоўі тут месцілася селішча пражскай культуры. Артыкул прысвечаны ўвядзенню ў навуковы ўжытак неапублікаваных матэрыялаў перыядаў жалезнага веку і ранняга сярэдневякоўя з раскопак У. Ф. Ісаенкі на паселішчы Камень-6 і іх характарыстыцы ў культурна-храналагічным плане.

Старажытнае паселішча займае плошчу прыкладна 160 × 100 м, гэта значыць прыблізна 1,6 га. Найбольш добра культурны пласт захаваўся ў паўночна-заходняй частцы помніка, дзе праводзілі археалагічныя раскопкі пад кіраўніцтвам У. Ф. Ісаенкі (мал. 2). Даследаванне культурнага пласта і фіксацыю выяўленых матэрыялаў праводзілі па квадратах памерам 2 × 2 м і механічнымі пластамі таўшчынёй 0,2 м. Плошча ўсіх раскопаў была разбіта па адзінай сетцы з пазначэннем квадратаў па асі поўнач–поўдзень лічбамі, а па лініі захад–усход – літарамі. За пяць палявых сезонаў было раскапана каля 1950 м$^2$ культурнага пласта, магутнасць якога дасягала 0,6–1,0 м. Стратыграфія яго амаль на ўсёй плошчы раскопу аднолькавая. Зверху знаходзіўся ворны слой з шэрага супеску таўшчынёй каля 0,20–0,25 м, ніжэй залягаў пласт цёмна-шэрага супеску на глыбіню да 0,6–1,0 м. На глыбіні 0,6–0,8 м у цёмна-шэрым супеску назіраліся дастаткова шчыльная значная канцэнтрацыя артштэйнаў. Мацярык – светлы пясок. Наяўнасць аб’ектаў зафіксавана У. Ф. Ісаенкам у раскопе 1982 г. ў квадратах (кв.) 16-Ю, 17-Э, 18-Э, 19-Щ, 20-Ю (мал. 3). Як адзначае даследчык, у перадмацерыковым пласце і пры яго зачыстцы, на глыбіні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні былі заўважаны плямы попельнага колеру дыяметрам каля 0,4–0,6 м. У іх пясок быў змяшаны з попелам і абпалены агнём. Уладзімір Фёдаравіч выказаў меркаванне, што іх можна разглядаць у якасці асноў разбураных агменяў. Таксама У. Ф. Ісаенка лічыў, што частка гэтых плям з’яўлялася рэшткамі грунтовых пахаванняў, выкананых па абраду крэмацыі, якія былі пазней знішчаны ворывам [22, 23, 25]. У інфармацыным артыкуле ў «Археологических открытиях 1982 г.» ён напісаў аб наяўнасці на селішчы Камень-6 пахаванняў паморскай культуры [24, с. 357–358]. Аднак як графічная, так і апісальная часткі справаздачы, а таксама і непасрэдна матэрыялы раскопак, якія захоўваюцца ў зборах Інстытута гісторыі НАН Беларусі, не даюць падстаў адназначна звязваць выяўленыя аб’екты з ямнымі пахаваннямі насельніцтва паморскай культуры. У справаздачы няма інфармацыі аб прысутнасці ў выяўленых аб’ектах кальцыніраваных костак і пахавальнага інветару.

Выразныя аб’екты выяўлены ў раскопах 1986 і 1987 г. На асобных невялікіх участках раскопу даследчык адзначае захаванасць культурна-храналагічнай стратыграфіі. Матэрыялы эпох бронзы, жалезнага веку і ранняга сярэдневякоўя залягалі пераважна на глыбіні 0,2–0,6 м ад дзённай паверхні, а неаліта – адпаведна на глыбіні 0,4–1,0 м. Аднак на большай частцы раскопу гэтая паслядоўнасць напластаванняў не захавалася. У асобных выпадках у апісанні пабудоў і іх графічнай дакументацыі ў справаздачах У. Ф. Ісаенкі сустракаюцца несупадзенні. Пры характарыстыцы аб’ектаў у дадзеным артыкуле мы абапіраліся ў першую чаргу на ілюстрацыйны матэрыял, прадстаўлены ў справаздачах аб палявых даследаваннях. У паўночнай частцы раскопу 1986 г. і паўднёвай частцы раскопу 1987 г. была выяўлена пабудова 1 [26, 27].

**Пабудова 1**. Абрысы пабудовы 1 прасочваліся з глыбіні 0,35–0,40 м ад дзённай паверхні пад ворыўным пластом. Цэнтральная частка катлавана, арыентаванага сценамі з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, пашкоджана паласой воркі глыбокага планажнага плуга. Запаўненне катлавана пабудовы, памеры якой склалі 4,4 × 3,2 м, вылучалася шчыльнасцю і больш цёмным колерам, наяўнасцю попелу і дробнага вугалля. Сценкі катлавана блізкія да вертыкальных, крыху звужаліся да нізу, дно яго пясчанае, амаль роўнае (мал. 4). Ніжняя частка аб’екта дасягала мацерыка, такім чынам дно катлавана было размешчана на глыбіні 0,80–0,98 м ад дзённай паверхні. Найбольш глыбокім катлаван быў у




Мал. 1. Сітуацыйны план размяшчэння помнікаў каля в. Камень Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Паводле В. Ф. Ісаенкі




Мал. 2. Схема даследаванай часткі паселішча. Раскопкі В. Ф. Ісаенкі. 1981–1983 і 1986–1987 гг.

паўднёва-ўсходнім кутку, дзе прасочваліся рэшткі агменя дыяметрам да 1,1 м, змешчаныя ў нязначным паглыбленні, у якім захаваўся пласт попелу (таўшчынёй 5–8 см) з дробным вуголлем. У заходняй частцы попельна-вугальнага пласта і на захад ад яго зафіксавана скапленне патрэсканых ад уздзеяння агню камянёў дыяметрам 12–20 см. Сярод камянёў трапляліся камякі гліны без слядоў абпалу. На адным з камянёў, які дасягаў да 35 см у папярочніку, выяўлены кавалкі чырванаватай охры. У паўночна-усходнім кутку аб’екта з глыбіні 0,6 – 0,7 м ад дзённай паверхні выразна прасочвалася пляма перапаленага пяску і попелу цёмна-шэрага колеру, што склала запаўненне ямы, заглыбленай у дно катлавана на 0,3 м. У плане яма мела авальную форму памерам 1,7 × 0,9 м, яе сценкі звужаліся да нізу, дно было лінзападобнае. У межах пабудовы знойдзены абломкі ляпнога посуду пераважна пражскай культуры, часта даволі буйныя, сустракаюцца адзінкавыя фрагметы гаршкоў вельбарскай культуры (мал. 5: *1, 2*). Большасць керамікі, па назіраннях аўтара раскопак, была знойдзена вышэй падлогі, на глыбіні 0,4–0,6 м ад дзённай паверхні. Развалы некаторых пражскіх гаршкоў паддаюцца графічнай рэканструкцыі (мал. 6). У. Ф. Ісаенка разглядаў гэты аб’ект як рэшткі жытла насельніцтва пражскай культуры.

**Пабудова 2** выяўлена прыблізна ў 4,5 м на поўнач ад пабудовы 1. Даследавана часткова, выходзіць за межы паўночнай сценкі раскопу 1987 г. (гл. мал. 4). Вывучаная частка пабудовы мела памеры 3,0 × 2,1 м, была арыентавана, як і папярэдняя, з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, выразна вылучалася больш цёмным запаўненнем з глыбіні 0,3–0,4 м ад дзённай паверхні. Сценкі яе катлавана даволі рэзка звужаліся да нізу і на глыбіні 0,8 м контуры аб’екта ўжо мелі памеры 2,3 × 1,8 м. Запаўненне пабудовы складалася з шэрага супеску з уключэннем попелу і дробнага вуголля. Дно яе катлавана ў цэнтральнай частцы знаходзілася на глыбіні 0,8–0,9 м ад дзённай паверхні на ўзроўні мацерыка і павышалася ў бок яго сценак (гл. мал. 4). Бліжэй да цэнтра катлавана на глыбіні 0,4 м ад дзённай паверхні прасочана амаль круглая ў плане дыяметрам да 1,2 м лінза перапаленага попельнага колеру пяску з вуголлем, таўшчыня якой дасягала да 0,4 м і даходзіла на глыбіню да 0,8–0,9 м ад дзённай паверхні. З паўночна-усходняга боку ад апісанай лінзы на глыбіні ад 0,3 да 0,6 м прасочаны перапаленыя камяні і абломкі грубаляпных сасудаў раннесярэдневяковай пражскай культуры. Яшчэ адно скапленне ляпной керамікі зафіксавана прыкладна ў 1,8–2,0 м на ўсход ад пабудовы 2. На плане адзначана, што гэта абломкі сасудаў эпохі жалеза. У запаўненні пабудовы 2 выяўлены фрагменты ляпной керамікі пражскай культуры, што дало падставу У. Ф. Ісаенка інтэрпрэтавць яе як рэшткі раннеславянскага жытла.




Мал. 3. Планы і профілі вогнішчаў. Камень-6. 1982 г. Паводле В. Ф. Ісаенкі

**Яма.** У трох метрах на паўночны ўсход ад жытла 1 на глыбіні 0,35 м выяўлена гаспадарчая яма, авальная ў плане, выцягнутая з поўначы на поўдзень, памерам 1,8 × 1,1 м, глыбінёй 1,2 м ад дзённай паверхні. Сценкі яе звужаліся да нізу, дно было лінзападобнае (гл. мал. 4). Запоўнена яма была цёмным пяском з дамешкамі вуголля і попелу. Каля паўднёва-усходняй сценкі ямы былі выяўлены два крэменя і жалезны дрэннай захаванасці серп на яе дне, на глыбіні 1,2 м ад дзённай паверхні.

Характар домабудаўніцтва лічыцца выразнай этнаграфічнай прыкметай. На сямі палескіх селішчах пражскай культуры даследавана каля 20 жытлаў [12, с. 317–347]. Яны паказваюць устойлівую традыцыю і рэканструюцца як падквадратнай формы пабудовы зрубнай канструкцыі з пясчанай падлогай, размешчанай на мацерыку, альбо заглыбленай у яго да 0,4 м, арыентаваныя сценамі, альбо вугламі па баках свету. Памяшканні абаграваліся агменямі, складзенымі з камянёў і кавалкаў балотнай руды

(Петрыкаў-1, -2), альбо кавалкаў металургічнага жужалю (Востраў), кавалкаў металургічнага жужалю ў спалучэнні з керамікай (Востраў). Сустракаліся агмені, складзеныя з камянёў, замацаваных глінай (Петрыкаў-2). Некаторыя жытлы ацяпляліся печамі, збудаванымі з гліны і дробных камянёў на драўляным каркасе (Струга-1, Ліпляны, Петрыкаў-2) альбо цалкам з гліны (Снядзін-3). Агмені і печы размяшчалі звычайна ў адным з паўночных куткоў жытла. Пабудова 1 з паселішча Камень-6 у агульных рысах з'яўляецца аналагічнай па памерах і зрубнай канструкцыі сцен да іншых палескіх жытлаў пражскай культуры. Яе асаблівасць заключаецца ў размяшчэнні ацяпляльнага збудавання ў паўднёвым кутку памяшкання. Аднак падобнае месцапалажэнне глінабітнай печы ў жытле 1 зафіксавана на паселішчы Струга-1 у Столінскім раёне [8, с. 63–85]. Аналагічныя выпадкі адзначаны таксама на паселішчах Рашкаў-2 і -3 у басейне Днястра ва Украіне, дзе печы-каменкі часта займалі паўднёвы куток жытла [1, с. 36]. Складана вызначыць функцыянальную прыналежнасць ямы ў паўночна-усходнім кутку пабудовы 1. Гэта можа быць звычайная ямасховішча для ўсялякіх прыпасаў, якія сустракаюцца ў жытлах як на Беларускім Палессі (Струга-1, Снядзін-3), так і ў іншых рэгіёнах пражскай культуры [14, с. 21–32]. Аднак значная канцэнтрацыя попелу ў запаўненні ямы можа сведчыць, што ён мог там адкласціся ў выніку ачысткі агменя ад прадуктаў гарэння. Блізкая сітуацыя зафіксавана на паселішчы Блювінічы на р. Лясная ў Брэсцкай вобласці [9, с. 118–120]. Але там яму, куды ссыпалі попел з агменя, размяшчалі побач з ім. На пражскім паселішчы Зімнэ-4 зафіксаваны звычай закопваць рэшткі рамонту глінабітных печаў (камякі перапаленай гліны і абломкі «валькоў») тут жа ў жытлах у ямках у падлозе. Аўтар даследавання І. А. Гаўрытухін выказаў меркаванне, што падобную практыку патлумачыць пэўным функцыянальным прызначэннем цяжка і што яна хутчэй носіць рытуальны характар [15, с. 190]. Адным з верагодных мяркаванняў можа быць факт выкарыстання катлавана жытла двойчы, прычым на працягу яго эксплуатацыі мянялася размяшчэнне агменя.

Характар пабудовы 2 найбольш блізкі жытлу пражскай культуры з паселішча Кажан-Гарадок у Лунінецкім раёне [16, с. 152–162]. Яно мела карытападобнай формы катлаван паглыблены ў цэнтры і падняты па краях. Сцены зрубнай канструкцыі ўзводзіліся паабапал катлавана, абагравалася агменем, складзеным з камянёў і кавалкаў балотнай руды, які быў размешчаны ў паўночна-усходнім кутку будыніны. Падобнага тыпу жылыя пабудовы з паглыбленнем карытападобнай формы ў іх цэнтральнай частцы найбольш характэрны для паўночназаходняй групоўкі славян, якія ў VII–IX стст. жылі на тэрыторыі сучасных паўночна-заходняй Польшчы і паўночна-усходняй Германіі [51, s. 120–165]. Што тычыцца лінзы перапаленага пяску з вуголлем і размешчаных побач камянёў, то гэта канструкцыя хутчэй за ўсё не звязана з першапачатковым функцыянаваннем пабудовы 2 з карытападобным катлаванам, а ўзнікла пазней, калі катлаван пэўны час не выкарыстоўвалі і ён стаў запоўнены зямлёю. Толькі поўнае даследаванне пабудовы 2 змагло б унесці пэўную яснасць адносна гэтага аб'екта.

**Эпоха ранняга жалезнага веку** на паселішчы Камень-6 прадстаўлена матэрыяламі мілаградскай і зарубінецкай культур. Агульная колькасць керамікі, якую можна суаднесці з эпохай жалезнага веку, налічвае каля 3200 адзінак. Пераважна гэта дробныя фрагменты. Па спосабу апрацоўкі паверхні вылучаюцца тры асноўныя групы – гладкасценны посуд – каля 86 %, храпаваты – каля 7, з расчэсамі і штрыхоўкай – каля 1, глянцаваны – каля 6 %. У калекцыі ёсць наступныя катэгорыі посуду: гаршкі, міскі, келіх, дыскі-накрыўкі. У керамічным матэрыяле ёсць фрагменты гаршка мілаградскай культуры. Шыйка сасуда адагнутая вонкі з рэзкім перагібам, венца крыху скошана ўнутр, тулава моцна прафілявана, відаць гаршчок меў форму блізкую да сферычнай. У фармовачнай масе прысутнічае шамот. Сценкі тонкія падглянцаваныя, карычневага колеру. На адным з фрагментаў прасвідравана дзірка – след ад рамонту (мал. 7: *3*). Сасуды з падобным профілем М. І. Лашанкоў аднёс да 1 тыпу, 1 варыянта. Такія формы мілаградскіх гаршкоў распаўсюджаны па ўсім Прыпяцкім Палессі [37, с. 242]. Яшчэ ёсць шэраг абломкаў посуду, якія можна звязаць з мілаградскай культурнай традыцыяй. Гэта фрагменты гладкасценных гаршкоў шэрага, альбо цаглястага колеру з вертыкальнай шыйкай. У фармовачнай масе некаторых з іх акрамя шамоту прысутнічае жарства (мал. 7: *1, 2*).

Аб тым, што паселішча функцыянавала ў эпоху ранняга латэна сведчыць знаходка бранзалета з бронзы з рубчыкамі на знешняй паверхні. Амаль 1/3 вырабу страчана. Яго прыблізны дыяметр па ўнутранай паверхні – 5,3 см, шырыня сячэння – 0,5 см (мал. 8: *1*). Ён суадносіцца з групай 3, тыпу 1 паводле Е. С. Няфёдавай [43, с. 21–34]. Гэта ручны бранзалет латэнскага стылю. Распаўсюджанне іх звязваюць з экспансіяй кельтаў у Еўропе ў IV–III ст. да н. э. Пад іх уплывам утварыўся культурны гарызонт Духцоў–Мюнзінген на тэрыторыях сучасных Аўстрыі, Чэхіі, Славакіі ў фазах LTB1–LTB2 [50]. Культурныя ўплывы кельтаў на тэрыторыю Прыпяцкага Палесся распаўсюдзіліся разам з прасоўваннем на ўсход, у раён пражывання мілаградскага насельніцтва, носьбітаў паморскай культуры. У арэал распаўсюджвання бранзалетаў з рубчыкамі трапіла і Падняпроўе, дзе толькі на

гарадзішчы ў Гарошкаве былі выяўлены тры скарбы ўпрыгажэнняў, у склад якіх уваходзіла звыш трыццаці бранзалетаў [39, с. 149–154; 40, с. 75–80]. Па рубчастых бранзалетах і антычных пацерках, якія былі знойдзены на гарадзішчы Гарошкаў у адным з трох скарбаў, А. М. Абломскі вызначыў фінал мілаградскай культуры – II ст. да н. э. [44, с. 16–17].

У выніку кансалідацыйных працэсаў у канцы III – пачатку II ст. да н. э. у Прыпяцкім Палессі, Верхнім і Сярэднім Падняпроўі ўтварыліся зарубінецкія старажытнасці. На некаторых помніках Верхняга Падняпроўя, дзе пражывала насельніцтва зарубінецкай культурнай групы Кісцені–Чачэрск, знойдзены формы для ліцця рубчастых бранзалетаў і іх адбіткі на гліняным посудзе, што сведчыць аб мясцовай вытворчасці і выкарыстанні гэтых вырабаў зарубінецкім насельніцтвам [18, с. 54–64]. Прысутнасць бранзалета з рубчыкамі на паселішчы Камень-6, можна звязаць з працэсамі зараджэння зарубінецкай культуры.

Частка ляпных сасудаў адносіцца да зарубінецкай культуры, значная колькасць з іх мае гладкасценную паверхню. Візуальны агляд зломаў паказаў, што 47 % посуду гэтай групы змяшчае ў якасці схудняючай дамешкі шамот, у 39 % выяўлена жарства, у 14 % – шамот + жарства. Колер сасудаў мае розныя варыянты шэрага, шэра-бежавага, цаглянага адцення. Абпал пераважна якасны. Невялікая частка фрагментаў другасна перапалена. У групе гаршкоў з гладкасценнай паверхняй сустракаюцца сасуды закрытай формы: з кароткай вертыкальнай, альбо адагнутай вонкі шыйкай і як варыянты – слаба-, сярэдне- і моцнапрафіляванымі высокімі плечкамі (мал. 7: *6–14;* 9: *1–14*). Падобныя формы посуду даследаваны на шматслойным селішчы Гарадзішча ў Пінскім раёне [21, мал. 25: *1;* 26: *5*; 30: *2, 6*]. Сярод верхніх частак гаршкоў закрытай формы ёсць фрагменты (мал. 7: *8, 10;* 9: *10*), якія можна супаставіць з сасудамі групы 4, варыянта А з зарубінецкіх могільнікаў паводле Ю. У. Кухарэнкі [35, табл. 4: *16*]. Па ступені захаванасці некаторых фрагментаў можна меркаваць, што ў калекцыі ёсць гаршкі адкрытай формы (дыяметр венца перавышае дыяметр тулава) (мал. 2, 9, 10). Блізкі па форме сасуд даследаваны на паселішчы Хотамель-2 [4, с. 53–65, мал. 8: *17*] разам з зарубінецкай фібулай III тыпу паводле А. М. Абломскага, якія датаваны ў межах I ст. да н. э. – I ст. н. э. [45, с. 50–56]. Гаршкі адкрытага тыпу вядомы на помніках з позназарубінецкімі старажытнасцямі тыпу Люцежа, Грынёў [46; 47, табл. XIII: *9*; XVI: *4*], зубрыцкай групы [31, рис. 25: *7*]. Сярод гладкасценнага посуду прысутнічаюць сасуды рабрыстай формы, якія звязаны з уплывам культуры насельніцтва паўночных рэгіёнаў тэрыторыі Беларусі. Яны маюць прамую, крыху нахіленую унутр шыйку, рабро ў верхняй трэці іх вышыні і тулава у выглядзе ўсечанага конуса (мал. 11: *2, 3, 5, 6, 10*). Рэбры двух гаршкоў аздоблены пальцавымі ўцісканнямі (мал. 11: *2, 5*). Гаршкі падобнай формы былі знойдзены пры даследаванні гарадзішчаў Івань у Слуцкім раёне [19, с. 164], Мыслі ў Капыльскім раёне [17, с. 24–39]. Найбольш верагодны час іх выкарыстання – рубеж эр. Сярод рабрыстага посуду з гладкасценнай паверхняй ёсць місападобны сасуд з доўгай слабапрафіляванай шыйкай, арнаментаваны насечкамі па краі венца (мал. 11: *7*). Адпаведныя пасудзіны выяўлены на паселішчы Абідня [20, рис. 9: *79–80*]. Яны вылучаны ў клас II, тып 1, Б у керамічным комплексе помнікаў позназарубінецкага тыпу і кіеўскай культуры [49, рис. 1]. Да групы гладкасценнага посуду адносяцца некалькі фрагментаў мініяцюрных пасудзін і келіх (мал. 12: *2, 7;* 13: *12*). Арнамент для посуду з гладкасценнай паверхняй ужывалі рэдка. У якасці аздаблення выкарыстоўвалі парныя хвалістыя пальцавыя ўцісканні, якія ўтвараюць шахматны арнамент, насечкі па краі венца, ямкавы арнамент па акругламу ці рабрыстаму тулаву. На некаторых фрагментах ёсць сляды рамонту – свідраваныя дзіркі. Прыдонныя часткі гладкасценнага посуду не маюць закраін, у некаторых ёсць невысокія кальцавыя паддоны (мал. 14: *8, 9, 12, 13*). У калекцыі прысутнічае посуд з расчэсамі грабянцом і штрыхоўкай. Па складу фармовачнай масы, колеру і абпалу фрагменты гэтага посуду знешне не адрозніваюцца ад сасудаў з гладкасценнай паверхняй. Адзначана шэсць фрагментаў пасудзін з грабеньчатымі расчэсамі, якія наносілі на сырую паверхню сасудаў. На двух з іх маюцца сляды грабянца з частымі зубчыкамі. Фрагменты са штрыхоўкай прадстаўлены адным абломкам верхняй часткі гаршка і дзесяткам сценак. Штрыхоўка неаднародная па тэхніцы выканання. Можна меркаваць, што па паверхні некаторых сасудаў яе наносілі пучком саломы ці травы, на другіх – з дапамогай трэскі. У фармовачнай масе пасудзін назіраюцца дамешкі шамоту, жарствы, альбо шамоту і жарствы разам.

У групу посуду зарубінецкай культуры з глянцаванай паверхняй уваходзяць сасуды з рознай ступенню глянцаванасці: старанна глянцаваныя і падглянцаваныя. У параўнанні з грубаляпным посудам, фармовачная маса іх добра адмучана. У пераважнай большасці фрагментаў прасочаны дабаўкі шамоту, у некаторай іх частцы візуальна заўважана дробная слюдзяністая жарства. У залежнасці ад абпалу паверхня керамікі мае розныя адценні чорнага, бежава-шэрага, светла-бежавага, жоўтага колераў. Формы некаторых глянцаваных гаршкоў маюць адпаведнікі сярод гладкасценных. Асобныя гаршкі характарызаваны моцнапрафіляванымі сярэдневысокай шыйкай і тулавам з плечыкамі, размешчанымі ў верхняй трэці іх вышыні (гл. мал. 7: *5*).




Мал. 4. Планы, профілі пабудоў 1–2 і ямы 1. Раскопы 1986–1987 гг. Паселішча Камень-6. Паводле В. Ф. Ісаенкі




Мал. 5. Керамічны і рэчавы комплекс жытла 1: *1–6* – кераміка; *7* – камень. Паселішча Камень-6



Мал. 6. Ляпны посуд (графічная рэканструкцыя) (*1–11*). Жытло 1. Паселішча Камень-6. Паводле В. Ф. Ісаенкі




Мал. 7. Ляпная кераміка з культурнага пласта: 1, 2, 6–8 – з гладкасценнай паверхняй; 3–5, 9–15 – з глянцаванай паверхняй. Паселішча Камень-6



Мал. 8. Бронзавыя (*1*, *2*) і жалезныя (*3*–*9*) рэчы. Паселішча Камень-6



Мал. 9. Ляпная кераміка з культурнага пласта: *1–14, 16–19* – з гладкасценнай паверхняй; *15* – з глянцаванай паверхняй. Паселішча Камень-6



Мал. 10. Ляпны посуд (фрагменты): *1, 4, 8–10, 12–14* – з падштрыхаванай паверхняй; *2, 3, 6, 11, 15* – з расчэсамі грабянца; *5, 7* – з падгранёнымі палосамі. Паселішча Камень-6



Мал. 11. Грубаляпныя рабрыстыя сасуды з гладкасценнай паверхняй (фрагменты) (*1–15*). Паселішча Камень-6



Мал. 12. Посуд з гладкасценнай паверхняй (фрагменты) (*1–13*). Паселішча Камень-6



Мал. 14. Ляпная кераміка з гладкасценнай паверхняй (*1–13*). Паселішча Камень-6



Мал. 13. Ляпны посуд (фрагменты) (*1–14*). Паселішча Камень-6



Мал. 16. Міскі з глянцаванай паверхняй (фрагменты) (*1–8*). Паселішча Камень-6



Мал. 15. Міскі з глянцаванай паверхняй (фрагменты) (*1–12*). Паселішча Камень-6

Блізкі па гэтых характарыстыках гаршчок быў знойдзены ў разбураным пахаванні паморскай культуры каля в. Аздамічы ў Столінскім раёне, напластаванні якога датаваны раннелатэнскай фібулай духцоўскага тыпу IV–III стст. да н. э. [11, с. 83–100]. Аналагічныя па форме сасуды вылучаны ў групу I на зарубінецкім паселішчы Хотамель-2 [3, с. 44–53; 4, с. 53–65]. Яны характэрны для ранніх пахавальных комплексаў зарубінецкай культуры. У керамічным комплексе прысутнічаюць глянцаваныя міскі, тыповыя для зарубінецкай культуры. Большасць іх адносіцца да сасудаў закрытага тыпу (дыяметр венца меншы за дыяметр тулава) (мал. 15: *1–4, 11*). Яны блізкія да пасудзін групы I, варыянта Г паводле Ю. У. Кухарэнкі [35, табл. 6] і да місак другога тыпу паводле К. В. Каспаравай [30, с. 79]. Гэта найбольш распаўсюджаныя формы, якія сустракаюцца ў пахавальных комплексах зарубінецкай культуры Прыпяцкага Палесся. У калекцыі прысутнічаюць міскі з вертыкальнай альбо крыху нахіленай ўнутр шыйкай (мал. 16: *3, 4, 7–9*). Яны адносяцца да групы 2, варыянта Д паводле Ю. У. Кухарэнкі. Па назіраннях даследчыка, міскі гэтага тыпу сустракаюцца ва ўсіх групах зарубінецкай культуры, пераважна ў позніх комплексах [35, с. 28, табл. 6: *40–42*]. Яны фіксуюцца таксама на помніках позназарубінецкага гарызонту тыпу Рахны-Почап [5, мал. 12: *20*; 47, табл. XIV: *7*].

У калекцыі керамікі з паселішча Камень-6 ёсць развал гаршка-клёша з храпаватай паверхняй. Высата яго складала каля 50 см, дыяметр па венцы – 47, дыяметр найбольшага пашырэння – 52 см. Таўшчыня сценак – 1,5 см. Ён мае камбінаваную паверхню – падглянцаваная шыйка – храпаватае тулава. Шыйка ад плечыка адмежавана валікам з пальцавымі ўціскannямі, сценкі ўпрыгожаны пальцавымі разводамі ў выглядзе арак, нанесенымі па сырой гліне. Сасуд цёмна-шэрага колеру, у зломах сценак прасочаны шамот і жарства (мал. 17). Марфалагічна гаршкі-клёшы ўзыходзяць да паморскіх старажытнасцей, якія ў IV ст. распаўсюдзіліся з тэрыторыі Польскага Памор’я на Валынь і ў Прыпяцкае Палессе. У паўсядзённым побыце гэтыя вялікія па аб’ёме сасуды выконвалі ролю ёмістасцей для харчовых прыпасаў і іх жа выкарыстоўвалі ў якасці ўрнаў для праха памерлых у пахаваннях. Падобная пасудзіна знойдзена ў субструкцыі печы жытла 3 на паселішчы Хотамель-2. Набор посуду з запаўнення дазваляе аднесці жылую пабудову да класічнай зарубінецкай культуры [6, с. 216–218], таму гэтую пасудзіну можна суаднесці як з паморскімі, так і зарубінецкімі старажытнасцямі.



Мал. 17. Сасуд з храпаватай паверхняй (графічная рэканструкцыя). Паселішча Камень-6

**Вельбарскі набор.** У комплексе ляпнога посуду вылучаюцца фрагменты марфалагічна вызначальных сасудаў, якія можна аднесці да вельбарскай культуры. Яны знойдзены ў асноўным у паўночнай частцы раскапанай плошчы паселішча пераважна на глыбіні 0,2–0,6 м без значнай канцэнтрацыі. Вельбарскі посуд зроблены з гліны з утрыманнем дамешак жарствы, пяску і ў меньшай ступені шамоту. Ён прадстаўлены па большай частцы гаршкамі. Міскі і іншыя катэгорыі посуду сустракаюцца вельмі рэдка. Паверхня гэтых сасудаў апрацавана рознымі тэхнікамі: глянцаваная, загладжаная, храпаватая, шурпатая. Часта на адной пасудзіне выкарыстаны некалькі спосабаў апрацоўкі паверхні: шыйка і прыдонная частка выгладжаныя, а тулава храпаватае альбо шурпатае. Найбольш характэрны для вельбарскага набору з паселішча Камень-6 гаршкі з камбінаванай паверхняй. Іх колер бежавы, бежава-шэры, шэры, чорна-бежавы. У асноўным гэта прыземістыя сасуды з загнутым унутр верхнім краем альбо з невысокай вертыкальнай ці ў рознай ступені адагнутай вонкі шыйкай. Паводле класіфікацыі вельбарскага посуду, здзейсненай Р. Валангевічам [54, s. 12–19], на паселішчы Камень-6 вылучаны групы гаршкоў тыпаў IA, IC, ID, міска, блізкая да групы VIB (мал. 18: *7*), і ніжняя частка сітулападобнага сасуда (мал. 19: *7*). Да тыпу IA належаць сферападобнай і яйкападобнай формы гаршкі з нахіленым унутр верхнім краем (мал. 18: *1*; 5: *1*). Яны сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі вельбарскай культуры ад вусця Віслы да Правабярэжжа Дняпра. Іх выкарыстоўвалі на працягу ўсяго перыяду існавання гэтай культуры [36, с. 31; 54, s. 12]. Вядомыя яны і на помніках чарняхоўскай культуры, у склад якой уваходзіла таксама і гоцкае насельніцтва [48, с. 144–260]. Гаршкі тыпу IC прадстаўлены

сасудамі з вылучанымі шыйкамі і найбольшым пашырэннем тулава на сярэдзіне іх вышыні (мал. 18: *2;* 19: *1, 2, 4*). Да тыпу ID належаць гаршкі з нахіленай вонкі шыйкай, эсаватым профілем і дыяметрам вусця не меншым за яго вышыню (мал. 18: *5;* 19: *6*). Помнікі вельбарскай культуры былі распаўсюджаны на Палессі ад берагоў Заходняга Буга да Гарыні. Найбольш блізкія да паселішча Камень-6 помнікі з выразнымі матэрыяламі вельбарскай культуры былі даследаваны каля в. Гарадзішча на р. Ясельда і в. Лемяшэвічы на р. Прыпяць, што размешчаны таксама ў Пінскім раёне [21, с. 48–51].

Уся кераміка пражскай культуры з паселішча Камень-6 зроблена ад рукі, фармавалі яе ў асноўным шляхам стужкавага налепу. Фармовачная маса складаецца з гліны з дамешкамі пяску, жарствы і шамоту. Найбольш часта выкарыстоўвалі схудняючыя дамешкі з жарствы, альбо жарствы ў спалучэнні з шамотам. Рэдка ў якасці дамешак у глінянае цеста дадавалі толькі шамот. Па фактуры паверхні посуд з помніка можна падзяліць на дзве групы: бугрыстыя і шурпатыя. Бугрыстая паверхня атрымоўвалася ў выніку не зусім стараннага перамешвання гліны і схудняючых дамешак, што прыводзіла да выступання дамешак, і перш за ўсё жарствы, на сценках посуду. Група шурпатых пасудзін характарызуецца жорсткай на вобмацак, амаль «вострай» паверхняй, якая ўтвараецца з-за выкарыстання дамешак моцна здрабнёнай жарствы. Таўшчыня сценак раннеславянскай керамікі ў асноўным вагаецца ў межах 0,5–1,0 см, але спарадычна сустракаюцца як больш тонкія, так і тоўстыя сценкі. Прычым сярод шурпатага посуду тонкасценны сустракаецца часцей, чым сярод бугрыстага. Аналіз тэмпературных рэжымаў абпальвання керамікі не праводзілі. Найбольш праўдападобна, што яе абпальвалі на адкрытых вогнішчах, а не ў ганчарных печах. Аб гэтым сведчыць нераўнамернасць абпалу, якая адбілася ў ваганнях колеру паверхні адных і тых жа пасудзін, у іх плямістасці. Колер карычневы, шэра-карычневы, цёмна-карычневы. Дыяметр венцаў вагаецца ў межах ад 8 да 24 см. Рэканструяваныя гаршкі з запаўнення пабудовы 1 (мал. 20) маюць вышыню ад 12 да 14 см. Дыяметры вусцяў – 8,5 і 9,5 см, дыяметры найбольшага пашырэння – ад 10,4 да 11,8 см. У жытле прысутнічаюць сасуды як з больш раннімі прыкметамі (з вертыкальнай кароткай шыйкай і гарызантальным зрэзам), так і тыпалагічна больш познія – з высокімі шыйкамі, адагнутымі вонкі ды коса зрэзанымі з вонкавага боку альбо закругленымі венцамі. Адзін з гаршкоў быў аздоблены прачэрчанай хваляй па плечыках (мал. 21: *3*), зрэз венцаў двух іншых упрыгожаны па знешнім краі пальцавымі ўцісканнямі і насечкамі (мал. 21: *5, 6*) Акрамя гаршкоў, у комплексе жытла знойдзены фрагмент патэльні з даволі высокімі борцікамі, адагнутымі вонкі (мал. 20: *11*). Ніякіх рэчаў у жытле не знойдзена. На падставе керамічнага комплексу яго можна датаваць у межах V–VII стст. Фрагменты посуду пражскай культуры сустракаліся ў невялікай колькасці падчас даследавання помніка ва ўсіх раскопах, аднак найбольшая іх колькасць выяўлена ў раскопах 1986 і 1987 г. Тэхналагічныя паказчыкі і марфалогія гэтага посуду ў асноўных рысах адпавядаюць комплексу пабудовы 1. Што тычыцца пабудовы 2, то выяўлены ў яе даследаванай частцы керамічны матэрыял нешматлікі ды моцна фрагментаваны. У асноўным толькі тэхналагічныя параметры дазваляюць звязваць яго з пражскім комплексам.

**Дэталі ўзбраення і прылады працы.** Да ліку прадметаў узбраення, выяўленых падчас даследавання на гэтым помніку, трэба аднесці жалезны двухшыпны ўтулкавы наканечнік стралы (мал. 22: *1*). Яго агульная даўжыня складае 7,3 см, даўжыня ўтулкі – 4,3, даўжыня пяра – 3,5, дыяметр ніжняга краю ўтулкі – 1,0 см. Двухшыпныя ўтулкавыя наканечнікі стрэл былі распаўсюджаны на тэрыторыі Цэнтральнай Еўропы ў германскага насельніцтва, ад якога іх запазычылі славяне. А. Ф. Мядзведзеў лічыць, што на ўсходніх землях славян двухшыпныя ўтулкавыя наканечнікі стрэл бытавалі ў VIII–XIII стст. [38, с. 56]. Р. С. Мінасян слушна зазначыў, што падобны від зброі на Захад ад Дняпра з'явіўся раней. Яны былі знойдзены на помніках з матэрыяламі VI–VII стст. ў Семенках і Селіштэ [42, с. 35–37]. В. Казакявічус аднёс падобныя стрэлы з пяром у форме роўнабаковага трохвугольніка да варыянта «а». На тэрыторыі Літвы іх выкарыстоўвалі ў шырокім храналагічным дыяпазоне*:* на працягу I – пачатку II тысячагоддзяў н. э. Яны былі выяўлены на гарадзішчах Аўкштадварыс ў Тракайскім раёне, Каўкай у Алітускім раёне, Рудаміна ў Лаздзіяйскім раёне, Васгеляй у Зарасайскім раёне і інш. [29, с. 70–78; 53, s. 125, pav. 8].

На паселішчы Камень-6 былі выяўлены фрагмент жалезнай пілы і акоўка драўлянай лапаты (мал. 8: *4;* 22: *5*), а ў гаспадарчай яме ў кв. 13Б быў знойдзены жалезны серп [27]. Даўжыня ляза апошняга складае 29 см, ручкі – 11,5 см (мал. 23: *7*). Такога ж тыпу серп быў зафіксаваны таксама на паселішчы Снядзін-3, што знаходзіцца на правым беразе р. Прыпяць у Петрыкаўскім раёне [13]. Падобнага памеру і формы сярпы былі знодзены ў прыдунайскіх правінцыях Рымскай Імперыі і ў культуры прыкарпацкіх курганоў IV–VI стст. [52, s. 61–78; 7, рис. 14: *5, 6*]. Лічыцца, што на тэрыторыі Усходняй Еўропы яны былі распаўсюджаны з VIII ст. і заставаліся ў выкарыстанні працяглы час. Аднак на паселішчах пражскай культуры ў Беларускім Палессі былі знойдзены і іншыя вырабы V–VII стст., звязаныя з Падунаўем, таму не выключана, што сярпы падобнага тыпу можна датаваць і больш ранным, чым VIII ст., часам.




Мал. 18. Посуд вельбарскай культуры (фрагменты) (*1–7*). Паселішча Камень-6




Мал. 19. Посуд вельбарскай культуры (фрагменты) (*1–8*). Паселішча Камень-6




Мал. 20. Посуд пражскай культуры (фрагменты) (*1–14*). Паселішча Камень-6




Мал. 21. Ляпная кераміка (фрагменты) (*1–9*). Жытло 1. Паселішча Камень-6




Мал. 22. Жалезныя рэчы (*1–6*). Паселішча Камень-6




Мал. 23. Жалезныя рэчы (*1–7*). Паселішча Камень-6

Адзін з жалезных вырабаў з калекцыі паселішча Камень-6 нагадвае чарэсла (мал. 22: *6*). У яго вылучаецца рэжучая частка і тронак. Прылада захавалася на даўжыню 12,5 см, сячэнне тронка – 1,5 × 1,5 см, шырыня ляза – 2 см. Гэтыя гаспадарчыя прылады вядомы з пачатку І тысячагоддзя н. э. Ранняй прыкметай, па назіраннях Ю. А. Краснова, лічацца невялікіх памераў чарэслы (да 36 см) [33, с. 54–55]. Чарэсла з паселішча Камень-6 фрагментавана, аднак мяркуючы па ўсім, яно было невялікіх памераў. Верагодна, яго можна звязаць з позназарубінецкімі старажытнасцямі.

У культурным пласце выяўлены два фрагменты жалезных нажоў, якія захаваліся на даўжыню 10,4 і 6,1 см адаведна. Клінкі з амаль прамой спінкай, аддзеленыя ўступамі ад тронка. Уступы размешчаны асіметрычна, ўтвараюць са спінкай і лязом тупыя вуглы (мал. 23: *4, 5*). Нажы такой формы вядомы на тэрыторыі Беларусі ў кантэксце пражскай культуры: знойдзены ў кургане 2 каля в. Семурадцы і на селішчы Снядзін-2 ў яме 19 і культурным пласце. Р. С. Мінасян адзначае, што нажы падобнай формы былі распаўсюджаны на помніках позназарубінецкага і кіеўскага тыпаў II–V стст. у Падзясенні і Сярэднім Падняпроўі (Почап, Казаравічы, Тацэнкі і інш.), а з другой паловы І тысячагоддзя н. э. яны сталі найбольш характэрнай групай на раннеславянскіх паселішчах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы [41, с. 69–70].

Адзінае зафіксаванае на помніку крэсіва адносіцца да тыпу калачападобных з язычком у сярэдзіне ўдарнага ляза (мал. 8: *3*). Па наўгародскай храналогіі яны датаваны ў межах Х – пачатку ХІІ ст. [32, с. 163, рис. 4]. У Заходнім Палессі такія крэсівы знойдзены на гарадзішчы Франопаль, селішчах Горнава, Скорбічы і Бухліцкі Хутар. Сустракаюцца яны таксама ў курганных пахаваннях перыяду ранняга сярэдневякоўя: ў Ратайчыцах, Велямічах-1 і інш. [2, с. 120–122; 34, с. 14].

Выяўлены таксама два зубцы ад масіўных рыбалоўных восцяў састаўной канструкцыі (мал. 22: *2, 3*). Даўжыня аднаго экзэмпляра складае 19,2 см, іншага – 7,6 см, у сячэнні яны квадратныя, на ніжніх канцах маецца барoдка. Падобныя восці знойдзены на селішчы Хотамель у Столінскім раёне [34, с. 24, табл. 9: *5, 6, 13, 14*], гарадзішчы Гарадзішча ў Пінскім раёне, якія існавалі ў эпоху ранняга сярэдневякоўя [21, с. 107, мал. 9, 10].

**Заключэнне.** Археалагічныя матэрыялы з шматслойнага паселішча Камень-6, якое даследаваў Уладзімір Фёдаравіч Ісаенка, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыка-культурнай сітуацыі на захадзе Прыпяцкага Палесся ў канцы І тысячагоддзя да н. э. – І тысячагоддзя н. э. Яны ў пэўнай меры даюць магчымасць супаставіць ланцужок археалагічных культур, што паслядоўна існавалі ў заходняй частцы Цэнтральнага Палесся ў гэты перыяд. Змены ў гісторыка-культурную сітуацыю ўносілі ваенныя дзеянні, хвалі міграцый, гандлёва-абменныя стасункі. Даследаваны ўчастак, што месціўся на беразе р. Бобрык, засяляўся як мінімум, тройчы. На рубяжы III/II стст. да н. э. – у пачатку І ст. н. э. тут пражывала насельніцтва класічнай зарубінецкай культуры палескага варыянта. З перыядам фарміравання апошняй можна звязаць знаходку бронзавага рубчастага бранзалета. У калекцыі таксама прысутнічаюць абломкі посуду, характэрнага для зарубінецкай культуры. Яны маюць аналагі ў жыллёвых, пахавальных, сакральных комплексах канца І тысячагоддзя да н. э. Прыпяцкага рэгіёна. З рубяжа эр у керамічным комплексе помніка назіраюцца пэўныя змены, звязаныя з уплывамі паўночных суседзяў – носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Гарызонт І–IV стст. прадстаўлены старажытнасцямі позназарубінецкага тыпу. Цяжкасць вылучэння позназарубінецкіх матэрыялаў заключаецца ў тым, што некаторыя формы посуду існавалі да сярэдзіны І тысячагоддзя н. э. істотна не мяняючы свайго выгляду. Тым не менш у калекцыі ёсць сасуды, характэрныя для фіналу класічнай зарубінецкай культуры (першая палова І ст. н. э.) і для позназарубінецкіх старажытнасцей. На паселішчы выяўлены нешматлікі, але несумненны керамічны набор вельбарскай культуры. Гэтую з'яву можна патлумачыць пражываннем вельбарскіх мігрантаў у асяродку мясцовага насельніцтва, альбо міжкультурнымі сувязямі. Наяўнасць вельбарскіх матэрыялаў III–IV стст. на Піншчыне засведчана на паселішчах Гарадзішча на р. Ясельда і Лемяшэвічы на р. Прыпяць [10, с. 133–151]. Наступны этап у гісторыі функцыянавання паселішча звязаны з плямёнамі раннеславянскай пражскай культуры і можа быць датаваны V–VII стст. Археалагічныя даследаванні закранулі ўскрайкавую частку славянскага селішча, аб чым сведчаць невялікая колькасць аб'ектаў і керамікі гэтага культурнага гарызонту.

**Літаратура**

1. Баран, В. Д. Пражская культура Поднестровья (по материалам поселений у с. Рашков) / В. Д. Баран. – Киев : Наукова думка, 1988. – 160 с. : ил.

2. Бируля, И. В. Курганы у дер. Ратайчицы (Брестская область) / И. В. Бируля // Материалы по археологии СССР. – 1970. – № 176. – С. 120–121.

3. Бяліцкая, Г. М. Тыпалогія гаршкоў з паселішча зарубінецкай культуры Хотамель-2 / Г. М. Бяліцкая // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2002. – Вып. 17. – С. 44–53.

4. Бяліцкая, Г. М. Рэканструкцыя жылой пабудовы з паселішча Хотамель-2 паводле археалагічных даных /

Г. М. Бяліцкая // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2006. – Вып. 22.– С. 53–65.

5. Бяліцкая, Г. М. Помнік перыяду рымскіх ўплываў у нізоў'ях ракі Гарынь / Г. М. Бяліцкая // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2007. – Вып. 23. – С. 107–123.

6. Бяліцкая, Г. М. Новыя даныя ў планіграфіі зарубінецкага паселішча Хотамель-2 / Г. М. Бяліцкая // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2007. – Вып. 23. – С. 216–218.

7. Вакуленко, М. В. Землеробство як економічна основа господарства прикарпатського населення в III–IV ст. н. э. / М. В. Вакуленко // Археологія давніх слов'ян. – 2006. – С. 189–214.

8. Вергей, В. С. Раннеславянское поселение Струга-I на нижней Горыни / В. С. Вергей // Archaeoslavica / Inst. Archeologii Uniw. Jagiellońskiego. – Kraków. – 1993. – № 2. – С. 63–85.

9. Вяргей, В. С. Раскопкі паселішча Блювінічы на р. Лясной / В. С. Вяргей, В. Я. Кудрашоў // Весці Акад. навук Беларусі, Сер. гуманіт. навук. – 1994. – № 4. – С. 118–120.

10. Вергей, В. С. Селище у дер. Лемешевичи на Припяти / В. С. Вергей // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 1994. – Вып. 5. – С. 133–151.

11. Вергей, В. С. Западный ареал милоградской культуры / В. С. Вергей // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 1996. – Вып. 7. – С. 83–100.

12. Вяргей, В. С. Помнікі тыпу Прагі–Карчак і Лукі-Райкавецкай / В. С. Вяргей // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал.: В. С. Вяргей [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1997–2001. – Т. 2 : Жалезны век і ранняе сярэдневякоўе / навук. рэд. В. І. Шадыра [і інш.]. – 1999. – 502 с.

13. Вяргей, В. С. Справаздача аб палявых даследаваннях у Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці на шматслойным паселішчы Снядзін-3 у 2006 годзе / В. С. Вяргей // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 2371.

14. Вяргей, В. С. Жытло і культавы аб'ект гарызонту пражскай культуры на паселішчы Снядзін-3 на р. Прыпяць у Петрыкаўскім раёне / В. С. Вяргей // Древняя история Восточной Европы. – 2009. – Минск : БГУ. – С. 21–32.

15. Гавритухин, И. О. Горизонт пражской культуры поселения Зимно / И. О. Гавритухин // Archaeoslavica / Inst. Archeologii Uniw. Jagiellońskiego. – Kraków. – 1998. – № 3. – S. 171–208.

16. Гурын, М. Ф. Кажан-Гарадок – паселішча пражскай культуры / М. Ф. Гурын // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 1994. – Вып. 5. – С. 152–162.

17. Гурин, М. Ф. Археологические материалы из городища Мысли / М. Ф. Гурин // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2000. – Вып. 15. – С. 2–39.

18. Дробушевский, А. И. Латенский импорт в Беларуси (ранний период) / А. И. Дробушевский // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2002. – Вып. 17. – С. 5–64.

19. Егарэйчанка, А. А. Культура штрыхаванай керамікі / А. А. Егарэйчанка // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал.: В. С. Вяргей [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1998–2001. – Т. 2 : Жалезны век і ранняе сярэдневякоўе / навук. рэд. В. І. Шадыра [і інш.]. – 1999. – 502 с.

20. Ильютик, А. В. Керамика Абидни / А. В. Ильютик, Л. Д. Поболь // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск, 2007. – Вып. 14. – С. 18–36.

21. Іоў, А. В. Старажытнае паселішча на Ясельдзе / А. В. Іоў, В. С. Вяргей. – Мінск : Беларуская навука. – 2012. – 175 с.

22. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях 1981 года / В. Ф. Исаенко // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Арх. № 767. – 20 с. ; 82 іл.

23. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях на территории Полесья в 1982 году / В. Ф. Исаенко // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Арх. № 795. — 22 с. ; 28 іл.

24. Исаенко, В. Ф. Работы в Полесье / В. Ф. Исаенко // Археологические открытия 1982 года. – М., 1984. – С. 357–358.

25. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях 1983 года / В. Ф. Исаенко // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 866. – 10 с. ; 73 іл.

26. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых работах в 1986 году Припятского отряда / В. Ф. Исаенко // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 1004. – 16 с. ; 23 іл.

27. Исаенко, В. Ф. Отчет Припятского отряда о полевых работах в 1987 году / В. Ф. Исаенко // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 1035. – 22 с. ; 12 с. кал. воп. ; 42 іл.

28. Исаенко, В. Ф. Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя / рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1993. – С. 302–304.

29. Казакявичус, В. К. Оружие балтских племен II–XIII веков на территории Литвы / В. К. Казакявичус. – Вильнюс : Мокслас, 1988. – 160 с.

30. Каспарова, К. В. Зарубинецкий могильник Велемичи II / К. В. Каспарова // Археологический сборник Гос. Эрмитажа. – 1972. – Вып. 14. – С. 53–111.

31. Козак, Д. Н. Етнокультурна історія Волині (I ст. до н. е. – IV ст. н. е.) / Д. Н. Козак. – Київ : Наукова думка, 1992. –176 с.

32. Колчин, Б. А. Хронология новгородских древностей / Б. А. Колчин // Новгородский сборник. 50 лет раскопок Новгорода. – М., 1982. – С. 156–177.

33. Краснов, Ю. А. Древнейшие и средневековые пахотные орудия Восточной Европы / Ю. А. Краснов. – М. : Наука, 1987. – 237 с.

34. Кухаренко, Ю. В. Средневековые памятники Полесья / Ю. В. Кухаренко. – М. : Наука, 1961. – 40 с. : ил. – (Свод археологических источников. – Вып. Е1-57.)

35. Кухаренко, Ю. В. Зарубинецкая культура / Ю. В. Кухаренко. – М. : Наука, 1964. – 66 с. – (Свод археологических источников. – Вып. Д 1-19.)

36. Кухаренко, Ю. В. Могильник Брест–Тришин / Ю. В. Кухаренко. – М. : Наука, 1980. – 128 с.

37. Лошенков, М. И. Городища милоградской культуры на территории Беларуси / М. И. Лошенков // Минск : Мінская фабрика цветной печати, 2011. – 408 с. : ил.

38. Медведев, А. Ф. Ручное метательное оружие. Лук и стрелы, самострел VIII–XIV вв. / А. Ф. Медведев // Свод археологических источников. – М., 1966. – Вып. Е1-36. – С. 184.

39. Мельниковская, О. Н. Клад латенского времени из Юго-Восточной Белоруссии. / О. Н. Мельниковская // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск, 1957. – Т. 1. – С. 149–154.

40. Мельниковская, О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке / О. Н. Мельниковская. – М. : Наука, 1967. – 196 с.

41. Минасян, Р. С. Четыре группы ножей Восточной Европы эпохи раннего средневековья / Р. С. Минасян // Археологический сборник Гос. Эрмитажа. – 1980. – Вып. 21. – С. 68–74.

42. Минасян, Р. С. Втульчатые двушипные наконечники стрел Восточной Европы / Р. С. Минасян // Археологический сборник Гос. Эрмитажа. – 1978. – № 43. – С. 35–37.

43. Нефедова, Е. С. К вопросу о браслетах «латенского стиля» / Е. С. Нефедова // Археологические вести. – СПб., 1992. – № 1. – С. 21–34.

44. Обломский, А. М. О хронологии некоторых типов фибул зарубинецкой культуры / А. М. Обломский // Советская археология. – 1983. – № 1. – С. 103–120.

45. Обломский, А. М. Опыт классификации и хронологии фибул с треугольным щитком на ножке (так называемых зарубинецких) / А. М. Обломский // Краткие сообщения Института археологии АН СССР. – 1986. – Вып. 126. – С. 50–56.

46. Обломский, А. М. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в I–II вв. н. э. / А. М. Обломский, Р. В. Терпиловский ; Ин-т археологии АН СССР / отв. ред. И. П. Русанова. – М. : Наука, 1991. – 175 с.

47. Обломский, А. М. Позднезарубинецкие памятники / А. М. Обломский // Славяне и их соседи в конце I тысячелетия до н. э. – первой половине I тысячелетия н. э. / под ред. И. П. Русановой [и др.]. – М. : Наука, 1993. – С. 40–52.

48. Обломский, А. М. Материалы поселения Журавка Ольшанская / А. М. Обломский // Археология Восточной Европы в I тысячелетии н. э. (Раннеславянский мир). – М., 2010. – Вып. 13. – С. 144–260.

49. Терпиловский, Р. В. Славяне Поднепровья в первой половине I тысячелетия н. э. / Р. В. Терпиловский. – Lublin, 2004. – 232 s.

50. Филип, Я. Кельтская цивилизация и ее наследие / Я. Филип. – Прага, 1956. – 552 с.

51. Dulinicz, M. Kształtowanie się Słowianszczyzny Pólnocno-Zachodniej / M. Dulinicz. – Warszawa, 2001. – 323 s.

52. Istvanovits, E. A settlement of the 5th century from the Upper Tisza Region / E. A. Istvanovits // 20 lat archeologii w MaslomęczuLublin. – 1988. – T. II. – S. 61–78.

53. Kazakevićius, Vytautas. Geležies amžiaus strėlės Lietuvoje (II – XII–XIII amžius) / V. Kazakevićius. – Vilnius, 2004. – 136 s.

54. Wołągiewicz, R. Ceramika kultury wielbarskiej między Baitykiem a Morzem Czarnym / R. Wołągiewicz // Szczecin : Muzeum Narodowe w Szczecinie, 1993. – 202 s.

## Резюме

*А. Н. Белицкая, В. С. Вергей*

### Материалы железного века и раннего средневековья с поселения Камень-6

В научный оборот вводятся археологические материалы железного века и раннего средневековья с многослойного поселения Камень-6, которые исследовал В. Ф. Исаенко в 1981–1983 и 1986–1987 гг. Поселение расположено на песчаном возвышении первой надпойменной террасы р. Бобрик, левого притока р. Припять, недалеко от д. Камень-6 Пинского района Брестской области. Анализ показал, что с рубежа III/II вв. до н. э. до середины I в. н. э. Здесь зафиксированы отложения классической зарубинецкой культуры полеского варианта, которые затем переросли в позднезарубинецкие древности, существующие до IV в. н. э. На рубеже эр ощущалось влияние населения культуры штрихованной керамики, а во второй половине II в. н. э. – инфильтрация вельбарского населения. Следующий этап в истории поселения был связан с раннеславянской пражской культурой и может быть датирован V–VII вв.

## Summary

*A. M. Bielickaja, V. S. Viarhiej*

### Early Iron Age and Early Mediaeval Materials from Settlement Kameń-6

Early Iron Age and Early Medieval materials from multi-layer settlement Kameń-6 investigated by U. Isajenka in 1981–1983 and 1986–1987 are put in circulation in the paper. The settlement is situated on the high sand bank of the Bobryk River, the left tributary of the Prypiać, not far from the village of Kameń (Pinsk region, Brest district). Analyses has shown the presence of the «classic» Zarubincy Culture of Paliessie variant beginning from the break of the 3rd–2nd centuries BC till the mid. 1st century AD which then developed into Late-Zarubincy antiquities existing till the fourth century AD. At the millennium break the infiltration of the Stroked Ware Culture population and in the second half of the 2nd century AD that of Wielbar population can be traced. The next period of the settlement's history was connected with the Early-Slavic Prague Culture and it probably dates from the 5th–7th centuries.

*Паступіў 05.05.2014 г.*

УДК [903.42](476.5)

***М. В. Клімаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Новыя матэрыялы з паселішчаў Полацкага Падзвіння (па выніках археалагічных даследаванняў 2013 г.)

У 2013 г. падчас даследавання шэрагу вясковых паселішчаў Полацкага Падзвіння былі атрыманы новыя даныя матэрыяльнай культуры вясковага насельніцтва гэтага рэгіёна. Усе навуковыя даследаванні праводзіліся згодна з Дазволам № 2556 па форме № 1 з мэтай выканання планавай дзяржаўнай тэмы (раздзел 1.5.11). Невялікія раскопкі адбываліся на 5 помніках (Кастрыца, Лепельскага раёна, селішча-1 (мал. 1: *1*) Ворань Лепельскага раёна, селішча-2 (мал. 1: *2*), Лісна, Верхнядзвінскага раёна, селішча-1 (мал. 1: *3*), Вялец, Глыбоцкага раёна, селішча-1 (мал. 1: *4*), Лучна, Полацкага раёна, селішча-6 (мал. 1: *5*) і была здзейснена археалагічная разведка па левым беразе р. Дзвіны, паміж Бешанковічамі і в. Узрэчча (мал. 1: *6*). Асобныя працы датычыліся некаторых помнікаў Віцебскага раёна (Бібярэўка, селішча-1 і Лужасна, селішча-2), якія знаходзяцца побач з будаўніцтвам Віцебскай ГЭС (мал. 1: *7*). Звернемся да асноўных вынікаў праведзеных прац на тэрыторыі Полацкага Падзвіння.




Мал. 1. Карта археалагічных даследаванняў. 2013 г.:
*1* – Кастрыца; *2* – Ворань; *3* – Лісна; *4* – Вялец; *5* – Лучна; *6* – Бешанковічы–Узрэчча; *7* – Бібярэўка, Лужасна

У 2013 г. было працягнута вывучэнне селішча-2 у мікрарэгіёне воз. Ворань, пачатае ў 2012 г. Асноўнай мэтай археалагічных раскопак у 2013 г. была лакалізацыя культурнага пласта X–XII стст., аб наяўнасці якога сведчылі раней выяўленыя знаходкі [8, с. 305, мал. 4: *1, 5*]. Для вырашэння гэтай задачы для даследаванняў на помніку была абрана частка селішча, змешчаная на паўднёвы ўсход ад раскопу № 1 (2012 г.), які знаходзіўся за 30–40 м ад паўночнай часткі берага воз. Ворань. У межах абранай часткі помніка ў 2013 г. аўтарам артыкула былі даследаваны 2 шурфы (№ 4 і 5, нумарацыя новых шурфаў працягвала ранейшую, 2012 г.), а менавіта, шурф № 4 плошчай 12 $м^2$ і шурф № 5 плошчай 16 $м^2$.

Стратыграфія шурфа № 4 памерамі 4 × 4 м не мела істотных адрозненняў ад раскопу № 2 (2012 г.). Культурны пласт магутнасцю 0,28–0,42 м складаўся з цёмна-шэрай супесі, з украпінамі асобных вуголляў, фрагментаў абпаленай гліны, лінзаў брудна-жоўтага пяску, камянёў і фрагментаў розных тыпаў керамічнага посуду, якія датаваліся ў шырокіх храналагічных межах, ад канца XI да XVI ст. З верхняй часткі шурфа паходзіў фрагмент глінянай дзіцячай цацкі (мал. 2: *9*) і асялок (мал. 2: *10*).

Пасля зачысткі перадмацерыка абазначыліся абрысы мацерыковых ям, якіх у шурфе № 4 было 3, з іх найбольшую цікавасць уяўляла яма № 1, якая вызначалася памерамі: 1,75 × 1,4–1,9 м і глыбінёй – 0,45–0,8 м. Яма змяшчала сляды пажару ў выглядзе праслоек абпаленай гліны, вуголляў, камянёў са следам уздзеяння высокай тэмпературы. У верхняй частцы ямы, на мяжы з перадмацерыковай паверхняй, быў знойдзены нацельны крыжык з жоўтай эмаллю з абодвух бакоў (мал. 2: *3*). Храналогія падобных крыжыкаў звязваецца з пластом XII–XIII стст. [2, с. 32, мал. 12; 13]. У запаўненні ямы знаходзіліся разнастайныя матэрыялы: познасярэдневяковы керамічны посуд, глінянае праселка (мал. 2: *8*), асялок (мал. 2: *10*) і пакрытая жоўтай эмаллю фігурная накладка ў выглядзе кветкі (мал. 2: *4*). Накладка мела след уздзеяння агню і змяшчалася сярод вугальнай праслойкі, якая прасочвалася да самага нізу ямы. Яма № 1 з'яўлялася прыпечкавай гаспадарчай ямай, якая знаходзілася ўнутры пабудовы. Ямы № 2 і 3 не ўтрымлівалі датавальных матэрыялаў і па прызначэнні былі блізкімі да слупавых.

Шурф № 5 быў змешчаны за 43,5 м на захад ад шурфа № 4 і меў памеры 2 × 6 м. Магутнасць культурнага пласта ў шурфе вагалася ў межах 0,39–0,57 м. У змесце пласта фіксаваліся дробныя вугалі, фрагменты абпаленай гліны, камяні, фрагменты керамікі ў храналагічных межах з канца XI да XVI ст. і шыфернае праселка (мал. 2: *7*). Пасля зачысткі перад-

мацерыка было даследавана пяць мацерыковых невялікіх ям, якія не мелі керамічных і іншых датавальных рэчаў.

Характарыстыку матэрыялаў з помніка дапаўняюць паверхневыя зборы керамікі, свінцовая пломба з выявай «праквітнеўшага крыжа» (мал. 2: *5*) і фрагменты крыжыкаў-цельнікаў (мал. 2: *1, 2*), адзін з якіх з выявай «пляцёнкі» вядомы па матэрыялах з помніка Лучна-1 і датаваны XIV–XV стст. [11, с. 55, рис. 16: *21*; 7, с. 331, мал. 3: *7*].

Археалагічныя шурфы не дазволілі выявіць некрануты пласт X–XII стст., што меркавалася па папярэдняй працоўнай версіі, разам з тым новыя матэрыялы пацвердзілі актыўную жыццядзейнасць у перыяд XIV–XV стст. на частцы тэрыторыі селішча-2, якая знаходзілася бліжэй да берагавой лініі возера на 20–22 м, чым раскоп № 1 (2012 г.).

Другім помнікам, на якім планаваўся пошук культурнага пласта X–XI стст., з'яўлялася селішча-1, якое прылягала да гарадзішча Кастрыца Валосавіцкага с/с Лепельскага раёна (мал. 1: *1*). Увага да помніка Кастрыца, селішча-1 была звернута ў сувязі з тым, што стала вядома аб знаходжанні на тэрыторыі помніка керамікі і рэчаў X–XI стст. Каб мець уяўленне аб стратыграфіі помніка быў закладзены шурф, памерамі 2 × 4 м, побач з левым берагам былой ручаіны, у месцы, дзе на паверхні сярод пад'ёмных матэрыялаў сустракалася ганчарная кераміка.

Як паказала даследаванне шурфа, магутнасць культурнага пласта вагалася ў межах 0,45–0,51 м (без уліку мацерыковых ям). У выніку раскопак у стратыграфіі былі прасочаны два стратыграфічныя пласты, з якіх верхні вылучаўся не храналагічна, а ў выніку таго, што верхняя частка паселішча разворвалася і таму вызначалася шэрай супессю. Другі стратыграфічны пласт, меней крануты разворваннем, складаўся з цёмна-шэрай супесі з вугалямі, раструшчанымі ад уздзеяння агню, камянямі, фрагментамі абпаленай гліны і часткова меў працяг у запаўненні мацерыковых ям № 3, 4, 5. Паводле атрыманых матэрыялаў, магчыма акрэсліць два перыяды жыццядзейнасці ў межах даследаванай часткі селішча. Існаванне жыццядзейнасці на першым этапе пацвярджаецца сценкамі ляпной керамікі з адмысловым штампам у выглядзе «зламаных стужак насечак» (мал. 3: *11, 12*). Падобны тып арнаментацыі ў спалучэнні з іншымі элементамі сустрэты ў запаўненні комплексу, які датаваны IX ст., гарадзішча «Гарадок на Маяце» [5, с. 186, рис. 174: *1*]. Другі перыяд храналагічна маркіруецца фрагментамі венцаў ганчарнай керамікі, блізкай па тыпах да канца X – XI ст. (мал. 3: *1–5*). Некаторыя з фрагментаў другога перыяду былі выяўлены пры зачыстцы перадмацерыка (мал. 3: *6*, *7*). У гэтай сувязі вельмі важна ўказаць на тое, што ў квадраце № 1 шурфа, над ямай № 4 на глыбіні 0,28 м ніжэй ад дзённай паверхні ў цёмна-шэрым пласце з вугалямі быў выяўлены пагнуты, двушыпны наканечнік стралы (мал. 3: *13*). Безумоўна, храналогія падобных наканечнікаў, распаўсюджаных на многіх помніках, вызначалася даволі шырокімі межамі – з VIII–XIII стст. [10, с. 56]. Але ў кантэксце храналогіі селішча-1 і пажару неабходна аднесці час ужывання дадзенага наканечніка не пазней за першую палову XI ст.

Пасля зачысткі перадмацерыка абазначыліся абрысы 5 мацерыковых ям, з ліку тых, што адносіліся да слупавых (№ 1, 2) і характар дзвюх ям (№ 3 і 5) па прычыне іх частковага ўваходжання ў сценкі раскопу застаўся невысветленым. Найбольшая колькасць матэрыялаў паходзіла з ямы № 4, якая з'яўлялася самай вялікай і складанай па стратыграфіі (мал. 3). Яе агульныя памеры – 2,0 × 2,3 м пры глыбіні 0,5–0,7 м. Яма вызначалася складаным профілем і часткова ўваходзіла ў паўднёва-заходнюю сценку шурфа. Яма складалася з двух сектараў, якія адрозніваліся па запаўненні: 1) паўночна-заходні; 2) паўднёва-ўсходні. У паўднёва-ўсходнім сектары ямы сярод цёмна-шэрага запаўнення з вугалямі, косткамі, камянямі і праслойкамі гліны знаходзілася некалькі венцаў ганчарнай керамікі (мал. 4: *8–9*) і каля самага паўночна-заходняга краю ямы – частка ляпнога гаршка (мал. 4: *10*), які адносіўся да культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў.

Паўднёва-ўсходні сектар ямы амаль цалкам быў запоўнены неабпаленай глінай, якая толькі ў верхняй частцы, на мяжы з перадмацерыком змяшчала ўкрапіны абпаленай гліны, асобныя вугалі і вугальныя праслойкі. Ніжэй гэтай праслойкі пласт неабпаленай гліны не ўтрымліваў вугалёў, фрагментаў абпаленай гліны і выглядаў як монаструктурны, прыроднага паходжання.

На паверхні помніка, за межамі шурфа былі знойдзены кавалкі шлакаў і камень-цёрачнік (мал. 4: *2*). Падобныя камяні-цёрачнікі былі ўласцівы для перыяду ранняга жалезнага веку і прысутнічаюць на некаторых помніках на поўначы Беларусі [4, таб. 9: *2, 4–6*]. Такім чынам, магчыма меркаваць, што шурф № 1 закрануў тэрыторыю селішча, дзе адбыўся пажар, які, калі меркаваць па пагнутым наканечніку стралы, быў звязаны з ваенным нападам.

Наступны помнік, на якім былі праведзены працы – з комплексу Лісна, да якога адносіліся тры селішчы па берагах р. Свольна, размешчаныя ў межах в. Лісна Верхнядзвінскага раёна і курганны могільнік за межамі вёскі. У 2013 г. з мэтай высвятлення перспектыўнасці працягу даследаванняў на селішчы-1 (першыя раскопкі адбыліся ў 2006–2007, 2012 г.), быў зроблены шурф № 1–2 памерамі 1 × 1 м.




Мал. 2. Асноўныя матэрыялы з даследавання помніка Ворань. Селішча-2. 2013 г.: з шурфа № 4 (*3, 4, 8–11*), шурфа № 5 (*7*) і з плошчы паселішча (*1, 2, 5, 6*); *1, 2* – бронза; *3, 4* – бронза, жоўтая эмаль; *5* – свінец; *6, 7* – шыфер; *8, 9* – гліна; *10, 11* – камень

Стратыграфія шурфа вызначалася наяўнасцю цёмна-шэрай супесі з фрагментамі глінянай абмазкі, камянямі і фрагментамі керамікі. На глыбіні 0,2 м ніжэй ад дзённай паверхні запаўненне шурфа выглядала аднародным і складалася з цёмна-шэрай супесі з дробнымі фрагментамі керамікі і камянямі. У гэтым пласце былі выяўлены два фрагменты глінянай абмазкі і венцы керамікі. Пры паглыбленні ад 0,30 да 0,35 м ніжэй ад дзённай паверхні ў шурфе пачалі выяўляцца іншыя асаблівасці: плямы бруднажоўтага пяску, асобныя фрагменты керамічнага посуду, вугалі і камяні, раструшчаныя ад уздзеяння агню. Пры далейшай разборцы пласта значна павялічылася колькасць вугалёў і фрагментаў глінянай абмазкі. На глыбіні 0,45 м ніжэй ад дзённай паверхні сярод пласта з фрагментамі глінянай абмазкі, вугалёў і рыбнай лускі знаходзілася частка крука (мал 5, *Б: 3*). Пры далейшых раскопках колькасць вугалёў і рыбнай лускі павялічылася. На глыбіні 0,47–0,5 м ніжэй за дзённую паверхню, у пласце прасочвалася істотная доля попелу і вугалі, сярод якіх былі выяўлены косткі буйной рагатай жывёлы і інтэнсіўная праслойка лускі. Побач з гэтай праслойкай на глыбіні 0,53 м ніжэй ад дзённай паверхні, сярод лускі, у пласце з попелам, вугалямі, фрагментамі абпаленай гліны быў выяўлены вялікі кавалак верхняй часткі гаршка, арнаментаваны ўцісканнямі і хваляй (мал. 5, *Б: 7*). Пасля зняцця кавалкаў гаршка і зачысткі паўночна-ўсходняй часткі квадрата была зафіксавана пляма рыбнай




Мал. 3. Кастрыца. Селішча-1. План мацерыка і мацерыковых ям шурфа № 1

лускі. Ніжэй за гэтую пляму, сярод попельнага пласта з вуголлямі і луской знаходзіліся вялікія кавалкі керамічнага посуду. Сярод указаных фрагментаў быў зафіксаваны яшчэ адзін вялікі фрагмент гаршка (мал. 5, *Б: 8*).

Пры далейшай расчыстцы пласта шурфа, на глыбіні 0,6–0,62 м ніжэй ад дзённай паверхні, у попельным пласце з вугалямі, побач з керамічнымі фрагментамі змяшчаўся нож (мал. 5, *Б: 1*). Поўная расчыстка нажа дазволіла прасачыць кантэкст, у якім знаходзіўся нож *in situ*, нож фактычна змяшчаўся ў пласце, звязаным з пажарам. У паўднёва-ўсходнім куце шурфа, сярод вугольна-попельнай праслойкі, быў выяўлены фрагмент нажа з абламаным дзяржаннем (мал. 2, *Б: 2*). Пры далейшай зачыстцы перадмацерыковай паверхні шурфа быў выяўлены яшчэ адзін фрагмент венца (мал. 18, *Б: 6*) і абазначыліся межы перанасычанай вугалямі плямы, сярод якой таксама ляжалі фрагменты керамікі (мал. 5*, Б: 10*). З перадмацерыка паходзіла яшчэ некалькі фрагментаў венцаў, адзін з якіх блізкі па профілю да тыпаў XIV–XV стст. (мал. 5, *Б: 12).* У шурф не патрапіла ніводнай мацерыковай ямы. Сярод іншых матэрыялаў з шурфа адзначым рыбалоўны кручок (мал. 5, *Б: 4*) і іголку (мал. 5, *Б: 5*).

Шурф № 1–2 па змесце і стратыграфіі вельмі блізкі да шурфа № 1–1 (2007 г.). Акрамя керамікі гэтыя шурфы аб’ядноўвала наяўнасць пласта рыбнай лускі. Месцазнаходжанне двух шурфаў сведчыць на карысць існавання жыццядзейнасці на гэтай частцы помніка, на большым аддаленні ад возера, чым гэта паказалі раскопы № 1 (2006 г.) і 2 (2007 г.).

Працы каля в. Вялец Глыбоцкага раёна, на селішчы-1 у 2013 г. былі выкліканы неабходнасцю




Мал. 4. Асноўныя матэрыялы з шурфа № 1. Селішча-1. Помнік Кастрыца; *1–9* – фрагменты ганчарнай керамікі; *10–12* – фрагменты ляпной керамікі (замалёўка З. А. Харытановіч); *13* – наканечнік стралы; *14* – камень-цёрачнік

Мал. 5. Лісна. Селішча-1. Профілі шурфа № 1–2 (*А*) і асноўныя знаходкі (*Б*)

вывучэння стратыграфічнай сітуацыі на помніку. Да пачатку прац аўтарам справаздачы па берагах воз. Вялец былі выяўлены два селішчы. На селішчы Вялец-1 фіксавалася кераміка XIII–XIV стст. З селішча Вялец-1 паходзіў выраб з эмаллю (фібула-брошка), які адносіўся да старажытнасцей III–V стст. [12, с. 427]. Для складання ўяўлення аб стратыграфіі і храналогіі помніка былі даследаваны 2 шурфы ў цэнтральнай частцы селішча-1: № 1, плошчай 4 $м^2$ і № 2 плошчай 1 $м^2$.

Шурф № 1 меў памеры 2 × 2 м. Магутнасць культурнага пласта складала 0,62–0,68 м (мал. 6, *А: I*). Стратыграфія шурфа вызначалася неаднародным характарам. У верхняй частцы шурфа, якая складалася з шэрай супесі, фіксаваліся фрагменты ляпнога, ганчарнага посуду, украпіны фрагментаў абпаленай гліны і камянёў. Тут знаходзілася частка колца (мал. 6, *Б: 4*) і іголка (мал. 6, *Б: 6*). Ніжняя частка шурфа вызначалася наяўнасцю цёмна-шэрай супесі з інтэнсіўнымі слядамі пажару, асабліва гэта было відавочна ў паўднёва-заходнім куце шурфа, у якім разам з фрагментамі ляпной керамікі, абпаленай гліны, раструшчанымі ад уздзеяння агню камянямі, назіраліся плямы вугалёў і лінзы брудна-жоўтага пяску. Канцэнтрацыя падобных слядоў была характэрная для ўсёй заходняй часткі шурфа, што засведчыла і зачыстка другога раскопачнага пласта (глыбіня 0,2–0,4 м ніжэй ад дзённай паверхні). Акрамя ляпной гладкасценнай керамікі на гэтым стратыграфічным узроўні быў выяўлены рыбалоўны кручок (мал. 6, *Б, 5*) і асялок (мал. 6, *Б: 10*). Пры далейшай працы з другім стратыграфічным пластом былі зафіксаваны вялікія камяні, вугалі, праслойка гліны, кавалкі ляпных гладкасценных гаршкоў (мал. 6, *Б*: *11*), фрагменты сценак з расчосамі (мал. 6, *Б: 12*). Адносна фрагментаў «з рачосамі», якія мелі штрыхоўку «крыж-накрыж», адзначым, што яны ўжо сустракаліся на некаторых помніках, у тым ліку на тэрыторыі беларускай часткі Падзвіння [9, рис. 14: *2, 5, 7*; рис. 15: *11*; рис. 16: *8*]. Перадмацерыковы стратыграфічны пласт магутнасцю 0,10–0,25 м у асноўным складаўся з шэрай супесі, з дамешкам карычневай супесі, якая адлюстроўвала прыродны кампанент, што існаваў яшчэ да часу заснавання паселішча з ляпной керамікай і быў «прарэзаны ў шэрагу месцаў» дадзеным паселішчам.

Шурф № 2 памерамі 1 × 1 м на помніку быў разбіты побач з шурфам № 1 з мэтай выяўлення ранейшых пабудоў. Асноўнае запаўненне шурфа: шэрая і цёмна-шэрая супесь, у якой траплялiся фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, дробныя фрагменты глінянай абмазкі (мал. 6, *А: II*). Стратыграфічная сітуацыя ў шурфе № 2 амаль ідэнтычная шурфу № 1.

Нягледзячы на тое, што ў шурфах, былі прадстаўлены матэрыялы першай паловы I тысячагоддзя н. э., пры абследаванні пляцоўкі селішча былі выяўлены матэрыялы сярэдневяковага перыяду: часткі шыла (мал. 6, *Б: 7*), зубіла (мал. 6, *Б: 8*), замка схемы «Е» (мал. 6, *Б: 9*) і два фрагменты ганчарнай керамікі, якія па схеме венца блізкія да перыяду XIV–XVI стст. (мал. 6, *Б: 13, 14*). Вырабы з каляровых металаў таксама храналагічна адносіліся да сярэдневяковага перыяду. Храналагічная атрыбуцыя крыжыка з крынападобнымі завяршэннямі (мал. 6, *Б: 1*) упісваецца ў храналогію познасярэдневяковага перыяду. Накладка з эмаллю адносілася да таго ж тыпу (мал. 6, *Б: 2*), што і падобная знаходка з паселішча Ворань, якая была апублікавана раней [6, рис. 23: *12*]. Розніца паміж дзвюма знаходкамі ў тым, што накладка з Вяльца мела для мацавання скразную адтуліну, а знаходка з Ворані – штыфты. Цікавым выглядае і фрагмент верхняй часткі галоўкі полай прывескі-коніка (мал. 6, *Б: 3*). Падобныя прывескі бытавалі ў XII–XIV стст., паходзілі з паселішчаў і могільнікаў і звязваліся звычайна з фіна-ўгорскім насельніцтвам [11, с. 31, рис. 9]. Падобныя вырабы вядомыя з некалькіх помнікаў на тэрыторыі Беларусі, сярод якіх Лужасна (селішча-2, 2013 г.), Малявічы і Віцебск [1, с. 479, мал. 142: *23*; 3, с. 161, мал. 20: *1–2*].

Закладанне шурфаў засведчыла, што на плошчы селішча, якая прылягала да возера ў перыяд першай паловы I тысячагоддзя н. э., існавала паселішча, таму знаходка вырабу з чырвонай эмаллю, матэрыялы якой быў апублікаваны раней, не з’яўлялася выпадковай. Разам з тым шурфы № 1 і 2 на селішчы-1 не выявілі закрытых комплексаў XIII–XV стст. Не выключана, што селішча гэтага перыяду было вышэй і далей ад возера, але для гэтага неабходна правесці дадатковыя даследаванні.

У 2013 г. былі працягнуты археалагічныя працы ў в. Лучна Заазерскага с/с Полацкага раёна. Яшчэ ў 2005 г. было выяўлена яшчэ адно вясковае паселішча каля ручаіны, якая працякала па вёсцы і ўпадала ў р. Заходняя Дзвіна. Па прычыне істотнай занятасці падчас археалагічных прац на селішчы Лучна-1 у 2010–2011 гг. археалагічнае абследаванне селішча не было праведзена. З улікам таго, што селішчу не пагражала знішчэнне падчас будаўніцтва, гэтыя працы былі адкладзены. Таму ў 2013 г. у в. Лучна на селішчы-6, якое знаходзілася побач з ручаінай, быў закладзены шурф № 1, памерамі 1 × 2 м (мал. 7, *А*). Стратыграфічная сітуацыя ў шурфе № 1 адпавядала шырокараспаўсюджанай сітуацыі на вясковых паселішчах. Магутнасць культурнага пласта не перавышала 0,40–0,42 м. Асноўнае запаўненне шурфа складала шэрая супесь з украпінамі асобных вугалёў і дробных фрагментаў абпаленай гліны (мал. 7, *Б*). У пласце фіксаваліся невялікія лінзы брудна-жоўтага пяску. Неабходна заўважыць, што на глыбіні 0,3 м ніжэй ад дзённай паверхні, на




Мал. 6. Вялец. Селішча-1. Планы профіляў шурфаў № 1 і 2 (*А*) і асноўныя знаходкі з тэрыторыі селішча (*Б*): *1, 3* – сплаў на аснове бронзы; *2* – сплаў на аснове бронзы, жоўтая эмаль; *4–9* – чорны метал; *10* – камень; *11–14* – кераміка

передмацерыку падобныя лінзы пераважалі і сярод іх фіксавалася прысутнасць дробных вугольчыкаў. У шурфе і на помніку былі выяўлены фрагменты керамікі XVI–XVII стст. (мал. 7, *В*). Адзін з фрагментаў быў блізкі па профілю да керамікі XV ст. (мал. 7, *В: 9*). Аналіз храналогіі некаторых тыпаў керамікі (мал. 7, *В: 1–3, 6*) дазваляе казаць аб тым, што селішча Лучна-6 існавала пазней за час прыпынення жыццядзейнасці на помніку Лучна-1 у сярэдзіне XVI ст.

Акрамя пералічаных вышэй прац восенню 2013 г. была праведзена археалагічная разведка па левым беразе р. Заходняя Дзвіна паміж г. п. Бешанковічы і в. Узрэчча Бешанковіцкага раёна (мал. 1: *6*),




Мал. 7. Лучна. Селішча-6. План селішча (*А*); профілі шурфа на селішчы (*Б*); керамічныя матэрыялы з помніка (*В*)

выкліканая тым, што ў 2013 г. пачаліся працы па ўмацаванні берагавой лініі р. Заходняй Дзвіны паміж в. Лучна і г. п. Бешанковічы ў сувязі з будаўніцтвам Полацкай ГЭС. У археалагічнай разведцы ўдзельнічаў аспірант А. Вашанаў. Паралельна з працай аўтара артыкула ў Бешанковіцкім раёне абследаванне праводзіў Макс. М. Чарняўскі ў мікрарэгіёне воз. Дыбалі. Археалагічная разведка прадугледжвала абследаванне левага берага р. Заходняя Дзвіна шляхам пешых разведак фіксацыяй усіх помнікаў па левым беразе. Да гэта ж, на некаторых помніках праводзілася закладанне шурфоў. Падчас гэтай дзейнасці ажыццяўляўся збор пад'ёмных матэрыялаў, фотафіксацыя выяўленых аб'ектаў. У выніку археалагічнай разведкі было адкрыта некалькі вясковых паселішчаў XI–XIII стст., XV–XVIII стст. і засведчана два месцы знаходак мезалітычнага крэменю (каля в. Драздыі Буй).

Абагульняючы вышэйвыкладзеныя вынікі археалагічнай дзейнасці ў 2013 г. на тэрыторыі Полацкага Падзвіння, неабходна адзначыць, што на вясковых паселішчах у гэты перыяд ажыццяўляліся невялікія, не працяглыя па часе, экспедыцыі, у межах якіх адбываліся шурфовачныя працы. Відавочна, што вынікі прац дазволілі атрымаць новые даныя аб матэрыяльнай культуры вясковых паселішчаў, што дае магчымасць удакладніць некаторыя аспекты характару матэрыяльнай культуры і жыццядзейнасці на паселішчах.

**Літаратура**


1. Археалогія Беларусі : у 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Т. 3. : Сярэдневяковы перыяд (IX–XIII стст.) / навук. рэд. П. Ф. Лысенка. – Мінск : Беларуская навука, 2000. – Т. 3. – 554 с. : іл.
2. Башков, А. А. Христианские древности Беларуси конца X – XIV в. (предметы христианского культа индивидуального использования) / А. А. Башков. – Минск : Логвинов, 2011. – 194 с. : ил.
3. Дучыц, Л. Курганна-жальнічны могільнік каля в. Малявічы Вілейскага раёна / Л. Дучыц, А. Вайцяховіч, П. Кенька // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2007. – Вып. 23. – С. 152–166.
4. Егорейченко, А. А. Культуры штрихованной керамики / А. А. Егорейченко. – Минск : БГУ, 2006. – 207 с. : ил.
5. Еремеев, И. И. Очерки исторической географии лесной части Пути из варяг в греки. Археологические и палеогеографические исследования между Западной Двиной и озером Ильмень, 2010 / И. И. Еремеев, О. Ф. Дзюба. – СПб. : Нестор-История, 2010. – 670 с. : ил.
6. Кенько, П. М. Поясная гарнитура с территории Беларуси (I–XIII вв.) : свод археологических источников / П. М. Кенько. – Минск: Беларуская навука, 2012. – 172 с.
7. Клімаў, М. В. Асноўныя вынікі археалагічных раскопак на помніку Лучна-1 у 2010 годзе / М. В. Клімаў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2012. – № 23. – С. 324–332.
8. Клімаў, М. В. Археалагічныя доследы на помніках Полацкага Падзвіння ў 2012г. / М. В. Клімаў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск : Беларуская навука, 2014. – № 25. – С. 301–306.
9. Лопатин, Н. В. Северные рубежи раннеславянского мира в III–V веках н. э. (Раннеславянский мир. Вып. 8) / Н. В. Лопатин, А. Г. Фурасьев. – М., 2007. – 252 с. : ил.
10. Медведев, А. Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) VIII–XIV вв. : свод археологических источников / А. Ф. Медведев. – М. : Наука. – Е1–36. – 1966. – 183 с. : ил.
11. Седова, М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода / М. В. Седова. – М. : Наука, 1981. – 195 с. : ил.
12. Харитонович, З. А. Фибула-брошь круга выемчатых эмалей из Глубокского района / З. А. Харитонович, М. А. Котов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2011. – № 20. – С. 195–199.



**Резюме**

*М. В. Климов*

**Новые материалы с сельских поселений Полоцкого Подвинья (по результатам археологических исследований в 2013 г.).**

Приводятся результаты археологических работ, проведенных в 2013 г. на 5 сельских поселениях, расположенных на территории Полоцкого Подвинья. Представлен анализ стратиграфии и отдельных артефактов с каждого исследованного памятника. В результате археологических работ были найдены не только артефакты X–XVI вв., но также и фрагменты керамической посуды I тысячелетия н. э. (Кастрица, Велец). Работы на поселениях Лисно и Ворань позволили уточнить выводы о системе расселения в период XIII–XV вв. Новые артефакты с территории поселений (Ворань, Велец, Лучно) показали связь между отдельными элементами материальной культуры в период XIII–XV вв.



**Summary**

*M. V. Klimau*

**New materials with rural settlements of the Polatsk Padzvinne (based on archaeological research in 2013)**

The results of archaeological work in 2013 on five rural settlements located on the territory of the Polatsk Padzvinne. Presents an analysis of the stratigraphy and artifacts from each individual studied the monument. As a result of archaeological excavations have been found not only artifacts $10^{th}$–$16^{th}$ centuries, but also fragments of ceramic ware of the $1^{st}$ millennium BC (Kastritsa, Vjalets). Work in the settlements and Lisna Voran possible to refine the conclusions of the settlement system during the 13th–15th centuries. New artifacts from the territory of the settlements (Voran, Vjalets, Luchna) have shown a link between the individual elements of material culture during the $13^{th}$–$15^{th}$ centuries.


*Паступіў 20.11.2014 г.*

*УДК 903.25(476.5-25)*

***А. В. Костюкевич**, Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранеия и использования археологического наследия, аспирант, магистр исторических наук (г. Минск, Беларусь)*

## Аметистовая византийская бусина из Витебска

В 1978 г. при раскопках Верхнего замка Витебска под руководством Л. В. Колединского[1] в пласте 16 квадрата 74 была обнаружена фиолетовая бусина каплевидной формы, имеющая размеры 18 мм в длину и 15 мм в поперечном сечении с диаметром внутреннего канала 2 мм [8] (рис. 1). Первоначально бусина была определена Т. С. Скрипченко как «плоскоэллипсоидная из бледно-фиолетового прозрачного стекла... с внутренними трещинами от неравномерного отжига» и интерпретирована как «современная, XIX–XX вв.» (КП 201301/1). Согласно музейной записи, данная бусина происходит из слоя XII–XVI вв.

При обработке коллекции бус из Витебска нас заинтересовала морфология данной бусины, не соответствующая морфологии стекла. Данная бусина имеет высокую твердость (7 по шкале Мооса), характерный цвет и блеск. Было выдвинуто предположение, что бусина изготовлена из минерала силикатной группы, предположительно, аметиста. Определение материала, из которого изготовлен артефакт было произведено В. Л. Смоляковой, заведующей Музеем землеведения географического факультета Белорусского государственного университета. В ходе определения было установлено, что материалом изготовления данной бусины является аметист ($SiO_2$).



Рис. 1. Аметистовая каплевидная бусина из раскопок Витебского Верхнего замка. Раскопки Л. В. Колединского. 1978 г.

Затем был произведен поиск аналогий данной бусине в зарубежной литературе. В ходе поиска были выявлены многочисленные аналогии данному изделию с достаточно широким ареалом распространения, включавшим в себя территории Византии, Средиземноморья (Сицилия, Кипр, Италия) и Западной Европы (Германия, Швейцария) [9, p. 53]. В зарубежной литературе подобные бусины интерпретированы как «almond-shaped» и «droplet-shaped», что, на наш взгляд, дает достаточно точное представление о форме этих бусин.

Подобные аметистовые бусины в большинстве случаев являются составляющими византийских ожерелий и серег [9, p. 52]. На территории Византийской империи и Средиземноморья данные изделия появляются достаточно рано – уже в V в., но пик их распространения приходится на VI–VII вв. [9, p. 54]. В Западной Европе большинство подобных бус происходит из погребальных комплексов эпохи Меровингов [9, p. 55], также подобные бусины встречаются и в захоронениях начала VIII в. [9, p. 55]. Судя по всему, это было достаточно популярное украшение, так как только на территории Германии и сопредельных территориях было учтено 776 подобных бусин [9, p. 57]. Кроме этого, имеются сведения о подобных бусинах, найденных и на территории южной Скандинавии [9, p. 58].

Материал, из которого изготовлены такие бусины – аметист, представляющий собой фиолетовую/сиреневую разновидность кварца, является достаточно широко распространенным минералом. Однако в период Средневековья далеко не все его месторождения были известны. Так, наиболее известными копями аметиста считались индийские и цейлонские, откуда камень поступал в мастерские Византии [9, p. 52]. Ал-Бируни касательно месторождений аметиста упоминает Вашджирд (территория современного Таджикистана) [1, с. 181]. Однако сведения об этих месторождениях весьма скудны, а арабский ученый путает аметист с фиолетовой разновидностью флюорита, и поэтому мы склонны считать, что аметист поступал в Византию из Индии, с которой у нее были прочные торговые связи, или из ближневосточного региона (Египет, Эфиопия).

Учитывая аналогии и картографию подобных находок, а также принимая к сведению информацию, отраженную в научной статье, посвященной каплевидным аметистовым бусинам [9], мы также склоня-

[1] Автор выражает благодарность автору раскопок Л. В. Колединскому за любезно предоставленный материал.



Рис. 2. Серьги с аметистовыми каплевидными бусинами. Византия [9]



Рис. 3. Серьга с каплевидной аметистовой бусиной из Витебска. Реконструкция автора



Рис. 4. Ожерелье с каплевидными византийскими бусинами. Кипр [9]



Рис. 5. Ожерелье с каплевидной аметистовой бусиной из Витебска. Реконструкция автора

емся к предположению, что центром изготовления этих бус была Византийская империя, откуда они распространялись по вышеупомянутым регионам.

Однако в случае с витебской бусиной, при наличии многочисленных полных морфологических аналогий, возникает существенное хронологическое расхождение, составляющее несколько веков. Однако подобные несоответствия вполне возможны, как в случае с крупной мозаичной бусиной из Новых Волосовичей, датированной по аналогиям VIII–IX вв. [5, с. 67–69; 6, 7] и найденной в захоронении XI в. [3, с. 91; 4, с. 7]. Также в данном случае нужно вспомнить аналогичную бусину, определенную изначально как аметистовая, найденную Т. С. Бубенько при раскопках Нижнего замка [2, с. 130] в слое XII в. Эта бусина идентична рассматриваемой нами лишь

с той разницей, что была переделана в привеску. Возможно, что эти бусины входили в состав одного достаточно раннего украшения (рис. 2, 3) или ожерелья (рис. 4, 5). Изделие с аметистовыми бусинами могло проделать достаточно долгий (во временном и территориальном понятии) путь – хранилось у своих владельцев и передавалось по наследству. Также возможно вторичное использование бусин после переплавки золотых частей украшения. Ввиду высокой прочности и ценности каменные бусины могли использоваться в составе различных украшений на протяжении нескольких поколений. Это подтверждает переделка поврежденной бусины из раскопок, проведенных Т. С. Бубенько, в привеску.

Учитывая то, что первые летописные упоминания о Витебске относятся к X в., но поселение здесь существовало ранее, а также принимая во внимание наличие ряда скандинавских предметов, найденных в Витебске и датированных IX–X вв., мы можем выдвинуть предположение, что эти бусины могли попасть в Витебск вместе с викингами, чьи походы в Византию общеизвестны. После этого бусины могли бытовать достаточно долгое время, входя в состав различных женских украшений на протяжении нескольких поколений.

Таким образом, мы можем принять византийское происхождение аметистовой бусины из Витебска в качестве рабочей гипотезы, подтверждающей косвенные связи Полоцкой земли с Византией посредством североевропейского военно-торгового контингента.

**Литература**

1. Ал-Бируни, Абу-р-Райхан Мухаммед ибн Ахмед. Собрание сведений для познания драгоценностей (минералогия) / Абу-р-Райхан Мухаммед ибн Ахмед Ал-Бируни. – Л. : Изд-во Акад. наук СССР. – 1963. – 518 с.

2. Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск. Посад – нижний замок (10–1 половина 14 в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск : Изд-во Витеб. гос. ун-та, 2004. – 276 с. : ил.

3. Вайцяховіч, А. В. Пахавальныя помнікі каля вёскі Новыя Валосовічы Лепельскага раёна Віцебскай вобласці / А. В. Вайцяховіч // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – 2006. – № 12 : Археалогія эпохі сярэдневякоўя (да 75-годдзя з дня нараджэння П. Ф. Лысенкі). – С. 89–101.

4. Вайцяховіч, А. В. Справаздача аб археалагічных даследаваннях курганных могільнікаў у Докшыцкім і Лепельскім раёнах Віцебскай вобласці і ў Мінскім раёне ў 2003 г. // Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Спр. № 2084.

5. Львова, З. А. Стеклянные бусы Старой Ладоги. Ч. I. Способы изготовления, ареал, время распространения З. А. Львова // Археолог. сб. – Л., 1968. – Вып. 10. – С. 64–94

6. Ковалевская, В. Б. Компьютерная обработка массового археологического материала из раннесредневековых памятников Евразии / В. Б. Ковалевская. – Пущино, 2000. – 364 с.

7. Ковалевская, В. Б. Компьютерная обработка массового археологического материала из раннесредневековых памятников Евразии / В. Б. Ковалевская // Ancient beads [Электронный ресурс]. – 2011. – Режим доступа : http:// pirushki. com/Kovalevskaya/Koval01. htm. – Дата доступа : 12.09.2014.

8. Ткачев, М. А. Отчет о полевых исследованиях на Верхнем замке древнего Витебска, 1978 г. / М. А. Ткачев, Л. В. Колединский // АН БССР, Ин-т истории АН БССР, сектор археологии. – Д. № 717.

9. Drauschke, J. Byzantine Jewellery? Amethyst Beads in East and West during the Early Byzantine Period / J. Drauschke // ‘Intelligible Beauty’ Recent Research on Byzantine Jewellery. – Publishers: The British Museum. – London. – 2010. – P. 50–60.

**Рэзюмэ**

*А. В. Касцюкевіч*

**Візантыйская аметыставая пацерка з Віцебска**

Разглядаецца факт знаходжання аметыставай пацеркі падчас археалагічных раскопак на тэрыторыі Віцебскага Верхняга замка пад кіраўніцтвам Л. У. Калядзінскага. Разгледжаны аналогіі і тэрыторыі распаўсюджвання падобных пацерак. Прапанавана гіпотэза аб візантыйскім паходжанні дадзенай знаходкі.

**Summary**

*A. V. Kostsuikevich*

**The byzantine amethyst bead from Vitebsk**

In the paper is considered an amethyst bead that was found during archeological excavation of the Vitebsk Upper Castle led by L. V. Koledinsky. The analogies and area of circulation of similar beads are taken up. The hypothesis about Byzantine origin the bead is offered.

*Поступила 20.11.2014 г.*

*УДК 904:737(476-25)*

***А. А. Кунаш,** Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, гістарычны факультэт, студэнт IV курса (г. Мінск, Беларусь)*

# Нумізматычны матэрыял з пад’ёмных збораў з левага берага р. Свіслач у Мінску (раён Траецкага прадмесця)

На працягу апошніх гадоў (2009–2013) на левым беразе р. Свіслач (раён Траецкага прадмесця), аўтарам эпізадычна збіраўся археалагічны матэрыял у агаленнях р. Свіслач. Выпадковыя зборы ажыццяўляліся пераважна ў летнія месяцы і былі звязаны з паніжэннем вады ў рацэ. У некаторых месцах берага прасочваюцца агаленні культурнага слою інтэнсіўна-чорнага колеру з утрыманнем драўлянай трухі, ганчарнай керамікі, побытавымі вырабамі і інш. Магутнасць слоя вагаецца ад 0,5 да 1,1 м. У месцах выхаду культурнага слоя фіксуюцца фрагменты драўляных канструкцый. Археалагічныя артэфакты збіраліся ад сучаснага маста праз р. Свіслач і вышэй па цячэнні прыкладна на 150 м. Таксама невялікая колькасць археалагічных артэфактаў фіксуецца вышэй так званага Вострава слёз.

Сярод сабраных матэрыялаў вылучаюцца вырабы з гліны (фрагменты керамікі, кафлі), жалеза (нажы, падкоўкі на абцас, спражкі, цвікі), каменю (асялкі, фрагменты оўруцкага шыферу), каляровага металу (манеты, гузікі, пломбы, накладкі, кулі), фрагменты шклянога посуду, астэалагічны матэрыял. (Увесь сабраны матэрыял перададзены аўтарам па акце ў фонды ДУ «Музей гісторыі г. Мінска»).

Аб’ектам разгляду ў дадзеным артыкуле з’яўляюцца 54 манеты, якія датуюцца XV–XX стст. (гл. Дадатак). Большасць манет выраблена з меднага сплаву, аднак у калекцыі маецца некалькі білонавых і срэбраных манет. Калекцыя прадстаўлена манетамі Вялікага Княства Літоўскага, Расійскай імперыі, Брандэнбургска-Прускай дзяржавы, Францыі, Веймарскай рэспублікі. Пры пазначэнні ўсіх знойдзеных манет на сучасную карту Мінска, можна вылучыць тры зоны іх распаўсюджання (мал. 1). Варта адзначыць, што манеты XV–XVIII стст. сустракаюцца выключна ў месцах выхаду культурнага слоя.

Некаторыя манеты з-за доўгага знаходжання ў неспрыяльных умовах былі пакрыты тоўстым слоем вокіслаў і маюць вельмі кепскі стан захавання (амаль не чытальная легенда і кепска бачныя выявы). Нягледзячы на гэта, дадзеная калекцыя з’яўляецца самай буйной і прадстаўнічай з тэрыторыі Траецкага прадмесця. Археалагічна тэрыторыя левабярэжнай Свіслачы вывучана значна горш, чым тэрыторыя горада, размешчаная на правым беразе гэтай ракі. Таксама трэба заўважыць, што культурны слой Траецкага прадмесця вельмі пашкоджаны ў выніку шматлікіх ніveліровак і перабудоў XIX–XX стст.

Першая і самая буйная перапланіроўка сеткі вуліц, а таксама нівеліроўка тэрыторыі Траецкай гары адбылася пасля пажару 1809 г., падчас якога згарэла амаль уся забудова прадмесця [3]. Частка берагавой лініі была знішчана ў выніку пашырэння ракі ў канцы 1970-х гадоў. Гэта і прывяло да агалення культурных напластаванняў старажытнага горада, якія размываюцца ракой.

Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Траецкага прадмесця праводзіліся ў 1976, 1977, 1979, 1982 і 2011 г. пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава, З. С. Пазняка, В. Е. Собаля, А. М. Мядзведзева. З мэтай вывучэння згаданай тэрыторыі было распрацавана некалькі раскопаў, траншэй і шурфаў (мал. 2). Вынікі раскопак 1976–1977 гг. і 1979 г. часткова апублікаваны [16–19, 21], аднак характарыстыка або згадка аб нумізматычным матэрыяле ў іх не прыводзяцца.

Нумізматычны матэрыял, здабыты пры паверхневых зборах, дазваляе меркаваць пра асаблівасці грашовага абарачэння на пэўнай тэрыторыі Мінска ў XV–XX стст., а таксама можа стаць падставай для распрацоўкі пытанняў гандлёвых аперацый, якія ажыццяўляліся на тэрыторыі прадмесця ў XVII–XIX стст. Гэта звязана з пражываннем на згаданай тэрыторыі рамеснікаў, габрэяў-гандляроў, размяшчэннем на тэрыторыі плошчы Парыжскай Камуны (сучасная тэрыторыя каля Опернага тэатра) аднаго з галоўных рынкаў горада – Траецкага, вядомага з XVI ст., а таксама праходжаннем праз Траецкае прадмесце асноўных гандлёвых шляхоў [12, 13]. Існуе меркаванне, што на тэрыторыі Траецкага прадмесця да XVII ст. размяшчаўся ўласна горад («места») – жылы, гандлёвы і рамесны цэнтр [4].

## Апісанне калекцыі з левага берага р. Свіслач (тэрыторыя Траецкага прадмесця) [паводле: 1, 2, 5–11, 14, 15, 20, 22] (гл. Дадатак)

### *Манеты Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай*

*Аляксандр Казіміравіч (1492–1506)*

№ 1. Av.: Рэнесансавыя выявы Пагоні і літары «**А**» – ініцыял Аляксандра Казіміравіча.

Rv.: Арол, які кепска праглядаецца. На рэверсе таксама бачна літара «**А**», што можа сведчыць пра інкузны брак.




Мал. 1. Месцы збору манет і іх датаванне




Мал. 2. Месцы правядзення археалагічнага вывучэння Траецкага прадмесця

*Ян II Казімір Ваза (1649–1668)*

Манет Яна II Казіміра ў зборы маецца 27 адзінак. Гэта медныя соліды Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Большасць манет захавалася ў вельмі кепскім стане, што не дазваляе правесці іх поўную атрыбуцыю.

№ 2–17. Av.: **IOAN. CAS. REX.** Профіль караля ў лаўровым вянку, накіраваны ў правы бок. На некаторых манетах пад профільнай выявай караля захаваліся ініцыялы арандатара манетных двароў ВКЛ і Польшчы Ціта Лівія Бараціні – «**T. L. B**».

Rv.: **SOLID. MAG. DUG. LIT** (**1665–1666**). Герб «Пагоня». На рэверсе некаторых манет захаваліся адзнакі вялікіх падскарбіяў літоўскіх: «Корвін» – Вінсэнта Гансеўскага (1652–1662), манаграма «HKPL» – Іераніма Крышпіна Кіршэнштэйна (1662–1676), герб «Крыспін» – Іераніма Крышпіна Кіршэнштэйна (1662–1676).

№ 18. Av.: Профіль караля ў лаўровым вянку, накіраваны ў правы бок. Захавалася легенда, якая кепска праглядаецца.

Rv.: **REDN** <…> **N**. Захавалася зацёртая выява герба «Пагоня». Пад «Пагоняй» – выява герба «Сноп».

Заўвагі: манета з’яўляецца падробкай таго часу.

№ 19–28. Av.: **IOAN. CAS. REX.** Профіль караля ў лаўровым вянку, накіраваны ў правы бок. На некаторых манетах пад профілем караля размешчаны ініцыялы «**T. L. B.**».

Rv.: **SOLID. REG. POLO.** (**1664–1665**). Арол глядзіць улева, пад ім захавалася адзнака вялікага падскарбія кароннага: «Слепаўрон» – Яна Казіміра Красінскага (1659–1668).

*Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1764–1795)*

№ 29. Av.: Вензель Станіслава Аўгуста Панятоўскага: «**SAR**» (Stanislaw August Rex) і дата: **176** <…>.

Rv.: Герб Рэчы Паспалітай.

Заўвагі: Манета амаль поўнасцю знішчана карозіяй. Легенда нечытэльная.

***Варшаўскае герцагства***

*Фрыдрых Аўгуст I (1807–1815)*

№ 30. Av.: **3 GROSZE 1812. I. B.** (Якуб Бенік – мінцмайстар Варшаўскага манетнага двара (1811–1827)).

Rv.: Герб Варшаўскага герцагства.

***Прыбалтыйскія ўладанні Швецыі (Лівонія)***

*Хрысціна Аўгуста Ваза (1632–1654)*

№ 31. Av.: **CHRISTINA. D. G. D. R. S.** Выява вензеля «**С**» і герба «Сноп» – герба роду Вазаў.

Rv.: **SOLIDVS. CIVI. RIGEN 4** <…>. Герб г. Рыгі.

№ 32. Av.: <…> **INA. D. G. R. S.** Выява вензеля «**С**» і герба «Сноп».

Rv.: **SOLIDVS. CIVI.** <…>. Герб г. Рыгі, дзе чаканілася манета.

***Брандэнбургска-Пруская дзяржава. Брандэнбург***

*Георг Вільгельм (1619–1640).*

№ 33. Av.: **GEWI: MAR: BR: SRIE: L: P** <…>. У цэнры маецца выява «Дзяржава» з нумарам 24. З двух бакоў ад «Дзяржавы» размешчаны лічбы 22, якія адпавядаюць даце, калі была адчаканена манета: 1622.

Rv.: **DIEVS MON (3)** <…> **GT**. У цэнтры манеты – выява герба Прусіі.

***Расія (імперыя)***

*Пётр I (1682–1721)*

№ 34. Av.: **ПОЛУШКА В. Р. П.** (дата на манеце пазначана славянскімі літарамі і адпавядае 1719 г.).

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

*Анна Іаанаўна (1730–1740)*

№ 35. Av.: **ПОЛУШКА 1731**.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 36. Av.: **ДЕНГА 1738**.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

*Елізавета Пятроўна (1741–1761)*

№ 37. Av.: **ДЕНГА 1748**.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 38. Av.: **ДЕНГА 1751**.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

*Мікалай I (1825–1855)*

№ 39. Av.: **10 КОПѢЕКЬ**. **Е. М.** (Екацярынбургскі манетны двор).

Rv.: **Ф. Х. 1833** (Ф. Х. – Фёдар Хвашчынскі (1830–1837)). Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, ў кіпцюрах ён трымае стрэлы і стужку.

№ 40. Av.: Вонкавы бок манеты зацёрты.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі. У лапах ён трымае стрэлы і стужку, пад якімі захаваліся ініцыялы «**Ф. Х.**». Пад арлом – дата, калі была адчаканена манета: **1836**.

№ 41. Av.: **1\4 КОПѢЙКИ СЕРЕБРОМЪ 1842**.

Rv.: Манаграма Мікалая I.

***Царства Польскае ў складзе Расійскай імперыі***

*Мікалай I (1825–1855)*

№ 42. Av.: **10 GROSZY 1840**.

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву. Пад лапамі – ініцыялы Варшаўскага манетнага двара: «**M. W.**» (Mennica Warsawska).

***Расія (імперыя)***

*Аляксандр II (1855–1881)*

№ 43. Av.: **5 КОПѢЕКЬ 1856. Е. М.**

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 44. Av.: **2 КОПѢЙКИ 1858.**

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 45. Av.: **ДЕНЕЖКА 1860. Е. М.**

Rv.: Вензель Аляксандра II.

№ 46. Av.: **2 КОПѢЙКИ 1860.**

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 47. Av.: **КОПѢЙКА 1866.**

Rv.: Манаграма Аляксандра II.

№ 48. Av.: **10 КОПѢЕКЬ 1879**. **С.П.Б.**

Rv.: Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў кіпцюрах трымае скіпетр і дзяржаву. Пад лапамі – ініцыялы службовай асобы Санкт-Пецярбурскага манетнага двара: «**Н. Ф**» (Мікалай Фалендорф у 1864–1866 і 1877–1882 гг. – менцмайстар).

*Мікалай II (1894–1917)*

№ 49. Av.: **1\2 КОПѢЙКИ 1898. С.П.Б.**

Rv.: Вензель Мікалая II.

№ 50. Av.: **1\2 КОПѢЙКИ 1899. С.П.Б.**

Rv.: Вензель Мікалая II.

№ 51. Av.: **2 КОПѢЙКИ 1899 ГОДА С.П.Б.**

Rv: **МѢДНАЯ РОССІЙСКАЯ МОНЕТА ДВѢ КОПѢЙКИ.** Двухгаловы арол Расійскай імперыі з трыма каронамі, які ў лапах трымае скіпетр і дзяржаву.

№ 52. Av.: **1 КОПѢЙКА 1910 ГОДА С.П.Б.**

Rv.: З-за кепскага стану захаваліся легенда і выява двухгаловага арла, якая ледзь праглядаецца.

***Французская імперыя***

*Напалеон III (1852–1870)*

№ 53. Av.: **EMPIRE FRANCAIS UN CENTIME**. Арол глядзіць улева, пад ім – літара «**A**» (Парыжскі манетны двор).

Rv.: **NAPOLEON III EMPEREUR 1861.** Профіль імператара ў лаўровым вянку глядзіць улева. Пад галавой надпіс: «**BARRE**».

*Гістарычная даведка:* Jacques-Jean Barre (нарадзіўся 3 жніўня 1793 г. у г. Парыжы – памёр 10 чэрвеня 1855 тамсама) – гравёр Парыжскага манетнага двара ў 1842–1855 гг. Распрацоўшчык і гравёр першых дзвюх серый паштовых марак з выявай профіля Напалеона III. Створаны ім профіль імператара прымяняўся таксама і для чаканкі манет.

***Веймарская рэспубліка (Германія)***

*Фрыдрых Эберт (1919–1925)*

№ 54. Av.: **DEUTSCHES REICH 5 RENTENPFENNIG**.

Rv.: **1923 A**. (Берлінскі манетны двор).

Такім чынам, у дадзеным артыкуле прааналізавана нумізматычная калекцыя XV–XX стст. з левага берага р. Свіслач, прастаўлена датаванне і апісаны асаблівасці знаходак. Матэрыял дазваляе атрымаць дадатковую інфармацыю аб эканамічным і гістарычным развіцці аднаго з раёнаў старажытнага Мінска. Лагічным працягам будзе ўвядзенне ў навуковы ўжытак усёй калекцыі археалагічных артэфактаў.

***Дадатак***

*Табліца 1.* **Манеты з левага берага р. Свіслач (раён Траецкага прадмесця) (зборы 2009–2013 гг.)**

| № | Дзяржава | Правіцель | Намінал | Манетны двор | Год чаканкі | Метал | Гурт | *D* (см) | *M* (г) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Вялікае Княства Літоўскае | Аляксандр Казіміравіч | Дынарый | Вільня | 1492–1506 | Срэбра | Гладкі | 1,3 | 0,35 |
| 2 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | 1664 | Медзь | Гладкі | 1,6 | 0,99 |
| 3 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | 1665 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,74 |
| 4 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | (*1*)665 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,05 |
| 5 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | 1665 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,97 |
| 6 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | 1666 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,20 |
| 7 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Коўна | 1666 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,71 |
| 8 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | Вільня/ Брэст | 1666 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,84 |
| 9 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | – | 166 (?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,24 |
| 10 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | – | 16 ?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,40 |
| 11 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | – | 166 (?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,87 |
| 12 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян ІІ Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,07 |

*Працяг табл. 1*

| № | Дзяржава | Правіцель | Намінал | Манетны двор | Год чаканкі | Метал | Гурт | *D* (см) | *M* (г) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 13 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | (?)66(?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,66 |
| 14 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | 16(?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,58 |
| 15 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | 166(?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,16 |
| 16 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,4 | 0,64 |
| 17 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | 1(?)6(?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,80 |
| 18 | Вялікае Княства Літоўскае | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,88 |
| 19 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | Уяздаў | 1664 | Медзь | Гладкі | 1,8 | 1,26 |
| 20 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | Уяздаў | 1665 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,94 |
| 21 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | Уяздаў | 1665 | Медзь | Гладкі | 1,5 | 1,31 |
| 22 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | Уяздаў | 1665 | Медзь | Гладкі | 1,6 | 1,09 |
| 23 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | 166(?) | Медзь | Гладкі | 1,6 | 1,09 |
| 24 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | 166(?) | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,97 |
| 25 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,69 |
| 26 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,52 |
| 27 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,5 | 0,73 |
| 28 | Рэч Паспалітая | Ян II Казімір | Солід | – | – | Медзь | Гладкі | 1,4 | 0,51 |
| 29 | Рэч Паспалітая | Станіслаў Аўгуст Панятоўскі | Солід | Кракаў | 176(?) | Медзь | Гладкі | 1,9 | 3,8 |
| 30 | Варшаўскае герцагства | Фрыдрых Аўгуст I | 3 грошы | Варшава | 1812 | Медзь | Рубчаты | 2,5 | 8,12 |
| 31 | Лівонія | Хрысціна Аўгуста | Солід | Рыга | 164(?) | Білон | Гладкі | 1,4 | 0,64 |
| 32 | Лівонія | Хрысціна Аўгуста | Солід | Рыга | – | Білон | Гладкі | 1,4 | 0,70 |
| 33 | Брандэнбург | Георг Вільгельм | Драйпёлькер | Крулявец | 1622 | Білон | Гладкі | 1,9 | 0,43 |
| 34 | Расійская імперыя | Пётр I | Палушка | Масква | – | Медзь | Гладкі | 1,4 | 0,60 |
| 35 | Расійская імперыя | Анна Іаанаўна | Палушка | – | 1731 | Медзь | – | 2,0 | 2,98 |
| 36 | Расійская імперыя | Анна Іаанаўна | Денга | Екацярынбург | 1738 | Медзь | Сеткавы | 2,4 | 4,17 |
| 37 | Расійская імперыя | Елізавета Пятроўна | Денга | Екацярынбург | 1748 | Медзь | Сеткавы | 2,4 | 7,68 |

*Заканчэнне табл. 1*

| № | Дзяржава | Правіцель | Намінал | Манетны двор | Год чаканкі | Метал | Гурт | *D* (см) | *M* (г) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 38 | Расійская імперыя | Елізавета Пятроўна | Денга | Екацярынбург | 1751 | Медзь | Сеткавы | 2,4 | 6,91 |
| 39 | Расійская імперыя | Мікалай I | 10 капеек | Е. М. Екацярынбург | 1833 | Медзь | Гладкі | 4,1 | 47,37 |
| 40 | Расійская імперыя | Мікалай I | 5 капеек (?) | Екацярынбург (?) | 1836 | Медзь | Гладкі | 3,6 | 20,34 |
| 41 | Расійская імперыя | Мікалай I | ¼ капейкі | – | 1842 | Медзь | Гладкі | 1,6 | 0,84 |
| 42 | Царства Польскае ў складзе Расійскай імперыі | Мікалай I | 10 грошаў | M. W. Варшава | 1840 | Білон | Гладкі | 1,8 | 2,59 |
| 43 | Расійская імперыя | Аляксандр II | 5 капеек | Екацярынбург | 1856 | Медзь | Гладкі | 3,6 | 23,89 |
| 44 | Расійская імперыя | Аляксандр II | 2 капейкі | – | 1858 | Медзь | Гладкі | 2,8 | 10,57 |
| 45 | Расійская імперыя | Аляксандр II | Денежка | Екацярынбург | 1860 | Медзь | Гладкі | 1,8 | 2,14 |
| 46 | Расійская імперыя | Аляксандр II | 2 капейкі | – | 1860 | Медзь | Гладкі | 2,8 | 7,04 |
| 47 | Расійская імперыя | Аляксандр II | 1 капейка | Екацярынбург | 1866 | Медзь | Гладкі | 2,3 | 3,89 |
| 48 | Расійская імперыя | Аляксандр II | 10 капеек | С.П.Б. | 1879 | Срэбра | Рубчаты | 1,8 | 1,40 |
| 49 | Расійская імперыя | Мікалай II | ½ капейкі | С.П.Б. | 1898 | Медзь | Рубчаты | 1,6 | 1,31 |
| 50 | Расійская імперыя | Мікалай II | ½ капейкі | С.П.Б. | 1899 | Медзь | Рубчаты | 1,6 | 1,58 |
| 51 | Расійская імперыя | Мікалай II | 2 капейкі | С.П.Б. | 1899 | Медзь | Рубчаты | 2,4 | 6,05 |
| 52 | Расійская імперыя | Мікалай II | 1 капейка | С.П.Б. | – | Медзь | Рубчаты | 2,2 | 2,63 |
| 53 | Француз-ская імперыя | Напалеон III | 1 сантым | A. Парыж | 1861 | Бронза | Гладкі | 1,7 | 2,38 |
| 54 | Веймарская рэспубліка | Фрыдрых Эберт | 5 рэйхс-пфенінгаў | A. Берлін | 1924 | Алюміневая бронза | Гладкі | 1,5 | 0,92 |

*Табліца 2.* **Асаблівасці медных солідаў ВКЛ і кароны Польскай**

| № | Краіна (герб) | Ініцыялы арандатара | Знак мінцмайстара | Год |
|---|---|---|---|---|
| 2 | | – | Корвін | 1664 |
| 3 | | T. L. B | HKPL | 1665 |
| 4 | | – | HKPL | (1)665 |
| 5 | | – | HKPL | 1665 |
| 6 | | T. L. B | HKPL | 1666 |
| 7 (манета з двайным ударам) | | – | Крысьпін | 1666 |
| 8 | Вялікае Княства Літоўскае (Пагоня) | T. L. B | HKPL | 1666 |
| 9 | | T. L. B | HKPL | 166(?) |
| 10 | | – | HKPL | 16(?) |
| 11 | | – | HKPL | 166(?) |
| 12 | | – | Корвін | – |
| 13 | | – | HKPL | (?)66(?) |
| 14 | | – | HKPL | 16(?) |
| 15 | | – | – | 166(?) |
| 16 | | – | – | – |

*Заканчэнне табл. 2*

| № | Краіна (герб) | Ініцыялы арандатара | Знак мінцмайстара | Год |
|---|---|---|---|---|
| 17 | | – | – | 1 (?) 6 (?) |
| 18 (Фальшывая манета) | | – | Сноп (?) | – |
| 19 | Карона Польская (Арол) | – | Слепаўрон | 1664 |
| 20 | | – | Слепаўрон | 1665 |
| 21 | | T. L. B | – | 1665 |
| 22 | | – | – | 1665 |
| 23 | | T. L. B | Слепаўрон | 166 (?) |
| 24 | | – | Слепаўрон | 166 (?) |
| 25 | | T. L. B | Слепаўрон | – |
| 26 | | – | Слепаўрон | – |
| 27, 28 | | Не атрыбутаваны | | |

## Літаратура

1. Аверин, П. С. Каталог Российских монет 1700–1917 / П. С. Аверин. – М. : Арго, 2012. – 168 с.

2. Бектинеев, Ш. И. Денежное обращение на территории Беларуси в IX–XVI веках / Ш. И. Бектинеев. – Минск : Беларуская навука, 2014. – 509 с.

3. Боровой, Р. В. Историческая топография древнего Минска. Обзор источников и современное состояние проблемы / Р. В. Боровой // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 1997. – № 12. – С. 31–42.

4. Боровой, Р. В. Минские древности. Старый город средневекового Минска по письменным источникам / Р. В. Боровой // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2000. – № 15. – С. 128–131.

5. Биткин, В. В. Сводный каталог каталог монет России / В. В. Биткин. – Киев : Юнона монета, 2003. – Ч. I (1699–1740). – 544 с.

6. Биткин, В. В. Сводный каталог каталог монет России / В. В. Биткин. – Киев : Юнона монета, 2003. – Ч. II (1740–1917). – 520 с.

7. Вел. кн. Георгій Михаиловичъ. Монеты царствованія Императора Александра II / Вел. Кн. Георгій Михаиловичъ. – СПб. : Тип. Мин-ва путей сообщения, 1888. – 265 с.

8. Вел. кн. Георгій Михаиловичъ. Монеты царствованія Императора Николая I / Вел. Кн. Георгій Михаиловичъ. – СПб. : Тип. Мин-ва путей сообщения, 1890. – 342 с.

9. Вел. кн. Георгій Михаиловичъ. Русскія монеты чеканенныя для Пруссіи (1759–1762), Грузіи (1804–1833), Польши (1815–1841), Финляндіи (1864–1890) / Вел. Кн. Георгій Михаиловичъ. – СПб. : Тип. А. Бенке, 1893. – 341 с.

10. Вел. кн. Георгій Михаиловичъ. Монеты царствованія Императрицы Анны Іоанновны / Вел. Кн. Георгій Михаиловичъ. – СПб. : Тип. А. Бенке, 1901. – 298 с.

11. Гулецкі, Д. У. Манеты беларускай даўніны / Д. У. Гулецкі. – Мінск : Беларусь, 2007. – 159 с.

12. Пазняк, З. С. Рэха даўняга часу / З. С. Пазняк. – Мінск : Народная асвета, 1985. – 111 с.

13. Памяць: гіст.-дакум. хроніка Мінска : у 4 кн. / рэдкал.: Г. К. Кісялёў (гал. рэд.) [і інш.] ; мастак Э. Э. Жакевіч. – Мінск : БЕЛТА, 2001–2005. – Кн. 1 / уклад.: А. А. Ляўшэвіч, В. С. Семянкоў ; навук. рэд. Г. В. Штыхаў. – 2001. – 576 с.

14. Рябцевич, В. Н. Нумизматика Беларуси / В. Н. Рябцевич – Минск : Полымя, 1995. – 687 с.

15. Семенов, В. Е. Монеты России 1700–1917 / В. Е. Семенов – СПб. : Конрос, 2013. – 244 с.

16. Собаль, В. Е. Мінскі культурны пласт Траецкага прадмесця / В. Е. Собаль // Археалогія Беларусі : энцыкл. : у 2 т. – Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 2011. – Т. 2 : Л–Я. – С. 88.

17. Собаль, В. Е. Мінск / В. Е. Собаль, Г. В. Штыхаў // Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя. – Мінск : Беларуская энцыкледыя, 1993. – С. 429.

18. Соболь, В. Е. Работы в Минске / В. Е. Соболь // Археологические открытия 1982 года. – М. : Наука, 1984. – С. 370–371.

19. Соболь, В. Е. Раскопки в Минске и его окрестности / В. Е. Соболь, Г. В. Штыхов // Археологические открытия 1976 года. – М. : Наука, 1977. – С. 416–417.

20. Федоров, Д. Я. Монеты Прибалтики XIII–XVIII столетий / Д. Я. Федоров. – Таллин : Валгус, 1966. – 425 с.

21. Штыхов, Г. В. Исследования в Минске и его окрестностях / Г. В. Штыхов, В. Е. Соболь // Археологические открытия 1977 года. – М. : Наука, 1978. – С. 428–429.

22. Ivanauskas E. Coins of Lithuania 1386–1707 / E. Ivanauskas., R. J. Douchis. – Vilinus, 1999. – 473 c.

## Резюме

*А. О. Кунаш*

### Нумизматический материал из подъемных сборов с левого берега р. Свислочь в г. Минске (район Троицкого предместья)

На протяжении последних лет на левом берегу р. Свислочи автором осуществлялся сбор подъемного материала. В местах выхода культурного слоя собрана коллекция монет из 54 экземпляров. Монеты датируются периодом начала XVI – XIX в. Нумизматический материал позволяет говорить об особенностях денежного обращения в районе Троицкого предместья Минска.

**Summary**

*A. A. Kunash*

**Numizmatics material from the left bank of river Svislach in Minsk (area of the Trinity suburb)**

Over recent years a lot of occasional archaeological items were found be the author on the left bank of the river Svislach. The collection of different coins (54 pcs) were found in the outcrop riverbank with the presence of the cultural layer. All the coins are dated from the beginning $16^{th}$ to $19^{th}$ centuries. Numismatic material represents an opportunity to talk about the features of monetary circulation in the area of Trinity suburb of Minsk.

*Пастуніў 19.06.2014 г.*

*УДК 903.56(476.5)*

***М. А. Плавінскі**, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, загадчык кафедрай турызму і гасцiннасці, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Полацк, Беларусь)*

# Курганны могільнік Опса – помнік фінальнай стадыі культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў на паўночным захадзе Беларускага Падзвіння

**Месцазнаходжанне.** Курганны могільнік Опса вядомы ў навуковай літаратуры з канца XIX ст. [25, с. 197–202; 26, с. 31–32]. Могільнік размешчаны за 3 км на паўднёвы захад ад вёскі Опса (цэнтр сельсавета) у лесе (мал. 1, *а*), злева ад шашы Браслаў–Відзы. Паводле звестак Ф. В. Пакроўскага ў ім налічвалася больш за 70 паўсферычных і падоўжаных курганоў. Практычна ўсе яны пашкоджаны розначасовымі скарбашукальніцкімі ямамі (мал. 2).

**Гісторыя даследавання.** Першыя аматарскія раскопкі курганоў у Опсе правёў граф У. Плятэр. На жаль, ніякай інфармацыі аб выніках гэтых прац не захавалася. У 1893 г. даследаванні ў Опсе ажыццявіў Ф. В. Пакроўскі. Ён раскапаў 11 насыпаў, з якіх дзевяць змяшчалі пахаванні па абрадзе крэмацыі, адзін – інгумацыі, а яшчэ ў адным кургане пахавання выяўлена не было [25, с. 198–202, 206–211].

У 1990 г. адзін курган з пахаваннем па абрадзе інгумацыі даследавала Л. У. Дучыц [4, с. 5, рис. 7–8; 5, с. 31]. У 1996 г. археалагічная экспедыцыя гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам А. М. Плавінскага і В. Н. Рабцэвіча даследавала яшчэ 5 насыпаў. Тры з іх змяшчалі пахаванні па абрадзе крэмацыі, у чацвёртым была выяўлена інгумацыя, а ў пятым кургане пахаванне не знойдзена [20]. Матэрыялы раскопак 1990 і 1996 г. захоўваюцца ў Браслаўскім раённым аб’яднанні музеяў (гаршчок з раскопак 1990 г. – БРАМ 4КП 4349; матэрыялы 1996 г. – БРАМ 7КП 8409–8417, НД 1935–1940).

Нарэшце ў 2010 г. даследаванні курганнага могільніка Опса былі ўзноўлены экспедыцыяй Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. А. Плавінскага – былі раскапаны 4 насыпы [23]. Акрамя таго, быў зняты план цэнтральнай часткі могільніка, на якім нанесены насыпы, вывучаныя ў 1996 і 2010 г. (мал. 2).

Такім чынам, з 1893 па 2010 г. у могільніку Опса быў раскапаны 21 курган, што складае прыкладна чвэрць ад агульнай колькасці насыпаў, зафіксаваных Ф. В. Пакроўскім. Матэрыялы раскопак опсаўскіх курганоў апублікаваныя [25, с. 198–202, 206–211; 20; 23]. Разам з тым, улічваючы каштоўнасць гэтых матэрыялаў для разумення храналогіі і этнакультурнай прыналежнасці пахавальных помнікаў паўночнага захаду Беларускага Падзвіння, поўная публікацыя і аналіз гэтых матэрыялаў прадстаўляюцца цалкам абгрунтаванымі і неабходнымі.

Пры публікацыі апісанняў пахавальных комплексаў курганнага могільніка Опса намі прынятая скразная нумарацыя курганоў. Адпаведна насыпы, раскапаныя Ф. В. Пакроўскім у 1893 г., атрымалі № 1–11, курган, даследаваны Л. У. Дучыц у 1990 г. – № 1/12, насыпы, раскапаныя А. М. Плавінскім і В. Н. Рабцэвічам у 1996 г., – № 1/13–5/17. Курганы, даследаваныя ў 2010 г., атрымалі № 18–21.

**Апісанне курганоў, даследаваных у 1990 і 1996 г.** У 1990 г. у могільніку Опса экспедыцыяй Інстытута гісторыі НАН Беларусі пад кіраўніцтвам Л. У. Дучыц быў даследаваны адзін курган.




*а*




*б*

Мал. 1. Месцазнаходжанне курганнага могільніка Опса (*а*), умоўныя адзнакі для курганоў, даследаваных у 1990 і 1996 г. (*б*): *1* – пясок з попелам; *2* – пясок; *3* – цёмна-карычневы пясок з глінай; *4* – светла-жоўты пясок; *5* – недаследаваная частка кургана; *6* – гліна; *7* – попел; *8* – вуголле; *9* – камяні; *10* – перакоп; *11* – мацярык




Мал. 2. План цэнтральнай часткі курганнага могільніка Опса: *a* – курган, *b* – курган, даследаваны экспедыцыяй Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1996 г., *c* – лясная сцежка. План, зняты М. А. Плавінскім у 2010 г.

***Курган 1/12*** знаходзіўся ў цэнтральнай частцы могільніка (падчас даследаванняў 2010 г. выявіць месца раскопак Л. У. Дучыц 1990 г. і нанесці яго на план цэнтральнай часткі могільніка не ўдалося). Насып меў вышыню 0,35 м і дыяметр 4 м (мал. 3: *1*). Ля аснавання кургана, з паўднёвага боку, ляжалі тры валуны. У цэнтры кургана, на аснаванні, змяшчалася дрэнна захаванае пахаванне па абрадзе







Мал. 3. Курганны могільнік Опса, курган 1/12: *1* – план і профілі кургана; *2* – кругавы гаршчок. Малюнак: *1* – Л. У. Дучыц; *2* – М. А. Плавінскага







Мал. 4. Курганны могільнік Опса, курган 1/13: *1* – план і профілі кургана; *2* – кругавы гаршчок. Малюнак: *1* – А. М. Плавінскага; *2* – М. А. Плавінскага

трупапакладання. Добра захаваліся толькі косткі ног, мяркуючы па якіх, пахаванне было арыентавана галавой на захад [4, с. 5].

У нагах пахаванага стаяў кругавы гаршчок (мал. 3: *2*). Яго вышыня – 11,7 см, дыяметр венца – 13, дыяметр плечукоў – 14,1, дыяметр донца – 7,3 см. Гаршчок зроблены з цеста чырвона-карычневага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыта) дыяметрам да 3,5 мм. Пасудзіна якасна абточаная па ўсёй вышыні са знешняга і ўнутранага бакоў і мае моцна прафіляванае, адагнутае вонкі венца, што дазваляе разглядаць яе як узор дастаткова развітай кругавой керамікі і датаваць часам не раней за канец X ст. [22, с. 139–140], а больш верагодна – першымі дзесяцігоддзямі ці першай паловай XI ст.

Пяць курганоў, даследаваныя экспедыцыяй гістарычнага факультэта БДУ, таксама размяшчаліся ў цэнтральнай і паўднёвай частках могільніка (гл. мал. 2).

***Курган 1/13*** размешчаны ў паўднёвай частцы могільніка за 20 м ад лясной сцежкі. Паўсферычны, круглы ў плане насып пры вышыні 1 м меў дыяметр

7,5 м. З паўночнага, заходняга і паўднёвага бакоў кургана прасочваліся рэшткі раўчука. Насып зарос дрэвамі, на яго вяршыні была вызначана невялікая западзіна.

Насып меў складаную структуру (мал. 4: *1*): яго верхняя частка (0,4 м) са светла-жоўтага пяску, ніжэй ішоў слой (0,4 м) цёмна-карычневага пяску з дамешкам гліны. У насыпе сустракаліся буйныя камяні. Усю плошчу аснавання кургана пакрываў попельна-вугальны слой (0,1–0,2 м). Пад ім у цэнтры кургана выяўлена невялікая праслойка гліны авальнай формы, арыентаваная з захаду на ўсход. Праслойка мела памер 1,8 × 1,2 м пры магутнасці 0,1 м. На ёй змяшчаліся рэшткі пахавання па абрадзе трупаспалення, здзейсненага па-за межамі кургана. Сярод кальцыніраваных костак выяўлены рэшткі пашкоджанага ў агні інвентару, у тым ліку сплаўленыя з косткамі шматлікія моцна дэфармаваныя шкляныя пацеркі, сплаўленыя з бронзай і белым металам, верагодна, срэбрам. Сярод аплаўленых рэштказ пахавальнага інвентару можна вызначыць (№ 1–10 на плане):

1) фрагмент аплаўленай шыйнай грыўні таўшчынёй 0,9 см, зробленай з трох перавітых драцінак дыяметрам 0,4 см (мал. 6: *2*). Захаваўся адзін канічны канец вышынёй 2,1 см. Даўжыня фрагмента – 8,6 см. Трохдротавыя шыйныя грыўні з канічнымі канцамі не маюць вузкага датавання. Яны былі шырока распаўсюджаны ў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў у VIII–XII стст. [37, p. 146; 38, p. 362], а таксама ў латгалаў у X–XII стст. [29, с. 85]. Цэлы шэраг вітых трохдротавых грыўняў з канічнымі канцамі паходзіць з пахавальных помнікаў культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў (КСПДК), размешчаных на заходніх межах арэала культуры – у Дзвінска-Нёманскім міжрэччы [6, с. 56; 21, с. 129];

2) два фрагментаваныя бранзалетападобныя скроневыя колцы з завязанымі канцамі (мал. 6: *3–4*). Колцы зроблены з бронзавага дроту дыяметрам 0,15–0,2 см. Дыяметр першага колца – 5,7 см, дыяметр другога быў, верагодна, большым за 5,4 см. На абодвух колцах маюцца сляды лёгкай акаліны, а да маленькага фрагмента канца ад яшчэ аднаго скроневага колца прыплавілася дробная кропля срэбра. Гэта дазваляе меркаваць, што колцы не пабывалі ў самім пахавальным вогнішчы, але былі пакладзены на яго ў момант, калі вогнішча ўжо састывала. Першапачаткова бранзалетападобных скроневых колцаў было больш за два, бо маленькі фрагмент канца колца (мал. 6: *5*) не падыходзіць ні да аднаго з захаваных экзэмпляраў. Відавочна, гэта рэшткі трэцяга. Датаванне бранзалетападобных скроневых колцаў з завязанымі канцамі вызначаецца ў межах апошняй чвэрці X – пачатку XII ст. [15, с. 16; 16, с. 134; 30, с. 10];

3) два надзвычай моцна аплаўленых фрагменты шырокасярэдзіннага пярсцёнка з завязанымі на чатыры абароты канцамі (мал. 6: *8*). Пярсцёнак быў зроблены з шэрага металу. На дэфармаваным фрагменце шчытка прасочваюцца рэшткі арнаменту, які складаўся з насечак. Шырокасярэдзінныя завязанаканечныя пярсцёнкі датуюцца на Русі канцом X – XI ст. [19, с. 256–257; 30, с. 129–130];

4) жалезная ігла са страчаным вушкам і слядамі акаліны (мал. 6: *7*). Яе даўжыня – 4,2 см, дыяметр – 0,15 см. Вузкага датавання ігла не мае;

5) каразіраваны нож са слядамі моцнай акаліны (мал. 6: *1*). Даўжыня нажа – 12,7 см, даўжыня яго ляза – 7,1 см, шырыня ляза – 1,1 см, таўшчыня спінкі – 0,5 см. Нож можа быць аднесены да тыпу II паводле Р. С. Мінасяна і, адпаведна, датаваны ў шырокіх межах – VIII–XI стст. [18, с. 69–70];

6) дэфармаваны ў агні дробны фрагмент упрыгажэння з каляровага металу памерам 1,2 × 0,6 см (мал. 6: *6*). Стан захаванасці фрагмента не дазваляе вызначыць першапачатковы выгляд упрыгажэння, да якога ён належаў. Аднак можна выказаць меркаванне аб тым, што гэта фрагмент серпападобнага скроневага колца, хаця сцвярджаць гэта нельга.

Большасць выяўленых пры пахаванні пацерак цалкам дэфармаваныя ў пахавальным вогнішчы, што не дазваляе вызначыць іх першапачатковую колькасць і тыпалагічную прыналежнасць. Разам з тым сярод захаваных пацерак можна вылучыць:

1) сінія зонныя (мал. 6: *9–12*), якія датуюцца X–XI стст. [36, с. 166–167];

2) лімонкі і лімонападобныя пранізкі жоўтага і белага (?) колераў (мал. 6: *13–14*). Найбольш верагодным датаваннем лімонак і лімонападобных пранізак з'яўляецца X – пачатак XI ст. [10, с. 196; 31, с. 101; 36, с. 174], хаця ў Ноўгарадзе яны сустракаюцца да пачатку XII ст. [16, с. 140, табл. 1]. Лімонкі і лімонападобныя пранізкі белага колеру датаваны X – сярэдзінай XI ст. [10, с. 196; 36, с. 175];

3) акрамя таго, мяркуючы па аплаўленых рэштках, у склад набору пацерак маглі таксама ўваходзіць экзэмпляры «пячоначнага» і чорнага колераў (мал. 6: *15*).

Сярод вуголля і кальцыніраваных костак выяўлены тры кругавыя пасудзіны:

1) першая з іх мае стройныя прапорцыі з плаўным тулавам і адносна слаба выяўленым плечуком. Венца злёгку адагнутае вонкі з невыразным валікам з вонкавага боку (мал. 5: 1). Гаршчок захаваўся ў фрагментах (страчана прыблізна 4/5 ад агульнай плошчы паверхні). Яго вышыня – 12,4 см, дыяметр венца – 9,9, дыяметр плечукоў – 9,9, дыяметр донца – 6,0 см. Абпал гаршка нераўнамерны, цеста карычнева-шэрага колеру з дамешкам жарствы (кварцыта) дыяметрам 0,1–0,5 см. Гаршчок быў абточаны на адносна марудным крузе па ўсёй вышыні. Тулава пакрыта дастаткова роўным лінейным арнаментам. Акрамя таго, плячук і шыйка дадаткова

ўпрыгожаны хвалістым арнаментам. На донцы прасочваецца слаба адціснутае кляймо ў выглядзе «сегнерава кола»;

2) другі гаршчок па форме, характары апрацоўкі і цеста блізкі да першага, але адрозніваецца больш прысадзістымі прапорцыямі і асіметрычнасцю (мал. 4: *2*). Венца крыху больш моцна прафіляванае. Гаршчок захаваўся ў фрагментах (страчана прыкладна 1/3 частка ад агульнай плошчы паверхні), якія нясуць сляды другаснага абпалу. Яго вышыня – 12,2 см, дыяметр венца – 13,4, дыяметр плечукоў – 14,0, дыяметр донца – 7,6 см. Тулава і плячук пакрытыя роўным лінейным арнаментам. Донца – са слядамі падсыпкі з пяску і жарствы;

3) трэці гаршчок па форме, характары апрацоўкі і цеста блізкі да першага, але адрозніваецца больш акруглым тулавам (мал. 5: *2*). Венца з валікам адагнутае вонкі. Гаршчок захаваўся ў фрагментах (страчана прыкладна 2/5 ад агульнай плошчы паверхні). Дадзены гаршчок асабліва моцна пацярпеў ад другаснага абпалу. Яго вышыня – 11,8 см, дыяметр венца – 11,5, дыяметр плечукоў – 12,1, дыяметр донца – 7,0 см. Тулава і плячук пакрытыя роўным лінейным арнаментам. На донцы бачны борцік (са слядамі ад ніткі, якой гаршчок быў аддзелены ад паддона) і добра адціснутае кляймо – «сегнерава кола».

У попельным слаі на аснаванні кургана за 2 м на поўдзень ад пахавання, бліжэй да падэшвы кургана, выяўлены чацвёрты кругавы гаршчок (№ 11 на плане), таксама захаваны ў фрагментах (страчана прыкладна 1/3 частка ад агульнай плошчы паверхні (мал. 5: *3*)). Пасудзіна нясе на сабе сляды другаснага абпалу. Па форме, характары апрацоўкі і цеста гаршчок блізкі да трох папярэдніх, але адрозніваецца больш прысадзістымі прапорцыямі з акруглым тулавам і дастаткова добра прафіляваным венцам. Вышыня гаршка – 12,4 см, дыяметр венца – 13,9, дыяметр плечукоў – 14, дыяметр донца – 6,5 см. Тулава і плячук пакрытыя роўным лінейным арнаментам. На донцы маецца борцік.

Нягледзячы на шэраг дробных тэхналагічных адрозненняў і асаблівасцей у прафілёўцы, усе чатыры пасудзіны з кургана 1/13 вельмі блізкія адна да другой і, відавочна, былі выраблены адным майстрам. Адносная зграбнасць прапорцый гэтых гаршкоў і якасць апрацоўкі на ганчарным крузе вылучае іх з масіву раннекругавой керамікі цэнтральнай і заходняй частак Беларускага Падзвіння, якая адрозніваецца пераважна прысадзістымі формамі. Гэта прымушае шукаць аналогіі гаршкам з кургана 1/13 у Верхнім Падняпроўі, да прыкладу, сярод кругавой керамікі Гнёздаўскага археалагічнага комплексу другой паловы X – пачатку XI ст. [12, с. 152–154, рис. 14: *1–5*; 13, рис. 1, 4: *3–7*; 28, с. 261–262, 270–271] ці ў больш паўднёвых рэгіёнах. Датаванне




Мал. 5. Кругавыя гаршкі (*1–3*). Курган 1/13. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага

гаршкоў з кургана 1/13 можа, верагодна, быць вызначана часам, не ранейшым за канец X ст. [22, с. 140].

Такім чынам, на падставе пахавальнага інвентару курган 1/13 можа быць датаваны канцом X – пачаткам XI ст.

***Курган 2/14*** размешчаны за 10 м на поўнач ад кургана 1/13 (мал. 2). Насып паўсферычны, круглы ў плане, пры вышыні 1 м меў дыяметр 8 м. Раўчукі вакол насыпу візуальна не прасочваліся (раскопкі прылеглай да насыпаў тэрыторыі ці закладка траншэй з мэтай пошуку раўчукоў у 1990 і 1996 г. не праводзіліся, таму меркаваць аб наяўнасці ці адсутнасці раўчукоў вакол курганоў немагчыма). Курган моцна зарос дрэвамі, асабліва з паўночнага боку. На вяршыні, па лініі поўнач–поўдзень прасочвалася западзіна (1,5 × 1,0 м). Яшчэ адна западзіна заўважная на паўднёва-заходнім схіле. Паўночна-ўсходні сектар кургана не раскопваўся з-за таго, што ён зарос магутнымі дрэвамі (мал. 7: *1*).

Насып складаўся з цёмна-карычневага буйназярністага пяску з дамешкам гліны. Усю плошчу аснавання кургана пакрываў попельна-вугальны слой магутнасцю 0,1–0,2 м. Дакладна прасочваліся два кольцападобныя патаўшчэнні (да 0,4 м) попельнага слоя. Адно колца мела дыяметр 2,5 м, другое –




Мал. 6. Пахавальны інвентар кургана 1/13. Курганны могільнік Опса: *1* – жалезны нож; *2* – фрагмент бронзавай шыйнай грыўні; *3–5* – фрагменты бронзавых бранзалетападобных скроневых колцаў; *6* – фрагмент упрыгажэння з каляровага металу; *7* – жалезная ігла; *8* – фрагменты шырокасярэдзіннага пярсцёнка з металу шэрага колеру; *9–16* – шкляныя пацеркі. Малюнак і фота М. А. Плавінскага




Мал. 7. Курганны могільнік Опса, курган 2/14: *1* – план і профілі кургана; *2* – жалезнае ўпрыгажэнне (?); *3* – ляпны гаршчок. Малюнак: *1* – А. М. Плавінскага; *2–3* – М. А. Плавінскага

5,5 м. Гэтыя колцы, напэўна, з’яўляюцца рэшткамі «валікаў» з кавалкаў дзірвану, якія былі выкладзены ў працэсе ўзвядзення кургана, верагодна, з мэтай умацавання яго схілаў. Наяўнасць двух валікаў можа сведчыць аб паэтапнасці ўзвядзення насыпу.

У цэнтры кургана размешчаная авальная попельная пляма, выцягнутая з захаду на ўсход (1,4 × 0,6 м). У заходняй частцы гэтай плямы знаходзілася пахаванне па абрадзе крэмацыі – мноства фрагментаў кальцыніраваных костак. Пахавальны інвентар складаўся з наступных знаходак:

1) моцна пракаленае ўпрыгажэнне, магчыма, бранзалет (№ 1 на плане), зроблены з жалезнай прамавугольнай у сячэнні пласцінкі (мал. 7: *2*). Дыяметр бранзалета (?) – 4,3 × 3,6 см. Адзін яго канец загнуты і мае спіральнае завяршэнне, другі канец абламаны. Калі наша вызначэнне дадзенага артэфакта як бранзалета слушнае, ён, хутчэй за ўсё, быў зроблены з нейкага іншага зламанага вырабу. Улічваючы індывідуальнасць формы бранзалета (?) і адсутнасць прамых аналогій, вызначыць яго датаванне не ўяўляецца магчымым;

2) у паўночна-ўсходнім сектары кургана, на глыбіні 0,8 м ад вяршыні, у знешнім попельным колцы выяўлена асіметрычная ляпная пасудзіна (№ 2 на плане). Цеста карычнева-шэрага колеру з дамешкам буйной некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам да 0,7 см. Вышыня гаршка – 12,5 см, дыяметр венца – 12,4 × 12 см, дыяметр плечукоў – 13,9 × 13,1 см, дыяметр донца – 9 × 8,7 см (мал. 7: *3*). На донцы захаваліся сляды падсыпкі з пяску і дробнай жарствы. Пасудзіна належыць да керамікі «з плечуком»;

3) у перамычцы цэнтр – захад, за 1,2 м ад цэнтра кургана, ва ўнутраным попельным колцы выяўлена другая прысадзістая асіметрычная ляпная пасудзіна (№ 3 на плане). Пасудзіна зроблена вельмі неахайна (мал. 8: *1*). Цеста карычневага колеру з дамешкам буйной некалібраванай жарствы дыяметрам да 0,7–1,0 см. Вышыня гаршка – 12,4 см, дыяметр венца – 13,1, дыяметр плечукоў – 15,7, дыяметр донца – 11,8 см. На донцы маюцца сляды падсыпкі з буйной жарствы. Гаршчок таксама належыць да керамікі «з плечуком»;

4) трэцяя ляпная пасудзіна выяўлена ў паўднёва-ўсходнім сектары, на попельным слаі, за 0,1 м ад попельнай плямы, якая ўтрымлівала рэшткі пахавання (№ 4 на плане). Гаршчок атрымалася склеіць са шматлікіх дробных фрагментаў (мал. 8: *2*). Ён адрозніваецца дастаткова вялікімі памерамі: вышыня – 15,5 см, дыяметр венца – 14,9, дыяметр плечукоў – 17,9, дыяметр донца – 10 см. Цеста карычнева-шэрага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы дыяметрам да 0,5 см. Донца без слядоў падсыпкі. Паводле сваіх тыпалагічных прыкмет, гаршчок належыць да той жа керамікі «з плечуком». На плечуку гаршчка маецца месяцападобны налеп.




Мал. 8. Курганны могільнік Опса. Ляпныя гаршкі з кургана 2/14. Малюнак М. А. Плавінскага

Пасудзіны і іх фрагменты з месяцападобнымі налепамі ў вельмі нязначнай колькасці прадстаўленыя на цэлым шэрагу помнікаў канца І тысячагоддзя н. э. у Верхнім Падняпроўі, Верхнім і Сярэднім Падзвінні і Верхнім Панямонні. Два гаршкі з месяцападобнымі налепамі паходзяць з размешчанага непадалёк ад Опсы курганнага могільніка Пагошча [22, с. 138, мал. 5: *2*, 10: *2*]. Фрагменты посуду з падобнымі налепамі вядомыя ў культурных слаях раннегарадскіх цэнтраў – Віцебска, Лукомля [9, рис. 13: *2*: *1*; 7, рис. 13: *9*] і Полацка [22, с. 138], у культурным слаі селішча культуры КСПДК, выкарыстаным для ўзвядзення кургаnoў гэтай жа культуры ў в. Купнікі (Васілеўшчына) пад Смаленскам [33, мал. 74: *8*], на селішчы Хачова на водападзеле Заходняй Дзвіны і Ловаці [8, рис. 245: *10*, 265: *2*]. Акрамя таго, падобныя пасудзіны паходзяць з пахаванняў у курганных могільніках Навасёлкі [34, с. 158–159, илл. 3: *2*; 11: *1*], Заазер’е [35, табл. 53: *10*], Ярцава [8, 2010, рис. 337: *6*] на Смаленшчыне.

Пад попельным слоем знаходзіўся пласт буйназярністага цёмна-карычневага пяску з глінай ма-

гутнасцю 0,15 м, аналагічны па складзе асноўнаму насыпу. Ён аддзелены ад мацерыка тонкай попельнай праслойкай.

Выяўленыя ў кургане 2/14 артэфакты не дазваляюць вызначыць яго вузкае датаванне.

***Курган 3/15*** размяшчаўся за 70 м на поўнач ад кургана 1/13 (мал. 2). Паўсферычны, круглы ў плане насып пры вышыні 1 м меў дыяметр 8 м. Курган зарос дрэвамі, на яго вяршыні мелася невялікая западзіна. З заходняга і паўднёвага бакоў насыпу выразна прасочваўся раўчук шырынёй 1,0 м і глыбінёй 1,4 м, запоўнены пяском з попелам і вуголлем (мал. 9: *1*).

Курган складаўся з буйназярністага цёмнакарычневага пяску. Ва ўсіх сектарах у насыпе на рознай глыбіні сустрэты вялікія (памерам да 0,2 м) камяні. Пэўнай сістэмы ў іх размяшчэнні не прасочвалася. На глыбіні 0,8 м ад вяршыні ўсю плошчу аснавання кургана пакрываў попельны слой магутнасцю да 0,2 м. У цэнтры кургана выяўлена скапленне попелу і вугалёў авальнай формы – 2,2 × 1,8 м, выцягнутае з поўначы на поўдзень. Па ўсёй плошчы гэтай плямы сустракаліся кальцыніраваныя косткі, асноўная канцэнтрацыя якіх выяўлена ў паўночнаўсходняй частцы плямы. У попельным слаі, побач са скапленнем кальцыніраваных костак, выяўлены (№ 1–3 на плане):

1) нож з прамой спінкай, пакрыты акалінай (мал. 9: *2*). Яго даўжыня – 10,6 см, даўжыня ляза – 7,5, шырыня ляза – 1,3, таўшчыня спінкі – 0,3 см. Нож належыць да тыпу II паводле Р. С. Мінасяна;

2) ляпная пасудзіна, якую атрымалася склеіць са шматлікіх фрагментаў (мал. 10: *1*). Гаршчок, відавочна, быў злеплены з цеста карычневага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,6–0,8 см адмыслова для пахавання, пра што сведчыць яго надзвычайная асіметрычнасць. Вышыня гаршка – 12,2 см, дыяметр венца – 14,1, дыяметр плечукоў – 13,8, дыяметр донца – 9,3 см. Донца без слядоў падсыпкі. Гаршчок належыць да тыпу посуду «з плечуком»;

3) яшчэ адна ляпная пасудзіна невялікага памеру, якая таксама была склееная са шматлікіх фрагментаў (мал. 10: *2*). Як і першы гаршчок, яна была зроблена ў рытуальных мэтах з цеста карычневага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы




Мал. 9. Курганны могільнік Опса, курган 3/15: *1* – план і профілі кургана, *2* – жалезны нож. Малюнак: *1* – А. М. Плавінскага; *2* – М. А. Плавінскага




Мал. 10. Ляпныя гаршкі (*1, 2*). Курган 3/15. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага

дыяметрам да 0,6 см. Аб тым, што пасудзіна была вылепленая адмыслова для пахавання, сведчыць слабы абпал і мінімальная таўшчыня сценак. На прыдоннай частцы прасочваюцца сляды другаснага абпалу. Вышыня гаршка – 10,3 см, дыяметр венца – 8,7, дыяметр плечукоў – 9,2, дыяметр донца – 6,5 см. Донца без слядоў падсыпкі. Гаршчок належыць да керамікі «з плечуком», пры гэтым ён упрыгожаны менавіта па плечуку ўцісканнямі тонкай трэсачкай, якая была абматаная вяровачкай. Уцісканні нанесены няроўна і неахайна. Паводле вызначэння У. В. Енукова, падобная арнаментацыя з'яўляецца самай распаўсюджанай на пахавальным посудзе КСПДК. Пры гэтым большасць такіх гаршкоў паходзіць са Смаленшчыны [6, с. 88–89]. Акрамя таго, посуд, пакрыты такім арнаментам, у невялікай колькасці выяўлены ў культурных слаях шэрагу сінхронных з курганнымі могільнікамі КСПДК паселішчаў Верхняга Падняпроўя, Верхняга і Сярэдняга Падзвіння [8, рис. 220: *1–2*, 4, 253: *2*, 306: *3*, 355: *2–3*, 356: *3*, *6*, 360: *8*, 362: *7*, 377; 27, с. 88–92; 32, рис. 1: *4*, *8*, *16*, 2: *11*, *18*, *20*, 6: *1*, *10*, *14*, *20*, *22*, *24*, 8: *1*, 7]. Сама традыцыя нанясення арнаменту абматанай вяровачкай трэскай першапачаткова, напэўна, мела роменскае паходжанне [2, с. 152–153; 3, с. 375].

Набор пахавальнага інвентару з кургана 3/15 не дазваляе вызначыць яго вузкага датавання.

***Курган 4/16*** размешчаны за 30 м на паўднёвы захад ад кургана 3/15 (мал. 2). Паўсферычны круглы ў плане насып пры вышыні 0,8 м меў дыяметр 6,5 м. Ён зарос кустоўем і невялікімі дрэвамі. Раўчукі вакол кургана візуальна не прасочваліся. Насып складаўся з цёмна-карычневага буйназярністага пяску (мал. 11: *1*). Усю плошчу аснавання кургана пакрываў слой пяску з вуголлем і попелам магутнасцю 0,15–0,20 м. На ім у цэнтры кургана – пахаванне па абрадзе інгумацыі. Пахаваны мужчына ляжаў на спіне галавой на паўднёвы ўсход. Захаванасць костак, якія пакладзены ў анатамічным парадку, здавальняючая.

З правага боку ад шкілета, на ўзроўні тазавых костак выяўлена жалезная бародападобная сякера з прафіляваным абухом (мал. 11: *2*). Яе даўжыня – 16,4 см, шырыня ляза – 8,5 (на дадзены момант частка бародкі страчана ў выніку карозіі), дыяметр праўушыны – 2,7 см, вага – 670 г. Сякера належыць да тыпу IV паводле А. М. Кірпічнікава [14, с. 36–37]. Час актыўнага выкарыстання такіх сякер на тэрыторыі Беларусі прыпадае на канец X – XI ст. [24, с. 29].

***Курган 5/17*** размяшчаўся за 70 м на поўнач ад кургана 3/15 (мал. 2). Паўсферычны насып вышынёй 1 м у плане набліжаўся да круга (8 × 9 м). На яго паўднёвым схіле прасочваліся сляды рабаўнічай ямы. Раўчукі вакол кургана візуальна не прасочваліся.




Мал. 11. Курганны могільнік Опса, курган 4/16: *1* – план і профілі кургана; *2* – жалезная сякера. Малюнак: *1* – А. М. Плавінскага; *2* – М. А. Плавінскага

Насып складаўся з буйназярністага цёмна-карычневага пяску (мал. 12). На глыбіні 0,3 м ад вяршыні знаходзілася праслойка светла-жоўтага пяску магутнасцю да 0,2 м. На глыбіні 0,9 м ад вяршыні насыпу была выяўлена непарушаная попельна-вугальная праслойка магутнасцю 0,1 м, якая пакрывала ўсю плошчу аснавання кургана. У цэнтры кургана, у мацерыку, знаходзілася невялікая круглая яміна, запоўненая пяском з попелам і вуголлем. Побач з ёй на мацерыку размяшчаліся тры буйныя камяні. За 1 м на поўнач ад цэнтра кургана знаходзілася невялікая колькасць камянёў. Пахаванне ў кургане 5/17 не выяўлена.

**Апісанне курганоў, даследаваных у 2010 г.** У жніўні 2010 г. даследаванні курганнага могільніка Опса былі аднаўлены экспедыцыяй Нацыяналь-




Мал. 12. План і профілі кургана 5/17. Курганны могільнік Опса. Малюнак А. М. Плавінскага

нага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. А. Плавінскага. У выніку праведзеных прац быў зняты план цэнтральнай часткі могільніка, на які было нанесена 17 курганоў. Акрамя таго, на гэты ж план былі нанесены 5 насыпаў, даследаваных экспедыцыяй БДУ ў 1996 г. Пры нанясенні курганоў на план была працягнута існуючая нумарацыя даследаваных насыпаў. Адпаведна чатыры курганы, раскапаныя ў 2010 г., атрымалі № 18–21 (мал. 2).

Матэрыялы даследаванняў 2010 г. разглядаюцца асобна ад вынікаў прац 1990 і 1996 г. Неабходнасць асобнага аналізу вынікаў даследаванняў 2010 г. тлумачыцца адрозненнямі ў методыцы правядзення раскопак. Так, калі ў 1990 і 1996 г. даследаваліся толькі самі пахавальныя насыпы, дык у 2010 г. даследаванне курганнага могільніка Опса ажыццяўлялася шляхам распрацоўкі раскопаў, якія ўключалі не толькі насыпы курганоў і прылеглыя да іх раўчукі, але і міжкурганную прастору. Раскопы 2010 г. размяшчаліся ў цэнтральнай частцы могільніка. Яны былі арыентаваныя па баках свету і разбітыя на квадраты 2 × 2 м.

Агульная ўскрытая плошча могільніка склала 368 м$^2$. Падчас раскопак пахаванні па абрадзе крэмацыі прасейваліся на дробнаячэістых сітах з ячэйкай памерам 0,2–0,3 см.

***Курган 18*** быў даследаваны шляхам распрацоўкі раскопу I памерам 8 × 10 м, адпаведна, яго агульная плошча склала 80 м$^2$. Звонку курган выглядаў паўсферычным, ён зарос соснамі і кустамі (арэшнікам). Даўжыня насыпу па лініі поўнач– поўдзень складала 8 м, па лініі захад–усход – 8,5 м, яго вышыня на момант раскопак дасягала – 1,35 м (мал. 13, *а*). У цэнтры насыпу добра прасочвалася вялікая рабаўнічая яміна. Вакол кургана быў бачны раўчук шырынёй каля 1,6–1,7 м і глыбінёй 0,2–0,3 м. З паўднёвага боку гэты раўчук зліваўся з раўчуком кургана 19. З усходняга боку ў раўчуку кургана 18 мелася перамычка шырынёй 3,2 м.

У працэсе раскопак было выяўлена, што ўся цэнтральная частка насыпу была знішчана вялізнай рабаўнічай ямай, якая дайшла амаль да самай попельна-вугальнай праслойкі на аснаванні кургана (мал. 14). Запаўненне яміны складалася з пяску, аналагічнага насыпу са шматлікімі гумусаванымі і попельна-вугальнымі праслойкамі. Сам насып быў пакрыты слоем дзірвану магутнасцю 0,6–0,12 м і складаўся з пяску жоўтага колеру дробнай і сярэдняй зярністасці з уключэннем дробных каменьчыкаў. На ўсёй вышыні ў насыпе сустракаліся камяні дыяметрам 0,1–0,2 м, якія патрапілі ў яго разам з пяском.

Нягледзячы на вялікія памеры і глыбіню яміны, можна ўпэўнена сцвярджаць, што пахаванне ў кургане не было пашкоджана, бо ён з'яўляўся кенатафам. Аб гэтым сведчыць адсутнасць якіх-небудзь слядоў пахавання як на попельна-вугальнай праслойцы на аснаванні, так і ў запаўненні перакопу, так і на схілах насыпу (у выпадку, калі рэшткі крэмацыі былі б змешчаны на паверхні).

Першапачаткова аснаванне кургана мела акруглую форму дыяметрам 7,6 м (па лініі поўнач–поўдзень) на 7 м (па лініі захад–усход). Аснаванне пакрывала попельна-вугальная праслойка акруглай формы магутнасцю 0,03–0,04 см, якая, верагодна, утварылася ў выніку выпальвання пляцоўкі перад узвядзеннем кургана (мал. 15). Яе памер па лініі поўнач–поўдзень – 5,4 м, па лініі захад–усход – больш за 5,2 м.

Аснаванне кургана было абкружана неглыбокім (0,2–0,34 м) кальцавым раўчуком. Меркаваць аб першапачатковай шырыні раўчука цяжка з прычыны таго, што з паўночнага і заходняга боку ён патрапіў у раскоп толькі часткова, а з паўднёвага боку зліваецца з раўчуком кургана 19 (у раскопе II). І толькі з усходняга боку была зафіксавана шырыня раўчука паабапал перамычкі, якая дасягала 1,8–2,0 м. З усходняга боку раўчук перарывае перамычка шырынёй каля 1,3 м.

Рытуальныя дзеянні, праведзеныя падчас узвядзення кургана 18, можна рэканструяваць наступным чынам. Першапачаткова на абранай для ўзвядзення насыпу пляцоўцы было распалена вогнішча, пасля чаго быў узведзены паўсферычны насып, які не змяшчаў пахавання. Больш дакладная рэканструкцыя не можа быць ажыццёўлена з прычыны надта значнага пашкоджання насыпу.

***Курган 19*** даследаваны шляхам распрацоўкі раскопу II, які быў прырэзаны да раскопу I з поўдня, меў памер 8 × 8 м і агульную плошчу 64 м$^2$ (мал. 16, *а*). Звонку курган выглядаў блізкім да паўсферычнага, ён зарос соснамі і кустамі (арэшнікам). Даўжыня насыпу па ліні поўнач–поўдзень – 5,5 м, па лініі захад–усход – 6 м, яго вышыня на момант раскопак дасягала 0,8 м. Пры гэтым на вяршыні кургана добра прасочвалася вялікая рабаўнічая яміна. З паўночнага і заходняга боку кургана прасочваўся раўчук шырынёй да 1,4 м, які зліваўся з паўднёвым раўчуком кургана 18. У паўднёва-ўсходнюю частку раскопу II (квадраты 12, 15–16) патрапіў паўночна-заходні раўчук кургана 20. З поўдня ад кургана 19 (квадраты 8, 12) выяўлена паглыбленне, якое нагадвала раўчук кургана, але на самой справе з'яўлялася заплыўшай ямінай, выкід з якой утварыў пагорак, што часткова ўвайшоў у раскоп II.

У працэсе раскопак было выяўлена, што насып пакрыты слоем дзірвану магутнасцю 0,08–0,15 м. Сам насып, які складаўся з пяску жоўтага колеру дробнай і сярэдняй зярністасці з уключэннем дробных каменьчыкаў, знішчаны практычна цалкам у выніку перакопаў (мал. 17). Асабліва моцна пацярпела яго заходняя частка, дзе перакоп перабіў попельна-вугальную праслойку на аснаванні і заглыбіўся ў мацярык.

Першапачатковыя памеры аснавання насыпу з-за стану яго захаванасці могуць быць вызначаны толькі прыблізна. Аснаванне, верагодна, мела памер 4,8 (па лініі поўнач–поўдзень) × 4,6 м (па лініі захад–усход). Аснаванне пакрывала попельна-вугальная праслойка магутнасцю 0,04–0,11 м, якая, верагодна, утварылася ў выніку выпальвання пляцоўкі перад узвядзеннем кургана (мал. 16, *б*).

Курган змяшчаў пахаванне па абрадзе інгумацыі, якое было практычна цалкам знішчана ў выніку разбурэння насыпу. Пераадкладзеныя рэшткі пахавання, арыентаваныя па лініі захад–усход, выяўлены ў квадраце 6 (мал. 16, *б*; 18: *1*). Яны прадстаўлены некалькімі косткамі, у тым ліку трубкавымі. На адной з костак прыметны сляды зялёнай пацiны ад нейкага ўпрыгажэння. Сярод костак выяўлены рэшткі дзвюх кругавых пасудзін. Акрамя таго, асобныя фрагменты гэтых жа гаршкоў знойдзены ў верхняй частцы насыпу ў квадратах 3 і 7, куды яны патрапілі ў выніку разбурэння пахавання.

Ад аднаго з гаршкоў захавалася толькі моцна прафіляванае, адагнутае вонкі венца, выраблене з цеста карычневага колеру з дамешкам жарствы дыяметрам 3 мм (мал. 18: *3*).

Другі гаршчок атрымалася сабраць з фрагментаў і ўзнавіць яго поўны профіль і дыяметр: вышыня гаршчка – 12,7 см, дыяметр венца – 12,0, дыяметр плечукоў – 13,4, дыяметр донца – 6,8 см




Мал. 13. Курганны могільнік Опса: *а* – план дзённай паверхні кургана 18 (раскоп I); *б* – умоўныя адзнакі для раскопаў 2010 г.: *1* – жоўты пясок; *2* – вуголле; *3* – попел шэрага колеру; *4* – попел белага колеру; *5* – моцна нагрэты пясок; *6* – кальцыніраваныя косткі; *7* – перакоп; *8* – дзірван; *9* – мацярык; *10* – недаследаваны ўчастак (на плане); 11 – дрэва (на плане). Малюнак М. А. Плавінскага

(мал. 18: *2*). Гаршчок вельмі якасна апрацаваны на ганчарным крузе і пакрыты па тулаве і плечуках перарывістым лінейным арнаментам рознай глыбіні. Прыкладнае датаванне гаршкоў і, адпаведна, пахавання ў кургане 19 можа быць вызначана канцом X – першай паловай/сярэдзінай XI ст. [22, с. 140–141].

Меркаваць упэўнена аб наяўнасці раўчукоў вакол кургана 19 дастаткова цяжка. Іх сляды на мацерыку амаль не прасочваліся (мал. 16: *2*). Верагодна, яны ўсё ж меліся з паўднёва-ўсходняга і паўночнага бакоў насыпу. Хутчэй за ўсё, плошча навокал кургана была эскарпавана, але вызначыць дакладныя межы раўчукоў і эскарпавання не падаецца магчымым, з прычыны таго, што з паўночнага боку ў раскопе II часткова выяўлены раўчук кургана 18, з паўднёва-ўсходняга – раўчук кургана 20, а з паўднёвага – перакоп.

Рытуальныя дзеянні, праведзеныя падчас узвядзення кургана 19, можна рэканструяваць наступным




Мал. 16. Курганны могільнік Опса. Курган 19 (раскоп II): *а* – план дзённай паверхні; *б* – план мацерыка і профілі раскопу. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 17. Профілі кургана 19. Курганы могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 18. Курганны могільнік Опса, курган 19: *1* – план пахавання; *2* – кругавы гаршчок; *3* – венца кругавога гаршка. Малюнак М. А. Плавінскага

чынам. Першапачаткова на абранай для ўзвядзення насыпу пляцоўцы было распалена вогнішча, пасля чаго быў узведзены паўсферычны насып, які змяшчаў пахаванне па абрадзе інгумацыі. Больш дакладная рэканструкцыя не можа быць ажыццёўлена з прычыны надта значнага пашкоджання насыпу.

***Курган 20*** быў даследаваны шляхам распрацоўкі раскопу III, які быў прырэзаны да раскопу II з паўднёвага ўсходу, меў складаную шасцівугольную канфігурацыю і агульную плошчу 176 м$^2$ (квадраты 1–44). Участкі квадратаў 15, 25–26, 27, 33, 36, 42 не даследаваліся з прычыны таго, што на іх плошчы раслі магутныя сосны (мал. 19). Курган зарос соснамі і кустамі (арэшнікам). Паблізу ад вяршыні насыпу ў квадраце 17 расла магутная бяроза. Звонку курган выглядаў авальным, выцягнутым па лініі захад–усход. На вяршыні насыпу прасочвалася западзіна ад старой рабаўнічай яміны ці вывернутага з каранямі дрэва. Шырыня насыпу па ліні поўнач–поўдзень – каля 9 м, яго даўжыня па лініі захад–усход – каля 11, вышыня ў сённяшнім выглядзе – 1,7 м. Вакол кургана добра прасочваюцца тры раўчукі – з паўночнага ўсходу (даўжыня – 7 м, шырыня – 3,2 м), паўночнага захаду (даўжыня – 7,5 м, шырыня – 2,3 м) і поўдня – паўднёвага ўсходу (даўжыня – 14 м, шырыня – да 2,5 м).

У працэсе раскопак было выяўлена, што курган пакрыты слоем дзірвану магутнасцю каля 0,1 м. Сам насып складаецца з пяску жоўтага колеру дробнай і сярэдняй зярністасці з уключэннем дробных




Мал. 19. План дзённай паверхні кургана 20. Раскоп III. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 20. Профілі кургана 20. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага

каменьчыкаў (мал. 20). Уверсе насыпу пясок больш дробны таму, што быў, верагодна, узяты з большай глыбіні (з дна раўчукоў). Шэраг прасочаных у насыпе перакопаў не нанёс сур'ёзнай шкоды стратыграфіі кургана. З самага пачатку разбору насыпу кургана ў дзірване ля яго вяршыні і на паўднёвым і паўднёва-ўсходніх схілах былі выяўлены шматлікія кальцыніраваныя косткі, якія былі вызначаны, як пахаванне 1.

*Пахаванне 1* уяўляла з сябе праслойку ачышчаных кальцыніраваных костак, якія знаходзіліся ў дзірване і непасрэдна пад ім. Найбольшая колькасць костак выяўлена ў паўднёвай частцы квадрата 30 і паўночнай частцы квадрата 31 (мал. 19). Тут магутнасць праслойкі костак дасягала 0,2 м. У іншых месцах па плошчы паверхні кургана ля яго цэнтра, на паўднёвым і паўднёва-ўсходніх схілах праслойка костак паступова станавілася танчэйшай і пераходзіла ў асобныя значэнні канцэнтрацыі костак і іх адзіночныя знаходкі. Агульная вага кальцыніраваных костак у пахаванні 1 (пасля прасушвання і ачысткі ад пяску) дасягнула 4690 г. Сярод костак пахавання 1 былі выяўлены шматлікія фрагменты рознага памеру (пераважна дробныя) ляпнога посуду (найбольш значныя канцэнтрації фрагментаў керамікі выяўлены ў квадратах 24 і 31). З-за дробнасці большасці фрагментаў аднавіць поўны профіль пахавальнага посуду не атрымалася. Таксама няма поўнай упэўненасці ў тым, колькі пасудзін было змешчана пры пахаванні – адна ці дзве. Больш верагодным падаецца, што іх было дзве:

– да першай пасудзіны належаць таўстасценныя фрагменты з добра загладжанай паверхняй (мал. 21: *1*). Іх абпал нераўнамерны, звонку колер чарапкоў карычневы, знутры і на зломе – шэры. Цеста з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,1–0,5 см. На донцы сляды падсыпкі з пяску і некалібраванай жарствы. Рэканструяваць пасудзіну магчыма толькі графічна. Гэта дастаткова высокі гаршчок – каля 19,7 см, з дыяметрам венца – 19,0, дыяметрам плечукоў – 20,6, дыяметрам донца – 11,4 см;

– да другой пасудзіны належаць фрагменты, паверхня якіх загладжана лепш, чым у першага гаршка (мал. 21: *2*). Абпал нераўнамерны, колер – ад карычневага да цёмна-шэрага. Цеста з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,1–0,6 мм. На донцы сляды падсыпкі з пяску і дробнай жарствы. Пасудзіна можа быць рэканструявана графічна толькі часткова. Яе верагодная вышыня была роўная прыблізна 14,5 см.

Абедзве пасудзіны належаць да керамікі «з плечукамі», характэрнай для КСПДК. Варта мець на ўвазе, што прыналежнасць выяўленых фрагментаў менавіта да дзвюх пасудзін, а не да адной застаецца да пэўнай ступені гіпатэтычнай з прычыны стану захаванасці фрагментаў.

Акрамя рэшткаў посуду, у праслойцы кальцыніраваных костак выяўлены шэраг моцна аплаўленых у пахавальным вогнішчы ўпрыгажэнняў:

1) аплаўлены, дэфармаваны ў агні і фрагментаваны шыракасярэдзінны пярсцёнак з незамкнёнымі канцамі, пакрытымі геаметрычным арнаментам з двух паралельных шэрагаў дробных рысак (мал. 22: *7*). Дыяметр пярсцёнка ў аплаўленым выглядзе – 2,2 × 2,3 см, шырыня шчытка – 1,3 см. Аналагічныя пярсцёнкі на Русі і, у прыватнасці у Ноўгарадзе, датуюцца сярэдзінай X – пачаткам XI ст. [30, с. 122];

2) пагнуты фрагмент бронзавай абойміцы-размеркавальніка ад галаўнога венчыка-вайнагі (мал. 22: *1*). Памер фрагмента – 1,5 × 1,9 см, таўшчыня – 0,07 см. Уздоўж краю абойміца была ўпрыгожана адным рэльефным валікам. Вузкага датавання артэфакт не мае, бо галаўныя венчыкі з падобнымі абойміцамі-размеркавальнікамі маглі выкарыстоўвацца на землях, заселеных балтамі ў другой палове I тысячагоддзя н. э. – першых стагоддзях II тысячагоддзя н. э. [6, с. 54–55];

3) чатыры фрагменты дэфармаваных у агні бронзавых спіральных пранізак, два з якіх зусім дробныя. Фрагменты належаць да пранізак, дыяметр якіх быў роўны 1,5–1,6 см (мал. 22: *2, 3*). Пранізкі былі зроблены з трохвугольнага ў сячэнні дроту памерам 0,4 × 0,15 см;

4) вельмі моцна аплаўлены фрагмент рамбічнага ў сячэнні (1,0 × 0,8 см) бронзавага прута даўжынёй 4,7 см (мал. 22: *4*). Хутчэй за ўсё гэта рэшткі абруча шыйнай грыўні;

5) моцна аплаўленая шаснаццацігранная галоўка бронзавай фібулы ці шыйнай грыўні памерам 2,0 × 1,5 × 1,3 см (мал. 22: *5*). З-за стану захаванасці прадмета ўпэўнена казаць аб яго тыпалагічнай прыналежнасці і, адпаведна, аб верагодным датаванні цяжка. Аднак варта заўважыць, што на Русі фібулы са шматграннымі галоўкамі могуць датавацца другой паловай X – пачаткам XI ст. [1, с. 98];

6) злітак бронзы;

7) фрагмент моцна каразіраванай жалезнай пласцінкі (мал. 22: *6*);

8) пяць фрагментаў вітага срэбнага шнура рознай даўжыні без слядоў знаходжання ў агні (мал. 23: *1–5*).

У выніку раскопак выяўлена, што першапачаткова аснаванне кургана мела падоўжаную па лініі захад–усход форму (мал. 26). Памер аснавання – 10,6 × 7,3–7,7 м. Яго пакрывала насычаная попельна-вугальная праслойка памерам 10,0 × 6,2 м і магутнасцю 0,04–0,08 м, верагодна – сляды ачышчэння плошчы аснавання кургана ад травы. Па перыметры попельна-вугальнай праслойкі выяўлены «валік» з пяску, насычанага попелам, вышынёй да 0,3 м і шырынёй 0,3–0,5 м. Можна меркаваць, што гэта




Мал. 21. Курганны могільнік Опса, курган 20: *1, 2* – графічныя рэканструкцыі ляпных гаршкоў з пахавання 1. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 22. Курганны могільнік Опса, курган 20. Пахавальны інвентар пахавання 1 (*1–7*) і пахавання 2 (*8–12*): *1* – фрагмент бронзавай абойміцы ад галаўнога венчыка-вайнагі; *2–3* – фрагменты бронзавых спіральных пранізак; *4* – фрагмент бронзавай шыйнай грыўні (?); *5* – галоўка бронзавай фібулы ці шыйнай грыўні; *6* – фрагмент жалезнай пласцінкі; *7* – фрагментаваны шырокасярэдзінны пярсцёнак; *8* – бронзавая фібула; *9* – галоўка бронзавай фібулы ці шыйнай грыўні; *10* – фрагмент бронзавай шыйнай грыўні (?); *11–12* – ляпныя гаршкі. Малюнак М. А. Плавінскага

рэшткі «валіка» з кавалкаў дзірвану, які быў выкладзены перад узвядзеннем насыпу з мэтай умацавання яго схілаў, гэтаксама, як і ў кургане 2/14 Опсаўскага могільніка.

У квадратах 24 і 30 на мацерыку выяўлены валун памерам 1,2 × 0,9 м (мал. 26). Зыходзячы з таго, што ніякіх артэфактаў ці слядоў правядзення рытуальных дзеянняў каля гэтага валуна не выяўлена, можна меркаваць, што ён не звязаны з пахавальным рытуалам, а папросту не быў прыбраны з пляцоўкі аснавання кургана з-за надта вялікіх памераў. Да такой думкі схіляе і тое, што ў лесе на тэрыторыі могільніка падобныя валуны сустракаюцца дастаткова часта.

У паўднёва-ўсходнім сектары кургана ў мацерыку на мяжы квадратаў 24 і 25 выяўлена *пахаванне 2*, якое змяшчалася ў роўнай круглай мацерыковай яміне дыяметрам 0,45 м і глыбінёй 0,35–0,37 м (мал. 24–25). Сценкі яміны вертыкальныя, роўныя. Яе запаўненне складалася са шматлікіх кальцыніраваных костак, вугалю і пяску. Колер запаўнення – шэра-чорны. Агульная вага каль-цыніраваных костак у пахаванні 2 (пасля прасушвання і ачысткі ад пяску) дасягнула 4757 г. Варта адзначыць, што сярод костак з пахавання 2 сустракаюцца больш буйныя фрагменты, чым сярод костак з пахавання 1. Асобныя кальцыніраваныя косткі былі выяўлены ў попельна-вугальным слаі паблізу ад пахавання.

Непасрэдна над пахаваннем 2 размяшчаліся два ляпныя гаршкі, адзін з якіх, быў пастаўлены на запаўненне яміны, а другі быў перагорнуты дном даверху.

Гаршчок, пастаўлены над пахаваннем уверх дном, захаваўся практычна цалкам (за выключэннем фрагмента донца (мал. 22: *11*)). Ён быў зроблены ў тэхналогіі стужкавага налепу з цеста карычневага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,1–0,4 см. Абпал вельмі слабы. На донцы сляды падсыпкі з жарствы. Вышыня гаршка – 9,6, дыяметрам венца – 11,6, дыяметрам плечукоў – 12,3 см, дыяметрам донца – 8,4 × 8,6 см. Гаршчок належыць да керамікі КСПДК.




Мал. 23. Фрагменты вітага срэбнага шнура: *1–5* – пахаванне 1; *6–13* – пахаванне 2. Курган 20. Курганны могільнік Опса. Фота М. І. Сцяпанавай

Другі гаршчок захаваўся горш – страчана частка венца (мал. 22: *12*). Гаршчок зроблены па тэхналогіі стужкавага налепу з цеста карычневага колеру з дамешкам некалібраванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,1–0,7 см. Абпал вельмі слабы. Гаршчок зроблены вельмі неахайна, ён асіметрычны, уся паверхня пакрытая расколінамі. Яго вышыня – 9,2–9,8 см, дыяметр венца – 9,4 см, дыяметр плечукоў – 9,7 см, дыяметр донца – 7,5 × 7,9 см. Як і папярэдні, гаршчок належыць да керамікі КСПДК.

Сярод костак пахавання 2 былі выяўлены наступныя знаходкі:

1) мініяцюрная бронзавая падкovападобная спіралеканечная фібула з шасціграннага ў сячэнні дроту без слядоў знаходжання ў агні (мал. 22: *8*). Бліжэй да спіральных канцоў верхняя плашчыня дроту ўпрыгожана на даўжыню 1 см арнаментам, нанесеным квадратным пуансонам. Дыяметр фібулы – 2,4 × 2,5 см, даўжыня іглы – 2,9 см. Спіралеканечныя фібулы з’явіліся ў Скандынавіі і на паўночным захадзе Русі яшчэ ў VIII ст. [1, с. 96]. Але найбольш актыўна спіралеканечныя фібулы з шасцігraннага ў сячэнні дроту выкарыстоўваліся ў X–XI стст. [30, с. 86] ці ў другой палове X – пачатку XI ст. [17, с. 155];

2) моцна аплаўленая шаснаццацігранная галоўка бронзавай фібулы ці шыйнай грыўні памерам 2,6 × 1,8 см (належыць да іншага ўпрыгажэння, чым галоўка з пахавання 1). Дужка ўпрыгажэння была шасціграннай у сячэнні (мал. 22: *9*);

3) фрагмент надзвычай моцна аплаўленай шасціграннай у сячэнні дужкі шыйнай грыўні (?). Памер фрагмента – 2,7 × 1,8 см (мал. 22: *10*);

4) 8 дробных фрагментаў вітага срэбнага шнура рознай даўжыні (мал. 23: *6–13*). На некаторых фрагментах заўважныя слабыя сляды ўздзеяння агню.

Відавочна, што пахавальны інвентар з пахаванняў 1 і 2 практычна ідэнтычны, што сведчыць аб адначасовасці абодвух пахаванняў. Дакладней, гэта адно пахаванне, верагодна, жаночае, падзеленае на дзве часткі. На падставе наяўнага інвентару датаванне пахавання можа быць вызначана ў межах X – першай паловы XI ст. Аднак найбольш верагодным падаецца яго датаванне другой паловай X – пачаткам XI ст. Відавочна, што агульная вага кальцыніраваных костак – 9447 г надта вялікая для пахавання аднаго і нават некалькіх індывідаў.

Аснаванне кургана было абкружана двума раўчукамі (мал. 26). Першы з іх абкружаў насып з паўночнага захаду, захаду і поўдня. Яго шырыня пера-




Мал. 24. План і профіль пахавання 2. Курган 20. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 25. Курганны могільнік Опса, курган 20: *1* – ляпныя гаршкі над пахаваннем 2; *2* – профіль пахавання 2. Фота М. А. Плавінскага




Мал. 26. План мацерыка і профілі раскопу III. Курган 20. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага

вышала 2,5 м (раўчук даследаваны толькі часткова, бо яго краі апынуліся па-за межамі раскопу). Глыбіня раўчука на розных участках дасягала 0,6–0,9 м. Другі раўчук абкружаў насып з паўночнага ўсходу, меў даўжыню каля 8 м і глыбіню да 1 м. Раўчукі падзелены дзвюма перамычкамі, размешчанымі з паўночнага і ўсходняга бакоў насыпу. Шырыня паўночнай перамычкі – 1,5 м, усходняй – 3,0 м.

Рытуальныя дзеянні, праведзеныя падчас узвядзення кургана 20, можна рэканструяваць наступным чынам. Першапачаткова на абранай для ўзвядзення насыпу пляцоўцы было распалена вогнішча. Пасля гэтага амаль у цэнтры пляцоўкі аснавання была выкапана яміна, куды змясцілі частку пахавання па абрадзе крэмацыі, якое было здзейснена па-за межамі насыпу. Над пахаваннем былі змешчаны два гаршкі. Наступным этапам узвядзення кургана стала стварэнне «валіка» з кавалкаў дзірвану па перыметры попельна-вугальнай праслойкі з мэтай умацавання схілаў будучага насыпу. Пасля гэтага быў узведзены курган, грунт для якога браўся з раўчукоў. Нарэшце, на вяршыні насыпу была змешчана другая частка пахавання па абрадзе крэмацыі і дзве ляпныя пасудзіны. Характар размяшчэння костак на паверхні кургана – ля яго цэнтра, на паўднёвым і паўднёва-ўсходнім схілах – дазваляе меркаваць, што пахаванне не было высыпана на паверхню кургана. Хутчэй за ўсё, гэтая частка пахавання была змешчана ў нейкае драўлянае збудаванне (кшталту «доміка мёртвых») (мал. 27). З цягам часу драўляная канструкцыя стала парахнець і кальцыніраваныя косткі пачалі з яе прасыпацца. Нарэшце, калі канструкцыя спарахнела канчаткова, яна ўпала, а кальцыніраваныя косткі і рэшткі пахавальнага інвентару рассыпаліся па схіле насыпу.

***Курган 21*** быў даследаваны шляхам распрацоўкі раскопу IV, які быў размешчаны за 22 м на поўдзень ад паўднёва-заходняга кута раскопу II (мал. 2). Раскоп IV меў прамавугольную форму памерам 6 × 8 м і агульную плошчу 48 м$^2$ (квадраты



Мал. 27. Першапачатковы выгляд кургана 20. Рэканструкцыя М. А. Плавінскага. Малюнак М. І. Сцяпанавай

1–12). Участкі квадратаў 5, 9, 11 не даследаваліся з прычыны таго, што на іх плошчы раслі магутныя сосны. Курган 21 зарос соснамі і кустамі (арэшнікам). Звонку насып выглядаў блізкім да паўсферычнага, некалькі падоўжаным па лініі захад–усход (мал. 28: *1*). У цэнтры добра прасочвалася вялікая рабаўнічая яміна. Даўжыня насыпу па лініі поўнач–поўдзень – 5,7 м, па лініі захад–усход – 7,1, яго вышыня ў сённяшнім выглядзе – каля 0,75 м. З паўночнага, заходняга і паўднёва-заходняга бакоў насыпу прасочваюцца раўчукі. З паўночнага боку раўчук размешчаны паміж курганамі 21 і 22. Вызначыць, да якога менавіта насыпу ён належаў, звонку нельга. З заходняга боку раўчук меў даўжыню 3,5 м, шырыню 1,6 м і глыбіню каля 0,3 м. Раўчук з паўднёва-ўсходняга боку меў даўжыню каля 13,5 м, шырыню 1,8 м і глыбіню да 0,4 м.

У працэсе раскопак было выяўлена, што большая частка насыпу была знішчана рабаўнічымі ямамі (прасочваюцца не менш за 3 асобныя перакопы, але верагодна, на самай справе іх больш). Самая вялікая з рабаўнічых ямін дайшла да мацерыка і пашкодзіла цэнтральную частку аснавання кургана і размешчанае на ім пахаванне (мал. 29). Запаўненне яміны складаецца з пяску, аналагічнага насыпу, які адрозніваецца шэрым адценнем з прычыны гумусаванасці. Сам насып пакрыты слоем дзірвану магутнасцю 0,04–0,1 м і складаецца з пяску жоўтага колеру дробнай і сярэдняй зярністасці.

Першапачаткова аснаванне кургана мела авальную форму (мал. 28: *2*). Яго даўжыня па лініі захад–усход крыху перавышала 6,2 м, а шырыня дасягала прыкладна 4,8–5,0 м. Аснаванне пакрывала слаба насычаная попельная праслойка магутнасцю каля 0,1 м, якая, верагодна, можа з'яўляцца рэшткамі старажытнага дзярнова-падзолістага слоя, не выключана, са слядамі яго ачысткі агнём. Памер праслойкі па лініі захад–усход – 5,6 м, па лініі поўнач–поўдзень – 3,6 м.

Курган змяшчаў пахаванне па абрадзе інгумацыі, якое знаходзілася на попельнай праслойцы, амаль па цэнтры і было арыентаванае галавой на захад (мал. 28: *2*). Большая частка пахавання пашкоджана перакопам, косткі пераадкладзены і часткова страчаны. Некранутымі засталіся толькі косткі ног і, найперш, правая нага і косткі правай рукі (мал. 30: *1*). У размяшчэнні пераадкладзеных костак і рэштак пахавальнага інвентару прасочваюцца пэўныя заканамернасці, якія сведчаць аб тым, што пахаванне было разрабавана яшчэ ў старажытнасці, у хуткім часе пасля яго закладвання, калі мяккія тканіны цела яшчэ знаходзіліся ў працэсе разлажэння і распаліся не канчаткова. Аб гэтым сведчыць размяшчэнне ў анатамічным парадку шэрагу зрушаных з месца рэбраў, наяўнасць паціны ад бронзавага бранзалета на запясці правай рукі, пры тым, што анатамічны парадак костак застаўся непарушаным.

Пры пахаванні і ў паўднёва-заходняй частцы насыпу ў пераадкладзеным выглядзе выяўлена 608 цэлых і фрагментаваных шкляных пацерак, большую частку з якіх складае паставы бісер, пераважна жоўтага колеру. Сярод пацерак таксама вызначаюцца: лімонападобная трайная пранізка белага колеру, лімонападобныя двайныя пранізкі жоўтага колеру, сечаны жоўты бісер, зонныя і спіральна навітыя сінія (мал. 31)[1].

Белыя непразрыстыя лімонападобныя пацеркі датуюцца X – сярэдзінай XI ст. [10, с. 196; 36, с. 175]. Жоўтыя лімонападобныя экзэмпляры сустракаюцца на працягу X–XI стст. Найбольш шырокае іх распаўсюджанне прыпадае на X – пачатак XI ст. [10, с. 196; 36, с. 174], але ў Ноўгарадзе такія пацеркі сустракаюцца нават у пачатку XII ст. [16, с. 140, табл. 1]. Пры гэтым варта адзначыць, што жоўтыя «лімонкі» з кургана 21 зроблены з аднаслойнай выцягнутай трубачкі. Існуе меркаванне, што знаходкі такога кшталту з'яўляюцца найбольш раннімі сярод усіх лімонападобных пацерак жоўтага колеру [10, с. 196]. Сінія празрыстыя, паўпразрыстыя і непразрыстыя зонныя пацеркі і пранізкі, выробленыя ў тэхніцы навіўкі датуюцца X–XI стст. [36, с. 166–167]. Сечаны бісер карыстаўся найбольшай папулярнасцю ў X – першай палове XI ст., але ў невялікай колькасці сустракаўся да пачатку XII ст., а ў напластаваннях Ноўгарада – нават і ў першай палове XII ст. [10, с. 196; 16, с. 139, табл. 1 36, с. 172–173]. Паставы бісер, які распаўсюджваўся ў пачатку XI ст., існаваў потым даволі працяглы час [10, с. 191, 197].

Побач з захаванымі ў пераадкладзеным выглядзе косткамі чэрапа (ніжняя сківіца) знойдзена 11 фрагментаў бронзавых бранзалетападобных

[1] Апрацоўка калекцыі пацерак з кургана 21 ажыццёўлена М. І. Сцяпанавай, за што аўтар выказвае ёй самую шчырую падзяку.




Мал. 28. Раскоп IV: *1* – план дзённай паверхні; *2* – план мацерыка і профілі раскопу. Курганны могільнік Опса. Курган 21. Малюнак М. А. Плавінскага




Мал. 29. Профілі кургана 21. Курганны могільнік Опса. Малюнак М. А. Плавінскага

скроневых колцаў (з іх 7 зусім дробныя (мал. 30: *5*)). Першапачатковую колькасць колцаў, зыходзячы з наяўных фрагментаў, вызначыць немагчыма. Таксама цяжка ўпэўнена вызначыць тып колцаў, аднак можна меркаваць, што яны належалі да тыпу завязанаканечных з неахайна завязанымі канцамі. Гэта дазваляе датаваць іх XI – пачаткам XII ст. [15, с. 16] ці апошняй чвэрцю X – пачаткам XII ст. [16, с. 134].

Там жа знойдзены два зусім дробныя фрагменты бронзавай спіральнай пранізкі (мал. 30: *4*).

Справа ад пахавання, за 0,4 м ад правай бярцовай косткі, выяўлены нож з рэшткамі драўляных тронак (у пераадкладзеным стане (мал. 30: *3*)). Даўжыня нажа – 9,3 см, даўжыня ляза – 6,1, шырыня ляза – 1,2, таўшчыня спінкі – 0,5 см. Нож, верагодна, належыць да тыпу II паводле Р. С. Мінасяна і можа быць датаваны VIII–XI стст. [18, с. 70].

Нарэшце, у нагах пахавання, справа ад правага ступака знаходзіўся фрагментаваны ляпны гаршчок (мал. 30: *2*). Захаваліся донцы і прыдонная частка, а таксама асобныя фрагменты сценак і венца, што дазволіла рэканструяваць яго знешні выгляд. Гаршчок зроблены ў тэхналогіі стужкавага налепу з цеста карычневага колеру з дамешкам некаліброванай жарствы (кварцыту) дыяметрам 0,1–0,4 см. Абпал вельмі слабы і нераўнамерны. На донцы сляды падсыпкі з пяску і жарствы. Вышыня гаршка – 12,6 см, дыяметр венца – 10,6, дыяметр плечукоў – 11,8, дыяметр донца – 9,3 см. На венцы з унутранага боку маюцца сляды нагару. Гаршчок належыць да керамікі КСПДК.

Відавочна, што выяўленыя знаходкі з’яўляюцца толькі невялікай часткай ад інвентару, змешчанага ў кургане пры нябожчыцы. Можна дапусціць, што менавіта багацце стала адной з прычын рабунку пахавання ў хуткім часе пасля яго здзяйснення. Нягледзячы на факт абрабавання пахавання, яго датаванне на падставе наяўнага інвентару можа быць вызначана ў межах першай паловы XI ст. Падставай для вызначэння датавання з’яўляецца, найперш, наяўны набор пацерак, з якім добра стасуецца наяўнасць фрагментаў бранзалетападобных скроневых колцаў і ляпнога гаршка.

Аснаванне кургана было абкружана раўчукамі з заходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў. Раўчук з захаду ад кургана мае даўжыню каля 4 м, шырыню больш за 2 м і глыбіню 0,30–0,45 м. Раўчук з паўднёва-ўсходняга боку насыпу патрапіў у раскоп толькі часткова, але па даследаваным участку можна меркаваць, што ён адпавядаў сваім абрысам, бачным на дзённай паверхні. Глыбіня раўчука – 0,5–0,6 см. У паўночнай частцы раскопу выяўлены паўднёвы раўчук кургана 22, які часткова пашкодзіў паўночны край аснавання кургана 21.

Рытуальныя дзеянні, праведзеныя падчас узвядзення кургана 21 можна рэканструяваць наступным чынам. На абраную для ўзвядзення насыпу пляцоўку галавой на захад было пакладзена цела




Мал. 30. Курганны могільнік Опса, курган 21: *1* – план пахавання; *2* – ляпны гаршчок; *3* – жалезны нож; *4* – фрагмент бронзавай спіральнай пранізкі; *5* – фрагменты бронзавых бранзалетападобных скроневых колцаў. Малюнак М. А. Плавінскага

нябожчыцы. Магчыма, перад гэтым пляцоўка была ачышчана агнём, аднак упэўнена казаць аб гэтым нельга. Пасля здзяйснення пахавання быў узведзены насып, грунт для якога браўся з раўчукоў.

**Пахавальны абрад.** Такім чынам, у выніку раскопак 1893, 1990, 1996 і 2010 г. у курганным могільніку Опса быў даследаваны 21 курган, што складае да 30 % ад агульнай колькасці насыпаў (калі прыняць даныя Ф. В. Пакроўскага аб тым, што першапачаткова колькасць опсаўскіх курганоў складала больш за 70 адзінак [25, с. 197]). Такі значны адсотак даследаваных насыпаў дазваляе спадзявацца на дастаткова адэкватную ацэнку пахавальнага абраду і датавання могільніка. Разам з тым падчас апрацоўкі даных аб курганным некропалі ў Опсе мы сутыкаемся з праблемай рознай ступені дакументаванасці вынікаў раскопак розных гадоў. Гэта у першую чаргу тычыцца інфармацыі аб раўчуках, якія не даследаваліся падчас прац 1893, 1990 і 1996 г.

Пахаванні ці іх рэшткі былі выяўлены ў 18 курганах з 21 даследаванага (адпаведна ў насыпах 10, 5/17 і 18 слядоў пахаванняў выяўлена не было). Тыя 18 курганоў, у якіх пахаванні былі зафіксаваныя, падзяляюцца на дзве нераўназначныя групы. Большую частку складаюць насыпы, якія змяшчаюць крэмацыі (13 курганоў). Адпаведна да другой, меншай, групы належаць насыпы з пахаваннямі па абрадзе інгумацыі (5 курганоў).




Мал. 31. Курганны могільнік Опса, курган 21: *1–29* – шкляныя пацеркі. Фота М. І. Сцяпанавай

Спаленне нябожчыкаў адбывалася па-за межамі курганоў, пасля чаго рэшткі крэмацый змяшчаліся ў насыпах наступным чынам:

1) у мацерыковых ямках – у 1 кургане (№ 3);

2) на аснаванні – у 6 курганах (№ 1, 4, 6, 1/13, 2/14, 3/15);

3) у насыпе – у 3 курганах (№ 2, 5, 9);

4) на вяршыні – у 2 курганах (№ 7, 11 (?)); пры гэтым варта адзначыць, што ў кургане 11 былі выяўлены толькі «2–3 абломка паленых костак» [25, с. 202];

5) рэшткі аднаго трупаспалення былі змешчаны адначасова і ў мацерыковай ямцы, і на вяршыні насыпу (№ 20). Як было адзначана вышэй, ёсць усе падставы меркаваць, што тая частка кальцынíраваных костак, якая была знойдзена на вяршыні кургана 20, першапачаткова знаходзілася ў нейкай драўлянай канструкцыі.

У курганах № 2/14 і 20 выяўлены рэшткі «валікаў» з кавалкаў дзірвану, якія былі выкладзены падчас узвядзення насыпаў з мэтай умацавання іх схілаў. Гэты факт цікавы не толькі самім працэсам узвядзення курганаў, але і па іншай прычыне. Падчас даследаванняў могільніка Опса ў 1893 г. Ф. В. Пакроўскі выявіў наяўнасць на яго тэрыторыі васьмі «колцападобных валоў». Іх знешні дыяметр дасягаў акружнасці ў 30–40 крокаў пры вышыні каля 0,2–0,3 м [25, с. 198]. Ф. В. Пакроўскі адзначаў, што ўнутры гэтых колцаў слядоў вогнішча выяўлена не было. Даследчык лічыў магчымымі два тлумачэнні прызначэння «колцападобных валоў». Першае з іх заключалася ў тым, што гэтыя аб’екты з’яўляюцца месцамі, прызначанымі для памінальнай трызны. Паводле другога, колцы – гэта своеасаблівы від курганных пахаванняў, прызначаных для «пахавання на паверхні» [25, с. 206–208]. Апошняя думка Ф. В. Пакроўскага падаецца нам даволі перспектыўнай. Можна выказаць асцярожнае меркаванне, што апісаныя колцы з’яўляліся падрыхтаванымі для ўзвядзення насыпаў пляцоўкамі, агароджанымі валікамі з дзірвану, пасля чаго працэс узвядзення кургана быў па невядомых прычынах спынены. Аднак, відавочна, што прапанаваная інтэрпрэтацыя можа разглядацца толькі як вельмі асцярожная гіпотэза, бо раскопкі гэтых аб’ектаў не праводзіліся. На жаль, падчас даследавання 2010 г. слядоў колцападобных валоў на тэрыторыі могільніка выяўлена не было. Таму пытанне аб іх будове і прызначэнні даводзіцца пакінуць на будучае, калі ў працэсе здымкі плану ўсяго могільніка могуць быць выяўлены рэшткі апісаных Ф. В. Пакроўскім «колцападобных валоў».

Пахаванні па абрадзе інгумацыі выяўлены ў пяці насыпах. Ва ўсіх выпадках нябожчыкі змяшчаліся на аснаваннях курганоў. Зрэшты, у выпадку з курганам № 20 меркаваць аб гэтым можна толькі з пэўнымі агаворкамі, з-за стану захаванасці пахавання. У астатніх курганах нябожчыкі былі змешчаны наступным чынам:

1) курган № 8 – нябожчык нявызначанага полу з падагнутымі нагамі быў пакладзены на левы бок галавой на ўсход;

2) курган № 1/12 – нябожчык нявызначанага полу арыентаваны галавой на захад;

3) курган № 4/16 – нябожчык мужчынскага полу арыентаваны галавой на паўднёвы ўсход;

4) курган 21 – нябожчыца, арыентаваная галавой на захад.

**Пахавальны інвентар.** Прадметы пахавальнага інвентару былі выяўлены ў 16 курганах з 18, якія ўтрымлівалі пахаванні (адпаведна ў крэмацыях у насыпах № 3 і 11 інвентару не было). Сярод інвентару можна вызначыць посуд, упрыгажэнні, прадметы побыту і ўзбраенне. Разгледзім паасобку інвентар пахаванняў па абрадзе крэмацыі і інгумацыі.

У *пахаваннях па абрадзе крэмацыі* найбольш распаўсюджаны знаходкі посуду. Цэлыя альбо фрагментаваныя ляпныя гаршкі выяўлены ў курганах № 1, 2, 5, 6, 9, 2/14, 3/15, 20. Усе пасудзіны, аб знешнім выглядзе якіх мы маем пэўную інфармацыю, належаць да керамікі «з плечуком», характэрнай для КСПДК. У трох курганах было выяўлена ад 2 да 4 гаршкоў (№ 3/15, 2/14, 20 адпаведна). У насыпах № 4 і 7 былі выяўлены адначасова ляпная і кругавая пасудзіны, а ў кургане № 1/13 змяшчаліся 4 кругавыя гаршкі.

Упрыгажэнні, знойдзеныя ў пахаваннях па абрадзе крэмацыі могільніка Опса, падзяляюцца на тры групы.

Да першай з іх можна аднесці ўпрыгажэнні, тыповыя для КСПДК. У першую чаргу, да ліку такіх упрыгажэнняў належаць рэшткі караляў з кургана 5, якія складаліся з бронзавых спіральных пранізак, трохдзіркавых ланцугатрымальнікаў і трапецападобных падвесак [25, с. 200]. Да ліку ўпрыгажэнняў, тыповых для КСПДК, можа належыць і дробны фрагмент упрыгажэння з каляровага металу з кургана № 1/13, вызначаны намі як верагодныя рэшткі серпападобнага скроневага колца (мал. 6: *6*). Да першай групы таксама варта аднесці, хаця і з пэўнымі агаворкамі, фрагмент трапецападобнай падвескі з кургана № 1 і фрагмент абойміцы-размеркавальніка ад галаўнога венчыка-вайнагі з кургана № 20 (мал. 20: *1*).

Да другой групы належаць артэфакты, якія могуць быць з той ці іншай ступенню ўпэўненасці звязаныя з пранікненнем у рэгіён упрыгажэнняў старажытнарускіх тыпаў, бронзавыя гузікі (№ 1 і 9 (мал. 32: *1*)), шырокасярэдзінныя пярсцёнкі (№ 1/13 і 20 (мал. 6: *8*, 20: *7*)) і бранзалетападобныя скроневыя колцы з завязанымі канцамі (№ 1/13 (мал. 6: *3–5*)).

Нарэшце да трэцяй групы аднесены ўпрыгажэнні, якія не нясуць пэўнай этнічнай «афарбоўкі» ва ўмовах балта-славянскага памежжа. Гэта фрагменты бронзавых ланцужкоў, арнаментаванага пласцінкавага бранзалета і колцы з кургана № 1, фрагменты шыйных грыўняў (№ 1/13, 20 (мал. 6: *2*, 22: *4–5*, *9–10*)), спіральныя пранізкі, мініяцюрная падковападобная фібула і фрагменты срэбнага шнура з кургана № 20 (мал. 22: *2–3*, 8, 58), жалезнае ўпрыгажэнне (бранзалет ?) з кургана № 2/14 (мал. 7: *2*).

Асобна варта спыніцца на аплаўленых шкляных пацерках, якія былі выяўлены ў курганах № 5 і 1/13. У першым з іх знойдзеныя жоўтыя і сінія, магчыма лімонападобныя, пацеркі і пранізкі (мал. 32: *2*), а таксама цёмна-чырвоная прадольнапаласатая, ці вочкавая (?) [25, с. 200]. Сярод пацерак трэцяга кургана № 1/13 вызначаюцца сінія зонныя, жоўтыя і белыя (?) лімонкі і лімонападобныя пранізкі, магчыма, экзэмпляры «пячоначнага» і чорнага колераў (мал. 6: *9–16*).

Да прадметаў побыту, што былі выяўленыя ў курганах з пахаваннямі па абрадзе крэмацыі, належаць: жалезныя нажы (№ 1, 2, 7, 9, 1/13, 3/15), калачападобнае крэсіва (№ 7 (мал. 32: *3*)), ігла (№ 1/13), спражка прамавугольнай формы з крыху ўвагнутымі бакамі (№ 4 (мал. 32: *4*)).

Усе *пяць пахаванняў па абрадзе інгумацыі* ўтрымлівалі інвентар. Пры гэтым трупапакладанні ў насыпах № 19 і 21 выяўленыя ў пашкоджаным перакопамі стане, што не дазваляе ўпэўнена меркаваць аб першапачатковай колькасці і характары інвентару ў гэтых пахавальных комплексах. У курганах № 8, 1/12 і 19 знойдзены толькі гаршкі: № 8 – ляпны, № 1/12 – кругавы, № 19 – рэшткі двух кругавых (мал. 3: *2*, 18: *2–3*). Самае шматінвентарнае пахаванне выяўлена ў кургане № 21. Нягледзячы на тое, што яно было абрабаванае, верагодна, яшчэ ў старажытнасці, падчас раскопак выяўлены рэшткі ляпнога гаршка, фрагменты бранзалетападобных завязанаканечных скроневых колцаў, фрагмент спіральнай пранізкі, нож і шматлікія шкляныя пацеркі, сярод якіх вызначаюцца паставы і сечаны бісер, пацеркі-лімонкі і лімонападобныя пранізкі белага і жоўтага колеру і інш. (мал. 30: *2–5*, *31*).

У кургане № 4/16 выяўлены адзіны ў могільніку Опса прадмет узбраення – сякера тыпу IV, якая была таксама і адзіным прадметам пахавальнага інвентару пры гэтым трупапакладанні (мал. 11: *2*).

Акрамя таго, з курганным могільнікам Опса ці з размешчаным побач з ім могільнікам Даўбор [25, с. 211–215] можа быць звязаны наканечнік кап'я, зафіксаваны аўтарам у 2005 г. у музеі Опсаўскай

сярэдняй школы (мал. 32: *5*). Аб магчымасці такога суаднясення сведчыць, у першую чаргу, стан захаванасці (ступень каразіраванасці) прадмета. Даўжыня наканечніка ў яго сучасным стане – 22,7 см (першапачаткова, верагодна, дасягала каля 25 см, бо страчаныя вастрыё і частка ўтулкі). Пяро мае яйкападобную форму і рамбічнае сячэнне, яго даўжыня мусіла дасягаць каля 15,5 см, шырыня – 4,5 см. Шыйка наканечніка шасціграння ў сячэнні, круглая ўтулка мае знешні дыяметр 3,1 × 2,9 см. Паводле сваіх марфалагічных прыкмет, наканечнік належыць да тыпу IV паводле А. М. Кірпічнікава [14, с. 14–15] і можа быць датаваны ў межах X–XI стст. [24, с. 29].




Мал. 32. Курганны могільнік Опса: *1* – шкляная пацерка, курган 5; *2* – бронзавы гузік, курган 9; *3* – жалезнае калачападобнае крэсіва, курган 7; *4* – жалезная спражка, курган 4; *5* – жалезны наканечнік кап'я, курганны могільнік Опса (?); *1–4* – паводле У. В. Енукова; *5* – малюнак М. А. Плавінскага

**Датаванне і культурная прыналежнасць.** Аналіз матэрыялаў раскопак дазваляе сцвярджаць, што пераважная большасць даследаваных у курганным могільніку Опса пахаванняў належыць да культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў. Пра гэта сведчыць пахавальны абрад, наяўнасць тыповых для КСПДК упрыгажэнняў і характэрная кераміка з плечуком. Відавочна, што на пэўным этапе ў склад калектыву, які пакінуў опсаўскі некрополь, уваходзіць дастаткова прыкметная колькасць носьбітаў іншай пахавальнай традыцыі, што хавалі сваіх памерлых па абрадзе інгумацыі. Гэтыя пахаванні суправаджаюцца іншароднымі для КСПДК прадметамі – кругавой керамікай, сякерай тыпу IV, бранзалетападобнымі скроневымі колцамі.

У пахаваннях па абрадзе трупаспалення таксама прысутнічае даволі значная колькасць іншародных для КСПДК артэфактаў: кругавая кераміка, бронзавыя гузікі, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, бранзалетападобныя скроневыя колцы, калачападобнае крэсіва. Пералічаныя факты сведчаць аб тым, што на пэўным этапе функцыянавання могільніка ў ваколіцах Опсы з'явілася група насельніцтва, якое прынесла з сабой традыцыі старажытнарускай матэрыяльнай культуры. Можна меркаваць, што прыток гэтага насельніцтва адбыўся ў межах канца X – пачатку XI ст.

Што тычыцца датавання курганнага могільніка Опса, то тут мы сутыкаемся з праблемай, сутнасць якой заключаецца ў тым, што ўсе адносна вузкадатаваныя прадметы ў складзе пахавальнага інвентару з'яўляюцца іншароднымі для КСПДК імпартамі старажытнарускага паходжання і маркіруюць позную стадыю існавання некропаля. Таму пачатак функцыянавання курганнага могільніка Опса пакуль можа быць толькі ўмоўна вызначаны ў шырокіх межах IX–X стст. Што тычыцца верхняй храналагічнай мяжы існавання некропаля, дык тут можна меркаваць, што пахаванні ў гэтым могільніку працягвалі здзяйсняцца на працягу першай паловы XI ст. і да яго сярэдзіны.

Такім чынам, курганны могільнік Опса з'яўляецца найбольш познім з усіх некропаляў КСПДК у Браслаўскім Паазер'і. Час яго функцыянавання на сённяшнім этапе даследаванняў можа быць вызначаны ў межах IX – першай паловы XI ст. Пераважная большасць пахаванняў у могільніку была здзейснена па абрадзе трупаспалення носьбітамі КСПДК. На апошняй стадыі існавання некропаля (канцы X – пачатку XI ст.) адбываўся прыток новага славянскага насельніцтва. Можна меркаваць, што калектыў, які пакінуў могільнік у Опсе, адчуў значна больш моцны ўплыў з боку прышэльцаў, чым іншыя групы аўтахтоннага насельніцтва рэгіёна. У выніку гэтага могільнік у Опсе працягваў функцыянаваць да сярэдзіны XI ст., у адрозненне ад суседніх некропаляў, дзе пахаванні перасталі здзяйсняцца ўжо ў пачатку названага стагоддзя. Цалкам верагодна, што калектыў носьбітаў традыцый КСПДК, які пакінуў могільнік Опса, мог пачаць змешвацца з прышэльцамі і нават мог пераняць на заключным этапе існавання некропаля абрад інгумацыі, што дагэтуль практычна не прасочвалася ў іншых некропалях захаду Беларускага Падзвіння і Дзвінска-Нёманскага міжрэчча.

**Літаратура**

1. Авдусина, С. А. Подковообразные фибулы Гнездова / С. А. Авдусина, Н. В. Ениосова // Археолог. сб. Гнездово. 125 лет исследования памятника / Труды Гос. ист. музея. – М., 2001. – Вып. 124. – С. 93–101.

2. Григорьев, А. В. Северская земля в VIII – начале XI века по археологическим данным / А. В. Григорьев. – Тула : Гриф и К, 2000. – 263 с. : ил.

3. Григорьев, А. В. На Десне и Сейме, в верховьях Дона и Оки // Русь в IX–X веках : археологическая панорама / А. В. Григорьев. – М. ; Вологда : Древности Севера, 2012. – С. 367–379.

4. Дучиц, Л. В. Отчет о раскопках курганов на территории Браславского и Ушачского районов Витебской области в 1990 году / Л. В. Дучиц. – Минск, 1991. – ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1201.

5. Дучыц, Л. У. Курганы Браслаўшчыны / Л. У. Дучыц // Памяць : гіст.-дак. хроніка Браслаўскага раёна. – Мінск : 1998. – С. 29–32.

6. Енуков, В. В. Ранние этапы формирования смоленско-полоцких кривичей (по археологическим данным) / В. В. Енуков. – М. : Знак Почета, 1990. – 262 с. : ил.

7. Еремеев, И. И. Лепная керамика средневекового Витебска / И. И. Еремеев, Т. С. Бубенько, Г. В. Штыхов // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Минск, 2007. – Vol. II. – С. 5–24.

8. Еремеев, И. И. Очерки исторической географии лесной части Пути из варяг в греки. Археологические и палеографические исследования между Западной Двиной и озером Ильмень / И. И. Еремеев, О. Ф. Дзюба. – СПб. : Нестор-История, 2010. – 670 с. : ил.

9. Еремеев, И. И. Древний Лукомль. Лепная керамика и раннесредневековый культурный слой / И. И. Еремеев, Г. В. Штыхов // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Минск, 2007. – Vol. I. – С. 110–134.

10. Захаров, С. Д. Изделья из стекла и каменные бусы / С. Д. Захаров, И. Н. Кузина // Археология севернорусской деревни X–XIII веков : средневековые поселения и могильники на Кубенском озере : в 3 т. – М. : Наука, 2008. – Т. 2 : Материальная культура и хронология. – С. 142–215.

11. Звяруга, Я. Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім Сярэдневякоўі / Я. Г. Звяруга // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Вып. 10. – 2005. – 174 с. : іл.

12. Каменецкая, Е. В. Заольшанская курганная группа Гнёздова / Е. В. Каменецкая // Смоленск и Гнездово (к истории древнерусского города). – М. : МГУ, 1991. – С. 125–161.

13. Каменецкая, Е. В. О возможности определения продукции одного гончара в древнем Гнёздове / Е. В. Каменецкая // Археологический сборник. Гнёздово. 125 лет исследования памятника / Труды Гост. ист. музея. – М., 2001. – Вып. 124. – С. 107–113.

14. Кирпичников, А. Н. 1966. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX–XIII вв. А. Н. Кирпичников / Свод археолог. історчніков. – М. ; Л., 1966. – Вып. Е1–36. – 216 с. : ил.

15. Левашева, В. П. Височные кольца / В. П. Левашева // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. / Труды Гост. ист. музея. – Вып. 43. – М., 1967. – С. 7–54.

16. Лесман, Ю. М. Погребальные памятники Новгородской земли и Новгород (проблема синхронизации) / Ю. М. Лесман // Археологическое исследование Новгородской земли. – Л. : Изд-во Ленинград. ун-та, 1984. – С. 118–153.

17. Мальм, В. А. Подковообразные и кольцевидные застежки-фибулы // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. / В. А. Мальм // Труды Гост. ист. музея. – М., 1967. – Вып. 43. – С. 149–190.

18. Минасян, Р. С. Четыре группы ножей Восточной Европы эпохи раннего средневековья (к вопросу о появлении славянских форм в лесной зоне) / Р. С. Минасян // Археолог. сб. Гос. Эрмитажа. – № 21. – 1980. – С. 68–74.

19. Недошивина, Н. Г. Перстни / Н. Г. Недошивина // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. / Труды Гост. ист. музея. – М., 1967. – Вып. 43. – С. 253–274.

20. Плавінскі, А. М. Раскопкі курганнага могільніка Опса / А. М. Плавінскі, М. А. Плавінскі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – № 9. – 2005. – С. 129–137.

21. Плавінскі, М. А. Раскопкі курганнага могільніка Мілты / М. А. Плавінскі, А. М. Плавінскі // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 20. – 2005. – С. 122–130.

22. Плавінскі, М. А. Аб часе з'яўлення кругавой керамікі ў пахавальных помніках на захадзе Браслаўскага Паазер'я / М. А. Плавінскі // Acta Archaeologica Albaruthenica. – 2011. – Vol. VII. – С. 135–158.

23. Плавінскі, М. А. Раскопкі курганнага могільніка Опса ў 2010 годзе / М. А. Плавінскі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – 2012. – Вып. 23. – С. 359–364.

24. Плавінскі, М. А. Узбраенне беларускіх земляў X–XIII стагоддзяў / М. А. Плавінскі. – Мінск : Галіяфы, 2013. – 106 с. : іл.

25. Покровский, Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии / Ф. В. Покровский // Труды IX АС в Вильне в 1893. – М., 1895. – Т. I. – С. 166–220.

26. Покровский, Ф. В. Археологическая карта Ковенской губернии / Ф. В. Покровский. – Вильна : Тип. А. Г. Сыркина, 1899. – 161 с.

27. Пушкина, Т. А. Лепная керамика Гнездовского селища / Т. А. Пушкина // Вестн. МГУ. – Сер. IX : – История. – № 3. – 1973. – С. 87–92.

28. Пушкина, Т. А. Гнездовский археологический комплекс / Т. А. Пушкина, В. В. Мурашева, Н. В. Ениосова // Русь в IX–X веках : археологическая панорама. – М. ; Вологда : Древности Севера, 2012. – С. 243–273.

29. Радиньш, А. Погребальный обряд и инвентарь латгальских захоронений 10–13 веков / А. Радиньш // Archaeologia Lituana. – 2001. – Vol. 2. – С. 65–118.

30. Седова, М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.) / М. В. Седова. – М. : Наука, 1981. – 196 с. : ил.

31. Френкель, Я. В. Опыт датирования пойменной части Гнездовского поселения на основании анализа коллекции стеклянных и каменных бус (по материалам раскопок 1999–2003 гг.) / Я. В. Френкель // Гнездово. Результаты комплексных исследований памятника. – СПб. : Альфарет, 2007. – С. 78–117.

32. Шарганова, О. Л. Технологическое изучение керамики селища у пос. Новосёлки / О. Л. Шарганова // Гнёз-

дово. Результаты комплексных исследований памятника. – СПб. : Альфарет, 2007. – С. 272–299.

33. Шмидт, Е. А. Курганный могильник у пос. Новосёлки / Е. А. Шмидт // Смоленские древности. – Смоленск : СГПУ, 2005. – Вып. 4 : Курганные могильники VIII–X веков центральной части Смоленского Поднепровья. – С. 5–53.

34. Шмидт, Е. А. Курганные могильники у дер. Купники (Василевщина) / Е. А. Шмидт // Смоленские древности. – Смоленск : СГПУ, 2005. – Вып. 4 : Курганные могильники VIII–X веков центральной части Смоленского Поднепровья. – С. 146–211.

35. Шмидт, Е. А. Заозерье. Археологический комплекс IV–XII веков / Е. А. Шмидт. – Смоленск : Смолен. гос. ун-т, 2008. – 253 с. : ил.

36. Щапова, Ю. Л. Стеклянные бусы древнего Новгорода / Ю. Л. Щапова // Материалы и исслед. по археол. СССР. – № 55. – 1956. – С. 164–179.

37. Lietuvos TSR archeologijos atlasas. 4. I–XIII radiniai. – Vilnius : Mokslas, 1977. – 160 p.

38. Tautavičius, A. Vidurinis geležies amžius Lietuvoje (V–IX a.) / A. Tautavičius. – Vilnius : Lietuvos pilys, 1996. – 367 p. : il.

## Резюме

*Н. А. Плавинский*

### Курганный могильник Опса – памятник финальной стадии культуры смоленско-полоцких длинных курганов на северо-западе Белорусского Подвинья

Курганный могильник Опса известен в научной литературе с конца XIX в. С 1893 по 2010 г. на могильнике Опса был раскопан 21 курган, что составляет примерно четверть от общего количества насыпей.

Курганный могильник Опса является наиболее поздним из всех некрополей культуры смоленско-полоцких длинных курганов в Браславском Поозерье. На последней стадии существования некрополя (в конце X – начале XI в.) произошел приток нового славянского населения. Можно предположить, что коллектив, оставивший могильник в Опсе, ощутил значительно более сильное влияние со стороны пришельцев, чем другие группы автохтонного населения региона. В результате этого могильник в Опсе продолжал функционировать до середины XI в. Этим он отличался от соседних некрополей, где погребения перестали осуществлять уже в начале этого столетия. Вполне вероятно, что коллектив носителей традиций КСПДК, оставивший могильник Опса, мог начать смешиваться с пришельцами и даже мог перенять на заключительном этапе существования некрополя обряд ингумации.

## Summary

*M. A. Plavinski*

### Barrow Cemetery Opsa – Monument of the Final Stage of Smalensk-Polatsk Long Barrow Culture in the North-West of the Belarusian Dzvina Region

Opsa barrow cemetery is known since the end of the $19^{th}$ century. 21 mounds were excavated at Opsa barrow cemetery since 1893 till 2010. Explored barrows are the quarter of total number of the mounds of the cemetery.

Opsa barrow cemetery is the latest among cemeteries of Smalensk-Polatsk Long Barrow Culture in the Braslau Lakeland. New Slavic population appeared in the region during the final phase of functioning of the cemetery (at the end of the $10^{th}$ – in the beginning of the $11^{th}$ century). The community that used Opsa barrow cemetery underwent much more significant influence of newcomers as compared with the other groups of autochthonous population. Therefore the cemetery was in use till the middle of the $11^{th}$ centuries, whereas the neighbouring cemeteries were already abandoned in the beginning of the century. It is highly probable that local community of Smalensk-Polatsk Long Barrow Culture traditions could mix with Slavic migrants and could even adopt inhumation rites.

*Паступіў 22.09.2014 г.*

*УДК 903.4(476.4)«2013»+94(476.5)«2013»*

***И. В. Спирин,** Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения и использования археологического наследия, аспирант (г. Минск, Беларусь)*

# Обследование замков с бастионными укреплениями Оршанского и Могилевского Поднепровья в 2013 году

Сооружения бастионного типа образуют особую группу памятников фортификации. На территории Оршанского и Могилевского Поднепровья они возникают примерно в конце XVI – первой половине XVII в. (нижняя дата требует археологического подтверждения), придя на смену классическим для данной территории деревянно-земляным укреплениям. Суть бастионного фронта состоит в необходимости эффективно противостоять гладкоствольной осадной артиллерии. Данная статья является обзором бастионных крепостей и замков с элементами бастионной фортификации на территории Оршанского и Могилевского Поднепровья.

**Головчинский замок.** Сразу оговоримся, что данный замок ни в коем случае не является бастионным. Представляет собой круглую площадку, размером 88 × 90 м, которая возвышается над поймой небольшой сегодня речки Вабич [11, с. 34] (рис 1). С южной и западной сторон к площадке присыпаны 2 «вывода», между которыми располагалась брама. В данном случае «вывод» – похожая по форме на бастион земляная (возможно, с деревянным каркасом внутри и бревенчатой в прошлом облицовкой) конструкция, отличающаяся от последнего намного меньшими размерами, исключающими установку тяжелых артиллерийских орудий. Скорее всего, раньше «выводов» было больше – от 3 до 4, но сегодня они уничтожены при строительстве склада и тира, которые примыкают к крутым склонам замчища. На Северной окраине замковой площадки сохранились остатки прямоугольного каменного строения с глубоким подвалом, сложенного из брусчатого кирпича в стиле ренессансной кладки [14, с. 208].




Рис. 1. План площадки Головчинского замка

До начала археологических исследований автора на данном памятнике летом 2013 г. контур постройки был практически полностью спрятан, видимыми оставались лишь два небольших участка стен. Так как северная внешняя стена расположена практически на склоне замковой площадки, необходимо было проверить, относится ли данная конструкция к оборонительной системе замка. В ходе раскопок, которые представляли собой расчистку контура постройки и разработку двух шурфов, выяснилось, что не относится. Данная конструкция – подвальное помещение хозяйского дома, который был сильно поврежден, в том числе пожаром, в начале XVIII в.

Таким образом, можно сделать вывод, что Головчинский замок – типичный замок XV–XVI вв. с комплексом деревянно-земляных укреплений, который в какой-то момент было решено усилить, в результате чего и появились «выводы». По неизвестной нам причине реконструкция замка была предельно минимальной: «выводы» имели небольшой размер и располагались лишь с одной стороны. Не был насыпан вал и вырыт ров. Данный памятник интересен как своеобразный симбиоз старых и новых форм фортификации с минимальным проявлением последних.

**Копысский замок.** Судя по данным инвентарей, Копысский замок был перестроен в бастионную фортецию в 1668 г. [13, с. 62] (рис. 2). Крепость имеет клиновидную в плане форму, обращенную острым углом строго на север. Этот острый выступ и два бастиона (западный и восточный) образуют как бы равносторонний треугольник. Помимо этого указанные бастионы соединены валом полукруглой формы, усиленным еще двумя бастионами. Общая длина вала равна примерно 370 м. Размер внутренней площадки относительно невелик – 80 × 60 м в самых широких местах [13, с. 58].

Как уже отмечалось выше, мысовый деревянно-земляной замок стал бастионной крепостью только в последней трети XVII в. Именно этим и объясняется его неканоническая по меркам бастионной фортификации форма, которая является интересной отличительной чертой данной крепости.

Прежде всего обращает на себя внимание северный клиновидный остроугольный выступ, образованный слиянием двух длинных куртин. Площадка данного выступа немного возвышается над куртинами и достаточно велика для расположения на ней артиллерийских орудий. Фактически она заменяет собой бастион, с одной лишь оговоркой – она не прикрывает куртины фланговым огнем. Возможно, с восточной стороны имелся фланк, прикрывавший восточную куртину, в которой была оборудована брама, однако сегодня об этом нельзя говорить наверняка. Исходя из этого, задача по защите куртин



Рис. 2. План Копыси. 1707 г. Публикация И. Н. Слюньковой (оригинал в РГВИА) [12, с. 38]

целиком ложится на крайние восточный и западный бастионы.

Археологическим изучением непосредственно фортификации Копысского замка в разное время занимались Э. М. Загорульский и О. Н. Левко (рис. 3). Так, в 1972 г. Э. М. Загорульским на западном краю «городища» со стороны площадки в вал была врезана траншея длиной 5 м. Ученым было установлено, что высота первоначального вала по отношению к площадке городища достигала 5 м. Второй этап возведения вала, в ходе которого он был расширен и подсыпан еще на 2 м, ученый датировал XVI – первой половиной XVII в. [3, с. 359]. О. Н. Левко в ходе археологических раскопок в 2003 г. удалось установить, кроме прочего, что въезд в замок был вымощен камнем, а брама была деревянной [6, с. 88].

В основном структура памятника сохранилась до наших дней, однако, к сожалению, в настоящий момент из бастионов в относительно хорошем состоянии находятся крайний западный и восточный, а также северный клиновидный выступ. На площадке крайнего восточного бастиона сооружена беседка. Бастионы с южной стороны сильно оплыли, заросли кустарником и деревьями. Следов некогда водяного рва практически не осталось.

***Крепость Горы.*** Горецкая бастионная фортеция в научной литературе известна как замчище Вал [1, с. 8, 17; 7, с. 116]. Замок представляет собой трапециевидной формы площадку (мыс), окруженную валом и усиленную 7 бастионами. Ученые, занимавшиеся изучением данной крепости, склонны считать, что она была построена в конце XVI в. канцлером ВКЛ Львом Сапегой [1, с. 17; 7, с. 116; 12, с. 103]. Общая длина вала составляет примерно 800 м. Высота куртин и бастионов в некоторых местах достигает 20 м [13, с. 103–104]. Единственный, по мнению М. А. Ткачева, въезд в замок располагался с северной стороны между двумя бастионами [13, с. 103]. Отсутствие археологических исследований непосредственно укреплений крепости оставляет

много открытых вопросов. Так, например, польский историк XIX в. М. Балиньский сообщает о деревянном замке с семью башнями [15, с. 580]. Исходя из этого, М. А. Ткачев предположил, что на каждом бастионе располагалось по одной деревянной башне [13, с. 104]. Данное утверждение требует археологической проверки и формально весьма сомнительно, так как на бастионы башни обычно не ставились (так поступали, например, в Московском царстве). Возможно, имелись ввиду так называемые кавальеры, которые увеличивали количество ярусов пушечного боя бастиона, но, в свою очередь, и они были не характерны для данной территории.

Горецкая крепость весьма интересна тем, что, будучи построенной практически на не используемом до этого в качестве объекта фортификации месте, имела неканоническую для бастионного фронта форму, в основе полигона которой обычно лежали простые геометрические фигуры: треугольник, квадрат (прямоугольник), пентагон и т. д. Обычно крепости неправильных с точки зрения бастионной фортификации форм строились на месте уже существовавших замков и городов, имевших архаичную структуру. Будет уместным предположить, что столь необычная форма обусловлена, прежде всего, весьма удачным рельефом местности. Со всех сторон, кроме южной (сторона, с которой примыкает посад), крепость защищают очень высокие валы и естественные водные преграды (хотя форма контура береговой линии, особенно с восточной стороны, наталкивает на мысль о том, что берег был подправлен – выравнен параллельно куртинам крепости).

На довольно известном плане Горецкой крепости (рис. 4), составленном М. А. Ткачевым и размещенном им в книге «Замкі і людзі» [7, с. 103], очертания крепости имеют подковообразную, закругленную форму. Особенно это касается двух северо-западных куртин. На самом деле связывающие бастионы куртины, наоборот, имеют прямую форму. Для бастионной системы данное обстоятельство критично, так как подступы к куртине должны находиться полностью в секторе обстрела с фланков. Изогнутость линии куртины приводит к образованию мертвых зон, недоступных фланкирующему огню, что в данной системе абсолютно недопустимо.

Сегодня памятник имеет довольно хорошую сохранность. Бастионы, их грани и углы, а также ров практически не повреждены и отчетливо выделяются на местности. Археологическое изучение данных элементов крепостного комплекса позволит установить их внутреннюю структуру и инженерные особенности, а также даст наконец ответ на вопрос о том, что имел в ввиду М. Балиньский, говоря о деревянных «баштах» – башнях на бастионах: их деревянную облицовку или что-либо иное.




Рис. 3. План Копысского замка. Автор Э. М. Загорульский [7, с. 227]




Рис. 4. Крепость Горы. План М. А. Ткачева [12, с. 103]

**Шкловский замок.** Из всех описываемых в данной статье замков и крепостей Шкловский замок является наиболее изученным с точки зрения археологии (рис. 5) – практически ежегодно с 2002 г. раскопки проводятся О. Н. Левко. Помимо этого наши знания о Шкловских укреплениях дополняются солидным корпусом письменных источников.

Сам замок представляет собой классическую в плане четырехугольную бастионную крепость (рис. 6). Длина его куртин колеблется от 80 до 100 м. Система искусственных водяных рвов и запруд делала его со всех сторон окруженным водой. Судя по спутниковым снимкам, восточные бастионы были по размеру несколько больше западных. Из-за плохой сохранности объекта говорить что-либо определенное о высоте валов, глубине и ширине рвов не представляется возможным.

Благодаря исследованиям О. Н. Левко нам довольно много известно о внутренней планировке замка и этапах его застройки. Так, опираясь на данные, полученные главным образом в ходе археологических изысканий, ученой определено, что замок функционировал, начиная со второй половины XVI до первой половины XVIII в. Установлены два этапа, в ходе которых производилась застройка территории замковой площадки. Первый, ранний, этап характеризуется деревянными постройками, иногда на каменном фундаменте, которые отапливались глинобитными печами с горшковыми изразцами. Второй этап начинается со второй половины XVII в., когда на территории замчища появляются кирпичные строения с застекленными окнами и разнообразными изразцовыми печами. В отношении валов крепости установлено, что в своей основе они имели деревянные конструкции, а на гребне вала располагались деревянные стены [7, с. 108]. В центре замковой площадки О. Н. Левко были обнаружены остатки известной по инвентарю 1661 г. деревянной башни на каменном фундаменте, которая сгорела во время пожара в 1690 г. [5, с. 172; 8, с. 118]. Еще одно каменное (кирпичное) основание башни размером 5 × 5 м было обнаружено на углу юго-западного бастиона. Оно датируется второй половиной XVII в. Под ним находились еще два уровня таких же площадок, сложенных из брускового кирпича, которые хронологически отнесены О. Н. Левко ко второй половине XVI и первой половине XVII в. Примечательно, что между всеми тремя площадками зафиксированы следы горелого дерева и кирпичный бой – свидетельство того, что башня была сожжена трижды [8, с. 118–119]. Помимо этого ученая точно определила месторасположение двух брам – «старой» (первоначальной) и «новой» (построенной в XVII в. со стороны появившихся посадов). «Старая» брама располагалась в южной куртине, недалеко от юго-западного бастиона, и, очевидно, была надежно им прикрыта. «Новая» была построена в восточной куртине, примерно на середине ее длины [4, с. 65–66].

Несмотря на то, что памятник достаточно хорошо изучен, по словам самой О. Н. Левко, многие вопросы остаются открытыми, и цельной картины смены сооружений замка на всем протяжении его существования на данное время нет [8, с. 119].




Рис. 5. Геодезический план остатков Шкловского замка. Публикация О. Н. Левко [7, с. 214]




Мал. 1. Знаходкі з помнікаў Івань-2 (*1, 2*), Івань-3 (*3, 4, 6*), выпадковая знаходка з ваколіц Слуцка (*5*): *1* – сякерападобная падвеска (бронза); *2* – рамка спражкі (жалеза); *2* – фотаздымак спражкі, падобнай да знаходкі з помніка Івань-2 [27, s. 21, fot. 21, 22]; *3* – фрагмент лунніцы (бронза); *4, 5* – фрагменты падковападобных фібул (бронза); *6* – фрагмент сценкі ляпной пасудзіны са штрыхаванай паверхняй

раменнай гарнітуры, так і дэталлю абутку і былі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы на познім адрэзку познарымскага перыяду і ў эпоху Вялікага перасялення народаў.

Знойдзеная ў Івані-2 рамка ад спражкі адпавядае характарыстыкам тыпу AH-27 паводле Р. Мадыды-Лягуткі, датаванне якога вызначаецца ў межах фазы D – ранняга этапу эпохі Вялікага перасялення народаў [26, s. 67]. У матэрыялах чарняхоўскай культуры падобныя спражкі аб’ядноўваюцца Я. Л. Гарахоўскім у тып В; яны з’яўляюцца на трэцяй, Касанаўскай фазе яе развіцця (прыкладна з 330-х гг.), якая ў цэлым, суадносіцца з фазай $C_3$ познарымскага часу, і застаюцца ў выкарыстанні да фінальнага адрэзку існавання чарняхоўскай культуры ў фазе D1 – да апошніх дзесяцігоддзяў IV ст. уключна [6, с. 44–45; гл. таксама: 15, с. 69].

На тэрыторыі Беларусі спражкі з патоўшчанымі рамкамі былі знойдзены на помніку кіеўскай культуры Верхняга Падняпроўя – Тайманава (карта 1: *8*) [19, с. 311, мал. 90: 10], на селішчы Гарадзішча Мядзельскага раёна (карта 1: *1*) [16, с. 230, 261, рис. 4.16: *1*], на грунтовым могільніку з пахаваннямі вельбарскай культуры Велямічы-1 у Столінскім раёне (па-за пахаваннямі) (карта 1: *6*) [1; 13, с. 44, табл. 46: *11*].

Сякерападобная падвеска мае наступныя памеры: шырыня ніжняй часткі – 2,1 см, даўжыня – 2,8, даўжыня вушка – 1,2, дыяметр адтуліны – 0,2 см (мал. 1: *1*). Лязо сякеркі з абодвух бакоў упрыгожана па перыметры зігзагападобнай лініяй – трэмалай. Краі вышчарбленыя. Знаходка з Івані-2 належыць да падвесак тыпу 3 паводле А. Какоўскага, якія ўваходзяць ва ўжытак не раней за фазу $C_2$ познарымскага часу – каля сярэдзіны III ст. і выкарыстоўваліся да пачатку эпохі Вялікага перасялення народаў уключна [25, s. 101–102]. Гэты тып сякерападобных падвесак характэрны, перадусім, для насельніцтва масламенцкай групы і заходняй часткі чарняхоўскай культуры, а пазней – для старажытнасцей культуры Сынтана дэ Мурэш; радзей яны адзначаюцца ў вельбарскай культуры, дзе ўспрымаюцца пераважна ў кантэксце сувязяў з насельніцтвам паўднёвых культур гоцкага кола [гл.: 4, с. 61, 63, карта 25; 29]. На тэрыторыі Беларусі адзіная вядомая да знаходкі ў Івані-2 сякерападобная падвеска была знойдзена на шматслойным помніку Бухліцкі хутар (карта 1: *7*), дзе яна звязваецца з гарызонтам грунтавога могільніка вельбарскай культуры [1, с. 132, мал. 4/V: *1*].

З мэтай праверкі характару культурных напластаванняў на помніку, па схіле рачнога берагу на задзірванелым участку быў закладзены шурф памерамі 1 × 1 м (карта 2). Культурны пласт прадстаўлены супескам карычневага колеру магутнасцю 0,25 м, цалкам разараны. Мацярык уяўляе з сябе суглінак цёмна-жоўтага колеру. Знаходак у шурфе не адзначана.

Па выніках праведзенага абследавання тып помніка Івань-2 не можа быць вызначаны адназначна. Як паверхневыя зборы, так і атрыманыя ў выніку шурфоўкі даныя, сведчаць аб малой магутнасці культурнага пласта і яго слабой насычанасці масавым матэрыялам, што не дазваляе ўпэўнена інтэрпрэтаваць гэты помнік як селішча. У той жа час характарыстыкі культурных напластаванняў, а таксама знаходка на помніку адразу двух металічных вырабаў, адзін з якіх мае сляды абпалу, могуць указваць на размяшчэнне тут грунтавога могільніка познарымскага часу. Праверка апошняга меркавання патрабуе правядзення на помніку больш маштабных даследчых работ.

**Івань-3.** Месцазнаходжанне матэрыялаў каменнага веку, познарымскага часу, селішча эпохі позняга сярэдневякоўя знаходзіцца за 0,25 км на паўднёвы захад ад в. Івань, месціцца на схіле тэрасы правага берага безыменнай ручаіны – правага прытока р. Лакнея (карта 2). Вышыня над поплавам – 2–3 м. Археалагічныя матэрыялы сустракаюцца ўздоўж берага на ўчастку памерамі прыкладна 45 × 150 м. На разаранай паверхні поля выяўлены 2 абломкі крэменю, 3 сценкі таўстасценных (каля 1 см) ляпных пасудзін жалезнага веку, адна з якіх штрыхаваная (мал. 1: *6*), 14 фрагментаў ганчарных пасудзін эпохі позняга сярэднявекоўя, 1 жужаль.

Тут былі таксама знойдзены фрагменты дзвюх рэчаў кола выемчатых эмаляў: бронзавай лунніцы і бронзавай жа падковападобнай фібулы. Ад лунніцы захаваўся адзін з плечукоў з гняздом акруглай формы і трыма адросткамі-лапаткамі; абломак дэфармаваны, памерамі 2,5 × 2,5 см (мал. 1: *3*). Фрагмент падковападнай фібулы прадстаўлены дыскападобным заканчэннем, у цэнтры якога размешчана маленькае круглае гняздо, абкружанае колцавым паглыбленнем (мал. 1: *4*). Дыяметр дыска складае 1,8 см, таўшчыня – 0,3–0,4 см. На абедзвюх рэчах у паглыбленнях назіраюцца рэшткі чырвонай эмалі.

На падставе наяўнага фрагмента зрабіць дакладнае тыпалагічнае вызначэнне лунніцы з Івані-3 немагчыма. У цэлым лунніцы з эмалямі розных варыяцый шырока прадстаўлены ў гарызонце ўсходнееўрапейска-прыбалтыйскіх эмаляў [23]. На тэрыторыі Беларусі іх знаходкі вядомыя, перадусім, па даследаваннях на эталонным помніку верхнедняпроўскага варыянта кіеўскай культуры – селішчы Абідня (карта 1: 9), дзе знойдзена не менш трох падвесак-лунніц з эмалямі [12]. Сярод аналогій, найбольш блізкіх да знаходкі з Івані-3 тэрытарыяльна і тыпалагічна, трэба адзначыць лунніцу з лапаткападобнымі выступамі з Абідні (карта 1: *9*) [21, с. 179, рис. 63: *3*; 23, рис. 2: *4*] і аналагічную выпадковую знаходку з Мярвінаў у тым жа паўночным Перадпалессі (карта 1: *3*) [24, с. 196, рис. 2: *2*]. Стылістычна ўсе згаданыя падвескі могуць быць аднесены да сярэдняга этапу развіцця рэчаў з выемчатымі эмалямі, храналагічныя рамкі якога ахопліваюць канец II – сярэдзіну–другую палову III ст. [20, с. 118–123], што ў цэлым адпавядае перыяду выкарыстання селішча ў Абідні [22, с. 112].

Фрагмент фібулы, знойдзены ў Івані-3, адпавядае характарыстыкам засцежак серыі V «Грышчынцы–Малышкі–Мяжоніс», згодна з тыпалогіяй Я. Л. Гарахоўскага, якія належаць да найбольш ранняй фазы («А») развіцця падковападобных фібул з эмалямі і датуюцца ў рамках II ст., перадусім – другой яго паловай [5, с. 25, 28–30; гл. таксама: 20, с. 118, 123]. Акрамя прадстаўленай знаходкі з Івані-3, на тэрыторыі Беларусі вядомыя тры месцы выяўлення фібул гэтай серыі: на гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў Малышках, гарадзішчы Ліскі і на тэрыторыі в. Зарэчча Бярозаўскага раёна (выпадковая знаходка) (карта 1: *2*, *10*, *4*) [18, с. 36, рис. 22: 23; 14, с. 96, рис. 4: 11; 2, с. 228, рис. 3: 3].

**Вялікая Сліва-2.** Месцазнаходжанне матэрыялаў каменнага веку, познарымскага часу – эпохі Вялікага перасялення народаў размешчана за 0,8 км на захад ад в. Вялікая Сліва, на тэрасе левага берага р. Вялікая Сліва/Сліўка, на полі (карта 3). Вышыня тэрасы над поплавам складае 3–4 м. Археалагічныя матэрыялы сустракаюцца ўздоўж краю тэрасы на ўчастку даўжынёй 300 м і шырынёй 50–70 м. Знойдзена праколка на адшчэпе (мал. 2: *2*) і 2 адшчэпы, 11 фрагментаў ляпных гладкасценных пасудзін жалезнага веку (таўшчыня сценак 0,5–0,6 см; дамешка дробнай жарствы; шэры, бежавы і светла-жоўты колер) (мал. 2: *3, 4*).

На помніку быў выяўлены таксама фрагмент (спінка) бронзавай фібулы (мал. 2: *1*)[2]. Фібула суцэльналітая, спінка пяцівугольная ў сячэнні, з зацёртымі гранямі, таўшчынёй 0,6–0,7 см. Паверхня спінкі і ножкі па ўсёй даўжыні ўпрыгожана вертыкальнымі насечкамі. Заканчэнне ножкі закругленае з тарца і падкрэсленае дзвюма папярочнымі нарэзкамі. Агульная даўжыня фібулы – 7,1 см, даўжыня ножкі – 3,2 см. Па знешніх прыкметах фібула адносіцца да арбалетных з суцэльным прыёмнікам (тып B2 паводле Я. Л. Гарахоўскага) і датавана 330–430 гг. н. э. [6, с. 35, 44–45].

На помніку Вялікая Сліва-2, за 20 м ад краю тэрасы быў закладзены шурф 1 × 1 м (карта 3). Культурны пласт прадстаўлены супескам шэра-карычневага колеру магутнасцю 0,3 м, падсцілаецца суглінкам цёмна-жоўтага колеру. Знаходак няма.

Таксама фрагменты ляпной керамікі былі знойдзены на тым жа полі, за 0,8 км на поўдзень ад месцазнаходжання Вялікая Сліва-1, на краі тэрасы левага берага старарэчышча р. Случ.

[2] Аўтар выказвае падзяку кандыдату гістарычных навук, дацэнту А. М. Мядзведзеву за дапамогу ў вызначэнні археалагічных матэрыялаў.




Карта 3. Лакалізацыя месцазнаходжанняў археалагічных матэрыялаў Вялікая Сліва-2 (Ш – шурф). Паводле спадарожнікавага здымку сістэмы Google Earth. 2014 г.

За 2,5 км на паўночны ўсход ад в. Вялікая Сліва, ва ўр. Царковішча, справа ад дарогі ў в. Малая Сліва размешчана гарадзішча ранняга жалезнага веку [7; 8; 17, с. 26].

Падчас правядзення разведак у Слуцкім раёне, нам была перададзена выпадковая знаходка – фрагмент бронзавай падковападобнай фібулы з эмаллю (мал. 1: *5*). Артэфакт быў знойдзены ў ваколіцах г. Слуцка, больш дакладная лакалізацыя, на жаль, невядомая. Захаваўся фрагмент дыскападобнага заканчэння з крыжападобным паглыбленнем. Даўжыня абломка – 3,8 см, дыяметр дыска – 2,0, таўшчыня – 0,2 см. Слядоў эмалі не захавалася. Фібула адпавядае характарыстыкам III серыі «Трасцяніца–Чарняхоў» паводле Я. Л. Гарахоўскага, якія належаць да ранняга гарызонту вырабаў з эмалямі і датуюцца пераважна другой паловай II ст. [5, с. 25, 27–28; гл.: 20, с. 118, 123]. Дадзенае храналагічнае вызначэнне пацвярджае знаходка фібулы гэтай жа серыі ў аб’екце 1 на селішчы Давыд-Гарадок (карта 1: *5*), які датуецца другой паловай II – II/III стст. [3, с. 116, мал. 6: *3*].




Мал. 2. Археалагічныя матэрыялы з помніка Вялікая Сліва-2: *1* – фрагмент бронзавай фібулы; *2* – крамянёвая праколка на адшчэпе; *3, 4* – фрагменты ляпных пасудзін

Выяўленне ў 2013 г. падчас разведак па прытоках Случы новых археалагічных помнікаў са знаходкамі познарымскага перыяду – эпохі Вялікага перасялення народаў, сведчыць аб заселенасці Перадпалесся ў гэты час. Мяркуючы па складзе знаходак, рэчы кола выемчатых эмаляў: фрагменты падковападобных фібул і лунніцы з помніка Івань-3 і з ваколіц Слуцка, якія ў сукупнасці датуюцца II–III стст., могуць суадносіцца з мясцовым насельніцтвам, з невызначанай, пакуль што, культурнай прыналежнасцю. Помнік Івань-2, верагодна, з’яўляецца грунтовым могільнікам познарымскага часу, аднак праверка гэтага меркавання патрабуе правядзення дадатковых даследаванняў.

**Літаратура**

1. Белявец, В. Г. Помнікі вельбарскай культуры ў Турава-Пінскім Палессі : праблемы вывучэння / В. Г. Белявец // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск : Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 2007. – Вып. 23. – С. 124–143.

2. Белевец, В. Г. Контакты населения вельбарской культуры и носителей традиции восточноевропейской лесной зоны в Белоруссии: постановка проблемы / В. Г. Белевец // Лесная и лесостепная зоны Восточной Европы в эпохи римских влияний и Великого переселения народов : сб. статей / И. Р. Ахмедов [и др.] ; предисл. А. М. Воронцов, И. О. Гавритухин ; под ред. А. Н. Наумова. – Тула : Гос. музей-заповед. «Куликово поле», 2008. – Вып. 1. – С. 209–237.

3. Бяліцкая, Г. М. Помнік перыяду рымскіх уплываў у нізоўях р. Гарынь / Г. М. Бяліцкая // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2007. – Вып. 23. – С. 107–123.

4. Гопкало, О. В. Бусы и подвески черняховской культуры / О. В. Гопкало. – Киев, 2008. – 252 с.

5. Гороховський, Е. Л. Підковоподібні фібули Середнього Подніпров'я з виімчастою эмаллю / Е. Л. Гороховський // Археологія. – Киев, 1982. – № 38. – С. 16–35.

6. Гороховский, Е. Л. Хронология черняховских могильников лесостепной Украины / Е. Л. Гороховский // Труды V Междунар. конгр. археологов-славистов. – Киев : Наук. думка. – 1988. – Т. 4. – С. 34–46.

7. Дубінскі, С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г. / С. А. Дубінскі // Запіскі аддз. гуманіт. навук Бел. акад. навук, 1930 г. : Працы археалагічнай камісіі. – Т. 2, кн. 11. – С. 510–513.

8. Егорейченко, А. А. Древнейшие городища Белорусского Полесья (VII–VI вв. до н. э. – II в. н. э.) / А. А. Егорейченко. – Минск, 1996. – 149 с.

9. Егорейченко, А. А. Культуры штрихованной керамики / А. А. Егорейченко. – Минск : БГУ, 2006. – 207 с.

10. Егорейченко, А. А. Оружие, снаряжение всадника и верхового коня носителей культуры поздней штрихованной керамики / А. А. Егорейченко // Гіст.-археалаг. зб. – № 23. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2007. – С. 101–106.

11. Егарэйчанка, А. А. Івань / А. А. Егарэйчанка // Археалогія Беларусі : у 2 т. – Мінск : Беларус. энцыкл., 2009. – Т. 1. – С. 378–380.

12. Ільюцік, А. У. Адаменка / А. У. Ільюцік, Л. Д. Побаль // Археалогія Беларусі : у 2 т. – Мінск : Беларус. энцыкл., 2009. – Т. 1. – С. 19–20.

13. Кухаренко, Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья / Ю. В. Кухаренко // Археология СССР : свод археологич. ист. / Акад. наук СССР ; под общ. ред. Б. А. Рыбакова. – М. : Изд-во АН СССР, 1961. – Вып. Д1–29. – 70 с.

14. Лошенков, М. И. К вопросу о бронзолитейном ремесле населения милоградской культуры / М. И. Лошенков, Т. Б. Барцева // Гіст.-археалаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі. – Вып. 6. – Мінск, 1995. – С. 78–104.

15. Магомедов, Б. В. Черняховская культура : проблема этноса / Б. В Магомедов. – Lublin : Wyd-wo Uniw. Marii Curie-Skiodowskieje, 2001. – 290 с.

16. Медведев, А. М. Верхнее Понёманье в железном веке и раннем средневековье / А. М. Медведев. – Минск : Беларуская навука, 2011. – 350 с.

17. Мельниковская, О. Н. Племена южной Белоруссии в раннем железном веке / О. Н. Мельниковская. – М. : Наука, 1967. – 194 с.

18. Митрофанов, А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII–VI вв. до н. э. – VIII в. н. э.) / А. Г. Митрофанов. – Минск : Наука и техника, 1978. – 160 с.

19. Мядзведзеў, А. М. Кіеўская культура / А. М. Мядзведзеў // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал.: М. В. Біч (старшыня) [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 1998–2001. – Т. 2 : Жалезны век і ранняе сярэднявечча / В. І. Шадыра [і інш.]. – 1999. – С. 290–298.

20. Обломский, А. М. Предметы убора с выемчатыми эмалями на территории лесостепной зоны Восточной Европы (дополнение сводов Г. Ф. Корзухиной, И. К. Фролова и Е. Л. Гороховского) / А. М. Обломский, Р. В. Терпиловский // Памятники киевской культуры в лесостепной зоне России (III – начало V в. н. э.). – М., 2007. – Вып. 10. – С. 113–142.

21. Поболь, Л. Д. Поздний этап зарубинецкой культуры. Очерки по археологии Белоруссии / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1970. – Ч. 1. – 272 с.

22. Поболь, Л. Д., Ильютик, А. В. Жилища второй четверти I тыс. н. э. из поселения Абидня (по материалам раскопок 1960 г.) / Л. Д. Поболь, А. В. Ильютик // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2001. – № 3. – С. 102–153.

23. Фролов, И. К. Лунницы с выемчатой эмалью / И. К. Фролов // Из древнейшей истории балтских народов (по данным археологии и антропологии) / отв. ред. Э. С. Мугуревич. – Рига : Зинатне, 1980. – С. 111–124.

24. Харитонович, З. А., Предметы убора с выемчатыми эмалями на территории Беларуси (новые находки) / З. А. Харитонович // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2011. – Вып. 20 : Археалагічныя даследаванні на Беларусі ў 2008 г. – С. 195–199.

25. Kokowski, A. Metalowe węsiorki w krztałcie topora na terenie Barbaricum na połnocny-wschód od limesu rzymskiego, w okresie rzymskim i we wzcesnym okresie wędrówek ludów / A. Kokowski // 20 lat archeologii w Masłomęczu / UMCS ; red.: A. Kokowski. – Lublin : UMCS, 1998. – T. I. – S. 99–116.

26. Madyda-Legutko, R. Die Gürtelschallen der Römischen Kaiserzeit und der frühen Völkerwanderungszeit im mitteleuropäischen Barbaricum / R. Madyda-Legutko // BAR : International Series. – Oxford, 1986. – № 360. – 210 s.

27. Niezabitowska-Wiśniewska, B. Ułów – tajemnica starożytnego Roztocza (siódma wystawa Instytutu Archeologii Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej w Muzeum UMCS). Katalog wystawy. – Muzeum UMCS, Lublin, kwiecień-maj 2007. – 48 s.

28. Перхавко, В. Б. Отчет об археологических исследованиях в Южной Белоруссии в 1976 г. / В. Б. Перхавко // ААНД Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Арх. № 531. – 14 с. : 48 ил.

**Резюме**

*Е. Ф. Касюк*

**Археологические исследования в Слуцком районе Минской области в 2013 году**

В полевом сезоне 2013 г. в результате археологических разведок, проведенных в верховьях Случи (окрестности г. Слуцк), было зафиксировано несколько новых памятников (Ивань-2, 3, Большая Слива-2) с вещами позднеримского периода – эпохи Великого переселения народов. Выявлены украшения круга выемчатых эмалей (II–III вв. н. э.), а также украшения и детали костюма (пряжка, подвеска, фрагмент фибулы).

**Summary**

*A. F. Kasjuk*

**The archaeological research on the territory of Slutsk district of Minsk region in 2013**

In 2013 investigations had place in the upper reaches of the river Sluch (neighborhood of Slutsk). Several settlements with artefacts of the Late Roman and Early Migration Periods were examined at first time (Ivan-2, 3, Bolshaja Sliva-2). Wares of emarginated enamels circle ($2^{th}$–$3^{th}$ centuries AD) as well as ornamentation and costume details (buckle, pendant, fragment of fibulas).

*Пастуniў 22.09.2014 г.*

УДК 903.4(476.6)

***А. В. Колосов,*** *Могилевский государственный университет имени А. А. Кулешова, кафедра археологии и специальных исторических дисциплин, доцент, кандидат исторических наук (г. Могилев, Беларусь)*

# Археологические работы 2013 года на р. Беседь

В 2013 г. археологический отряд МГУ им. А. А. Кулешова под руководством автора продолжил изучение памятников археологии в бассейне р. Беседь на территории Могилевской области[1]. Работы были направлены на поиск и изучение памятников двух восточных районов области – Костюковичского и Хотимского. В результате работ обследована группа стоянок каменного и бронзового веков в окрестностях дд. Белая Дуброва, Березки и Витунь. Обследование памятников позволило уточнить возраст отдельных местонахождений и обнаружить ряд новых памятников. Так, на стоянке Белая Дуброва-4 была собрана коллекция кремневого инвентаря (89 ед.), которая по технико-морфологическим признакам соответствует эпохе финального палеолита–мезолита. Среди находок обнаружены преимущественно продукты расщепления кремня (одно- и двухплощадочный нуклеусы, отщепы, пластины) и незначительное число изделий со вторичной обработкой: концевые и подокруглые скребки, ретушный резец и вкладыш из сечения пластины.

Материалы финального палеолита–мезолита установлены при повторном изучении отдельных местонахождений возле д. Витунь. Среди разновременных находок (386 ед.), собранных на стоянке каменного и бронзового веков Витунь-4, обнаружен ассиметрично-черешковый наконечник стрелы, так называемый вкладыш алтыновского типа. Мезолитический контекст находок присутствует на стоянках Витунь-5А и Витунь-5Б, что в 0,8–1,0 км юго-восточнее кладбища д. Витунь. Оба памятника расположены на удалении 100 м друг от друга, однако если стоянка Витунь-5А расположена на первой надпойменной террасе, то находки стоянки Витунь-5Б собраны в песчаных раздувах коренного берега. Среди собранных материалов на стоянке Витунь-5А (614 ед.) и Витунь-5Б (45 ед.) присутствуют находки регулярных пластин и микропластин, отдельные из которых имеют ретушь по краю. Кроме этого, на стоянке Витунь-5А обнаружен наконечник стрелы гренского типа из пластины.

В ходе работ были найдены новые местонахождения каменного и бронзового веков – Витунь-6 и Витунь-7. На стоянке Витунь-6 были собрано 183 находки: отщепы, пластины, нуклеусы, концевые скребки, скребло, проколка, резец ретушный, обломок пера от наконечника стрелы или ножа, обработанного с двух сторон плоской ретушью, фрагменты лепной керамики, орнаментированной оттисками ямок, расположенных в шахматном порядке и нанесенных на выровненную с помощью расчесов гребня поверхность. Контекст обнаруженных в Витунь-6 находок свидетельствует о неолитическом возрасте памятника. Следы еще двух местонахождений каменного века обнаружены около д. Березки на территории Хотимского района.

С учетом полученных данных, для детализации вопросов культурной принадлежности и временных рамок изученных памятников, на одном из них было решено провести раскопки. В качестве объекта исследования была избрана стоянка Витунь-5А. Памятник расположен на первой надпойменной террасе правого берега р. Беседь, в 0,8 км юго-восточнее кладбища (юго-восточная окраина д. Витунь), в 0,1 км юго-восточнее карьера. Высота памятника (площадка террасы) относительно меженного уровня воды в реке составляет 4 м, абсолютная – 146 м. Поверхность террасы относительно ровная, слабо наклонена в южном направлении, в сторону русла реки. Только напротив карьера, на поверхности террасы, прослеживаются слабые всхолмления и западины котлообразной формы, что является следствием разрушения берега в 1990-е гг. работавшей здесь техникой по добыче песка.

По краю террасы на расстоянии 10–15 м вдоль границы леса пролегает противопожарная полоса, в которой предварительно был произведен сбор подъемного материала, позволивший нам еще в 2012 г. обнаружить здесь стоянку [3, с. 311–312]. По месту концентрации находок в 2013 г. между бровкой террасы и противопожарной полосой был заложен относительно небольшой по размерам раскоп – 2 × 10 м.

Раскоп был ориентирован вдоль бровки террасы, т. е. по линии юго-запад–северо-восток. В результате работ стало очевидным, что пред нами очередной памятник каменного века, стратиграфия которого не выражена, и культурный слой в данном случае может быть определен весьма условно по границам вертикального распространения найденных артефактов. Поэтому верным будет вести речь не о стратиграфии памятника, а о пространственном распределении вещевого материала в почвенном профиле, который для стоянки Витунь-5А можно

[1] Исследования проводились в рамках выполнения планового задания «Верхнее Поднепровье в эпоху культурно-исторических трансформаций на рубеже плейстоцена – голоцена», включенного в Государственную комплексную программу научных исследований «История, культура, общество, государство» на 2011–2015 гг. (№ госрегистрации 20112350 от 08.08.2011 г.).

описать следующим образом (описание дается сверху вниз): под слоем дерна мощностью 0,05–0,07 м идет подзолистый горизонт, который на глубине 0,15–0,20 м от дневной поверхности подстилается песком желтого цвета (иллювиальный горизонт), прокопанным на глубину до 1 м.

Во время раскопок было пройдено восемь условных горизонтов, т. е. фактически до тех пор, пока встречались находки; при этом первые артефакты были встречены сразу под слоем дерна. Однако результаты статистического анализа находок по каждому из изученных слоев показывает максимальное их распространение на глубине 0,2–0,4 м, на контакте подзолистого и иллювиального горизонтов почвы. Так, если в первом слое обнаружены 514 находок, то во втором слое их количество увеличилось в 3,5 раза и составило 1842 ед., а в слое 3 – 2235. В следующих слоях отмечалось резкое падение числа находок: в слое 4 их было собрано уже 812 ед., в слое 5 – 273, в слое 6 – 177, в слое 7 – 102, а в слое 8 – 42 ед.

В результате раскопок на стоянке Витунь-5А собрано 5997 находок. Обнаружены исключительно изделия из кремня. В пределах раскопа четких локализаций находок не наблюдалось: по всей исследуемой площади они были распределены равномерно с заметным увеличением их количества в северо-восточном направлении. Здесь концентрация артефактов достигла более 670 ед. на м$^2$. В целом же, количество находок на квадрат составило от 82 (кв. А-2) до 677 ед. (кв. Б-10), в среднем – 300 ед. Такая высокая плотность вещевого материала в пределах небольшой площади (всего 20 м$^2$) является не случайной, о чем будет сказано ниже. Теперь перейдем к характеристике полученного нами кремневого инвентаря.

Итак, как было отмечено ранее, в итоге раскопок была получена достаточно представительная коллекция артефактов. Выделено пять основных групп кремневого инвентаря: 1) осколки кремня без видимых следов искусственной обработки – 49 ед., или 0,82 % находок всей коллекции; 2) продукты расщепления кремня – 3506 ед. (58,5 %); 3) мелкие осколки и чешуйки кремня – 2239 ед. (37,3 %); 4) орудия для орудийного производства (ретушеры) – 2 ед. (0,03 %); 5) изделия со вторичной обработкой – 201 ед. (3,4 %).

Для производства орудий населением стоянки использовался меловой кремень местного происхождения. Это желваки или естественные осколки кремня овально-уплощенной формы и небольших размеров (длиной в среднем до 40–45 мм при ширине 30 мм и толщине до 20–25 мм). Из находок численно преобладают продукты расщепления кремня – 3506 ед. (58,5 % от всех находок), а среди них доминирующее положение занимают отщепы – 2758 ед. (46,4 %), далее идут пластины – 717 ед. (12,1 %), нуклеусы и их обломки – 31 ед. (0,5 %). Мелких осколков и чешуек кремня – 2239 ед. (37,6 %).

Среди нуклеусов доминируют одноплощадочные формы – 18 ед., при незначительном количестве двухплощадочных (8 ед.), аморфных (4 ед.) экземпляров и одном нуклевидном обломке (см. рис. 4: *6–9*). Если в целом характеризовать нуклевидную группу стоянки Витунь-5А, то можно выделить следующие черты: 1) на скалывающих поверхностях нуклеусов преобладают негативы от пластинчатых сколов, снятых преимущественно в одной плоскости ядрища. Только в двух случаях в технике расщепления был использован принцип кругового скалывания заготовок. Отдельные нуклеусы характеризуются регулярной системой снятия пластин и микропластин (см. рис. 4: *6*); 2) ударные площадки нуклеусов скошены в сторону контрфронта. Угол между ударной площадкой и скалывающей поверхностью составляет 70–90°; 3) контрфронт основной части нуклеусов не оформлен и сохраняет естественную (корочную) поверхность желвака. В некоторых случаях контрфронт нуклеуса оформлен в виде ребра с помощью поперечных сколов, нанесенных с одной или двух боковых сторон ядрища (см. рис. 4: *7*). Таким образом, тыльная сторона нуклеуса в поперечном сечении имеет клиновидную форму.

Основная часть сколов, снятых с нуклеусов (в основном отщепы), характеризуется аморфностью форм. Исключение составляют пластины и микропластины, сохраняющие правильную, в большинстве случаев – регулярную огранку. Среди отщепов преобладают сколы коротких (в среднем до 30–35 мм), широких и тонких пропорций. Параметры большинства пластин соответствуют длинным (в среднем до 40–45 мм), узким и тонким сколам.

Орудийный комплекс образует 201 изделие, что составляет 3,4 % от всех находок. При этом следует учесть, что морфологически выраженных орудий, без учета числа изделий случайных форм (отщепы и пластины с ретушью) в 1,5 раза меньше – 143 ед. (2,4 %). Большая часть, а это 117 ед. (58,4 %), орудий изготовлена из отщепов. Пластинчатые заготовки были использованы в 77 случаях, что составляет 38,1 % среди всех изделий со вторичной обработкой. Заготовками для двух орудий послужили осколки кремня, тип заготовки для пяти орудий не установлен.

Среди морфологически выраженных орудий количественно преобладают скребки (56 ед., или 27,9 % внутри группы орудий) (рис. 3: *7–17*), а среди них – изделия концевых форм с дугообразным, прямым и скошенным лезвием (44 ед.), подокруглые (6 ед.), двойные (3 ед.) и боковой скребки. Два изделия фрагментированы. Большая часть скребков (47 ед.) изготовлена из отщепов, количество скребков из

пластинчатых заготовок ничтожно мало́ (всего 7 ед.), чего не скажешь о следующей группе орудий – вкладышевых изделиях (рис. 1: *1–14, 18–26*; см. рис. 4: *3*).

Эта группа находок проявляет заметную вариабельность по формам, способам обработки и типам использованной заготовки. В первом случае вкладышевые изделия можно разделить на две группы. Первую группу образуют многочисленные (32 ед.) изделия из сечений пластин и микропластин. Среди них можно выделить: 1) вкладыши из сечений пластин и микропластин с нерегулярной ретушью по краям – 16 ед. (см. рис. 4: *3*); 2) вкладыши из микропластин с затупленным ретушью краем – 9 ед. (рис. 1: *1–6, 9*); 3) вкладыши из микропластин с затупленным ретушью дистальным концом или основанием – 4 ед. (рис. 1: *10–12, 14*); 4) вкладыши из пластин и микропластин с затупленным ретушью концом и основанием – 1 ед. (рис. 1: *13*); 5) вкладыш с затупленным ретушью краем и скошенным ретушью дистальным концом – 1 ед. (рис. 1: *7*); 6) вкладыш с затупленным ретушью краем и основанием – 1 ед. (рис. 1: *8*).

Вторая группа представлена вкладышами геометрических форм, приближенных к трапеции (рис. 1: *18–26*). В коллекции насчитывается 12 таких изделий, среди которых выделяются 9 трапеций средневысокой и 3 – высокой форм.

Таким образом, в совокупности вкладышевых изделий на стоянке Витунь-5А насчитывается 44 ед., что составляет 21,9 % всего орудийного комплекса. По типу заготовки для вкладышей были использованы 24 пластины, 14 микропластин и 5 отщепов. Для одного изделия тип заготовки не определен.

Следующую по численности группу орудий представляют резцы (20 ед., или 10 %) (рис. 2). Доминирующее положение в группе резцов занимают орудия на сломе заготовки (11 ед.) и ретушные резцы (8 ед.). Одним экземпляром представлен двугранный (срединно-угловой) резец. В качестве заготовок для резцов послужили отщепы (14 ед.), доля использования пластин в данном случае была незначительной – из них изготовлено всего 6 орудий. При этом нельзя исключать, что некоторые резцы на сломе пластинчатых заготовок могли использоваться в качестве вкладышей, о чем свидетельствует нерегулярная ретушь по одному из краев изделий (рис. 2: *4–5*). Для одного из резцов, очевидно, был использован фрагмент наконечника стрелы со сломанным пером и черешком (рис. 2: *6*).

Остальные группы находок, обнаруженных на стоянке Витунь-5А, образуют небольшие серии. Среди них – изделия с выемкой (8 ед.), проколки, сверла и развертка (6 ед.) (рис. 3: *1–6*). Единичными экземплярами представлены острие на пластине (рис. 1: *15*), скребок-нож на отщепе, бифасиальный топорик из осколка кремня (рис. 4: *10*), долотовидное орудие из отщепа и обломок неопределенного орудия. В коллекции также имеется три наконечника стрелы (рис. 1: *16–17*). Два наконечника с обломанным пером изготовлены из пластин и имеют четко выделенный черешок со стороны спинки предмета. (Не исключено, что один из описанных нами предметов мог использоваться в качестве развертки и никакого отношения к наконечнику стрелы не имеет (рис. 1: *17*).) Форма третьего наконечника стрелы задана путем двухсторонней обработки. Это изделие треугольной формы с выемкой в основании.

Таким образом, в технике вторичной обработки население стоянки Витунь-5А использовало преимущественно крутое и полукрутое ретуширование, направленное на формирование, подправку или изменение формы орудий. Фактически 90 % заготовок орудий обработано именно путем ретуширования (скребки, вкладышевые изделия, изделия с выемкой, проколки, развертка, острие) и только 8 % изделий свидетельствуют об использовании техники резцового скола (резцы) и еще 2 % – техники оббивки (рубящие орудия).

Типологический состав основной части материалов стоянки Витунь-5А свидетельствует о мезолитическом возрасте памятника. Аналогии кремневому инвентарю стоянки мы видим в материалах бутовской (заднепилевской – по А. Н. Сорокину) мезолитической культуры междуречья Волги и Оки [4, 5]. Витуньское поселение с этим культурным явлением сближает наличие пластин и микропластин с регулярной огранкой, одноплощадочных нуклеусов с монофронтальной и круговой системой снятия пластинчатых сколов, отдельные типы орудий, в первую очередь – вкладышевые изделия (вкладыши из сечений пластин, микролиты с затупленным краем, концом и/или основанием), резцы на сломе заготовки, черешковые наконечники стрел.

Однако на фоне памятников бутовской культуры коллекция стоянки Витунь-5А проявляет некоторое своеобразие за счет низких индексов пластинчатости всей коллекции и орудийного комплекса в частности. В первом случае индекс пластинчатости равен всего 0,2; в свою очередь, индекс пластинчатости орудий составляет 0,7 (и то он выражен по наличию представительной серии микролитов из пластин). Заметны различия и в процентном соотношении отдельных типов орудий труда, отдельные из которых определяют культурную специфику бутовских технокомплексов [4, 5]. В этом отношении следует указать на достаточно представительную серию геометрических микролитов – средневысоких и высоких трапеций (12 ед.), микролитов с затупленным краем, концом и/или основанием (16 ед.), что может являться, с одной стороны, примером функциональной специфики стоянки, с другой – хронологическим показателем. Ведь появление трапеций и широкое распространение микролитов




Рис. 2. Резцы (*1–14*). Кремень. Стоянка Витунь-5А. 2013 г.




Рис. 1. Кремневый инвентарь стоянки: *1–6*, *9* – микропластины с затупленным ретушью краем; *7* – микропластина с затупленным ретушью краем и дистальным концом; *8* – микропластина с затупленным ретушью краем и основанием; *10*, *11* – микропластины с затупленным ретушью основанием; *12*, *14* – микропластина с затупленным ретушью дистальным концом; 15 – острие; 16 – наконечник стрелы (фрагмент); *17* – наконечник стрелы или развертка; *18–26* – трапеции. Стоянка Витунь-5А. 2013 г.




Рис. 4. Кремневый инвентарь стоянки: *1* – скол переоформления ударной площадки нуклеуса; *2, 4–5* – пластины; *3* – вкладыш из сечения пластины; *6–9* – нуклеусы; *10* – рубящее орудие (топорик). Стоянка Витунь-5А. 2013 г.




Рис. 3. Кремневый инвентарь стоянки: *1* – развертка; *2–6* – проколки и сверла; *7–17* – скребки. Стоянка Витунь-5А. 2013 г.

в индустриях бутовской культуры рассматриваются в качестве основных критериев для выделения позднего этапа в развитии данного культурного явления, соответствующего бореальному периоду.

Нельзя не отметить механическую примесь разновозрастных находок в коллекции стоянки Витунь-5А. В частности, находка треугольного наконечника стрелы с выемкой в основании относится по времени к эпохе неолита. Этим периодом следует датировать и нуклеусы от широких пластинчатых сколов с вогнутой (седловидной) и фасетированной по краю ударной площадкой. Не исключено, что часть собранных в раскопе трапеций также не связана с мезолитическим контекстом находок, так как микролиты этого типа встречаются и на неолитических стоянках Посожья [1, 2]. Кроме этого, как отмечалось ранее, в подъемном материале, собранном в противопожарной полосе восточнее раскопа, обнаружен ассиметрично-черешковый наконечник стрелы (гренский тип), который свидетельствует о более раннем освоении человеком окрестностей д. Витунь еще в финальном палеолите.

Однако ответить на вопрос о том, какой процент изделий вообще может быть связан с неолитическим или каким-либо другим иновозрастным комплексом находок, не представляется возможным. Особенно это касается изделий, которые относятся к числу массовых находок и формы которых были распространены повсеместно на протяжении каменного и бронзового веков (скребки, резцы, изделия с выемкой и т. д.). Если действительно речь идет не о случайных находках, а о присутствии на памятнике нескольких механически наложенных друг на друга разных по времени комплексов, вследствие неоднократного посещения стоянки, тогда высокая плотность находок в пределах раскопа стоянки Витунь-5А вполне может быть объяснима. Только решить это материалами небольших по площади раскопок сейчас нельзя. Поэтому определение статуса исследованного памятника, источниковедческой пригодности полученной на нем коллекции находок для выяснения реальной картины заселения данного участка берега р. Беседь в каменном веке определяет перспективы будущих полевых изысканий.

**Литература**

1. Калечиц, Е. Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии / Е. Г. Калечиц. – Минск, 1987. – 158 с.

2. Колосов, А. В. Археологические древности Могилевского Посожья : по материалам экспедиций 2002–2008 гг. / А. В. Колосов. – Могилев, 2009. – 264 с.

3. Колосов, А. В. Археологические работы 2012 года в Посожье / А. В. Колосов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. арт. – Мінск, 2014. – Вып. 25. – С. 307–312.

4. Кольцов, Л. В. Мезолит Волго-Окского междуречья: памятники бутовской культуры / Л. В. Кольцов, М. Г. Жилин. – М. : Наука, 1999. – 155 с.

5. Сорокин, А. Н. Бутовская мезолитическая культура / А. Н. Сорокин. – М., 1990. – 220 с.

**Рэзюмэ**

*А. У. Коласаў*

**Археалагічныя работы 2013 года на р. Беседь**

Падводзяцца вынікі археалагічных работ, праведзеных у 2013 годзе на тэрыторыі Касцюковіцкага і Хоцімскага раёнаў Магілёўскай вобласці. Абследаваны шэраг помнікаў археалогіі, матэрыялы даследаванняў прадстаўлены знаходкамі ад фінальнага палеаліту да позняга сярэдневякоўя ўключна. На стаянцы Вітунь-5А (Касцюковіцкі раён) праведзены раскопкі на плошчы 20 м$^2$. Была атрымана калекцыя крамянёвага інвентару (звыш 5,9 тыс. адз.), якая характарызуе мезалітычны этап засялення тэрыторыі помніка насельніцтвам бутаўскай культуры.

**Summary**

*A. V. Kolosov*

**Archaeological Works of the Besed River in 2013**

The article summarizes the results of archaeological works on the territory of Kostyukovichi and Chotimsk districts of Mogilev Region in 2013. The author researched archaeological monuments which belong to different ages from the Late Paleolithic Age to the Late Middle Ages inclusively. The excavations were made on the site Vitun-5A (Kostyukovichi district). The area of these excavations is 20 sq. km. The main volume of the discovered material which includes 5.9 thousand items characterizing the Mesolithic stages of the settlement of the site by the population of the Butovo culture.

*Поступила 26.09.2014 г.*

*УДК [902.21+903/904«631/637»](476)*

***М. М. Крывальцэвіч,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Вынікі археалагічных разведак у зоне будаўніцтва Петрыкаўскага горна-абагачальнага комплексу

Археалагічныя разведкі ў зоне будаўніцтва Петрыкаўскага горна-абагачальнага комплексу ажыццяўляліся ў 2012 г. пад кіраўніцтвам аўтара пры ўдзеле М. М. Чарняўскага, В. С. Вяргей і А. Ф. Касюк. Даследаванні праводзіліся ў адпаведнасці з дамовай Інстытута гісторыі НАН Беларусі і ААТ «Белгорхімпром». Мэта разведак – выяўленне не ўлічаных помнікаў археалогіі на землях, якія адводзіліся пад будаўніцтва.

Асноўныя будаўнічыя аб’екты Петрыкаўскага горна-абагачальнага комплексу павінны размясціцца ў правабярэжжы р. Бобрык, на поўдзень, паўднёвы ўсход і ўсход ад в. Слабада і пас. Слабадскі Смятаніцкага с/с Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. Будаўніцтвам закраналіся таксама землі ўздоўж левага берага ракі ў накірунку станцыі Муляраўка і на поўдзень ад Слабады да паўночных ускраін Петрыкава. Паводле будаўнічых праектаў, землянымі працамі пераўтваралася частка поймы і прырэчных тэрас р. Бобрык – аднаго з левых прытокаў Прыпяці. Мясцовасць знаходзіцца ў межах Прыпяцкага Палесся. Рэчышча р. Бобрык спрамлена ў савецкія часы падчас меліярацыі. Пойма і прырэчныя прасторы ўяўляюць сябе меліяраваныя тарфяныя нізіны і раўніны з палямі і рэшткамі сасновых ляскоў на ўзвышшах.

У археалагічнай літаратуры і ў архіўнай дакументацыі адсутнічалі якія-небудзь звесткі аб помніках археалогіі непасрэдна на тэрыторыі запланаванага будаўніцтва. Неабходнасць правядзення разведак вынікала з даных пра заселенасць каля р. Бобрык і яе прытокаў у першабытныя і сярэдневяковыя часы, у тым ліку на сумежных з зонай будаўніцтва землях.

У прыватнасці, помнік неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў і больш позніх перыядаў Коржаўка-1 даследаваўся М. М. Крывальцэвічам сумесна з В. С. Вяргей і В. Г. Беляўцом у 2008 г. шляхам паверхневых збораў і раскопу (28 $м^2$) каля в. Коржаўка (Смятаніцкі с/с, Петрыкаўскі раён). Помнік знаходзіцца праз 0,8–1,0 км на поўдзень ад в. Коржаўка і каля 0,5 км на паўднёвы захад ад керамзітнага завода, ля аснавання нізкай левабярэжнай тэрасы р. Бобрык. Адзначаліся матэрыялы ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры, помнікаў са шнуравой керамікай палескага тыпу, эпохі жалеза. Артэфакты збіраліся на ўзвышаным участку поля (вышыня крыху большая за 2 м над нізкай поймай р. Бобрык). Знаходкі лакалізаваліся на плошчы каля 50 × 40 м. Закладаўся раскоп, у якім прасочваўся культурны пласт магутнасцю да 0,5–0,6 м і рэшткі аб’ектаў у выглядзе трох ям. У калекцыі 2008 г. з Коржаўкі-1 налічваецца 65 крамянёвых вырабаў з першаснай і другаснай апрацоўкай, болей за 150 фрагментаў неалітычнай керамікі ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры, 8 фрагментаў шнуравой керамікі палескага тыпу, якая аздаблялася вусеневымі, шнуравымі арнаментамі, лінейнымі штампамі, 45 фрагментаў посуду жалезнага веку, у тым ліку мілаградскай культуры.

Побач з в. Міхедавічы (Бабуніцкі с/с, Петрыкаўскі раён), на правабярэжжы р. Бобрык, у торфе, каля Грабаўскай канавы выпадкова знаходзілі асобныя артэфакты, якія У. Ф. Ісаенка аднosіў да неалітычнага перыяду [5].

На пясчаных выдзьмах паўднёвай ускраіны в. Міцуры (Конкавіцкі с/с, Петрыкаўскі раён) збіраліся крамянёвыя вырабы і неалітычная кераміка. Сярод знаходак – 11 фрагментаў керамічнага посуду ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры [1, с. 25; 2, с. 37].

За 0,4 км на паўднёвы ўсход ад в. Востраў (Смятаніцкі с/с, Петрыкаўскі р-н), недалёка ад Курыціцкай канавы (каналізаваны правы прыток р. Бобрык) быў выпадкова знойдзены невялікіх памераў арнаментаваны гаршчок тшцінецкага тыпу, які ў 1975 г. І. Сітніца перадаў у Нацыянальны гістарычны музей (г. Мінск). У 1975 г. на месцы знойдзенага гаршка У. Ф. Ісаенка збіраў некаторыя іншыя артэфакты, якія ён адносіў да бронзавага веку [3, с. 90; 4].

Захаваліся звесткі пра помнікі жалезнага веку і сярэдневяковага перыяду ўздоўж р. Бобрык і яе прытокаў. У нізоўях р. Бобрык, каля в. Міцуры, адзначаліся дзве курганныя групы дрыгавічоў (2 і 15 насыпаў), раскопкі на якіх у 1889 г. праводзіў В. З. Завітневіч. У курганах былі знойдзены пахаванні, якія здзяйсняліся па абрадзе трупапакладання [7, с. 175–176]. Тры курганныя могільнікі ў свой час знаходзілі каля Капцевічаў: на паўночнай ускраіне вёскі (15 насыпаў); за 2 км на паўночны захад (2 насыпы); праз 3,5 км на захад (33 курганы) [7, с. 175]. Два курганы размяшчаліся на ўсходняй ускраіне в. Брынёў [2]. Курганны могільнік з 9 насыпаў знаходзіцца праз 4 км на захад ад в. Вялікія Сялюцічы [2]. Побач з Вялікімі Сялюцічамі, паводле Л. Д. Побаля, было гарадзішча жалезнага веку [8, с. 277]. Сабра-

ныя звесткі, безумоўна, сведчылі пра заселенасць басейна р. Бобрык у першабытныя часы і ў сярэдневяковы перыяд.

Пры правядзенні разведак тры новыя месцазнаходжанні (Слабада-1, -2, -3) былі выяўлены ў 2012 г. на тэрыторыі будаўніцтва вадасховішча тэхнічнай вады (мал. 1). Вадасховішча планавалася размясціць на правабярэжжы р. Бобрык, за некалькі соцень метраў на паўднёвы ўсход ад паўднёвых ускраін в. Слабада і ва ўсходнім накірунку ад пас. Слабадскі, у межах меліяраванай поймы і параўнальна вялікага ўчастка (на працягу каля 1,2 км) ускраін правай узвышанай і пагоркавай тэрасы ракі.

**Слабада-1.** Сляды месцазнаходжання матэрыялаў каменнага і жалезнага вякоў адзначаліся каля 0,6–0,7 км на паўднёвы ўсход ад паўднёвай ускраіны в. Слабада і моста праз р. Бобрык, на ўзвышаным участку правай тэрасы ракі (мал. 1). Вышыня тэрасы над узроўнем поймы ў гэтым месцы – крыху болей за 2 м. На месцы яе знаходжання, бліжэй да края рачной тэрасы, на плошчы каля 40 × 20 м, у заходнім накірунку ад невялікага сасновага ляска, на полі збіраліся крамянёвыя вырабы і фрагменты ляпной керамікі. У склад сабранай калекцыі ўвайшлі наступныя знаходкі: крамянёвы адшчэп з участкам рэтушы; крамянёвы абпалены адшчэп; 6 фрагментаў гладкасценнай керамікі з жарствой (жалезны век); фрагмент неалітычнай ляпной керамікі. Акрамя таго, сустракаліся рэшткі ганчарнага посуду канца XIX – пачатку XX ст. Знаходкі размяшчаліся разрознена і не стваралі якіх-небудзь канцэнтрацый.

На паўночна-заходняй ускраіне плошчы збораў, бліжэй да схілу рачной тэрасы быў закладзены шурф 1 памерамі 2 × 2 м. У профілях прасочваўся ворыўны глебавы пласт аднароднай афарбоўкі (таўшчыня да 30 см), які падсцілаўся жоўтым дробназярністым мацерыковым пяском. У верхнім гарызонце ворыўнага пласта былі знойдзены два фрагменты ляпной керамікі з дробнай жарствой (жалезны век).

Сярод знаходак пераважалі фрагменты ляпной керамікі жалезнага веку (8 экз.). Кераміка гладкасценная. На ўнутранай паверхні двух фрагментаў – ледзь заўважныя сляды прыцірання. У якасці адтлушчальніка выкарыстоўвалася жарства дробных і сярэдніх памераў. Таўшчыня сценак – ад 0,8 да 1,2 см. Найбольш верагодна, некаторыя фрагменты керамікі адносяцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку. У складзе калекцыі ёсць два крамянёвыя артэфакты: абпалены адшчэп і адшчэп з участкам рэтушы. Да неалітычнага перыяду можна аднесці адзін фрагмент тонкасценнай керамікі са слядамі прыцірання ўнутранай паверхні.

**Слабада-2.** Сляды месцазнаходжання артэфактаў каменнага і жалезнага вякоў адзначаліся каля 0,7–0,8 км на паўднёвы ўсход ад паўднёвай ускраіны в. Слабада і моста праз р. Бобрык, на ўзвышаным участку правай тэрасы ракі (мал. 1). Размяшчаецца прыблізна за 200 м на паўночны ўсход ад пункта Слабада-1 і праз 50 м на ўсход ад сасновага ляска, які і раздзяляе пункты Слабада-1 і Слабада-2. Вышыня тэрасы над рачной поймай болей за 2 м. Знаходкі адзначаліся на плошчы каля 50 × 20 м уздоўж уступу надпоймавай тэрасы. Яны размяшчаліся разрознена і не стваралі якіх-небудзь канцэнтрацый. У матэрыялах паверхневых збораў пераважалі фрагменты сценак гладкасценнай ляпной керамікі жалезнага веку (6 фрагментаў). Кераміка рабілася з выкарыстаннем жарствы дробных і сярэдніх памераў. Таўшчыня сценак – ад 0,8 да 1,0 см. Сярод іншых знаходак – крамянёвы адшчэп з участкам рэтушы. Адзначаліся таксама фрагменты сценак, венца і шыйкі ганчарнай керамікі XIX – пачатку XX ст., абломак белаглінянай тытунёвай люлькі са скразной круглай адтулінай.

**Слабада-3.** Матэрыялы каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў былі знойдзены за 1,2–1,3 км на паўднёвы ўсход ад паўднёвай ускраіны в. Слабада і моста праз р. Бобрык, на ўзвышаным участку правай тэрасы (мал. 1, 2). Была выяўлена прыблізна за 500 м на ўсход ад пункта Слабада-2, на полі, якое цягнецца ўздоўж паўднёва-ўсходняй ускраіны лесу, а таксама на пагоркавай ускраіне тэрасы ў межах сасновага лесу. Вышыня тэрасы – каля 2,5–3,0 м над узроўнем поймы р. Бобрык. Большасць знаходак лакалізавалася на полі, па ўзвышаным краі тэрасы, на паўднёвы ўсход ад ляска, на плошчы каля 120 × 50 м (мал. 2). Самая высокая канцэнтрацыя знаходак назіралася на ўсходняй ускраіне зарэгістраванай тэрыторыі месцазнаходжання, на невялікім пагоркавым узвышэнні памерамі каля 50 × 10 м, дзе закладаўся шурф 1 (2 × 2 м). У паўночна-заходнім накірунку, на пагорку ў лесе, недалёка ад краю надпоймавай тэрасы распрацоўваўся шурф 2 (1 × 1 м). Шурфам 3 (2 × 2 м) даследавалася ўсходняя ўскраіна тэрыторыі месцазнаходжання.

У выніку паверхневых збораў знойдзены наступныя артэфакты: крамянёвая пласціна з рэтушаванымі выемкамі на двух супрацьлеглых краях; крамянёвы абпалены адшчэп; фрагмент керамікі позняга неаліту з арнаментам у выглядзе насечак (дамешкі шамота ў гліне, гладкая паверхня); пяць фрагментаў гладкасценнай керамікі з дробнай жарствой (мілаградская культура ?).

*Шурф 1* (2 × 2 м). Шурфам даследавалася ўзвышаная ўсходняя частка месцазнаходжання (мал. 1). У профілях сценак прасочваўся ворыўны глебавы пласт аднароднага цёмна-шэрага колеру (таўшчыня ад 20 да 30 см), ніжэй якога залягаў падглебавы пясок з асобнымі ўключэннямі шэрага супеску. Таўшчыня другога пласта дасягала 30 см. Ён падсцілаўся дробназярністым пяском. Знаходкі, а гэта




Мал. 1. Схематычны план размяшчэння месцазнаходжанняў Слабада-1, -2, -3 і шурфаў уздоўж правай надпоймавай тэрасы р. Бобрык: *1* – шурфы; *2* – зона распаўсюджання знаходак; *3* – узвышэнне на месцазнаходжанні Слабада-3



Мал. 2. Выгляд месцазнаходжання Слабада-3 з паўднёвага ўсходу. 2012 г.




Мал. 3. Кераміка тшцінецкага культурнага кола эпохі бронзы (*1–3*). Шурф 1. Слабада-3

былі фрагменты тшцінецкага посуду эпохі бронзы (мал. 3), залягалі ў падглебавым пяску з уключэннямі шэрага супеску ў межах глыбіні 0,40–0,55 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні. Там жа адзначаліся вугольчыкі і іх канцэнтрацыі. Вугаль бралі на радыевугляродны аналіз.

У шурфе было знойдзена 14 фрагментаў керамікі тшцінецкага культурнага кола эпохі бронзы. Адзначалася 10–11 абломкаў ад адной тшцінецкай пасудзіны, якая аздаблялася шэрагамі адбіткаў ружанцовага штампа (мал. 3: *1*, *2*), а таксама 3 фрагменты ад іншага гаршка, у аздабленні якога праглядаўся пракрэслены арнамент (мал. 3: *3*). Першая пасудзіна, паводле рэканструкцыі верхняй часткі, была гаршком з патоўшчаным і крыху адагнутым вонкі краем венца (мал. 3: *1*). Дыяметр па венцы – каля 14 см. Аздабленне шыйкі складалася з гарызантальных ліній, якія ўтвараліся адбіткамі «ружанцовага» арнаменціра. Апошні пакідаў на паверхні толькі рады прадаўгаватых ямак. Ніжэй прасочваліся зігзагападобныя ружанцовыя адбіткі. Паверхня гаршка добра загладжвалася, ангабавалася. Колер гліны – жаўтлявы. У гліну дамешвалі дробную жарству. Таўшчыня сценак вагалася ў межах

0,9–1,1 см. Тры іншыя фрагменты – рэшткі другой тшцінецкай пасудзіны чырванавата-жаўтлявага колеру (мал. 3: *3*). Таўшчыня сценак – 0,7–0,8 см. У гліне прысутнічае дробная жарства, паверхня гладкая. Пры аздабленні выкарыстоўвалі пракрэсленыя лініі альбо рыскі. Тшцінецкія матэрыялы з Прыпяцкага Палесся ў цэлым датаваны ў межах каля 1700/1600 – 1200/1000 гг. да н. э. [6, с. 39–52].

*Шурф 2* (1 × 1 м). У паўночна-заходнім накірунку, на пагорку ў лесе, недалёка ад краю надпоймавай тэрасы распрацоўваўся шурф 2 (1 × 1 м) (мал. 1). У профілях сценак прасочваўся глебавы пласт цёмна-шэрага колеру. Таўшчыня яго дасягала 30 см. Ніжэй, пад глебай, пачынаўся дробназярністы пясок. Шурф распрацоўваўся да глыбіні 0,5 м ад узроўню нулявога рэпера. У глебавым пласце адзначаліся тры знаходкі: фрагмент гладкасценнай керамікі позняга неаліту з дамешкамі дробнага шамоту (шнуравая кераміка палескага тыпу ?); фрагмент ляпной гладкасценнай керамікі з дамешкамі жарствы; фрагмент сценкі ганчарнага посуду.

*Шурф 3 (2 × 2 м).* Праз 20 м на поўнач ад шурфа 1, за 25 м ад краю леса і каля 14 м ад паўночна-ўсходняй ускраіны рачной тэрасы, на ворыўнай паверхні закладаўся шурф 3 (мал. 1). У профілях сценак прасочваўся глебавы пласт аднароднага цёмна-шэрага колеру (таўшчыня да 35 см). Ніжэй залягаў пясок жаўтлявага колеру. У паўднёва-заходнім куце квадрата 2 у пясчаным гарызонце былі знойдзены: фрагмент керамікі позняга неаліту з дамешкамі шамоту і без слядоў арнаментацыі (днепра-данецкая культура); дробны фрагмент кальцынаванай косткі.

Археалагічнае абследаванне Слабады-3 дазволіла выявіць месцазнаходжанне розначасовых матэрыялаў: неалітычнага перыяду (днепра-данецкая культура, шнуравая кераміка палескага тыпу); эпохі бронзы (тшцінецкае культурнае кола); жалезнага веку і больш позніх перыядаў.

Такім чынам, у выніку разведак, якія праводзіліся ў зоне будаўніцтва Петрыкаўскага горна-абагачальнага комплексу, адкрыты тры новыя месцазнаходжанні археалагічнага матэрыялу: Слабада-1, -2, -3. На іх адзначалася прысутнасць культурных пластоў і аб'ектаў, выяўляліся культурныя рэшткі, якія адносяцца да неалітычнага перыяду, бронзавага і жалезнага вякоў, больш позніх эпох.

**Літаратура**

1. Вергей, В. С. Отчет о полевых исследованиях в Пинском, Столинском, Житковичском, Петриковском, Лельчицком районах в 1989 году / В. С. Вергей, Н. Н. Кривальцевич, В. Е. Кудряшов // ААНД НАН Беларусі. – Арх. № 1132.

2. Вяргей, В. С. Археалагічныя помнікі Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці / В. С. Вяргей, М. К. Селех. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 1994.– 62 с.

3. Исаенко, В. Ф. Археологическая карта Белоруссии / В. Ф. Исаенко. – Минск : Полымя, 1976. – Вып. 3 : Памятники бронзового века. – 150 с.

4. Исаенко, В. Ф. Отчет Полесского неолитического отряда о полевых работах 1975 года / В. Ф. Исаенко // ААНД НАН Беларусі. – Арх. № 521.

5. Исаенко, В. Ф. Список первобытных археологических памятников Полесья на 1989 г. / В. Ф. Исаенко // ААНД НАН Беларусі. – Арх. № 1356.

6. Крывальцэвіч, М. М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі / М. М. Крывальцэвіч // Гіст.-археалаг. зб. – 2006. – Вып. 22.– С. 39–52.

7. Лысенко, П. Ф. Дреговичи / П. Ф. Лысенко. – Минск : Навука і тэхніка, 1991. – 244 с.

8. Поболь, Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1983. – 456 с.

**Резюме**

*Н. Н. Кривальцевич*

**Результаты археологических разведок в зоне строительства Петриковского горно-обогатительного комплекса**

В результате археологических разведок, проводившихся в 2012 г. возле д. Слобода (Петриковский район Гомельской области) в зоне строительства Петриковского горно-обогатительного комплекса, выявлены три новых памятника Слобода-1, -2, -3. На памятниках отмечено присутствие культурных пластов и объектов с материалами неолитического периода, бронзового, железного веков, более поздних эпох.

**Summary**

*M. M. Kryvaltsevich*

**Results of the archaeological exploration in the building areaof Petrykau mining-and-processing complex**

Three new sites Slabada-1, -2, -3 were uncoveredin the building area of Petrykau mining-and-processing complexin 2012 near village Slabada (Petrykau district, Gomel region) in results of the archaeological exploration. The occupation layers and objects with materials of Neolithic period, Bronze Age, Iron Age and later ages were discovered on the area of the sites.

*Поступила 26.09.2014 г.*

УДК 902/904(476.5)

***В. І. Мазалеўскі,*** *Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж», старшы навуковы супрацоўнік (г. Нясвіж, Беларусь)*

# Археалагічныя работы на тэрыторыі гістарычнай часткі г. Нясвіжа ў 2012 годзе

У палявым сезоне 2012 г. на падставе Дазволу № 2340 па форме № 3, выдадзенага Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, былі праведзены археалагічныя назіранні на тэрыторыі г. Нясвіжа (Мінская вобл.). Задачамі даследаванняў з'яўляліся неабходнасць своечасовага выяўлення новых археалагічных аб'ектаў і ажыццяўленне кантролю за будаўнічымі і землянымі работамі ў цэнтральнай гістарычнай частцы г. Нясвіжа.

I. З 11 па 14 красавіка 2012 г. былі праведзены археалагічныя назіранні падчас будаўнічых работ па пракладцы інжынерных камунікацый па вул. В. Чкалава, 3–5.

Месца збору артэфактаў размяшчалася ў 100 м на захад ад воз. Дзявочае. Пры вывучэнні траншэі, пракапанай будаўнікамі, была прасочана наступная стратыграфія: 1) дзірван/асфальт (магутнасцю да 0,10–0,15 м); 2) будаўнічае смецце (рэшткі цэглы, каменне, гравій, вапна) (магутнасцю да 0,20 м); 3) светла-шэры культурны слой з дабаўленнем карычневага пяску і будаўнічага смецця (магутнасцю 0,20–0,30 м); 4) цёмна-шэры культурны слой з дабаўленнем будаўнічага смецця (магутнасцю 0,20–0,30 м); 5) чорны культурны слой у шэрагу месцаў з дабаўленнем будаўнічага смецця (магутнасцю 0,10–0,15 м).

Калекцыя індывідуальных знаходак склала 30 адзінак. Сярод іх былі прадстаўлены вырабы з гліны: гліняны посуд (фрагменты венчыкаў і донцаў гаршкоў, талерак, місак), кафля (манахромная), пляскатая дахоўка; вырабы са шкла (фрагменты чаркі, чарнільніцы, горла і донца бутэлькі); жалеза (цвікі, клямка, сапёрная рыдлёўка).

II. З 10 ліпеня па 3 кастрычніка 2012 г. былі праведзены археалагічныя назіранні за будаўнічымі работамі падчас будаўніцтва фантана ў скверы па вул. Ленінскай.

Месца збору артэфактаў размяшчалася ў 100 м на паўднёвы захад ад воз. Замкавае. Пры вывучэнні катлавана, пракапанага будаўнікамі, была прасочана наступная стратыграфія: 1) дзірван (магутнасцю да 0,10–0,15 м); 2) светла-шэры культурны слой з дабаўленнем карычневага пяску і будаўнічага смецця (магутнасцю 0,20–0,30 м); 3) цёмна-шэры культурны слой з дабаўленнем будаўнічага смецця (магутнасцю 0,20–0,30 м).

Калекцыя індывідуальных знаходак склала 96 адзінак. Сярод іх былі прадстаўлены вырабы з гліны: гліняны посуд (фрагменты венчыкаў і донцаў гаршкоў, талерак, місак), кафля (паліваная са спалучэннем расліннага і геаметрычнага арнаменту), хвалістая дахоўка; выраб са шкла (фрагмент бутэлькі).

III. З 15 верасня па 23 лістапада 2012 г. былі праведзены археалагічныя назіранні за будаўнічымі работамі па ўмацаванні падмурка будынка плябаніі XVIII ст. па вул. А. Міцкевіча, 1.

Месца збору артэфактаў размяшчалася ў 100 м на паўднёвы захад ад воз. Бернардзінскае. Пры вывучэнні траншэі, пракапанай будаўнікамі, была прасочана наступная стратыграфія: 1) дзірван/асфальт (магутнасцю да 0,10–0,15 м); 2) будаўнічае смецце (рэшткі цэглы, каменні, гравій, вапна) (магутнасцю да 0,20 м); 3) светла-шэры культурны слой з дабаўленнем будаўнічага смецця (магутнасцю 0,20–0,30 м); 4) цёмна-шэры культурны слой у шэрагу месцаў з дабаўленнем будаўнічага смецця (магутнасцю 0,10–0,15 м).

Калекцыя індывідуальных знаходак склала 64 адзінкі. Сярод іх былі прадстаўлены вырабы з гліны: гліняны посуд (фрагменты венчыкаў і донцаў гаршкоў, талерак), кафля (распадаецца на тры храналагічныя групы XVII–XVIII стст.; XIX ст.; канец XIX – пачатак XX ст.) (мал. 1–3), курыцельная люлька; вырабы са шкла (фрагменты аконнага шкла, горла штофа і бутэлькі, аптэчная бутэлька); металу (манета).

IV. З 29 кастрычніка па 3 лістапада 2012 г. былі праведзены археалагічныя назіранні падчас будаўнічых работ унутры будынка дома культуры «Камунальнік» па вул. Ленінскай, 16а. Пры правядзенні палявых работ былі заўважаны чалавечыя касцяныя астанкі: фрагменты чэрапа і шкілета. Але культурны слой на аб'екце адсутнічае, а чалавечыя астанкі сюды трапілі ў 70-я гг. XX ст. разам з глебай, узятай для падсыпкі са склепа.

Па выніках археалагічных даследаванняў і на тэрыторыі г. Нясвіжа можна зрабіць выснову, што на гэтай тэрыторыі засяленне адбывалася ў XVI ст. Самыя раннія са знаходак у скверы па вул. Ленінскай і каля будынка плябаніі па вул. А. Міцкевіча суадносяцца з перабудовай горада напрыканцы XVI ст., але асноўная частка матэрыялу прыпадае на XVII–XVIII стст. – час росквіту Нясвіжа.




Мал. 1. Гліняны гаршчок. г. Нясвіж, вул. Ленінская, 16а




Мал. 2. Гліняныя гаршкі (*1–3*). г. Нясвіж, вул. Ленінская, 16а




Мал. 3. Кафля (*1–2*) (фрагменты). г. Нясвіж, вул. Ленінская, 16а

**Резюме**

*В. И. Мозолевский*

**Археологические работы на территории исторической части г. Несвижа в 2012 году**

Представлены основные результаты археологических наблюдений в исторической части г. Несвижа. Выявлены находки (изделия из глины, стекла, железа, цветного металла), которые датируются XVI–XIX вв.

**Summary**

*V. I. Mozolevski*

**Archaeological work in the territory of the historic part of the Nesvizh in 2012**

The article presents the main results of archaeological observations in the historical part of Nesvizh. Identified items (pottery, glass, iron, nonferrous metals), which are dated back to $16^{th}$–$19^{th}$ centuries.

*Пастуніў 23.05.2014 г.*

*УДК 903/904(476.6)*

***А. М. Максімовіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Асноўныя вынікі археалагічных разведак на тэрыторыі басейна ракі Шчара ў 2013 годзе

У 2013 г. археалагічныя разведкі праводзіліся на тэрыторыі Івацэвіцкага і Ляхавіцкага р-наў Брэсцкай вобл., Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. (мал. 1). Работы ажыцяўлялі на падставе Дазволу № 2511 па форме № 2. З мэтай выяўлення новых і вызначэння сучаснага стану вядомых помнікаў, абследаванне ў першую чаргу праводзілі ў паўднёвай частцы втэрыторыі басейна р. Шчара на памежжы двух водных басейнаў – Чарнаморскага і Балтыйскага.

**Археалагічныя даследаванні ў Івацэвіцкім раёне.** Возера Бабровіцкае размешчана ў басейне р. Грыўда, за 30 км на паўднёвы ўсход ад г. Івацэвічы, каля в. Бабровічы. Берагі возера нізкія, тарфяністыя, парослыя хмызняком, але ў заходняй яго частцы захаваўся пясчаны берагавы вал вышынёй да 4 м [1, с. 55].

Археалагічнае даследаванне берагоў возера У. Ф. Ісаенка пачаў у 1963 г., калі ім былі выяўлены




Мал. 1. Тэрыторыя даследавання ў 2013 г.: *1* – наваколлі в. Васілевічы (Слонімскі раён); *2* – Бабровіцкі мікрарэгіён (Івацэвіцкі раён); *3* – наваколлі в. Свяціца (Ляхавіцкі раён)

чатыры стаянкі каменнага і бронзавага вякоў – Бабровічы-1 (ур. Востраў), Бабровічы-2 (ур. Вяда і Тупічыцы), Бабровічы-3 і Бабровічы-4 [2, с. 28–29]. У 1989 г. іх паўторна даследавала Н. В. Шаблюк, якая заклала некалькі шурфаў на помніку Бабровічы-2 [3, с. 14]. Пазней, у 2001–2002 гг., даследаванне мікрарэгіёна сумесна праводзілі В. С. Абухоўскі, А. Г. Калечыц, В. Л. Лакіза і Э. А. Ляшкевіч, падчас якога шляхам разведак, шурфовак і раскопак, быў выяўлены шэраг новых месцазнаходжанняў, удакладнены іх межы і лакалізацыя [3]. У 2011 г. археалагічныя разведкі тут праводзіў А. М. Вашанаў [4].

На дадзены момант на поўнач ад в. Бабровічы па берагах воз. Бабровіцкае вядомы 19 розначасовых месцазнаходжанняў, сканцэнтраваных у асноўным на паўднёвым і паўднёва-заходнім берагах возера. На шэрагу з іх у 2013 г. аўтарам артыкула, сумесна з А. Ю. Ткачовым, А. М. Вашанавым, С. Б. Ліневічам і С. С. Велент-Шчэрбач, праводзілася археалагічнае даследаванне (Бабровічы-2, -4а, -4в, -8 і -12) (мал. 2).

***Бабровічы-2.*** Знаходзіцца на паўночна-заходнім беразе воз. Бабровіцкае на пясчаных раздувах, ва ўр. Вяда і Тушчыцы (52º38′50.00″ пн. ш., 25º46′11.48″ ус. д.).

Помнік быў выяўлены (1963 г.) і даследаваны (1971 г.) У. Ф. Ісаенкам. Далей вывучэнне помніка праводзілі таксама Н. У. Шаблюк – у 1989 г., В. С. Абухоўскі, А. Г. Калечыц, В. Л. Лакіза, Э. А. Ляшкевіч – у 2002 г., А. М. Вашанаў – у 2011 г. [2, с. 28–29; 3; 4]. Акрамя таго, цягам 1990–2012 гг. паверхневыя зборы на помніку праводзіў калекцыянер-краязнавец В. М. Бычкоўскі.

У 2013 г. быў вызначаны сучасны стан помніка і, па дамоўленасці з мясцовай адміністрацый, усталявана часовая ахоўная шыльда. Шурфоўка помніка не праводзілася. Было ажыццёўлена азнаямленне з матэрыяламі паверхневых збораў В. М. Бычкоўскага, якія захоўваюцца ў яго прыватнай калекцыі, і матэрыяламі музея Целяханскай сярэдняй школы. Сярод іх пераважаюць знаходкі каменнага веку і позняга сярэднявякоўя. На матэрыял каменнага і бронзавага вякоў у першую чаргу звярталі ўвагу папярэднія даследчыкі [2–4], таму інтарэс выклікаў больш позні матэрыял, сярод якога вырабы з гліны, шкла і металу.

Вырабы з гліны прадстаўлены фрагментамі сценак і венцаў ляпных і кругавых пасудзін, частка з якіх мае хвалісты ці лінейны арнамент, а таксама «рагатым» грузікам (мал. 3: *1*), час стварэння яко-




Мал. 2. Размяшчэнне помнікаў, даследаваных ў 2013 г. у Бабровіцкім мікрарэгіёне: *1* – Бабровічы-2; *2* – Бабровічы-12; *3* – Бабровічы-8; *4* – Бабровічы-4В; *5* – Бабровічы-4А

га можа прыпадаць як на бронзавы, так і на жалезны век. Шкляныя вырабы – набор пацерак, датаванне якіх выклікае пэўныя цяжкасці. Сярод вырабаў з металу аднатыпныя бронзавыя пярсцёнкі (мал. 3: *5*), два з іх маюць арнамент у выглядзе лініі невялікіх касых насечак уздоўж пярсцёнка; фрагменты шпілек тыпу «пус йепі», якія могуць быць датаваны XIV–XVI стст.; жалезны чаранковы наканечнік стралы (мал. 3: *2*); бронзавая літая спражка XI–XII стст. з рамкай прамакутнай формы і перахопам пасярэдзіне (мал. 3: *3*), ігла ўтрымліваецца з дапамогай петлепадобнага абмежавальніка (мал. 3: *3*); бронзавая літая спражка XI–XIII стст. (мал. 3: *4*), ліраподобная з прамакутнай асновай і пашыраным прыёмнікам без перамычкі для мацавання іглы [5].

***Бабровічы-4А.*** Размешчана на поўнач ад в. Бабровічы на адлегласці прыкладна 0, 75 км на падоўжанай дзюне, якая выцягнута з захаду на ўсход ад вясковых могілак да воз. Бабровіцкае (52°36′58.09″ пн. ш., 25°46′53.18″ у. д.).

Помнік быў выяўлены У. Ф. Ісаенкам. У 2001 г. В. С. Абухоўскім на паўночна-ўсходняй ускраіне быў закладзены шурф, з якога былі атрыманы матэрыялы каменнага веку, а таксама кераміка XII–XIII і канца XVI – пачатку XVII ст. [2, 3]. У 2013 г. на помніку былі праведзены паверхневыя зборы, і, з мэтай удакладнення стратыграфіі, закладзены шурф плошчай 10 м$^2$.

Падчас паверхневых збораў на помніку знойдзены крамянёвыя пласцінкі, скрэбла, венцы кругавых пасудзін XII ст. (мал. 4: *1*) і XV–XVI стст. (мал. 4: *8–10*).

Шурф памерам 10 × 1 м (10 м$^2$) быў размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы помніка, упоперак схілу пясчанай дзюны. У ім было знойдзена 112 артэфактаў, большая частка якіх паходзіць з паўднёвага краю раскопу. Вырабы з крэменю прадстаўлены нуклеусамі, пласцінамі, скрабачамі, адшчэпамі, разцамі. Сярод іх найбольш паказальнымі з'яўляюцца яніславіцкае вастрыё (мал. 3: *6*), разец на зломе пласціны і аднапляцовачны нуклеус ад пласцін, якія можна звязваць з яніславіцкай культурай. Акрамя крамянёвага матэрыялу з шурфа паходзяць фрагменты кругавых пасудзін, каваны цвік-вухналь (мал. 3: *8*) і фрагменты зубоў жывёлы [5]. Кераміка датавана XVI–XVIII стст.

***Бабровічы-4В.*** Размешчана на поўнач ад в. Бабровічы на адлегласці прыкладна 0, 50 км каля вясковых могілак (52°36′51.95″ пн. ш., 25°46′32.53″ ус. д.). Асноўная частка помніка знаходзіцца з паўднёва-заходняга боку ад іх і часткова пашкоджана невялікім кар'ерам.

Помнік, як і папярэднія, быў выяўлены У. Ф. Ісаенкам. У 2001 г. даследаваўся шурфоўкай В. С. Абухоўскім. У 2011 г. даследаванне помніка правёў А. М. Вашанаў [2–4]. У 2013 г. на помніку былі праведзены паверхневыя зборы і закладзены шурф (1 м$^2$),




Мал. 3. Вырабы з гліны (*1*), металу (*2–5*, *8–10*) і крэменю (*6–7*): *1–5* –Бабровічы-2; *6*, *8* – Бабровічы-4А; *7–10* – Бабровічы-4В; *9* – Бабровічы-8




Мал. 4. Венцы пасудзін XII (*1*), XIII–XIV (*2*) і XV–XVI (*3–16*) стст.: *1*, *8–10* – Бабровічы-4А; *2–7* – Бабровічы-12; *11–13* – Бабровічы-8; *14–16* – Бабровічы-4В

з мэтай прасачыць культурны пласт ва ўсходняй частцы помніка.

Падчас паверхневых збораў на помніку знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы і сколы, а таксама ручка, сценкі і донца кругавых пасудзін.

Шурф быў закладзены на ўсход ад могілак, каб прасачыць распаўсюджанне культурнага пласта на месцазнаходжанні. У шурфе было знойдзены 50 артэфактаў. Сярод знаходак фрагмент яніславіцкага вастрыя (мал. 3: *7*), нуклеус, адшчэпы, пласціны, фрагменты кругавых пасудзін XVI ст. (мал. 4: *14–16*), а таксама жалезны ключ ад унутранага замка (мал. 3: *10*) [5].

***Баброві́чы-8.*** Размешчана на поўнач ад в. Бабровічы на адлегласці прыкладна 0,50 км, уздоўж дарогі з вёскі на пляж і вясковы могілкі (52°36′50.55″ пн. ш., 25°46′24.98″ ус. д.).

Помнік быў выяўлены ў 2002 г. А. Г. Калечыц і Э. А. Ляшкевіч [3]. У 2013 г. на ім былі праведзены паверхневыя зборы і закладзены тры шурфы плошчай 1 м$^2$ (агульная плошча 3 м$^2$) з мэтай прасачыць распаўсюджанне культурнага пласта і ўдакладніць датаванне.

Падчас паверхневых збораў на помніку знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы і дробныя абломкі, а таксама фрагменты сценак познасярэдневяковых кругавых пасудзін.

Два шурфы (шурф 1, шурф 3) былі закладзены ва ўсходняй частцы помніка і яшчэ адзін (шурф 2) – у заходняй.

З шурфаў паходзіць 45 артэфактаў. Крамянёвы матэрыял прадстаўлены нуклеусам, адшчэпамі, пласцінамі, лускавінкамі і дробнымі абломкамі. Сярод вырабаў з гліны – фрагменты кругавых пасудзін XV–XVI стст. (мал. 4: *11–13*) і XVII–XVIII стст. Акрамя гэтага, знойдзены цвік-вухналь (мал. 3: *9*) [5].

***Бабровічы-12.*** Размешчана на поўнач ад в. Бабровічы на адлегласці прыкладна 0, 75 км, уздоўж дарогі на пляж (52°36′59.83″ пн. ш., 25°46′24.48″ ус. д.).

Помнік быў выяўлены ў 2002 г. Э. А. Ляшкевіч [3]. У 2013 г. на ім былі закладзены тры шурфы плошчай 1 м$^2$ (агульная плошча – 3 м$^2$), з мэтай прасачыць распаўсюджанне культурнага пласта і ўдакладніць датаванне.

Два шурфы (шурф 1, шурф 2) былі закладзены ў паўднёвай частцы помніка і яшчэ адзін (шурф 3) – на поўначы.

З шурфаў паходзяць 45 артэфактаў. Крамянёвы матэрыял прадстаўлены нуклеусам, адшчэпамі, пласцінамі, разцом, лускавінкамі і дробнымі абломкамі. Сярод вырабаў з гліны – фрагменты кругавых пасудзін XV–XVI стст. (мал. 4: *3–7*), венца кругавой пасудзіны XIII–XIV стст. (мал. 4: *2*)[5].

**Археалагічныя разведкі ў Ляхавіцкім раёне.** У 2013 г. з мэтай выяўлення новых археалагічных помнікаў праведзены разведкі ў наваколлях в. Свяціца (Ляхавіцкі раён). Былі даследаваны паўночна-заходняя і заходняя ўскраіны вёскі. Падчас правядзення работ быў вызначаны сучасны стан археалагічных помнікаў ва ўр. Куль, дзе ў 2006 г. А. Г. Калечыц, В. Л. Лакізам і М. М. Чарняўскім былі выяўлены некалькі месцазнаходжанняў каменнага веку. Тэрыторыя ўрочышча зарастае маладым бярэзнікам, акрамя таго моцна падтоплена. Выявіць новыя археалагічныя аб’екты ці месцазнаходжанні не ўдалося.

**Археалагічныя разведкі ў Слонімскім раёне.** З мэтай выяўлення новых археалагічных помнікаў і ўстанаўлення сучаснага стану помніка ***Васілевічы-1***, у 2013 г. праведзены разведкі ў наваколлях в. Васілевічы (Слонімскі раён).

У цэнтры вёскі раней знаходзіўся курганны могільнік. Са словаў мясцовага жыхара Я. А. Эдэра, ён быў размешчаны на месцы, дзе зараз пабудавана вясковая крама «Васілёк». Мясцовыя жыхары называлі могільнік «татарскімі магіламі». Я. А. Эдэр у дзяцінстве ўдзельнічаў у раскопках аднаго з курганаў. Раскопкі тут праводзіла Ф. Д. Гурэвіч у 1955 г. [6, с. 193]. Сёння наяўнасць кurganоў візуальна не прасочваецца.

Падчас правядзення даследавання быў вызначаны сучасны стан археалагічнага помніка Васілевічы-1. Ён размешчаны ў 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі на невялікім узвышшы на левым беразе р. Шчара, ва ўр. Падлужжа. Помнік выцягнуты па лініі паўночны захад–паўднёвы ўсход. Паверхня селішча моцна задзірванела і знаходкі на паверхні не прасочваюцца (толькі ў кратавінах).

Падчас паверхневых збораў на помніку знойдзены: крамянёвая пласціна, фрагменты сценак ляпных і кругавых пасудзін.

Такім чынам, падчас палявога сезона 2013 г. даследавана сем археалагічных помнікаў, шурфоўка праведзена на чатырох з іх (Бабровічы-4А, -4В, -8, -12).

**Літаратура**

1. Блакітны скарб Беларусі : рэкі, азёры, вадасховішчы, турысцкі патэнцыял водных аб’ектаў / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Минск : Беларуская энцыклапедыя, 2007. – 480 с.

2. Исаенко, В. Ф. Неолит Припятского Полесья / В. Ф. Исаенко ; под ред. Д. Я. Телегина. – Минск : Наука и техника, 1976. – 128 с.

3. Абухоўскі, В. Этапы засялення бабровіцкага мікрарэгіёна ў фінальным палеаліце – бронзавым веку / В. Абухоўскі [і інш.] // Гіст.-археалаг. зб. / ІГ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – Вып. 18. – С. 14–18.

4. Вашанаў А. М. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Бялыніцкага і Івацэвіцкага раёнаў у 2011 г. / А. М. Вашанаў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб.

навук. арт. / ІГ НАН Беларусі. – Мінск, 2013. – Вып. 24. – С. 251–257.

5. Максімовіч, А. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей у 2013 г. / А. М. Максімовіч // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 3043.

6. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич ; под ред. П. Н. Третьякова. – М. ; Л. : АН СССР, 1962. – С. 193.

## Резюме

*А. Н. Максимович*

**Основные итоги археологических разведок на территории бассейна реки Щара в 2013 году**

Представлены основные итоги полевых археологических исследований 2013 г. на территории бассейна р. Щара. Основное внимание уделено результатам обследования Бобровичского микрорегиона (Ивацевичский р-н), округи д. Святица (Ляховичский р-н), д. Василевичи и д. Поречье (Слонимский р-н).

## Summary

*A. M. Maksimovich*

**The main results of archaeological investigations on the territory of Shchar river basin in 2013**

The main results of field archaeological researches in 2013 on the territory of Shchar river basin are presented in the article. The main attention is paid to the results of inspection of the Bobrovichsky microregion (the Ivatsevichskydistrict), surroundings of Svyatitsa (the Lyakhovichsky district), Vasilevichi and Porechye (the Slonimskydistrict) villages.

*Паступіў 22.09.2014 г.*

*УДК 903:728.82(476.1)«2013»*

***М. А. Плавінскі**, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, загадчык кафедрай турызму і гасціннасці, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Полацк, Беларусь)*

# Раскопкі Мядзельскага замка ў 2013 годзе

Мядзельскі замак з'яўляецца помнікам археалогіі і фартыфікацыі эпохі сярэдневякоўя і ранняга Новага часу. Ён размешчаны на былым востраве (сёння паўвостраве) возера Мястра ў паўднёвай частцы сучаснага Мядзела (мал. 1). Мядзельскі замак і прылеглае да яго сярэдневяковае селішча ўнесены ў «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь» як гісторыка-культурныя каштоўнасці катэгорыі 3 за № 613В000415 і 613В000416 адпаведна [1, с. 565].

Даследаванне Мядзельскага замка праводзіла ў жніўні 2013 г. археалагічная экспедыцыя Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам аўтара дадзенага артыкула на падставе Дазволу № 2563 па форме 1.

**Гісторыя археалагічнага вывучэння Мядзельскага замка.** Перад тым, як звярнуцца да апісання характару археалагічных даследаванняў Мядзельскага замка ў 2013 г. варта коратка спыніцца на гісторыі яго вывучэння. Нягледзячы на тое, што дадзены помнік вядомы ў археалагічнай літаратуры з XIX ст. [2, с. 33–34], наяўныя звесткі аб ім надзвычай нешматлікія і вельмі блытаныя. Галоўную ролю ў вывучэнні Мядзельскага замка адыгралі М. А. Ткачоў і Міх. М. Чарняўскі.

У 1970 г. М. А. Ткачоў ажыццявіў абследаванне замка і заклаў на яго тэрыторыі шурф памерам 2 × 2 м [3, с. 20, 25]. Зробленае ў 1970 г. апісанне помніка было пакладзена ў аснову тэксту, прысвечанага Мядзельскаму замка ў манаграфіі «Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст.». У гэтай жа публікацыі быў прыведзены і схематычны план замка, які, аднак, адрозніваецца шматлікімі недакладнасцямі (мал. 2, *а*) [4, с. 95–97, рыс. 57].

У 1981 г. экспедыцыяй пад кіраўніцтвам М. А. Ткачова на тэрыторыі помніка былі праведзены дастаткова значныя па маштабах раскопкі. Даледаваная плошча склала 116 м$^2$ [5, с. 2–4]. На жаль, наяўны ў справаздачы сітуацыйны план размяшчэння раскопу 1981 г. настолькі схематычны (мал. 2, *б*), што не дае ніякіх магчымасцей для лакалізацыі месца правядзення прац. Акрамя таго, план 1981 г. памылкова зарыентаваны па баках свету (з памылкай прыблізна ў 70–80° да ўсходу [5, рыс. I]).

Вынікі даследаванняў 1970 і 1981 г. былі пакладзены ў аснову артыкула М. А. Ткачова, прысвечанага Мядзельскаму замку ў энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» [6, с. 450]. У ім, у тым ліку паведамляецца, што замак: *«Складаўся з мураваных вежы і палаца, а таксама знешняга абарончага комплексу (захаваліся руіны). Круглая ў плане вежа-данжон адкрыта ў 1981 археал. экспедыцыяй Гродзенскага ун-та. Яе знешні дыям. 17,5 м, унутраны – 10 м, таўшч. сцен каля 3,5 м. Падмурак вежы, які аднaчасова выконваў ролю цокальнага паверха, заглыблены ў зямлю на 3,75 м, складзены ў тэхніцы паласатай муроўкі з радоў валуноў і буйнапамернай цэглы на вапнавым растворы. Забутоўка сцен зроблена з бітай цэглы. Падмурак вежы пакладзены на вапнавую падушку таўшч. 10–14 см. На выш. 1,05 м ад падушкі падмурак мае цокаль-ступеньку шыр. 0,3 м, на якім знойдзена кельма 15 ст. Ва ўсх. частцы вежы размяшчаўся праём светлавога люка (1,23 × 1,75 м), перакрыты аркай. Ён меў ступеньчаты ўхіл унутр вежы. У зах. частцы расчышчаны праход (1,25 × 2,00 м) з 5 сходамі ў падвальнае памяшканне...*

*У 1-й палове 16 ст. да вежы з 3 прыбудаваны прамавугольны ў плане палац, руіны якога ўскрыты часткова. Ён быў узведзены з цэглы (27,4–30,6 × 11,5–15,5 × 7,1–9,4 см), меў сцены таўшч. каля 2 м і шыр. 10 м, падвалы глыб. 3 м, перакрытыя скляпеннем. Даўжыня палаца канчаткова не вызначана...*

*Пляцоўка М. з. абведзена традыцыйным ля сярэдневяковай Беларусі мурам з валуноў на вапне. Ніжняя зона падмурка складзена на гліне, самы ніжні рад камянёў – на дубовых плахах. З усіх бакоў поля таўшч. замкавых муроў 2 м, з інш. бакоў, прыкрытых возерам, – 1,5–1,7 м. Асноўны ўпор у абароне замка рабіўся на 5 мураваных паўкруглых бастэй, размешчаных, відаць, на размяшчэнне тут гармат для стральбы ўздоўж сцен. У паўд.-ўсх. куце замка выяўлены падмурак цыліндрычнай вежы дыям. 10 м і сцены двухметровай таўшчыні...».*

Вялікую ўвагу вывучэнню Мядзельскага замка надаваў Міх. М. Чарняўскі. Так, у яго асабістым архіве захаваўся схематычны вокамерны план замка (мал. 3, *а*), год стварэння якога, на жаль, невядомы (не выключана, што ён быў зняты падчас раскопак М. А. Ткачова ў 1981 г.)[1]. Пры ўсім схематызме гэтага плана варта адзначыць, што ён верна скіраваны па баках свету і перадае агульныя абрысы замка. Верагодна, менавіта гэты план стаў падставай для плана-схемы Мядзельскага замка Міх. М. Чарняўскага (мал. 3, *б*), апублікаванага ў кнізе «Памяць. Мядзельскі раён» [7].

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку Макс. М. Чарняўскаму за магчымасць апублікаваць прыведзены план з архіва Міх. М. Чарняўскага.




Мал. 1. Месцазнаходжанне Мядзельскага замка на паўвостраве возера Мястра (здымак з Google)




Мал. 2. Схематычныя планы Мядзельскага замка М. А. Ткачова з працы [4] (*а*) і са справаздачы [5] (*б*): *А* – месца раскопак вежы XV ст.; *1, 2* – раскопы на селішчы

Нарэшце, найбольш дакладны з існаваўшых да 2013 г. планаў быў таксама зняты Міх. М. Чарняўскім і прыведзены ў справаздачы за 1997 г. (мал. 4). Менавіта тады гэтым даследчыкам былі праведзены абследаванні і шурфоўка на розных участках паўвострава, на якім размешчаны замак (акрамя самога замка [8, мал. 6]).

Акрамя замка, культурны пласт эпохі сярэдневякоўя і ранняга Новага часу выяўлены на так званым передзамчы, размешчаным на паўночнаўсходняй частцы паўвыспы. Помнік быў выяўлены Міх. М. Чарняўскім у 1979 г. Раскопкі на «перадзамчы» праводзілі М. А. Ткачоў (1981 г.) і Я. Г. Звяруга (1985 г.). Даследаваная плошча склала 88 м$^2$. Культурны пласт дасягаў таўшчыні 0,4–0,6 м. На тэрыторыі помніка былі таксама выяўлены сляды неалітычнага паселішча [6, с. 450].

Такім чынам, у выніку дастаткова працяглых і значных па аб’ёму даследаванняў было вызначана, што Мядзельскі замак з’яўляецца помнікам археалогіі XV – пачатку XVIII ст. Разам з тым стан справаздачнай дакументацыі і наяўных калекцый (захоўваюцца ў Мядзельскім музеі народнай славы ў фактычна дэпашпартызаваным стане) не дазваляюць сказаць аб Мядзельскім замку штосьці больш пэўнае, акрамя таго, што ў XV ст. на яго паўночнаўсходнім ускрайку была збудавана магутная круглая вежа, ушчыльную да якой праз пэўны час было ўзведзена яшчэ адно мураванае збудаванне.

Зыходзячы з аналізу гісторыі даследаванняў і стану справаздачнай дакументацыі аб раскопках Мядзельскага замка, асноўнымі мэтамі даследаванняў 2013 г. сталі:

– здымка інструментальнага плана замка;

– правядзенне абмежаваных па аб’ёме раскопак, мэтай якіх было вызначыць перспектывы раскрыцця, кансервацыі і музеефікацыі рэшткаў мураванай фартыфікацыі і рэкрэацыі тэрыторыі Мядзельскага замка.

**Даследаванні Мядзельскага замка ў 2013 г.** Падчас археалагічных даследаванняў Мядзельскага замка ў 2013 г. была здзейснена інструментальная здымка тэрыторыі помніка і пабудаваны яго план у маштабе 1 : 400[2]. Здымка ахапіла верхнюю пляцоўку замка, ніжні абарончы вал і прылеглыя тэрыторыі.

Пляцоўка, якую займае замак, прадстаўляе сабой пагорак марэннага паходжання памерам 135–140 м па лініі паўднёвы захад–паўночны ўсход на 100 м па лініі паўночны захад–паўднёвы ўсход (мал. 5). Схілы пагорка былі, відавочна, штучна эскарпаваныя падчас будаўніцтва замка. У паўночна-ўсходняй частцы пагорка была размешчана мураваная вежа. Як сведчаць папярэднія апісанні Мядзельскага замка, ён быў дадаткова ўмацаваны па перыметры паўкруглымі бастэямі. Сёння гэтыя бастэі захаваліся толькі часткова – прасочваюцца толькі тры бастэі. Дзве з іх размешчаны з паўднёвага і паўднёва-ўсходняга бакоў замкавага пагорка, а трэцяя зафіксавана на паўночным яго баку.

Варта адзначыць, што за апошнія паўстагоддзі пагорак, на якім размешчаны Мядзельскі замак, і навакольная тэрыторыя паўвострава зазналі значныя разбурэнні. Найбольш моцна пацярпела паўночна-заходняя частка паўвострава, дзе падчас стварэння парку імя «Трыццацігоддзя перамогі» ў 1974 г. быў закладзены футбольны стадыён. У выніку гэтых прац быў «падрэзаны» паўночна-заходні схіл замкавага пагорка, што прывяло да знішчэння размешчанай тут бастэі (бастэяў ?). Падчас закладкі гэтага парку ўздоўж паўднёва-ўсходняга схілу замкавага пагорка была пракладзена таполевая алея, якая часткова закранула адну з бастэяў, размешчаных з гэтага боку.

З мэтай падвышэння фартыфікацыйных якасцей пагорак, на якім размешчаны Мядзельскі замак, быў з цягам часу дадаткова ўмацаваны валам з бастыёнамі. На жаль, гэты вал зазнаў найбольшыя разбурэнні. Яго паўночна-заходні і паўночны ўчасткі былі цалкам спляжаныя падчас закладкі згаданага парку імя «Трыццацігоддзя перамогі» (падчас будаўніцтва стадыёна). З усходняга боку знешні вал часткова спляжаны дарогай, якая вядзе на вяршыню замкавага пагорка. З паўднёва-ўсходняга боку ад замкавага пагорка знешняя лінія ўмацаванняў размыта возерам Мястра. Фактычна, сёння знешні вал захаваўся толькі з паўднёва-ўсходняга (на даўжыню 150 м) і часткова з усходняга (на даўжыню 120 м) бакоў замкавага пагорка. На гэтай адлегласці зафіксаваны чатыры бастыёны.




Мал. 3. Схематычны план Мядзельскага замка невядомага года з асабістага архіва Міх. М. Чарняўскага (*а*); план-схема Мядзельскага замка Міх. М. Чарняўскага [7] (*б*)

У 2013 г. на пляцоўцы Мядзельскага замка былі закладзены раскоп І плошчай 32 $м^2$ і шурф І плошчай 5 $м^2$. Раскопкі ажыццяўлялі па квадратах памерам 1 × 1 м і пластах магутнасцю 0,1 м.

***Раскоп І*** быў закладзены ў самай высокай частцы пляцоўкі замкавага пагорка бліжэй да яго ўсходняга краю (гл. мал. 5). Першапачаткова раскоп меў памер 12 × 2 м і быў выцягнуты з поўначы на поўдзень (кв. 1–24). У час правядзення даследаванняў

[2] Інструментальная здымка Мядзельскага замка выканана студэнтам чацвёртага курса геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Э. А. Астаповічам.




Мал. 4. План размяшчэння археалагічных помнікаў на паўвостраве возера Мястра паводле Міх. М. Чарняўскага [8]: *1* – культурны пласт, абследаваны ў 1997 г.; х – месцы знаходак расшчапаных камянёў

да раскопу з поўдня была прырэзана траншэя даўжынёй 6 м і шырынёй 1 м (кв. 25–32). Такім чынам, агульная плошча раскопу склала 32 м$^2$. Паверхня ўчастка замкавай пляцоўкі, на якім быў закладзены раскоп I, была дастаткова роўнай з павольным ухілам з поўначы да поўдня. На адлегласці ў 18 м гэты ўхіл склаў 0,4–0,5 м.

Паверхня раскопу была пакрыта тонкім слоем дзірвану магутнасцю 0,02–0,03 м. Культурны слой у пластах I–III (кв. 1–24) варта разглядаць супольна – гэта дастаткова аднародны спрэсаваны гумусаваны суглінак шэрага колеру, раўнамерна перамяшаны шматразовым ворывам, у якім сустракаюцца шматлікія дробныя фрагменты цэглы. Магутнасць гэтага слою на розных участках дасягае 0,25–0,32 м. Бліжэй да мацерыку насычанасць культурнага пласта паступова змяншаецца (ён крыху святлее).

У траншэі, прырэзанай да раскопу I з поўдня (кв. 25–32), культурны слой мае іншыя характарыстыкі. Гэтыя квадраты былі таксама пакрыты тонкім слоем дзірвану магутнасцю 0,02–0,05 м. Пад дзірванам выяўлены шэры гумусаваны перамяшаны суглінак, у якім сустракаюцца ўключэнні пяску, што робіць пласт неаднародным. Гэта дае падставы меркаваць, што культурны слой на дадзеным участку з'яўляецца пераадкладзеным у выніку перакопу (ці не зафіксаванага ў справаздачнай дакументацыі археалагічнага раскопу?). Дадзенае меркаванне пацвярджае яшчэ і тое, што ў прырэзцы была выяўлена бляшанка і манета – дзве савецкія капейкі 1977 г. Мяжа мяркуемага раскопу, верагодна, праходзіць у кв. 26 (мал. 6).

Пасля выбаркі пластоў I–III ва ўсіх квадратах, за выключэннем кв. 19–25, быў выяўлены мацярык (гл. мал. 6). Мацярык і ў асноўнай частцы раскопу I і ў прырэзцы да яго прадстаўляе сабой дробназярністы светла-жоўта-шэры пясок з уключэннямі карычневатага суглінку і гліны.

Улічваючы перамяшаны шматразовым ворывам характар культурнага слою ў раскопе I, масавыя знаходкі з пластоў I–III варта разглядаць супольна. Яны прадстаўлены дробнымі (памерам ад 3 да 5 см) фрагментамі керамікі, што тлумачыцца шматразовым разворваннем культурнага слою, адзінкавымі кавалкамі каробкавай кафлі, цэглы, дробнымі косткамі, асобнымі жалезнымі цвікамі.

Індывідуальныя знаходкі з пластоў I–III таксама нешматлікія: жалезная спражка (ад шпоры ?) з арнаментаванай рамкай, жалезная зашпілька, жалезны язычок ад спражкі, апрацаваны крэмень, бронзавая




Мал. 5. Мядзельскі замак. Інструментальны план. 2013 г. Інструментальная здымка Э. А. Астаповіча

заклёпка ад тронак нажа, тры бронзавыя тыльныя накладкі на тронкі нажоў (мал. 7). Дадзеныя знаходкі не дазваляюць вузка датаваць пласты I–III, асабліва ўлічваючы іх пераадкладзены ў выніку шматразовага разворвання характар. Разам з тым можна дастаткова ўпэўнена меркаваць, што культурны пласт на пляцоўцы замка ўтвараўся на працягу позняга сярэдневякоўя–ранняга Новага часу і можа папярэдне быць датаваны XVI–XVIII стст.

Аб’ект 1, выяўлены ў кв. 19–25, меў запаўненне, якое складалася з моцна гумусаванага цёмна-шэрага суглінку з уключэннямі абпаленай гліны, вугалля, дробных кавалкаў вапны і асобных праслоек пяску. У кв. 22, 23–25 быў выяўлены пласт абпаленай гліны з уключэннем вугалля – развал печы. Пасля выбаркі пласта VI работы па даследаванні аб’екта 1 былі спынены, а раскоп I закансерваваны з мэтай завяршэння даследаванняў падчас наступных палявых сезонаў.

Масавыя знаходкі з запаўнення аб’екта 1 прадстаўлены шматлікімі фрагментамі гаршковай кафлі, кухоннага посуду, косткамі жывёл, косткамі і луской рыб, жалезнымі цвікамі, бітай цэглай. Косткі жывёл раструшчаныя, некаторыя з іх нясуць сляды ад зразання мяса нажом. Гэта сведчыць аб тым, што гэтыя косткі з’яўляюцца кухоннымі адходамі.

Найбольшую цікавасць сярод масавых знаходак з запаўнення аб’екта 1 прадстаўляе шэраг развалаў гаршковай кафлі і развал місападобнай кафлі (мал. 8). Кафля была вылеплена ад рукі з гліны карычневага колеру з дамешкам некаліброванай жарствы (кварцыту), пасля чаго апрацавана на марудным ганчарным крузе. Якасць апрацоўкі вагаецца ад дастаткова добрай да зусім слабой, калі «абточаным» на крузе было толькі венца альбо верхняя частка кафлі.

Кераміка з аб’екта 1 прадстаўлена фрагментамі кухоннага і сталовага посуду. Да кухоннага посуду належаць пераважна фрагменты гаршкоў, мако-




Мал. 6. План мацерыку. Раскоп І. Мядзельскі замак. 2013 г. Малюнак М. А. Плавінскага

траў і накрывак. Сталовы посуд прадстаўлены нешматлікімі паліванымі фрагментамі, сярод якіх можна вылучыць некалькі донцаў кубкаў.

У запаўненні аб’екта 1 выяўлены дастаткова шматлікія індывідуальныя знаходкі (мал. 9): дзве пагнутыя бронзавыя шпількі «пус-епі», бронзавая зашпілька, верагодна, шкляная зонная пацерка бела-жоўтага колеру, свінцовая куля, жалезная акоўка похваў клінковай прылады (?), тры жалезныя іглы, жалезны нож з пяццю адтулінамі для бронзавых заклёпак, тры з якіх захаваліся, бронзавая тыльная накладка і заклёпка ад тронкаў нажа гэтага ж тыпу, фрагмент каменнага асялка з адтулінай, скрутак тонкага меднага дроту, жалезны прадмет невядомага прызначэння (магчыма, дэталь нейкага механізма), два апрацаваных крэменя. Акрамя таго, знойдзены дзве манеты: паўгрош, ВКЛ, Аляксандр Ягелончык, (1492–1506 гг.), без даты і дэнарый, ВКЛ, Аляксандр Ягелончык, (1492–1506 гг.), без даты[3].

На падставе выяўленых артэфактаў час утварэння запаўнення аб’екта 1 і адпаведна сам аб’ект можна датаваць першымі дзесяцігоддзямі XVI ст., магчыма, больш шырока – ўсёй першай паловай стагоддзя. Але ранняе датаванне менавіта ў межах першых дзесяцігоддзяў XVI ст. падаецца больш верагодным.

***Шурф I*** быў закладзены на паўднёва-ўсходнім схіле замкавага пагорка, прыблізна за 7 м на паўночны ўсход ад бастэі (гл. мал. 5), і меў форму выцягнутай па лініі поўнач–поўдзень траншэі памерам 5 × 1 м. Асноўнай мэтай закладкі Шурфа I быў пошук магчымых рэшткаў мураваных сцен замка. Паверхня шурфа была пакрыта тонкім слоем дзірвану магутнасцю 0,02–0,03 м. Пад ім залягаў слой шэрага колеру з уключэннем дробных кавалкаў цэглы. Ніякіх знаходак у гэтым слаі знойдзена не было. Пад слоем шэрага колеру па ўсёй плошчы шурфа была выяўлена абпаленая гліна (у кв. 1–2 слой выяўлены пасля выбаркі трох пластоў магутнасцю 0,1 м, а ў кв. 3–5 – пасля выбаркі двух такіх пластоў). На слаі абпаленай гліны ў кв. 3–4 знойдзена шэсць камянёў памерам 0,15–0,30 м і кавалак цэглы.

З прычыны недахопу часу было прынятае рашэнне не разбіраць слой абпаленай гліны і спыніць працы па даследаванні шурфа I да сезону 2014 г. У кожным выпадку ўжо зараз можна сцвярджаць, што на ўчастку паўднёва-ўсходняга схілу замкавага пагорка, дзе быў закладзены шурф I, мураваных умацаванняў не было.

[3] Вызначэнне манет ажыццёўлена А. М. Плавінскім, за што аўтар выказвае яму шчырую падзяку.



Мал. 7. Індывідуальныя знаходкі: *1* – жалезная спражка; 2 – жалезная зашпілька; *3* – жалезны язычок ад спражкі; *4* – бронзавая заклёпка ад тронак нажа; *5–7* – бронзавыя тыльныя накладкі на тронкі нажоў; *8* – дзве капейкі, СССР, 1977 г.; *9* – апрацаваны крэмень. Пласты I–III. Раскоп I. Мядзельскі замак. 2013 г. Малюнак: *1–8* –М. А. Плавінскага; *9* – А. М. Вашанава



Мал. 8. Місападобная (*1*) і гаршковая (*2–4*) кафля. Аб'ект 1. Раскоп I. Мядзельскі замак. 2013 г. Малюнак М. А. Плавінскага



Мал. 9. Індывідуальныя знаходкі: *1, 16* – бронзавыя шпількі «пус-епі»; 2 – каменны асялок; *3* – свінцовая куля; *4* – бронзавая заклёпка ад тронак нажа; *5–6, 9* – жалезныя іглы; *7* – жалезная акоўка похваў клінковай прылады (?); *8* – бронзавая зашпілька; *10* – жалезны прадмет невядомага прызначэння; *11* – бронзавая тыльная накладка на тронкі нажа; *12* – шкляная пацерка; *13* – дэнарый, ВКЛ, Аляксандр Ягелончык, (1492–1506 гг.), без даты; *14* – паўгрош, ВКЛ, Аляксандр Ягелончык, (1492–1506 гг.), без даты; *15* – жалезны нож; *17* – скрутак тонкага меднага дроту; *18* – апрацаваны крэмень. Аб'ект 1. Раскоп І. Мядзельскі замак. 2013 г. Малюнак: *1–17* – М. А. Плавінскага; *18* – А. М. Вашанава

**Высновы**

У выніку археалагічных даследаванняў Мядзельскага замка ў 2013 г. былі атрыманы наступныя асноўныя вынікі, якія дазваляюць сур'ёзна ўдакладніць нашы ўяўленні аб характары замкавых умацаванняў.

1. Быў зняты інструментальны план замка.

2. У выніку раскопак на пляцоўцы замка (раскоп І) было выяўлена, што культурны слой тут мае невялікую магутнасць – дасягае 0,3 м і цалкам перамяшаны шматразовым разворваннем.

3. У раскопе І была выяўлена і часткова даследавана частка заглыбленай у зямлю жылой пабудовы першай паловы XVI ст. (найбольш верагодна – першых дзесяцігоддзяў гэтага стагоддзя).

4. Разведачныя даследаванні (шурф І) на паўднёва-ўсходнім схіле замкавага пагорка не выявілі

тут слядоў наяўнасці мураванай фартыфікацыі (каменных ці цагляных замкавых сцен). Гэты факт прымушае паставіць пад сумненне існаванне на Мядзельскім замке суцэльнага паса мураваных умацаванняў. Больш верагодным падаецца наступнае меркаванне: мураваныя ўмацаванні Мядзельскага замка складаліся з магутнай мураванай вежы, якая была пабудавана ў паўночна-ўсходняй частцы замкавага пагорка ў XV ст. Пазней да яе быў прыбудаваны мураваны «палац». Не выключана таксама, што са знешняга боку муроўкай былі ўмацаваны і бастэі.

**Літаратура**

1. Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь / склад. В. Я. Абламскі, І. М. Чарняўскі, Ю. А. Барысюк. – Мінск : Белта, 2009. – 684 с. : іл.

2. Покровский, Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский. – Вильна : Типография А. Г. Сыркина, 1893. – 164 с.

3. Ткачоў, М. А. Справаздача аб палявых даследаваннях 1970 г. / М. А. Ткачоў. – Гродна, 1970. – ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Спр. № 377.

4. Ткачоў, М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. / М. А. Ткачоў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1978. – 144 с. : іл.

5. Ткачоў, М. А. Справаздача аб палявых даследаваннях за 1981 г. / М. А. Ткачоў. – Гродна, 1981. – ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Спр. № 778.

6. Ткачоў, М. А. Мядзельскі замак / М. А. Ткачоў // Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя. – Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 1993. – С. 450.

7. Ткачоў, М. А. Мядзельскі замак / М. А. Ткачоў // Памяць. Мядзельскі раён. – Мінск : Беларуска энцыклапедыя, 1998. – С. 73–75.

8. Чарняўскі, Міх. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1997 годзе / Міх. М. Чарняўскі. – Мінск, 1998. – ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Спр. № 1697.

**Резюме**

*Н. А. Плавинский*

**Раскопки Мядельского замка в 2013 году**

Мядельский замок является памятником археологии и фортификации эпохи средневековья и раннего Нового времени. Он размещен на бывшем острове (сейчас полуострове) озера Мястро в южной части современного Мяделя. Замок известен в научной литературе с XIX в. Главную роль в его изучении сыграли М. А. Ткачев и Мих. М. Чернявский. В результате этих исследований было установлено, что Мядельский замок является памятником археологии и архитектуры XV – начала XVIII в.

В результате исследований 2013 г. был снят инструментальный план замка и заложены раскоп I и шурф I общей площадью 37 м$^2$. В раскопе I была обнаружена и частично исследована часть углубленной в землю жилой постройки первой половины XVI в. (наиболее вероятно – первых десятилетий этого столетия).

Раскопки 2013 г. позволяют полагать, что сплошного пояса каменных либо кирпичных укреплений на Мядельском замке не было. Более вероятно, что кирпичные укрепления состояли из мощной башни, построенной в северо-восточной части замкового холма XV в. Позже к ней был пристроен кирпичный «дворец».

**Summary**

*M. A. Plavinski*

**Excavations of Miadzel castle in 2013**

Miadzel castle is a monument of archaeology and fortification of the Medieval epoch and Early Modern time. It is situated jn the former island (now peninsula) Myastra lake in the southern part of present day Miadzel. The castle is known in the scientific literature from the 19$^{th}$ century. Major role in his study played M. A. Tkachou and Mih. M. Charniauski. As a result of these studies it was found that Miadziel castle is a monument of archeology and architecture of the 15$^{th}$ – the beginning of the 18$^{th}$ century.

In the result of research in 2013 instrumental plan of the castle was made and cut I and sounding I with a total area of 37 m$^2$ where excavated. In the Cut I was discovered and partially investigated part of the land of profound residential construction of the first half of the 16$^{th}$ century (most likely – the first decades of this century).

Excavations of 2013 suggest that Miadziel castle doesn’t had a continuous belt of stone or brick fortifications. More likely that the brick strengthening consisted of a strong tower built in the north-eastern part of the castle hill in the 15$^{th}$ century. Later the built brick «palace» was built near it.

*Паступіў 22.09.2014 г.*

2,5 м. У паўднёва-ўсходняй частцы шырыня вала дасягае 11,5 м, вышыня ад узроўню поля – 3,5–4,0 м. Мяркуемая даўжыня траншэі для прарэзкі валоў ў паўднёвай частцы складае 35–40 м пры шырыні 2 м [7].

Дадзенай методыкі мы прытрымліваліся з восені 2012 г., калі распачалі стацыянарныя раскопкі на гарадзішчы [8]. На ***першым этапе*** ў кастрычніку былі разбіты чатыры траншэі (B, C, D, E агульнай плошчай 1200 м$^2$), якія перасякалі пляцоўку гарадзішча па лініях поўнач–поўдзень і захад–усход і перакрыжоўваліся ў цэнтры. Даўжыня лініі поўнач–поўдзень склала 136 м, захад–усход – 157 м. Шырыня траншэй – 4 м. Яны не даходзілі да асновы вала, які ідзе па перыметры гарадзішча толькі на 1,5–2,5 м. Траншэя D праходзіла праз вал і роў у заходняй частцы гарадзішча (мал. 3, *б*; 4).

Выбарку траншэй ажыццяўлялі наступным чынам: дзёран па ўсёй плошчы здымалі пры дапамозе экскаватара на глыбіню да 0,05 м, а далейшае даследаванне культурнага пласта ажыццяўлялі ўручную, з наступнай зачысткай мацерыковай паверхні, фіксацыяй і вывучэннем выяўленых аб'ектаў, у тым ліку тых, якія маюць сучаснае паходжанне. Былі вылучаны некалькі тыпаў аб'ектаў, зыходзячы з іх запаўнення і форм:

– пляма – неглыбокае (да 10 см) паніжэнне ў мацерыковай паверхні, запоўненнае шчыльным светла-шэрым суглінкам. Заўсёды мае недакладную форму і размытыя межы. Знаходкі ў плямах сустракаюцца вельмі рэдка;

– яма – мацерыковая яма (гаспадарчая, слупавая, магільная і інш.), глыбей за 10 см, якая мае акрэсленыя межы, больш вызначальную форму, дакладны профіль. Запаўненне часта неаднастайнае, прасочваюцца праплласткі і вуглістыя плямы;

– яма сучасная – глыбокая (да 0,5–0,8 м) яма, запаўненне стракатае карычнева-жоўтага з шэрымі плямамі колеру, з кавалкамі напаўраскладзенага дзёрну, абрыўкамі цэлафану і іншымі знаходкамі сучаснага паходжання;

– траншэя (канаўка) сучасная – след воркі ці глыбокага разворвання. Шырыня – да 1 м, глыбіня не перавышае 20 см. Запаўненне карычневага колеру, аднастайнае.

Да часу першаснага засялення гарадзішча адносяцца першыя два тыпы аб'ектаў, таму іх вывучэнню надавалі найбольшую ўвагу. У *траншэі D* былі зафіксаваны 63 аб'екты, а таксама на ўчастку перадвальнай прасторы – паласа буйназярністага пяску са жвірам, якая была перакрыта светла-шэрым пластом змытага з вала грунту.



Мал. 4. Працэс раскопак гарадзішча Обчын. Даследаванне траншэямі. Восень 2012 г.



Мал. 5. Працэс раскопак гарадзішча Обчын. Даследаванне сектара 1. Восень 2012 г.

Падчас даследавання *траншэі Е* дакладна былі зафіксаваны і вывучаны толькі аб'екты, якія можна звязваць са старажытнасцю. Іх агульная колькасць склала 74. Тут сустракаліся тыя ж тыпы, што і ў траншэі D, але ў меншай колькасці. Да таго ж дадаліся аб'екты новага тыпу: падквадратныя слупавыя ямы шырынёй да 30 см і глыбінёй да 50 см. У запаўненні гэтых ям сустракаліся рэшткі часткова спарахнелых драўляных слупоў з жалезнымі цвікамі сучаснага выгляду. Ямкі ўтваралі роўныя шэрагі, якія працягваліся ў *траншэі С*. Гэтыя ямы маюць сучаснае паходжанне і звязаны з кашарамі для кароў. Падчас даследавання *траншэі В* было зафіксавана 48 аб'ектаў, у траншэі С – 62 [8]. Тыпы аб'ектаў не адрозніваліся ад сустрэтых у папярэдніх траншэях.

Такім чынам, першапачатковыя даследаванні пляцоўкі траншэямі дазволілі высветліць асаблівасці культурнага пласта на ўсёй плошчы гарадзішча (моцна пашкоджанага разворваннем, з невялікай колькасцю артэфактаў, якія прадстаўлены пераважна дробнымі фрагментамі керамікі).

На ***другім этапе,*** таксама ў кастрычніку 2012 г., пляцоўка гарадзішча была разбіта на чатыры сектары, якія атрымалі лічбавую нумарацыю. На *сектары 1* (паўночна-заходнім) было даследавана 2060 м$^2$ [8] (мал. 3, *б*; 5). Мы ўжо ведалі асаблівасці залягання культурных напластаванняў на пляцоўцы гарадзішча, таму методыка раскопак была наступная: разараны пласт здымалі пры дапамозе экскаватара да глыбіні 0,25–0,30 м, пасля зачышчалі да мацерыковага ўзроўню пры дапамозе рыдлёвак. Кожны выяўлены аб'ект фіксавалі і даследавалі па частках, профілі замалёўвалі і фатаграфавалі.

На плошчы *сектара 1* фіксавалі тыя ж тыпы аб'ектаў, як і ў траншэях. Агульная колькасць аб'ектаў склала 318 адзінак: гаспадарчыя і слупавыя ямы, а таксама плямы паніжэнняў мацерыковай паверхні.

На ***трэцім этапе*** даследаванняў у чэрвені–ліпені 2013 г. былі завершаны працы з аб'ектамі на *сектары 1*; праводзілі разбіўку і выбарку ворыўнага пласта ў *сектары 2* (паўночна-ўсходні), фіксацыю і выбарку аб'ектаў; разбіўку і выбарку ворыўнага пласта ў *сектарах 3* (паўднёва-ўсходні) і *4* (паўднёва-заходні) (мал. 6); прарэзкі вала па перыметры гарадзішча (мал. 3, *б*) [8]. Методыка раскопак сектароў засталася ранейшай. Прарэзкі вала ажыццяўлялі наступнымі метадамі: 1) дзёран здымалі



Мал. 6. Працэс раскопак гарадзішча Обчын. Даследаванне сектароў 1, 2, 4. Лета 2013 г.

пры дапамозе экскаватара да глыбіні 0,07–0,10 м, далей разборка вялася ўручную пры дапамозе рыдлёвак, умоўнымі пластамі па 0,2 м з фіксацыяй драўляных канструкцый і асаблівасцей культурнага пласта (прарэзкі № 3 і 4); 2) прарэзкі шырынёй да 3 м (№ 1, 2, 5, 6, 7, 8) ажыццяўлялі пры дапамозе экскаватара з назіраннем за працэсам выбаркі. Зафіксаваны былі толькі профілі прарэзак.



Мал. 7. Пахаванне з развалам пасудзіны. Працэс раскопак гарадзішча Обчын. Даследаванне аб’ектаў. Лета 2013 г.

Агульная плошча ўскрытай часткі пляцоўкі *сектара 2* склала 3006 м$^2$. Тут выявілі новы тып аб’ектаў – пахаванні[2]. Яны былі прадстаўлены ямкамі рэгулярнай формы (круглыя, падавальныя) з дакладнымі межамі. У запаўненні сустракаліся вуглістыя прапласткі, плямы попелу бялёсага колеру, рэдкія дробныя перапаленыя костачкі, досыць частай знаходкай у такіх аб’ектах з’яўляюцца фрагменты ляпнога посуду (мал. 7). У адной з ям быў знойдзены абломак шкляной пацеркі сіняга колеру з белымі вочкамі [8].

Працы на пляцоўцы ў *сектары 3* праводзілі ў чэрвені–ліпені 2013 г. Агульная плошча ўскрытай часткі пляцоўкі склала 3435 м$^2$ [8] (мал. 3, *б*; 8). У сектары 3 сустракаліся тыя ж тыпы аб’ектаў, як і ў траншэях і сектарах 1 і 2, у тым ліку і пахаванні. Працы на *сектары 4* таксама пачалі праводзіць ў чэрвені–ліпені 2013 г., а скончылі восенню. Агульная плошча ўскрытай часткі пляцоўкі ў сектары 4 склала 2637 м$^2$ [8].

[2] Аналіз пахавальных комплексаў гарадзішча Обчын будзе прадстаўлены ў асобным артыкуле.



Мал. 8. Працэс раскопак гарадзішча Обчын. Даследаванне пляцоўкі. Лета 2013 г.

Падчас *чацвёртага этапа* даследаванняў у верасні–кастрычніку 2013 г. праводзілі фіксацыю і выбарку аб'ектаў у сектарах 3 і 4; завяршэнне выбаркі прарэзкі № 3 (на месцы ўвахода на гарадзішча) (мал. 3, *б*).

Падчас раскопак гарадзішча выкарыстоўвалі таксама спецыяльныя прыродазнаўчыя метады даследаванняў: адабраны ўзоры для паліналагічных і радыевугляродных аналізаў[3].

**Даследаванні абарончай сістэмы гарадзішча.** Даследаванні вала гарадзішча пачалі ў 2012 г. Разборку траншэі D у месцы прарэзкі вала ажыццяўлялі пластамі па 0,1 м з замалёўкай і фотафіксацыяй кожнага пласта, унутрывальных канструкцый, адборам проб на радыевугляродны аналіз і замалёўкай прамежкавага профіля. Быў даследаваны таксама роў, які выявілі па знешнім боку вала ў працягу траншэі (мал. 9–11). Найвышэйшая кропка насыпу вала была размешчана на лініі кв. 76–77, вышыня насыпу тут дасягала 1,56 м ад узроўню мацерыковай паверхні. У профілі вала зафіксаваны тры ўзроўні перапаленых драўляных канструкцый. На верхнім ўзроўні (глыбіня ад 0,4 да 0,6 м) прасочваецца прапластак цёмна-шэрага супеску, насычанага дробнымі вуголлямі. Другі ўзровень залягае на 0,2–0,3 м ніжэй, у ім былі зафіксаваны буйныя кавалкі перапаленных бярвенняў, некалькі вертыкальных калкоў. Ніжні ўзровень у выглядзе моцна насычанага вуголлем прапластка зафіксаваны яшчэ на 0,2 м ніжэй (мал. 10, 11). Максімальная канцэнтрацыя вуголля адзначана па лініі кв. 76–77 на шырыні да 2 м. Тут выразна чытаецца ядро вала, яго падсыпкі і ўмацаванні. Па знешнім боку вала ідзе рэзкі спуск да рова, які больш выразна бачны па паўночным профілі. Перапад высот ад сучаснай вяршыні вала да дна рва склаў каля 2,6 м. Запаўненне рова аднастайнае: шэры шчыльны суглінак (верагодна, змывы з насыпу вала), зрэдку прасочваюцца плямы вуглістага грунту з дробнымі кавалакамі вуголля.

На наступных этапах раскопак помніка для больш падрабязнага вывучэння абарончай сістэмы гарадзішча было вырашана правесці дадатковыя прарэзкі вала ў розных частках гарадзішча[4]. Усяго было зроблена восем прарэзак (акрамя прарэзкі траншэяй D) (мал. 3, *б*) [8].

*Прарэзка № 1* вала гарадзішча была размешчана ў паўднёва-ўсходняй частцы помніка (сектар 3) і перасякала вал у самым высокім месцы на вольным ад дрэваў і хмызняку ўчастку. Дзірваністы пласт здымалі пры дапамозе экскаватара на глыбіню

[3] Аналізы зроблены ў лабараторыях Мінска і Санкт-Пецярбурга, а вынікі будуць прадстаўлены ў асобным артыкуле.

[4] Выказваем шчырую ўдзячнасць кандыдату гістарычных навук, дацэнту В. І. Шадыру за дапамогу падчас палявых даследаванняў абарончых умацаванняў і навуковыя кансультацыі адносна інтэрпрэтацыі атрыманых даных.



Мал. 9. Выгляд прарэзкі вала і рова траншэяй D. Восень 2012 г.




Мал. 10. Фотафіксацыя ўнутрывальных канструкцый. Прарэзка вала траншэяй D. Восень 2012 г.




Мал. 11. Графічная фіксацыя ўнутрывальных канструкцый. Прарэзка вала траншэяй D: *1* – дзірваністы пласт; *2* – светла-карычневы супесак; *3* – цёмна-шэры супесак з плямамі амаль чорнага колеру, насычаны дробнымі вугольчыкамі; унізе пераходзіць у супесак светла-шэрага колеру без дакладнай мяжы; *4* – перамешаны супесак светла-карычневага колеру, з бялёсымі ўключэннямі і рэдкімі дробнымі вугольчыкамі; *5* – перамешаны супесак светла-карычневага колеру з белесымі і вуглістымі ўключэннямі; *6* – гліністыя зацёкі; *7* – супесак светла-жоўтага колеру з шэрымі плямамі; белымі ўключэннямі і дробнымі вугольчыкамі; *8* – шэры супесак з бялёсымі ўключэннямі, насычаны вуголлем; *9* – светла-шэры пясок; *10* – вуголле, кавалкі бярвенняў; *11* – шчыльная гліна брудна-карычневага колеру; *12* – суглінак аранжавага колеру; *13* – карычневаты супесак; *14* – пясок светла-жоўтага колеру з светла-карычневымі плямамі; *15* – супесак карычневага колеру з светла-шэрымі плямамі і дробнымі чорнымі вуглістымі плямамі; *16* – шэра-карычневы супесак з бялёсымі плямамі і невялікімі чорнымі вуглістымі плямамі; *17* – слаісты пласт: тонкія слаі (да 1–2 см) жоўтага пяску, шэрага пяску, чорнай вуглістай глебы; *18* – светла-шэры супесак з вельмі дробнымі вугольчыкамі; *19* – моцна насычаны вуглямі пласт, які канцэнтруецца вакол перапаленых бярвенняў; *20* – шэравата-жоўты пясок; *21* – перамешаны нанасны пласт з нацёкамі гліны; 22 – пясчана-гліністы перамешаны пласт; *23* – пласт супеску цёмна-шэрага і карычневага колеру; *24* – пласт супеску светла-шэрага колеру з бялёсымі плямамі і вуголлем

да 0,1 м. Сам насып таксама разбіралі пры дапамозе экскаватара на шырыню каўша. Даўжыня прарэзкі склала 11 м, быў закрануты таксама ўчастак па знешнім боку вала, дзе меркавалася знайсці сляды рова.

Стратыграфія ў прарэзцы № 1 наступная: зверху ішоў пласт аднастайнага перамешанага карычнева-шэрага супеску, пад ім – рэшткі драўляных канструкцый. Канструкцыя ўмацаванняў даволі простая. Рэшткі перапаленых бярвенняў зафіксаваны ў сярэдзіне вала на глыбіні 0,9–1,5 м ад дзённай паверхні і сканцэнтраваны ў лінзе цёмна-шэрага супеску. Асобнае вуголле сустракаецца па ўнутраным схіле вала ў пясчаных прапластках. Другі ўзровень драўляных канструкцый у верхняй частцы насыпу пад дзірвaністым пластом чытаецца слаба. Грунт тут плямісты, колер ад светла-шэрага (амаль бялёсага) да цёмна-шэрага ўтрымлівае дробныя вугольчыкі. Роў адносна неглыбокі, перапад вышынь ад падэшвы вала да дна ірва складае 1,1 м, ад грэбеня вала – да 2,5 м. Запаўненне рова – глiністы пласт светла-шэрага колеру.

У профілі чытаюцца сляды двух слупавых ям. Адна з іх знаходзіцца ў цэнтры вала, пад самай высокай яго кропкай. Мае дыяметр каля 20 см і глыбіню ад узроўню фіксацыі да 0,4 м, перакрываецца пластом гліны, які падсцілае ніжні ўзровень драўляных канструкцый. Верагодна, гэта сляды першаснага частакола, які потым быў умацаваны дадатковымі канструкцыямі і яшчэ пазней над імі быў узведзены вялікі насып.

*Прарэзка № 2* вала гарадзішча была размешчана ў паўднёва-заходняй частцы помніка (сектар 4) і праразала вал на вольным ад дрэваў і хмызняку ўчастку. У прарэзцы зафіксаваны два ўзроўні ўнутрывальных канструкцый. Ніжняя была размешчана на невялікім першасным насыпу. З рэшткаў драўляных канструкцый у прарэзцы былі ўзяты некалькі проб на радыевуглярoдны аналіз.

*Прарэзка № 3* была размешчана ў паўночна-заходняй–заходняй часцы гарадзішча (сектар 1) і перакрывала сучасны ўезд на пляцоўку. Дзірвaністы пласт здымалі пры дапамозе экскаватара, зачысткі і выбаркі пласта праводзілі ўручную пры дапамозе рыдлёвак. Даўжыня прарэзкі № 3 склала 18 м, шырыня – 8 м. Стратыграфія вальнай канструкцыі ў большасці падобна да асаблівасцей, якія адзначалі пры даследаванні вала на прарэзцы № 4 (гл. далей). Унутраны схіл вала зверху утрымліваў культурны пласт цёмна-шэрай афарбоўкі. Аднолькавы грунт зафіксаваны і па знешнім схіле. Яго магутнасць у розных месцах складала ад 0,2 да 0,4 м. Бліжэй да цэнтральнай часткі вала і на самым грэбені яго зафіксаваны супесак шэрай афарбоўкі з глінянымі прапласткамі (насыпны грунт). Яго магутнасць складала ад 0,2 да 1,0 м на вяршыні вала. Ён утрымліваў вялікую колькасць вуголля. Ніжэй быў зафіксаваны той жа слой цёмна-шэрай афарбоўкі, што і на схілах, толькі ў цэнтральнай частцы ён утрымліваў шмат вуголля – сляды пажару. У цэнтральнай частцы канстатаваны таксама сляды, відаць, першапачатковых невялікіх валоў, якія былі збудаваны з гліны. Кантактны слой і мацярык складаліся з гліны, жвіру і пяску.

У цэнтральнай частцы вала тэхніка будаўніцтва ўнутрывальнай абарончай сітэмы – ад першапачатковых невялікіх валоў да адзінага вала з двухраднай зрубнай бярвенчатай канструкцыяй аналагічная, як у прарэзцы № 4. Сляды пажараў і падсыпак, якія зафіксаваны як у профілі, так і на планах зачысткі, сведчаць аб неаднаразовай перабудове абарончай сістэмы гарадзішча. У ніжняй частцы зафіксаваны светла-шэры глеісты пласт з уключэннямі вугалю, які чаргуецца з цёмна-шэрым пластом з інтэнсіўным вуглістым напаўненнем.

У прарэзцы № 3 было зафіксавана месца старажытнага ўезду на гарадзішча. У плане адзначаны разрыў лініі рова, які перасякае моцна ўтрамбаваны насып старажытнай дарогі. Заканчэнні рова з абодвух бакоў насыпу паўкруглыя ў плане. Адзначаецца таксама разрыў унутрывальных драўляных канструкцый.

*Прарэзка № 4* была размешчана ў паўночна-заходняй частцы гарадзішча (сектар 1). Памеры ўскрытай часткі – 8 × 20 м. На прыкладзе прарэзкі № 4 разгледзім асаблівасці стратыграфіі абарончых умацаванняў больш падрабязна.

*Пласт 0,0–0,2 м.* Грунт аднастайны светла-шэрага і шэрага колеру, амаль паўсюдна сустракаюцца невялікія камяні дыяметрам 0,05–0,10 м. У кв. В1 на глыбіні 0,25 м знойдзена жалезнае шыла. Пасярэдзіне кв. В1 на глыбіні 0,15 м зафіксаваны вугалі і рэшткі перапаленага бервяна (плаха).

*Пласт 0,2–0,4 м.* На глыбіні 0,3 м шэры пласт чаргаваўся са светлым і жоўтым грунтам. Кантрольная зачыстка на вяршыні, грабяні вала на адзнацы 0,3 м выявіла вугальны праплaстак шырынёй да 3 м на ўсю даўжыню прарэзкі. Тут былі знойдзены некалькі фрагментаў керамікі з перлавым арнаментам. Добра былі бачны сляды пажару з абгарэлымі плахамі і вялікім скапленнем вугалёў і залы.

*Пласт 0,4–0,6 м.* Колер грунту з шэрага змяніўся на светла-шэры і жоўты мацерыковы пясок. У заходняй частцы мацярык з'явіўся раней. На вяршыні вала слой цёмна-шэрага вугліста-сажыстага характару ўтрымліваў абпаленую гліну і пясок. Назіраецца дзве паласы абгарэлага дрэва. Падаецца, што фартыфікацыя вала складалася з двухрадавай бярвенчатай сцяны зрубнай канструкцыі. Даўжыня бярвенняў складала 2,0–2,5 м, міжрадавая адлегласць дасягала 0,5 м.

*Пласт 0,6–0,8 м.* На ўнутранам схіле перадмацерыковы пласт утрымліваў дробныя вугольчыкі,

абпалены пясок са жвірам. Мацярык складаўся ў асноўным са жвіру. Па лініі ВГДЕ залягаў слой цёмна-шэрага грунту з утрыманнем вуголля, які на вяршыні вала меў па-ранейшаму цёмна-шэрую афарбоўку з інтэнсіўным утрыманнем вуголля са слядамі моцнага пажару. Шырыня гэтага пласта складала 1,5 м па ўсёй даўжыні прарэзкі. На знешнім схіле вала быў зафіксаваны шэры супесак з вугольчыкамі з большай канцэнтрацыяй бліжэй да грэбеня вала. Тут былі зафіксаваны тонкія пражылкі гліны шырынёй 1–3 см хаатычнай канфігурацыі і пясчаныя лінзачкі.

*Пласт 0,8–1,0 м.* Па лініі ВГ і ДЕ былі зафіксаваны дзве пясчаныя падсыпкі, якія пачыналіся на глыбіні 0,65 м ад грэбеня вала. Магчыма, гэта рэшткі двух першапачатковых валоў. Паміж імі звонку – слой цёмна-шэрага супеску з вугольчыкамі. Паміж падсыпкамі прасочваецца моцны пласт пажарышча са значным утрыманнем вуголля.

*Пласт 1,0–1,2 м.* Сляды пажарышча былі зафіксаваны толькі на лініі грэбеня вала шырынёй да 1,2–1,4 м у канцы лініі Г і пачатку лініі Д. Пад дзвюма пясчанымі падсыпкамі залягае слой гліны і невялікай колькасці вуголля. Гэта кантактны і мацерыковы пласт, у якім быў знойдзены фрагмент ляпнога посуду мілаградскай культуры. Буйныя кавалкі абгарэлай плахі ўзяты на аналіз.

*Пласт 1,2–1,4 м.* Сляды згарэлай драўлянай канструкцыі былі зафіксаваны ў цэнтральнай частцы вала. Яе шырыня складала 1,20–1,58 м, дыяметр рэшткаў абгарэлых бярвенняў – 0,12–0,15 м. Былі ўзяты пробы на пароду дрэва і на дэндрахраналагічныя аналізы.

*Пласт 1,4–1,6 м.* Стратыграфічнае даследаванне цэнтральнай часткі вала завяршылі разборкай пласта. Грунт з вугальнай праслойкай змяніўся на мацерыковы пласт са жвірам, глінай і пяском, у якіх зрэдку траплялiся вугольчыкі.

*Даследаванне рова.* Роў праходзіў па знешнім боку вала і меў глыбіню 1,2–1,4 м, шырыню каля 3,5 м. Запаўненне рова наступнае: у самым нізе – глеісты слой цёмна-шэрай афарбоўкі з утрыманнем вуголля чаргаваўся са слоем гліны і пяску са жвірам. У верхняй частцы ён складаўся з цёмна-шэрага супеску з пясчанымі праплласткамі. Можна меркаваць, што ўмацаванні рова складаліся з забітых у дно тоўстых калоў тыпу надоўбу. Доўгачасова ў рове была вада, аб чым сведчыць глеісты пласт на самым дне.

*Прарэзка № 5* вала гарадзішча была размешчана ў паўднёва-заходняй частцы помніка (сектар 3). Даўжыня прарэзкі склала 14 м, быў закрануты таксама ўчастак па знешнім боку вала, дзе меркавалася знайсці сляды рова. Ядро вала моцна расплылося. Былі зафіксаваны два ўзроўні ўнутрывальных канструкцый, слупавыя ямы ў профіле. Роў неглыбокі (да 0,5 м).

*Прарэзка № 6* была размешчана ў паўночнай частцы помніка і праразала вал на вольным ад дрэваў і хмызняку ўчастку, дзе фіксуецца падвойны грэбень вала (сектар 1). У профілі былі зафіксаваны два ўзроўні ўнутрывальных канструкцый, сляды моцна аплыўшага ўнутранага вала, які складаўся толькі з насыпнога грунту, без драўляных канструкцый, неглыбокі роў.

*Прарэзка № 7* была размешчана ў паўночна-усходняй частцы гарадзішча (сектар 2) на невялікім, вольным ад дрэваў і хмызняку ўчастку. Даўжыня прарэзкі склала 10 м. Быў закрануты таксама ўчастак па знешнім боку вала, дзе меркавалася знайсці сляды рова. Стратыграфія ў прарэзцы выглядала наступным чынам: ніжні ўзровень канструкцый быў зафіксаваны на ўзроўні старажытнай мацерыковай паверхні, над пластом шчыльнага суглінку. Слядоў першапачатковага насыпу зафіксавана не было. Другі ўзровень канструкцый быў зафіксаваны над праплласткам насыпнога буйназярністага пяску, у пласце шчыльнага, гумусаванага суглінку. Трэці ўзровень – у верхняй частцы насыпу ў выглядзе асобных вуглістых плям.

*Прарэзка № 8* была размешчана ў паўднёвай частцы гарадзішча на невялікім, вольным ад дрэваў і хмызняку ўчастку (сектар 3). Яна перасякала двайны вал, які ўтвараў невялікі ізаляваны сегмент, закранала міжвальную прастору. Даўжыня прарэзкі склала 32 м. У гэтай прарэзцы быў зафіксаваны вонкавы роў глыбінёй да 0,8 м, знешні вал з двума ўзроўнямі ўнутрывальных канструкцый, унутраны вал, моцна разараны і без слядоў унутрывальных канструкцый. Слядоў культурнага пласта міжвальная прастора не ўтрымлівала.

**Папярэдняя інфармацыя аб выяўленых артэфактах** (мал. 12–14). Калекцыя знаходак з *траншэі D*, з раскопак якой пачаліся даследаванні гарадзішча, аказалася не прадстаўнічай і налічвала толькі 49 адзінак масавага матэрыялу. Большасць яго прадстаўлена фрагментамі ляпной гладкасценнай керамікі, характэрнай для ранняга этапу мілаградскай культуры. Таксама былі знойдзены чатыры фрагменты костак і два абломкі крэменю. Індывідуальныя знаходкі з траншэі D прадстаўлены дзвюма каменнымі клінападобнымі сякерамі (мал. 13: *12, 13*), абломкам цыліндрычнага грузіка з гліны, каменным адбойнікам (мал. 13: *4*), зліткам белага металу, бронзавай трубачкай-пранізкай і бронзавым стрыжнем. Усе гэтыя знаходкі можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць ў межах VIII–III стст. да н. э. (мал. 12–14).

Масавыя знаходкі з *траншэі E* прадстаўлены 97 экзэмплярамі. Большасць з іх складаюць фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі. Індывідуальныя знаходкі ў траншэі прадстаўлены каменнай клінападобнай сякерай, фрагментам трохкутнага ў сячэнні



Мал. 12. Кераміка мілаградскай культуры. Гарадзішча Обчын.



Мал. 13. Каменныя вырабы: *1* – тачыльны/шліфавальны камень; *2* – мініяцюрная сякерка; *3, 7* – клінападобныя сякеры (фрагменты); *4, 9* – камні-адбойнікі; *5, 8* – камні-цёрачнікі; *6, 11–13* – клінападобныя сякеры; *10* – нарыхтоўка сякеры. Гарадзішча Обчын




Мал. 14. Артэфакты: *1* – іголка бронзавая; *2, 3, 6, 7* – пласцінкі бронзавыя; *4* – выраб з бронзы; *5* – шпілька бронзавая; *8* – колца бронзавае; *9* – язычок спражкі; *10* – куля свінцовая; *11* – шыла бронзавае; *12* – завушніца сучасная; *13* – пацерка шкляная; *14* – бранзалет бронзавы (фрагмент); *15, 16* – стрыжні бронзавыя; *17, 18* – кручкі рыбалоўныя жалезныя; *19, 20, 24* – нажы жалезныя; *21* – долата бронзавае; *22* – спражка жалезная; *23* – падкоўка жалезная; *25* – абломак нажа жалезнага з накладкай бронзавай; *26–28* – вырабы з крэменю; *29* – сякерка скіфскага тыпу; *30* – нож жалезны сучасны. Гарадзішча Обчын

бронзавага бранзалета (мал. 14: *14*), жалезнай пласцінкай і двума крамянёвымі рэтушаванымі вырабамі (мал. 14: *26, 27*). Усе гэтыя знаходкі (акрамя жалезнай пласціны) можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць ў межах VIII–III стст. да н. э. [5, с. 117, 207].

Калекцыя масавых знаходак з *траншэі B* складалася толькі з 30 фрагментаў ляпной гладкасценнай керамікі мілаградскай культуры (2 венца і 28 сценак) і адной індывідуальнай знаходкі – бронзавага долата, выкананага з круглага бронзавага стрыжня з расплюшчаным краем (мал. 14: *21*). Яго можна аднесці да мілаградскай культуры. У *траншэі C* знойдзена сем фрагментаў ляпной гладкасценнай керамікі мілаградскай культуры. У адрозненне ад траншэі B у траншэі C індывідуальных знаходак выяўлена не было.

Масавыя знаходкі ў *сектары 1* прадстаўлены 344 фрагментамі керамікі. Абсалютную большасць скаладае ляпная гладкасценная кераміка, толькі абломак сценкі мае штрыхаваную паверхню. Уся кераміка адносіцца да ранняга этапу мілаградскай культуры. Індывідуальныя знаходкі з сектара 1 прадстаўлены пагнутай бронзавай кіяпадобнай шпількай-зашчыпкай (мал. 14: *5*), двума каменнымі цёрачнікамі (мал. 14: *5, 8*), двума каменнымі вырабамі з прышліфаванай паверхняй, бронзавым нявызначаным вырабам і зліткам бронзы. Усе гэтыя знаходкі можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць іх у межах VIII–III ст. да н. э. [5, с. 192].

Масавыя знаходкі ў *сектары 2* прадстаўлены 595 экзэмплярамі. З іх тры абломкі жужалю, дробны кавалак кальцыніраванай косткі, крамянёвы адшчэп і 590 фрагментаў керамікі. Керамічны посуд прадстаўлены абломкамі кругавых і ляпных гаршкоў. Ляпная кераміка абсалютна пераважае ў наборы і адносіцца да ранняга этапу мілаградскай культуры, кругавая кераміка можа быць датавана познасярэдневяковым перыядам. Індывідуальныя знаходкі з *сектара 2* прадстаўлены фрагментам сінешкляной вачкаватай пацеркі (мал. 14: *13*), каменным вырабам акруглай формы з зашліфаванай паверхняй, сякерай клінам (мал. 13: *11*), бронзавым вырабам (верагодна, язычок ад спражкі) (мал. 14: *9*), двума фрагментамі моцна каразіраванага жалезнага нажа з бронзавай акоўкай (мал. 14: *24, 25*), жалезнай сякерай скіфскага тыпу (мал. 14: *29*), жалезнай абутковай падкоўкай і расплюшчанай ажурнай завушніцай з каменьчыкам (мал. 14: *12*). Гэтыя знаходкі (акрамя завушніцы, падкоўкі і нажа) можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць ў межах VIII–III стст. да н. э. Пацерка датавана больш вузка – IV–II ст. да н. э. [1, табл. 15: *6*]. Нож і падкоўка датаваны перыядам поздняга сярэдневякоўя, завушніца мае сучаснае паходжанне.

Масавыя знаходкі з *сектара 3* прадстаўлены 454 адзінкамі. З іх адзін фрагмент кальцыніраванай косткі, крамянёвы абломак і 452 фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі. Кераміка адносіцца да ранняга этапу мілаградскай культуры. Індывідуальныя знаходкі з *сектара 3* прадстаўлены бронзавым колцам-пранізкай (мал. 14: *8*), фрагментам бронзавага бранзалета (мал. 14: *7*), двума неазначальнымі вырабамі з бронзы, кавалкам бронзавага жужалю, фрагментам моцнакаразіраванага жалезнага нажа, жалезным клінавідным вырабам, двума жалезнымі іголкамі. Каменныя вырабы з сектара прадстаўлены камнем-цёрачнікам (мал. 13: *9*), адбойнікам і, верагодна, фрагментам каменнай сякеры. Таксама знойдзена манета часоў СССР і свінцовая куля часоў Першай сусветнай вайны. Бронзавыя і каменныя вырабы можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць ў межах VIII–III ст. да н. э. Жалезныя вырабы прадатаваць цяжка з прычыны іх фрагментарнасці і дрэннай захаванасці.

На плошчы *сектара 4* знойдзены 244 адзінкі масавага матэрыялу: крамянёвы абломак, фрагмент кальцыніраванай косткі, 242 фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі (16 венцаў, 225 сценак, 1 донца). Індывідуальныя знаходкі з *сектара 4* досыць разнастайныя. Знойдзены шэсць бронзавых артэфактаў: фрагмент шпількі (мал. 14: *10*), стрыжань, нявызначаны выраб, чатыры злiткі і кавалак жужалю, а таксама каменны цёрачнік, мініяцюрнае каменнае долата (мал. 13: *2*), нарыхтоўка клінападобнай сякеры (мал. 13: *10*), якія можна аднесці да мілаградскай археалагічнай культуры і датаваць VIII–III стст. да н. э. Вырабы з жалеза прадстаўлены квадратнай спражкай і нажом (мал. 14: *22, 30*), якія адносяцца да сучаснага перыяду. Таксама знойдзена манета 1901 года (адна капейка, Расійская Імперыя).

**Заключэнне.** Такім чынам, на працягу 2012–2013 гг. на гарадзічы Обчын Любанскага раёна Мінскай вобласці, якое трапляе ў зону будаўніцтва аб'екта «Строительство горно-обогатительного комплекса на сырьевой базе Нежинского (восточная часть) участка Старобинского месторождения калийных солей», праведзены комплексныя даследаванні (раскопкі) на плошчы звыш 13 000 м$^2$. Даследавана практычна ўся пляцоўка гарадзішча, зафіксавана і вывучана звыш 1400 разнастайных аб'ектаў (рэшткі гаспадарчых і жылых пабудоў, пахавальныя комплексы і інш.), выяўлена амаль 2000 розначасовых і рознакультурных артэфактаў, якія ў першую чаргу характарызуюць асаблівасці жыццядзейнасці насельніцтва позняга бронзавага–ранняга жалезнага вякоў мілаградскай культуры [8, 9].

Даследаванне вала дае падставы для папярэдніх высноў аб абарончай сістэме гарадзішча Обчын.

Першапачатковая фартыфікацыя гарадзішча у заходняй частцы складалася з двух невялікіх валоў вышынёй да 1 м і шырынёй да 2 м, умацаваных на вяршыні частаколам. Потым гэтыя валы былі засыпаны і перакрыты адным магутным валам, на вяршыні якога была пабудавана двухрадавая бярвенчатая сцяна зрубнай канструкцыі на адлегласці каля 1 м адна ад адной і запоўненая зямлёй. Такая канструкцыя праіснавала да канца функцыянавання гарадзішча. Яе двойчы ці нават тройчы перабудоўвалі, але тэхніку будаўніцтва не змянялі. Вывучэнне рэшткаў пажарышч і падсыпак сведчыць аб гэтых з’явах. Вышыня сцяны была каля 1,5 м, што давала магчымасць весці стральбу з лука і адбівацца дзідай і камянямі (сведчанні аналагічных аб’ектаў мілаградскай і іншых культур ранняга жалезнага веку). У іншых частках гарадзішча абарончыя канструкцыі былі меньш магутныя. Тут былі зафіксаваны максімум два ўзроўні абарончых збудаванняў і пераважала аднавальная сістэма абароны. На раннім этапе ўся сістэма абароны складалася з драўлянай сцяны па краях пляцоўкі.

На гарадзішчы атрымана невялікая, але прадстаўнічая калекцыя індывідуальных знаходак. Яе аналіз дазваляе рабіць высновы аб пачатку засялення і выкарыстання гарадзішча з канца другой паловы I тысячагоддзя да н. э. насельніцтвам мілаградскай культуры. Да гэтага ж перыяду адносіцца і керамічны комплекс, прадстаўлены пераважна раннімі формамі мілаградскай керамікі з ямкавым і перлавым аранментам. Асобныя фрагменты ляпнога посуду можна аднесці да больш ранняга часу і датаваць эпохай бронзы ці нават позняга неаліту.

Актыўнае выкарыстанне гарадзішча спынілася яшчэ да пачатку вытворчасці жалеза. Усе жалезныя вырабы (акрамя мініяцюрнай сякеркі) адносяцца да сярэдневяковага перыяду ці сучаснасці, што сведчыць аб перыядычным наведванні помніка жыхарамі акругі.

**Літаратура**


1. Алексеева, Е. М. Античные бусы Северного Причерноморья / Е. М. Алексеева // Свод археологических источников. – М., 1975. – Вып. Г1. – С. 12.
2. Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь / склад. В. Я. Абламскі, І. М. Чарняўскі, Ю. А. Барысюк. – Мінск : БЕЛТА, 2009. – 684 с. : іл.
3. Дучиц, Л. В. Отчет о полевых исследованиях группы по изучению средневековых памятников Белорусско-Литовского порубежья // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 696.
4. Лошенков, М. И. Отчет о раскопках и разведках в 1998 году в Бобруйском и Любанском районах // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 1784.
5. Лошенков, М. И. Городища милоградской культуры на территории Беларуси / М. И. Лошенков. – Минск : МФЦП, 2011. – 408 с.
6. Опросные листы 1924 го. по Слуцкому уезду // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 73.
7. Харытановіч, З. А. Справаздача аб выкананні археалагічных даследаванняў на гісторыка-культурнай каштоўнасці гарадзішчы Обчын у зоне будаўніцтва аб’екта «Строительство горно-обогатительного комплекса на сырьевой базе Нежинского (восточная часть) участка Старобинского месторождения калийных солей» у Любанскім раёне Мінскай вобласці ў 2012 годзе // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Арх. № 3004. – Мінск, 2013.
8. Харытановіч, З. А. Справаздача аб правядзенні навуковых археалагічных даследаванняў (раскопак) на гарадзішчы Обчын ў зоне будаўніцтва аб’екта «Строительство горно-обогатительного комплекса на сырьевой базе Нежинского (восточная часть) участка Старобинского месторождения калийных солей» у Любанскім раёне Мінскай вобласці ў 2012–2013 гадах // ААНД Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2014.
9. Charytanowicz, Z. Badania na grodzisku Obczyn w latach 2012–2013 / Z. Charytanowicz, W. Łakiza // XXX konferencja. Badania archeologiczne w Polsce środkowowschodniej, zachodniej Białorusi i Ukrainie w roku 2013. Streszczenia wystąpień. – Lublin : Instytut archeologii UMCS w Lubline; Muzeum Lubelskie w Lubline, 2014. – S. 22–23.



**Резюме**

*З. А. Харитонович, В. Л. Лакиза*

**Предварительные итоги археологических исследований на городище Обчин в 2012–2013 годах (Любанский район Минской области)**

В 2012–2013 г. Институт истории НАН Беларуси осуществил широкомасштабные комплексные научные (спасательные) исследования многокультурного памятника археологии – городища Обчин Любанского района Минской области, включенного в «Государственный список историко-культурных ценностей Республики Беларусь». Городище оборонительного типа милоградской культуры, которое попало в зону строительства Нежинского горно-обогатительного комплекса калийный солей, изучено методом раскопок полностью, на площади более 13 000 м$^2$. Зафиксировано и исследовано свыше 1400 различных объектов: хозяйственных и жилых построек, очагов, погребальных комплексов. Обнаружено более 2000 разнообразных артефактов, среди которых уникальные металлические изделия, каменные предметы труда, лепная посуда. Получены палинологические данные, новые радиоуглеродные даты для определения времени возведения оборонительных сооружений городища. Это позволяет характеризировать особенности материальной и духовной культуры, а также жизнедеятельности древнего населения Беларуси в позднем бронзовом и раннем железном веках.

**Summary**

*Z. A. Kharytanovich, V. L. Lakiza*

**Preliminary results of archaeological investigations on the hill-fort Obchin in 2012–2013 (Luban district, Minsk region)**

In 2012–2013, the Institute of History of NAS of Belarus carried out large-scale complex scientific (rescue) archeological research of multicultural settlement Obchyn (Luban district, Minsk region) which is included in the State List of Historical and Cultural Values. Hill-fort of defensive type refers to Milagrad archaeological culture. It falls into the area of construction Nezhinsky potash plant. During the survey settlement was investigated fully over an area of 13 000 square meters. More than 1,400 different objects: farming and residential buildings, homes, funerary complexes were recorded and studied. Found more than 2000 diverse artifacts, including unique metalwork, stone objects of labor, molded ceramics. Palynological data, new radiocarbon dates for the time of the construction of fortifications fortress were received. This allows to characterize features of material and spiritual culture, as well as the live an ancient population of Belarus in the Late Bronze and Early Iron Ages.

*Пастyпіў 27.11.2014 г.*

УДК 903.4(476.6)

***Я. Л. Хомченко,*** *Могилевский государственный университет имени А. А. Кулешова, магистрант (г. Могилев, Беларусь)*

# Итоги археологических работ на территории Могилевского Посожья в 2013 году

В 2013 г. автором на основании Открытого листа по форме № 2 (№ 2574)[1], было продолжено археологическое изучение памятников Могилевского Посожья. Основное внимание было сконцентрировано на территории трех районов Могилевской области – Кричевском, Мстиславском и Чериковском. История археологического изучения этого региона насчитывает не одно десятилетие [2, с. 4–6], однако, как показали работы 2013 г., многие памятники археологии и сегодня остаются неизвестными научной общественности[2].

На территории ***Кричевского района*** наши исследования проходили по р. Сож, ее правым притокам – Волчас, Любовичке и Жуковке в окрестностях д. Глушнево, Первокричевский, Горки, Зайцева Слобода, Волчас. Работы, направленные на поиск ранее неизвестных памятников археологии, были сосредоточены в центральной части района. В ходе их проведения в окрестностях д. Волчас обнаружено местонахождение каменного века и селище эпохи средневековья, ранее неизвестные в литературе.

Культурный слой памятников разрушается в ходе распашки. На поле были найдены два двухплощадочных нуклеуса, которые по своим технико-морфологическим характеристикам связаны со свидерской культурой, и обломок концевого скребка с прямым лезвием. Находки эпохи средневековья представлены фрагментами гончарной керамики, отдельные из которых орнаментированы волнистой линией и покрыты поливой, а также изделиями из стекла, фрагментами фаянсовой тарелки и коробчатого изразца с зеленой поливой. Новые памятники эпохи позднего средневековья также найдены у д. Горки (поселение-3) и Зайцева Слобода.

Повторно были обследованы стоянки-1, -2, -3 у д. Глушнево и стоянки-3, -4 у д. Первокричевский. Стоянка-3 у д. Первокричевский на сегодня представлена четырьмя пунктами скоплений артефактов (А–Г) [4, с. 378], что было учтено нами при сборе находок (рис. 1). Не остались без внимания и селища эпохи раннего железного века и средневековья у д. Глушнево (1–3) и Первокричевский.

В результате исследований 2013 г., проведенных в Кричевском районе, были обследованы 13 памятников археологии: 6 стоянок каменного и бронзового веков (1 выявлена в ходе работ), 7 селищ эпохи раннего железного века и средневековья (3 пункта являются новыми).




Рис. 1. Отдельные находки из кремня скоплений А (*6*), Б (*1*) и В (*2–5*) стоянки Первокричевский-3 (Кричевский р-н): *1* – ассиметричная трапеция; *2–4*, *6* – нуклеусы; *5* – скребловидное изделие (рисунок А. В. Колосова)

[1] Работа выполнена в рамках задания «Динамика развития и взаимодействия культур финального палеолита–мезолита Белорусского Поднепровья и Посожья в контексте восточноевропейских культурно-исторических процессов», включенного в Государственную комплексную программу научных исследований «История, культура, общество, государство» на 2011–2015 гг. (№ госрегистрации 20112350 от 08.08.2011 г., научный руководитель – кандидат исторических наук, доцент А. В. Колосов).

[2] За помощь в ходе проведения работ автор выражает благодарность студентам исторического факультета МГУ им. А. А. Кулешова И. А. Минайлову и А. С. Балберову, учителю истории Езерской средней школы А. В. Песковскому, а также своим братьям О. А. Хомченко и А. О. Половко. Отдельное спасибо студентам В. М. Куриленко и Д. А. Челочеву, которые оказали помощь в поиске и обследовании памятников археологии в 2013 г.

На территории ***Мстиславского района*** работы были продолжены на р. Сож, а также ее правых притоках – р. Вихра, Альховка, Волчас, Белая и Черная Натопа, Горянка, Молотовня, Черная и Суточка. Основное внимание было уделено поиску новых памятников археологии каменного и бронзового веков, с целью уточнения и дополнения сведений о первоначальном заселении района. В результате были выявлены стоянки у д. Белынец, Кондратовск, Красное, Мазолово, Малая Зятица, Старые Вихряны, Сычевка.

Исходя из состава кремневого инвентаря, палеолитическим временем стоит датировать находки, обнаруженные на стоянке у д. Сычевка. В собранной коллекции присутствуют кремневые отщепы (16 ед.), пластины (2 ед.), обломок нуклеуса, отщепы с ретушью (2 ед.) (рис. 2: *13*), скребло (рис. 2: *12*) и изделие с выемкой (рис. 2: *3*).

На местонахождении-1 у д. Белынец были найдены два отщепа и треугольный наконечник стрелы с выемкой у основания (рис. 2: *10*), характерный для памятников бронзового века.

В окрестностях д. Малая Зятица получена коллекция, состоящая из отщепов (13 ед.), пластины, изделия с выемкой, концевых скребков на пластине (1 ед.) (рис. 2: *6*) и отщепе (1 ед.), обломка нуклеуса, отщепов с ретушью (5 ед.), обломка лезвия скребка, ретушера (или оружейного кремня). Интерес вызывают находки двух черешковых наконечников стрел с выделенными шипами. Один наконечник листовидной формы (рис. 2: *8*), окончание которого обломано, второй имеет треугольную форму и четко выделенные с помощью ретуши шипы по краям (рис. 2: *9*). Такие наконечники стрел характерны для памятников эпохи неолита–бронзового века [1].

Таким образом, находки, обнаруженные у д. Белынец и Малая Зятица, дополняют немногочисленные сведения относительно заселения Мстиславского района в конце каменного и бронзового веков. Хронологически им могут соответствовать и материалы, собранные у д. Кондратовск, Красное, Мазолово и Старые Вихряны.

Недалеко от д. Кондратовск удалось собрать кремневые отщепы (5 ед., один с пришлифованной поверхностью), мелкие осколки (3 ед.), пластину и нуклеус.

В окрестностях д. Красное найдены отщепы (18 ед., один с пришлифованной поверхностью), пластины (5 ед.), мелкие осколки (2 ед.), отщепы с ретушью (2 ед.), двойной скребок на отщепе, изделие с выемкой и окатанный осколок кремня с ретушью (?).

Коллекция артефактов, обнаруженных у д. Старые Вихряны, представлена кремневыми отщепами (3 ед.), пластинами (3 ед.), концевым скребком, острием (рис. 2: *7*), ретушным резцом (рис. 2: *11*), а также отщепами (4 ед.) и пластиной с ретушью.

Присутствие в коллекциях кремневого инвентаря предметов, покрытых патиной молочного и голубого цветов, не исключает вероятности их более раннего происхождения.

Во время обследования селища-3 в д. Мазолово, кроме артефактов эпохи средневековья, были обнаружены скребок на пластине (рис. 2: *2*) (покрыт патиной молочно-голубого цвета) и развертка на отщепе, хронологически связанные с более ранними эпохами. С целью поиска культурного слоя каменного века и уточнения характера распространения находок на памятнике был заложен шурф общей площадью 2 м$^2$ (1 × 2 м). Северо-восточная стенка получила буквенное обозначение «А», юго-восточная была обозначена цифрами 1 и 2.

Площадь памятника используется под огороды местными жителями, в результате чего культурный слой разрушен пахотой на глубину 0,3–0,4 м от дневной поверхности. Под слоем перепаханного грунта следует слой плотного гумуса, подстилаемый на глубине 0,45–0,55 м суглинком желтого цвета. В квадрате А-1 слой гумуса уходил на глубину до 2 м. Однако на глубине 1,1 м он периодически чередовался с суглинком желтого цвета и приобрел слоистую структуру, что может свидетельствовать о нарушении культурного горизонта (перекоп ?).

В заполнении квадрата А-1 были обнаружены кремневые изделия – отщеп и резец ретушный (рис. 2: *1*), относящиеся к каменному веку. Также найдены фрагменты гончарной керамики (553 ед.), отдельные из которых орнаментированы волнистой (13 ед.) и горизонтальной линиями (3 ед.), украшены зеленой поливой (7 ед.). К керамическим находкам стоит отнести фрагменты коробчатых изразцов (3 ед.) с геральдическими сюжетами, глиняной обмазки (59 ед.). Здесь же найдены курант от жерновов, донце от скляницы с накладным жгутом, фрагменты от стеклянных сосудов (13 ед.), оконного стекла (4 ед.) и костей животных (2 ед.). Металлические изделия представлены бронзовым колечком, медной трапециевидной пластинкой с отверстиями для крепления, обломком нательного крестика, изготовленного из оловянистой бронзы, двумя солидами времен правления Яна Казимира II (Речь Посполитая), фрагментом металлической подковки для обуви, кованым гвоздем и ножом.

Кроме этого, на глубине 0,85 и 2 м были обнаружены развалы гончарных сосудов (2 ед.) XVII в., форма одного из них в ходе камеральной обработки материала была полностью реконструирована. Всего в квадрате А-1 обнаружены 649 находок.

Артефакты эпохи камня, найденные в квадрате А-2, представлены кусками кремня (3 ед.) и разверткой на отщепе (рис. 2: *5*). Находки эпохи средневековья включают фрагменты гончарной керамики (200 ед.), отдельные из которых орнаментированы




Рис. 2. Кремневые орудия стоянок и отдельных местонахождений Белынец-1 (*10*), Мазолово (*1–2*, *5*), Малая Зятица (*6, 8–9*), Мстиславль (4), Старые Вихряны (*7, 11*), Сычевка (3, 12–13) (Мстиславский район): *1, 11* – резцы ретушные; *2, 6* – скребки; *3* – изделие с выемкой; *4, 8–10* – наконечники стрел и их обломки; *5* – развертка; *7* – острие; *12* – скребло; *13* – отщеп с ретушью; *1, 5* – материалы шурфа; *2–4* и *6–13* – материалы п/м

горизонтальной (6 ед.) и волнистой (1 ед.) линиями, а также покрыты поливой зеленого цвета (1 ед.), обломками изразцов (2 ед.), глиняной обмазки (1 ед.), шлака (1 ед.) и изделиями из стекла (6 ед.). Находки из металла представлены пластиной, кованым гвоздем, деталью упряжи, фрагментом шиловидного наконечника стрелы (перо). Всего в квадрате А-2 обнаружены 218 артефактов. Всего в ходе шурфовки зафиксированы 867 находок.

Единичные находки в виде продуктов расщепления кремня были также обнаружены у д. Белынец, Курковщина, Ластрыгино, Туровка (не существует).

Повторно нами осмотрены стоянки и местонахождения у д. Кондратовск (два пункта) и у г. Мстиславль. Собрать подъемный материал на стоянках-1, -2 у д. Кондратовск не удалось. Площадь памятников на момент обследования оказалась под паром. На стоянке около г. Мстиславль, на посевах яровых культур были найдены два отщепа (один с ретушью) и наконечник стрелы со сломанным черешком (рис. 2: *4*).

На территории Мстиславского района обнаружены новые селища раннего железного века и средневековья. Они выявлены у д. Белынец (два пунк-

та), Детковичи, Кондратовск, Красное, Курковщина (два пункта), Ластрыгино, Малая Зятица, Селец, Сутоки, Сычевка, Туровка, Чернилово (два пункта).

Повторно осмотрены селища Белынец-1, Кондратовск-1, -2, Красное-2, Курковщина-1, Мстиславль-3, Мазолово-3, Сычевка-1, Чернилово-2. Получены материалы, которые дополняют данные относительно расселения человека на территории района в эпоху железного века и средневековья.

Не остались без внимания в 2013 г. и укрепленные поселения – городища. Они были осмотрены у д. Белынец (Городок; Ходосы), Кондратовск, Курковщина (Татарщина), Усполье (Красное). Определенное внимание было уделено и курганным могильникам Кондратовск, Лыкинка, Усполье-1, -2 и одиночному кургану у д. Лютня.

В целом на территории Мстиславского района в 2013 г. было обследованы 47 памятников археологии: 14 стоянок и местонахождений отдельных находок каменного и бронзового веков (11 из них открыты в ходе работ), 24 селища эпохи Древней Руси и позднего средневековья (15 выявлены впервые), 4 городища эпохи раннего железного века и средневековья, 4 курганных могильника и одиночный курган. На местонахождении каменного века и селище-3 эпохи средневековья у д. Мазолово проведена шурфовка. Кроме этого, были осмотрены случайные находки, сделанные на территории района в разное время и при разных обстоятельствах, и представляющие интерес для археологии [5].

В ***Чериковском районе*** основное внимание было уделено обследованию уже известных памятников археологии каменного и бронзового веков. Работы осуществлялись с целью уточнения сохранности памятников и перспективы проведения будущих стационарных исследований. Обследование памятников проводилось в бассейне р. Сож и ее притоков – р. Сенна и Удога. В результате мы посетили памятники в окрестностях д. Баков (стоянки-2 и -6), Горки (стоянка-3), Гронов (стоянки-1, -2, -3 и -6) (рис. 3), Пильня (стоянки-1, -2, -3) и стоянку-2 у г. Чериков. На отдельных стоянках – Баков-6 и Чериков-2 – была проведена шурфовка.

***Стоянка Баков-6*** расположена в пойме правого берега р. Сож, в 1,5 км юго-западнее одноименной деревни, в 1 км восточнее устья р. Лобчанка, на небольшом песчаном всхолмлении высотой до 1 м [3, л. 21]. Большая часть возвышенности поросла луговой растительностью. Памятник открыли в 2010 г. А. В. Колосов и А. В. Песковский [3, л. 21].

На площади стоянки был заложен шурф площадью 3 м$^2$ (1 × 3 м). В итоге работ было установлено, что культурный слой на стоянке не выражен и определяется по глубине залегания артефактов от 0,2 до 0,4 м (0,5 м). Стратиграфия памятника следующая: дерн – 0,00–0,05 м; темно-серый слой – 0,05–0,15 (0,20) м; желтый песок – 0,15 (0,20)–0,35 (0,45) м; светло-желтый песок, с глубины 0,45 м (прокопан до глубины 0,7 м). Все слои разнозернистой структуры.

Всего в ходе шурфовки обнаружены 255 находок. Они представлены продуктами расщепления кремня: отщепами (135 ед.), пластинами (40 ед.), мелкими осколками (73 ед.), одноплощадочным нуклеусом и пренуклеусом.

Среди орудий найдены изделия с выемкой на массивном осколке (1 ед.) и отщепе (1 ед.), пластины с ретушью (2 ед.) и обломок концевого скребка на отщепе.

***Стоянка Чериков-2*** каменного и бронзового веков расположена на первой надпойменной террасе правого берега р. Удога, в 0,28 км южнее устья реки, на северо-восточной окраине города. Здесь же находится селище эпохи Древней Руси и более позднего времени [2, с. 174–175]. Памятники были открыты А. В. Колосовым в 1999 г. и обследовались им же в течение 2000–2003 гг. [2, с. 174–175].

В 2013 г. по линии юго-запад–северо-восток вдоль берега реки были заложены 3 шурфа (1 × 1 м). Начиная с юго-запада, шурфы получили численное обозначение от 1 до 3. Расстояние между каждым шурфом составило 10 м.

Стратиграфические отложения во всех шурфах схожи и имеют следующую структуру: дерн – 0,00–0,05 (0,1) м; супесь серого цвета – 0,05–0,2 м; супесь темно-серого цвета – 0,2–0,40 (местами 0,45) м (культурный слой селища эпохи Древней Руси); песок коричневого цвета – 0,35–0,8 м (местами до 0,9 м), с затеками в нижней части; желтый песок – 0,6 (0,9) м (прокопан до глубины 1,15 м в шурфе 3).

В заполнении слоев шурфа 1 были обнаружены продукты расщепления кремня: пренуклеус, отщепы (29 ед.), мелкие осколки (17 ед.), пластины (18 ед.), куски кремня (3 ед.), обломки нуклеусов (2 ед.), ретушеры на нуклеусе (1 ед.) и на осколке (1 ед.), а также изделия со вторичной обработкой – отщепы с ретушью (5 ед.), фрагмент отщепа с микрорезцовым сколом и черешковый наконечник стрелы свидерского типа со слабо выраженным черешком и плоской подтеской со стороны брюшка.

Найдены обломки от лепных сосудов эпохи неолита–бронзового века (23 ед.), орнаментированных зубчатым штампом (1 ед.), линейным орнаментом (4 ед.), ямочными вдавлениями (1 ед.) и фрагменты гончарной керамики эпохи средневековья (134 ед.), украшенные горизонтальной (7 ед.) и волнистой (1 ед.) линиями, а также штампом (1 ед.). Дополняют коллекцию находок фрагменты кальцинированных косточек (2 ед.) и изделия из металла. Всего в шурфе 1 были обнаружено 242 находки.

В итоге работ в шурфе 2 были найдены кремневые находки: отщепы (118 ед.), пластины (33 ед.), куски кремня (7 ед.), мелкие осколки (9 ед.), одно-




Рис. 3. Кремневый инвентарь стоянок Гронов-2, -3, ур. Стров (Чериковский район): *1, 4–8, 10–11, 13–14* – наконечники стрел и их обломки; *2* – фрагмент трапеции; *3* – развертка или черешок наконечника стрелы; *9* – проколка; *12* – изделие с выемкой; *15* – вкладыш; *16* – нож

и двухплощадочные нуклеусы (2 ед.), отщеп с ретушью, резец ретушный, концевые скребки (2 ед.), фрагмент наконечника стрелы (?), вкладыш, острие, изделие с выемкой на осколке кремня, микропластина с ретушированным основанием, скол подправки лезвийной части орудия (скребка ?), изделие с выемкой на пластине и листовидный наконечник стрелы.

Керамические находки представлены фрагментами лепной (32 ед.) и гончарной керамики (48 ед.). Обломки лепной керамики эпохи неолита–бронзового века украшены линейным (2 ед.), лапчатым (1 ед.), гусеничным (1 ед.) и едва различимым орнаментом (4 ед.). Встречаются фрагменты с наколами, образованными краем орнаментира (2 ед.), гребенчатым (2 ед.) и зубчатым штампом (2 ед.), а также орнаментом, нанесенным зубчатым полым орнаментиром округлого сечения (2 ед.). Отдельные фрагменты гончарной керамики украшены волнистой линией. Обнаружены фрагменты кальцинированных косточек (5 ед.). Общее количество находок, обнаруженных в шурфе 2, составляет 266 единиц.

В шурфе 3 найдены отщепы (46 ед.), пластины (6 ед.), мелкие осколки (13 ед.), куски кремня (11 ед.), кварцитовый отбойник и изделия со вторичной обработкой (двухгранный резец, вкладыши (2 ед.)), скол подправки лезвия скребка, проколка, отщепы (4 ед.) и пластина с ретушью. Дополняют коллекцию фрагменты лепной (6 ед.) керамики (неолит–бронзовый век) со шнуровым (3 ед.) и гребенчатым (1 ед.) орнаментом, а также ямочными вдавлениями (1 ед.) и наколами (1 ед.). Кроме обломков лепной керамики найдены и обломки сосудов, сделанных на гон-

чарном круге (152 ед.), отдельные из них украшены линейным орнаментом (14 ед.), волнистой линией (3 ед.) и наколами подквадратной формы (2 ед.). Единичны находки точильного бруска, фрагмента кальцинированной косточки, изделий из металла. Всего в шурфе 3 обнаружены 252 ед.

Селища эпохи железа и средневековья на территории Чериковского района осмотрены у д. Баков, Гронов (селища-1, -2, -3) одно из них выявлено впервые, Пильня (селища-1, -2, -3) и у г. Чериков (селище-1).

В конечном итоге, на территории Чериковского района было обследовано 19 памятников археологии, среди которых 11 стоянок эпохи камня и бронзы и 8 селищ эпохи раннего железного века и средневековья (1 памятник открыт в ходе исследований).

Таким образом, в 2013 г. на территории Кричевского, Мстиславского и Чериковского районов нами были изучено 79 археологических памятников и местонахождений отдельных находок, в том числе 31 памятник открыт в результате экспедиционных работ. Кроме этого, на стоянке каменного века Баков-6, местонахождении каменного века и селище-3 у д. Мазолово, стоянке-2 каменного, бронзового веков и селище-1 у г. Черикова была проведена шурфовка.

**Литература**

1. Калечиц, Е. Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии / Е. Г. Калечиц. – Минск : Наука и техника,1987. – 158 с.

2. Колосов, А. В. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.) / А. В. Колосов. – Могилев : МГУ им. А. А. Кулешова, 2009. – 264 с.

3. Колосов, А. В. Отчет об археологических работах 2010 г. в междуречье Сожа и Остра (Могилевская область) // ААНД ИИ НАН Беларуси. – № 2740. – Могилев, 2011 г. – 26 с., 57 с. колл. оп., 77 с. : илл.

4. Хомченко, Я. Л. Результаты археологических работ в Кричевском и Мстиславском районах в 2012 году / Я. Л. Хомченко // Матэрыялы па археалогіі Беларусі : зб. навук. прац / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2014. – Вып. 25. – С. 375–381.

5. Хомченко, Я. Л. Случайные археологические находки на территории Мстиславского района / Я. Л. Хомченко // Научные стремления : молодежный сб. науч. ст. – Минск : Энциклопедикс, 2014. – Вып. 9. – С. 45–55.

**Рэзюмэ**

*Я. Л. Хомчанка*

**Вынікі археалагічных работ на тэрыторыі Магілёўскага Пасожжа ў 2013 годзе**

Артыкул прысвечаны археалагічным работам у 2013 годзе на тэррыторыі Крычаўскага, Мсціслаўскага і Чэрыўскага раёнаў Магілёўскай вобласці (басейн р. Сож). Было вывучана 79 помнікаў археалогіі, 31 з якіх адкрыты ў выніку экспедыцыйных работ. На асобных помніках праведзена шурфоўка. Прапануецца кароткая характарыстыка атрыманых матэрыялаў, якія адносяцца ў першую чаргу да каменнага і бронзавага вякоў.

**Summary**

*Ya. L. Khomchenko*

**The results of the archaeological work on the territory of Mogilev watershed of the river Sozh in 2013**

The article is devoted to archaeological work on the territory of the Krichev, Mstislav and Cherikov districts of the Mogilev region (watershed of the river Sozh) in 2013. 79 monuments of archaeology was studied, 31 of them was opened in the result of field work, stationary research in the form of pitting was conducted on several monuments. The publication provides a brief characterization of the obtained materials relating primarily to the stone and bronze ages.

*Поступила 26.09.2014 г.*

## ПЕРСАНАЛІІ

### Заснавальнік беларускай археалогіі
### (Да 230-годдзя з дня нараджэння Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага)



У снежні 2014 г. споўнілася 230 гадоў з дня нараджэння першага археолага на абшарах былой Расійскай імперыі Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага. Сапраўднае яго імя Адам Якаўлевіч Чарноцкі. Беларускі археолаг, этнограф, славяназнаўца, фалькларыст. Ён – заснавальнік беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, а таксама фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі[1].

А. Я. Чарноцкі нарадзіўся 24 снежня 1784 г. у маёнтку Падгайна каля м. Гайна на Лагойшчыне ў беднай шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Слуцкім каталіцкім вучылішчы, Слуцкім павятовым вучылішчы, потым у Крамянецкім юрыдычным ліцэі. У 1801 г. пераехаў у г. Мінск, дзе працаваў хатнім настаўнікам і самастойна вывучаў права, у мінскіх архівах даследаваў акты, граматы, а таксама займаўся збіраннем звестак аб помніках дахрысціянскай даўніны.

У 1802–1804 гг. праходзіў юрыдычную практыку ў г. Навагрудку, а ў канцы 1805 г. здаў экзамен па юрыспрудэнцыі. З 1807 г. працаваў упраўляючым маёнтка Варонча пад Навагрудкам. У 1808 г. быў арыштаваны за прыналежнасць да прагрэсіўных арганізацый і высланы ў г. Омск. У 1811 г. ён вярнуўся на радзіму, потым удзельнічаў у вайне 1812 г. Пасля аказаўся ў Галіцыі, дзе і ўзяў псеўданім – Зарыян Даленга-Хадакоўскі. Тут у бібліятэцы сядзібы Тадэвуша Чацкага ён упершыню пазнаёміўся з рукапіснымі матэрыяламі па этнаграфіі, фальклоры і мове Літвы і Беларусі. У 1814–1818 гг. працаваў бібліятэкарам Крамянецкага ліцэя. Некаторы час ён таксама правёў на Львоўшчыне, у гг. Кіеве, Чарнігаве і Гомелі, дзе займаўся апісаннем старажытнасцей і збіраннем фальклору. Вядома, што ў 1814 г. на Валыні ён праводзіў археалагічныя даследаванннi. Шмат падарожнічаў па Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы і ўсюды збіраў народныя песні і паданні, звесткі аб археалагічных і іншых аб'ектах і іх назвах.

Зарыян Даленга-Хадакоўскі першым на тэрыторыі Беларусі і, наогул, усёй былой Расійскай імперыі атрымаў дазвол на права правядзення навуковых археалагічных раскопак. 14 снежня 1818 г. Віленскі ўніверсітэт па загаду імператара Аляксандра I выдаў яму Грамату (Дазвол) на права правядзення археалагічных і іншых даследаванняў на тэрыторыі Расійскай імперыі. У Грамацe было сказана: «...дабы местоположения, примечательнейшия в древности мог срисовать на бумагу посредством геометрического измерения и дабы внутренности земли, где могут скрываться древности, позволено ему было раскопать».

У 1819 г. вялікую дапамогу даследчыку аказаў граф А. Чартарыйскі, які дапамог грашыма і даў рэкамендацыі да прэзідэнта Пецярбургскай акадэміі навук. Паездка ў г. Пецярбург была паспяховай, там яго працы выклікалі цікавасць. Міністэрства народнай асветы прафінансавала яго камандзіроўкі ў паўночную і ўсходнюю часткі Расіі для збірання звестак пра гарадзішчы і іншыя археалагічныя і этнаграфічныя помнікі. З. Даленга-Хадакоўскі правёў комплексныя даследаванні па берагах рэк Нявы і Лады, раскопваў курганы і могільнікі каля г. Ноўгарад і Цвер. Ён сабраў звесткі аб урочышчах і могільніках Наўгародскай зямлі, сопках Старой Ладагі, а таксама матэрыялы па пытаннях старажытнаславянскіх і рускіх гарадоў, гарадзішчаў і склаў іх карту. У Расіі ён быў першым даследчыкам старажытнасцей Ноўгарада і Старой Ладагі. Даследчык паклаў пачатак першым навуковым спробам раскопак разнастайных відаў археалагічных аб'ектаў, у працэсе якіх аналізаваліся і абагульняліся атрыманыя матэрыялы і фарміраваліся асновы методыкі археалагічных даследаванняў.

На тэрыторыі Беларусі З. Даленга-Хадакоўскі даследаваў гарадзішчы ў гарадах Полацку, Віцебску, Тураве, Брэсце, Гомелі, Магілёве, а таксама вывучаў замчышчы і курганы ў ваколіцах Бабруйска, Ваўкавыска, каля вв. Цэль, Старыя Дарогі, Цімкавічы Мінскай губ., Радамля Магілёўскай губ., Старое Сяло пад Віцебскам і іншых месцах.

У агульнай колькасці ім былі сабраны звесткі больш чым аб 1000 гарадзішчах і іншых археалагічных помніках, з іх на тэрыторыі Беларусі – 200.

У 1818 г. ён апублікаваў на польскай мове першы свой артыкул «O słowiańszczyznie przed Chreściaństwem», а ў 1819 г. – на рускай мове «Разыскания касательно русской истории». У першай працы была пададзена карціна старажытнаславянскага побыту,

[1] Праца выканана ў рамках тэмы БРФФД «Біябібліяграфічны даведнік археолагаў Беларусі», дагавор № Г13-073 ад 16.04.2013 г., дзяржаўная рэгістрацыя № 20131914 ад 16.09.2013 г.



Auspiciis Augustissimi et Potentissimi Imperatoris
ALEXANDRI I,

Caesarea Universitas Litterarum Vilnensis

Адкрыты ліст на правядзенне палявых даследаванняў, выдадзены З. Даленга-Хадакоўскаму. 1818 г.

культуры і народнай творчасці ў дахрысціянскі перыяд, а таксама абгрунтавана праграма комплексных даследаванняў славянскіх і суседніх народаў.

У наступных сваіх працах навуковец абгрунтаваў археалагічную тэорыю паходжання гарадзішчаў, прынцыпы збору фальклору і дыялектнай лексікі, азначыў тэрыторыю распаўсюджання ўкраінскай і беларускай моў. Упершыню ў славістыцы паказаў ролю тапанімікі для гістарычных даследаванняў, склаў рэестр агульнаславянскіх тапонімаў. Яго фальклорныя зборы былі самымі вялікімі па славянскай народнай паэзіі таго часу як па колькасці запісаў, так і па геаграфічным прынцыпе. Гэта была першая спроба сістэматызацыі славянскага фальклору з яго жанравай разнавіднасцю. Ён таксама абазначыў межы старажытнага рассялення славян і лакалізацыю іх асобных плямён ад Эльбы да Урала і ад Адрыятыкі да Паўночнай Дзвіны. Даследчык лічыў, што славяне на нашы землі прыйшлі з Індастану праз Каўказ. Услед за ім такую ж думку паўтарылі іншыя навукоўцы.

З. Даленга-Хадакоўскі ўнёс значны ўклад у вывучэнне гарадзішчаў еўрапейскай часткі былой Расійскай імперыі, а таксама збіраў матэрыялы па гістарычнай геаграфіі, замалёўваў помнікі археалогіі і знойдзеныя пры раскопках рэчы. Упершыню паказаў, што помнікі археалогіі з’яўляюцца гістарычнай крыніцай. Шырока выкарыстоўваў метад комплекснага вывучэння старажытнасцей. Ён першым указаў на значнасць і важнасць вывучэння і апісання гарадзішчаў на тэрыторыі Расіі і іншых славянскіх земляў. Складзеная ім класіфікацыя гарадзішчаў змяшчала слушныя даныя аб граніцах і характары паселішчаў старажытных славян, абвяргала думку аб іх варварскім становішчы. Даследчык першым зазначыў існаванне двух волакаў паміж Дняпром і Ловаццю, далучыў геаграфічныя даныя да метадаў гістарычнага даследавання. А яго меркаванне аб сапраўднасці «Слова о полку Игореве» А. С. Пушкін лічыў «значительным». Даследчык сабраў таксама лексікон (паказальнік) аб 7 тысячах урочышчаў, у тым ліку многіх з тэрыторыі Беларусі.

Працы даследчыка значна паўплывалі на навуковую дзейнасць многіх навукоўцаў, а яго навуковая і збіральніцкая дзейнасць стала ўзорам і праграмай для цэлага шэрагу навуковых і літаратурных аб’яднанняў. Шматлікія накірункі вывучэння славянства, якія ён прапанаваў, з’яўляюцца актуальнымі і ў цяперашні час.

З. Даленга-Хадакоўскі быў членам шэрагу навуковых таварыстваў: Варшаўскага таварыства сяброў навук (1819), Пецярбургскага вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці (1819), Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх (1820). Аб яго асобе і працах вельмі станоўча адгукаліся многія знакамітыя людзі розных часоў. Напрыклад, вядомы расійскі археолаг А. Спіцын так пісаў аб навуковых працах даследчыка: «Это просто гениально!» Знакаміты беларускі археолаг К. Тышкевіч канстатаваў, што Даленга-Хадакоўскі «...оказал необыкновенно важные услуги археологии...».

Памёр Зарыян Даленга-Хадакоўскі 17 лістапада 1825 г. у с. Пятроўскае Цвярской губерніі Расіі, дзе і пахаваны. Пасля яго засталося шмат рукапісных прац, якія ён не паспеў надрукаваць, у тым ліку і вялікі геаграфічны слоўнік. Многія рукапісы паступілі ў Імператарскую публічную бібліятэку, некаторыя з іх пазней апублікаваў М. П. Пагодзін.

Асоба З. Даленгі-Хадакоўскага настолькі значная, што яму, акрамя шматлікіх даведачных і энцыклапедычных артыкулаў, былі прысвечаны вялікія манаграфічныя працы, якія выйшлі ў Беларусі, Польшчы, Украіне. Гэта кнігі А. С. Аксамітава і Л. А. Малаш. З думай славяніна: жыццё і дзейнасць З. Я. Даленгі-Хадакоўскага (1784–1825). – Мінск, 1991; Зарыян Даленга-Хадакоўскі. Выбранае // Беларускі кнігазбор. – Мінск, 2007; F. Ravita-Gawroński. Zoryan Dolęga-Chdakowski. – Lwów, 1896; J. Maślanka. Zorian Dolęga-Chdakowski. – Wroclaw–Warszawa–Kraków, 1965 і інш.

***В. У. Мядзведзева,*** *старшы навуковы супрацоўнік*
*Інстытута гісторыі НАН Беларусі,*
*кандыдат гістарычных навук;*
***Л. У. Дучыц,*** *старшы навуковы супрацоўнік*
*Цэнтра даследаванняў беларускай культуры,*
*мовы і літаратуры НАН Беларусі,*
*кандыдат гістарычных навук*

# Адданая даследчыца зямлі беларускай
# (Да 80-годдзя з дня нараджэння Тацяны Мікалаеўны Каробушкінай)



У ліпені 2014 г. споўнілася 80 год з дня нараджэння вядомай беларускай жанчыны-археолага – Тацяны Мікалаеўны Каробушкінай.

Тацяна Мікалаеўна нарадзілася 20 ліпеня 1934 г. у в. Кубышка Нялідаўскага р-на Цвярской вобл. Расіі. У 1958 г. закончыла гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Пасля заканчэння ўніверсітэта была прынята на працу ў Інстытут гісторыі АН БССР (потым НАН Беларусі), дзе і працавала ў аддзелах археалогіі да выхаду на заслужаны адпачынак у 2005 г. Яна прайшла ўсе ступені навукоўца – ад лабаранта да старшага навуковага супрацоўніка. У 1977 г. у г. Вільнюсе паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю па спецыяльнасці «Археалогія» на тэму: «Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв.».

Т. М. Каробушкіна падчас сваёй навуковай дзейнасці займалася даследаваннем старажытнага земляробства на тэрыторыі Беларусі і пытаннямі развіцця беларускай археалагічнай навукі. Вывучала матэрыяльную і этнічную культуру насельніцтва тэрыторыі паўднёвай Беларусі перыяду IX–XIII стст. Прымала актыўны ўдзел у археалагічных экспедыцыях па даследаванні старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі: Полацка, Мінска, Турава, Пінска, Брэста. З 1975 г. самастойна праводзіла археалагічныя разведкі і раскопкі сярэдневяковых курганоў і сельскіх паселішчаў насельніцтва Беларускага Пабужжа.

Для «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ў 1980-я гады Тацяна Мікалаеўна правяла вельмі вялікую і значную працу – даследавала шматлікія і разнастайныя археалагічныя помнікі на тэрыторыях Брэсцкага, Кобрынскага, Маларыцкага, Пружанскага, Жабінкаўскага, Камянецкага р-наў Брэсцкай вобл., Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл., Старадарожскага р-на Мінскай вобл., Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

Упершыню даследчыца абагуліла і зрабіла класіфікацыю прылад працы X–XIII стст. для апрацоўкі зямлі, уборкі і перапрацоўкі ўраджаю, знойдзеных падчас раскопак археолагамі Беларусі. Яна вызначыла час увядзення ва ўжытак збожжавых раслін і прасачыла павелічэнне іх долі ў сельскай гаспадарцы на працягу стагоддзяў. На падставе даследаванняў курганоў на тэрыторыі Беларускага Пабужжа разгледзела этнічны склад насельніцтва гэтага рэгіёна ў IX–XIII стст.

Варта таксама адзначыць уклад Тацяны Мікалаеўны ў працу па выхаванні маладога пакалення. У свой час яна ініцыявала і арганізавала ў Інстытуце гісторыі «Школу маладога археолага», якой прысвяціла шмат сіл і часу. Гэта школа працягвае сваю дзейнасць і зараз, такім чынам пачатае ёй не згасла і прыносіць свой плён. Шмат увагі даследчыца надавала публікацыям аб даследаваннях і персаналіях беларускіх і расійскіх археолагаў, што садзейнічалі станаўленню беларускай археалогіі.

Разам з П. Ф. Лысенкам за цыкл прац «Южная Беларусь в IX–XIII вв.» у 2002 г. Т. М. Каробушкіна была ўдастоена звання Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Гэта адзіная ў Беларусі жанчына-археолаг, якая атрымала такую высокую дзяржаўную ўзнагароду.

Тацяна Мікалаеўна з'яўляецца аўтарам анатаванай бібліяграфіі па археалогіі, чацвярцічнай геалогіі і палеагеаграфіі Беларусі «Археология Белоруссии: Библиографический указатель (1932–1975)», якая выйшла ў 1988 г., аднак і сёння не страціла сваёй актуальнасці і запатрабавальнасці. Таксама яна з'яўляецца адным з аўтараў такіх вядомых навуковых выданняў, як «Гісторыя Мінска» (1967), «Очерки по археологии Белоруссии» (Ч. 2, 1972), «Белорусская археология» (1987), «Гісторыя Беларусі: ў 6 т.» (Т. 1, 2000), «Археалогія Беларусі: у 4 т.» (Т. 3, 2000).

Т. М. Каробушкіна – аўтар некалькіх манаграфій і шматлікіх навуковых, навукова-папулярных і энцыклапедычных артыкулаў, якія апублікаваны ў Беларусі, Расіі, Украіне. Варта адзначыць асноўныя манаграфічныя працы даследчыцы: «Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв.» (Мінск, 1979); «Курганы Белорусского Побужья. X–XIII вв.» (Мінск, 1993); «Насельніцтва Беларускага Пабужжа X–XIII стст.» (Мінск, 1999).

Жадаем паважанай Тацяне Мікалаеўне моцнага здароўя, дабрабыту і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

***П. Ф. Лысенка,*** *галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі; доктар гістарычных навук, прафесар;*
***В. У. Мядзведзева,*** *старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук*

# Исследователь славянских древностей на территории Беларуси (К 90-летию со дня рождения белорусского археолога Леонида Давыдовича Поболя)



30–31 октября 2014 г. в Институте истории НАН Беларуси прошла международная научная конференция, посвященная 90-летию со дня рождения известного белорусского археолога, ученого, посвятившего свою жизнь любимой профессии, доктора исторических наук, профессора, академика Международной славянской академии Леонида Давыдовича Поболя.

Вся научная и практическая деятельность Л. Д. Поболя была связана с изучением ранней истории славян, популяризацией археологии, подготовкой научных кадров в этой области для Беларуси.

Родился Леонид Давыдович Поболь 28 мая 1924 г. в д. Николаево Ивьевского р-на Гродненской обл. в многодетной крестьянской семье (7 детей). Учился в местной начальной школе, семилетку закончил в 1939 г. и после освобождения западных территорий продолжил учебу в Любчанской белорусской средней школе (до 1941 г.).

В годы Великой Отечественной войны (с мая 1942 по апрель 1944 г.) был связным отрядов в партизанской бригаде им. Дзержинского в Барановичской обл. и до июля 1944 г. членом партизанского отряда им. Свердлова указанной бригады. Затем на освобожденной территории работал заведующим Зеневичской и Плисской начальных школ Любчанского р-на Барановичской обл. и учился заочно в Новогрудском педучилище. Награжден медалями: «За доблестный труд в ВОВ (1941–1945 гг.)», «Партизану Отечественной войны».

В 1950 г. окончил Институт физкультуры (очно), а в 1951 г. исторический факультет Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина (заочно). С 1950 г. работал председателем городского комитета по делам физкультуры и спорта в г. Барановичи, заведующим Любчанским РОНО Барановичской обл., директором Столбцовской средней школы Минской обл. Избирался депутатом Барановичского горсовета.

В течение 1955–1958 гг. был в числе первых аспирантов Института истории Академии наук БССР. С 1958 г. начал работать научным сотрудником, а с 1970 г. – заведующим сектором археологии данного Института. Благодаря активной позиции Леонида Давыдовича в наращивании кадрового состава археологов республики, с 1980 г. сектор был преобразован в отдел археологии ИИ АН БССР. В 1986–1991 гг. были созданы уже три отдела археологии, одним из которых (отделом археологии первобытного общества) сначала руководил Л. Д. Поболь, а затем работал в нем ведущим научным сотрудником. В конце 2002 г. он ушел на заслуженный отдых с должности главного хранителя фондов Музея истории Национальной академии наук Беларуси.

Свои полевые исследования Леонид Давыдович проводил в Белорусском Поднепровье. Изучал ставшие эталонными памятники: Чаплин, Тайманово, Абидню и ряд других. Главной задачей он видел как можно более широкий и глубокий охват древностей, связанных с формированием и развитием славянских культур на территории Беларуси.

С 1955 г. Л. Д. Поболь начал исследовать памятники зарубинецкой культуры. В 1956–1957 гг. он продолжил после П. Н. Третьякова и Ю. В. Кухаренко раскопки Чаплинского археологического комплекса. В 1960 г. Л. Д. Поболь защитил кандидатскую диссертацию «Поселения и могильник зарубинецкой культуры в Чаплине: к вопросу о ранней восточнославянской культуре в южной части БССР». На белорусском материале им были выделены два региона зарубинецкой культуры: верхнеднепровский и полесский. В научной дискуссии 1970-х годов о хронологии зарубинецких древностей Л. Д. Поболь придерживался мнения о начале сложения данной культуры в III в. до н. э. Верхняя граница ее существования была неясна в связи с обнаружением как в Среднем, так и Верхнем Поднепровье огромного пласта древностей, родственных данной культуре.

В отдельную культурно-историческую группу древности второй четверти I тысячелетии н. э. выделил В. Н. Даниленко. По материалам Среднего Поднепровья они получили название «киевская культура». В Белорусском Поднепровье систематическое изучение памятников этого облика начато раскопками Л. Д. Поболя на селище и могильнике д. Абидня Быховского р-на. Л. Д. Поболь рассматривал памятники киевского типа как поздний этап зарубинецкой культуры, видя в них прямую эволюционную связь с более ранними зарубинецкими древностями. С 1967 по 1983 г. на селище и могильнике в д. Тайманово Быховского р-на он выявил многочисленные материалы II–IX вв. н. э. По мнению Л. Д. Поболя данные древности распространились не только по всей территории, занимаемой прежде зарубинцами, но и выходили на север за ее пределы в бассейне р. Березина. В ареал «постзарубинцев»

или, как принято называть в научной литературе, памятников «типа Абидни» Л. Д. Поболем (1970 г.) включены значительная часть Смоленщины и Брянщины. На юге данные памятники смыкались с однотипными памятниками киевской культуры.

П. Н. Третьяков (1966 г.) древности второй и третьей четвертей I тысячелетии н. э. относил к восточнославянскому этносу, сформировавшемуся в процессе переработки зарубинецких традиций. Л. Д. Поболь (1983 г.) являлся сторонником гипотезы эволюционного развития материальной культуры населения в I тысячелетии н. э., сохранения многих зарубинецких традиций и в целом зарубинецкой основы всего процесса развития культур, сложившихся в Верхнем Поднепровье после зарубинцев.

На основе своих исследований Л. Д. Поболь ввел в научный оборот значительное количество новых источников, представленных в трехтомном научном труде «Славянские древности Белоруссии» (1971–1974 гг.), который был положен в основу докторской диссертации (1978 г.). Он обобщил и опубликовал сведения о памятниках железного века с территории республики (1983 г.), материалы которых относятся к славянскому этногенезу, а также издал материалы с белорусских памятников, хранящиеся в музеях Польши (1979 г.). Материалы раскопок самого Л. Д. Поболя представлены в экспозициях ряда музеев Беларуси.

Вклад Л. Д. Поболя в создание научной базы по славянской проблематике на территории Восточной Европы трудно переоценить. Идеи и гипотезы, высказанные ученым в его многочисленных (свыше 300) публикациях, выступлениях на международных конгрессах, региональных симпозиумах, конференциях находят подтверждение и продолжают успешно развиваться в трудах современных археологов-славистов, в том числе кандидатских и докторских диссертациях российских коллег из Москвы и Санкт-Петербурга – учеников научных оппонентов Л. Д. Поболя.

Как руководитель всей белорусской археологической науки Л. Д. Поболь всячески способствовал развитию и других областей исследовательской деятельности (изучению городов, памятников железного и каменного веков) на территории Беларуси. Его особой заботой было наращивание кадрового состава археологов, повышение их научной квалификации. Леонид Давыдович дал «путевку в научную жизнь» многим своим коллегам. Он не жалел времени и терпения на обучение «азам археологии» молодых людей, проходивших практику на объектах в Тайманово и на других памятниках археологии. Всегда активно способствовал организации рабочих мест для археологов в Институте истории, вузах и музеях республики. Стремился к созданию Института археологии, заботился о росте престижа белорусской археологической науки. Именно за годы руководства Л. Д. Поболем вырос основной костяк широко известных ныне белорусских профессионалов-археологов. Авторитет Леонида Давыдовича на международной арене также был высок. До 1996 г. он представлял Беларусь в Международной унии славянской археологии, был членом-корреспондентом, а с 1999 г. – академиком Международной славянской академии; членом Польского археологического общества. Активный популяризатор и защитник археологического наследия Л. Д. Поболь был членом Белорусского общества охраны памятников, способствовал созданию музея «Берестье», добился создания специальных научных экспедиций для изучения территории затопления под Даугавпилскую ГЭС, таких древнейших городов, как Витебск, Минск. Одна из идей Л. Д. Поболя – создание музея археологии при Институте истории Академии наук БССР. Мечта ученого была воплощена в жизнь его учениками и коллегами, когда в 2007 г. открылась научная музейная археологическая экспозиция при Институте истории НАН Беларуси. На прошедшей международной конференции, посвященной 90-летнему юбилею ученого, выступали коллеги из Беларуси, России, Польши. В своих докладах они представляли материалы, которые еще раз во многом подтвердили научные идеи белорусского археолога-слависта Л. Д. Поболя.

***О. Н. Левко,*** *заведующая центром истории доиндустриального общества Института истории НАН Беларуси, доктор исторических наук, профессор*

Навуковае выданне

**МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ**

**MATERIALS ON THE ARCHAEOLOGY OF BELARUS**

Зборнік навуковых артыкулаў

Выпуск 26

**Вынікі даследаванняў першабытных і сярэдневяковых помнікаў на тэрыторыі Беларусі (да 120-годдзя з дня нараджэння А. М. Ляўданскага)**

**The results of investigations of the prehistoric and medieval archaeological sites on the territory of Belarus (to the 120$^{th}$ anniversary of the birth of A. M. Liaudanski)**

Рэдактары *Н. Т. Гаўрыленка, Т. В. Лапцёнак*
Мастацкі рэдактар *Д. А. Комлеў*
Тэхнічны рэдактар *В. А. Тоўстая*
Камп'ютарная вёрстка *В. М. Карповіч*

Падпісана да друку 13.04.2015. Фармат $60 \times 84^1/_8$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 44,41. Ул.-выд. арк. 41,5. Тыраж 150 экз. Заказ 59.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/18 от 02.08.2013. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.